# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

**№ 1-2 ( 29-30 ) СТУДЗЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ 2005 г.**


## У НУМАРЫ:




***Стар. 2. Кроніка Ліды.***



***Стар. 5. Лідскі гістарычны каляндар. Лідскія юбіляры.***



***Стар. 12. Ці спявалі беларусы “Багародзіцу”?***

***Стар. 14. Лідскі раён - 2004. Сацыяльна-эканамічны партрэт.***



***Стар 19. Пра Чэслава Немана.***

***Стар. 23. Адзін млын на вайне.***



***Стар. 27. Лідскі лёс Сафіі Петрашкевіч.***

***Стар. 32. Помнікі падзей 2-й Сусветнай вайны.***



***Стар. 53. Фёдар Кардаш. У цянётах акупацыі.***

***Стар. 79. А. Дамбавецкі.***



***Стар. 83. Тарнова.***

***Стар. 89. Дзітрыкі. Згукі заснуўшай цывілізацыі.***


## ДРУКАРЫ

*Сярод беларускіх першадрукароў належнае месца займае Ян Карцан (?-1611) з Вялічак з-пад Мінойтаў каля Ліды, які выдаў 101 кнігу. Яшчэ 40 кніг выдаў яго сын Іосіф Карцан.*

*Першай кнігай, што выдаў Ян Карцан у друкарні Яна Кішкі ў Лоску было сачыненне Сымона Буднага “Аб артыкулах веры”.*

**Яны прыйшлі магутнаю кагортай,**
**Наступнікі Францішка Скарыны,**
**Яны з’явіліся не з дальніх портаў**
**І не з краёў вучонай чужыны,**

**Яны ўзрасталі тут, на нашых нівах,**
**Мсціславец Пётр і Федаровіч Ян,**
**Яны ўсплывалі ў нашых рэк разлівах,**
**Васіль Цяпінскі, Будны і Карцан.**

**Яны ўсе розныя і вераю, і мовай,**
**Ды ўсе любімыя для краю, для свайго,**
**І ціснулі варштаты тое слова,**
**Што сталася пачаткам усяго.**

**Іх розныя натхнялі краявіды,**
**І розны быў ад іх няй працы плён,**
**Ды толькі ўжо друкуе Ян з-пад Ліды,**
**Што на Нясвіжы напісаў Сымон.**

**І тым злучае ён часы і далі,**
**І думак бегі, і хаду падзей,**
**І робіць так, каб кнігі паядналі**
**У нацыю раскіданых людзей.**

**І хай ляжаць тамы без велькай справы**
**Па сховішчах праз сотні зім і лет,**
**Яны ў фундаменце ляжаць дзяржавы,**
**На іх трымаецца наш беларускі свет.**

**Таму і слаўныя па нашым краі**
**Мсціславец Пётр і Федаровіч Ян,**
**Таму ва ўдзячнай памяці ўсплываюць**
**Васіль Цяпінскі, Будны і Карцан.**

***Станіслаў Суднік.***



**Чэслаў Неман** *(16.02.1939 - 17.01.2004) - вялікі польскі спявак і музыка, ураджэнец в. Старыя Васілішкі, цяпер Шчучынскага раёну.*

# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1-2 ( 29-30 ) СТУДЗЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ 2005 г.


## Навукова-гістарычная серыя пра знакамітых лідзян



Камітэт гісторыі навукі і тэхнікі Польскай Акадэміі Навук і Таварыства польскай куль-туры на Лідчыне выпус-цілі кнігу Ірэны Стасевіч-Ясюковай **“Казімір Нар-бут (1738-1807)”**. Гэта чацвёртая кніга з серыі пра знакамітых лідзян. Да таго выйшлі кнігі **“Людвік Нарбут”** (аў-тары Павел Кама-роўскі, Аляксандр Ко-лышка), **“Ігнацій Да-мейка”** (аўтары Ядві-га Гарбоўская і Кшы-штаф Якубоўскі) і **“Станіслаў Баніфацый Юндзіл”** (аўтар Ва-нда Грамбецкая). Рых-туецца да друку кніга Яраслава Курыюў-скага **“Мацей До-гель”**, а таксама кнігі Антонія Дыдыча **“Святары Крэ-саў”** і Ганны Мар’і Келяк **“Пра крэсавы гербарый Элізы Ажэшкі”**.

Першая кніга серыі вый-шла толькі на польскай мове, але наступныя тры - на польскай і беларускай. Рэдактар усёй серыі - ураджэнка Ліды, доктар гістарычных навук, прафесар **Ірэна Стасевіч-Ясюкова.**



Мы просім ўсіх,
хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас:
Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.


ПАСВЕДЧАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ 1342

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
**Валеры Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

РЭДАКТАР
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231300, г. Ліда, вул. 1-я Навапрудская, д. 61
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 400 асобнікаў**
**12 друк. аркушаў**

Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.
Замова № 3
Часопіс падпісаны да друку 15. 07. 2005 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 1150 руб.
індывід. 6 мес.- 2300 руб.
Кошт у розніцу: вольны

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

# КРОНІКА ЛІДЫ



*Альма-матар лідскіх алімпіёнікаў Гімназія № 1*

**У студзені на абласных прадметных алімпіядах 52 лідзяніны занялі прызавыя месцы, у тым ліку навучэнцы гімназіі № 1 узялі 27 прызавых месцаў, у тым ліку 11 прызавых месцаў узялі выхаванцы настаўніка матэматыкі Альфрэда Антонавіча Ладыкі.**

**1-е месца занялі:**

**Гузоўскі Яўген**, 11 клас, гімназія, астраномія;
**Шафчук Максім**, 11 клас, гімназія, ням. мова;
**Дудзіч Ірына**, 10 клас, гімназія, ням. мова;
**Дудзіч Марына**, 10 клас, гімназія, іспан. мова;
**Бітэль Юра**, 11 клас, гімназія, гісторыя;
**Багдзевіч Ірына**, 9 клас, СШ № 15, руская мова;
**Груданаў Яўген**, 10 клас, гімназія, руск. мова;
**Капылова Кацярына**, 9 клас, гімназія, бел. мова;
**Раманцэвіч Ілья**, 8 клас, гімназія, матэматыка;
**Федасевіч Яўгенія**, 7 клас, гімназія, матэматыка;
**Шапавалаў Станіслаў**, 9 клас, гімназія, матэм.;
**Кандраценя Андрэй**, 9 клас, гімназія, матэмат.;
**Вайніловіч Лілея**, 10 клас, гімназія, матэматыка;
**Курыла Зміцер**, 11 клас, гімназія, матэматыка;
**Ралікоўская Алена**, 10 клас, СШ №17, “ Чалавек. Грамадства. Дзяржава.”;
**Мяцёшка Вікторыя**, 8-9 клас, СШ № 12, прац. навучанне.

**2-е месца занялі:**

**Загорцава Вольга**, 10 клас, СШ №17, біялогія;
**Макарава Алена**, 11 клас, СШ №8, біялогія;
**Грэсь Ганна**, 11 клас, гімназія, хімія;
**Бурбліс Аляксандр**, 9 клас, СШ №15, хімія;
**Мацвіеня Сяргей**, 10 клас, СШ №11, геаграфія;
**Каламыцкі Барыс**, 10 клас, СШ №3 г. Бярозаўкі, геагр.;
**Бранчэль Вадзім**, 9 клас, СШ №11, геаграфія;
**Пушкін Ілья**, 10 клас, гімназія, англ. мова;
**Малец Тацяна**, 11 клас, гімназія, ням. мова;
**Арлукевіч Аляксандр**, 10 клас, ліцэй, гісторыя;
**Ладыка Андрэй**, 8 клас, гімназія, матэматыка;
**Цыдзік Зміцер**, 9 клас, гімназія, матэматыка;
**Насоль Дзяніс**, 7 клас, СШ №16, матэматыка;
**Лапата Павел**, 9 клас, гімназія, інфарматыка;
**Санюк Наталля**, 8-9 клас, СШ №17, прац. навучанне.

**3-е месца занялі:**

**Ганчарук Алена**, 9 клас, СШ №16, біялогія;
**Ётка Сяргей**, 11 клас, СШ №6, біялогія;
**Юрэвіч Сяргей**, 11 клас, СШ №2 г. Бярозаўка, хімія;
**Дамшэвіч Андрэй**, 10 клас, СШ №11, геаграфія;
**Кукліс Марыя**, 11 клас, СШ №11, геаграфія;
**Масла Юра**, 11 клас, ліцэй, геаграфія;
**Клыш Андрэй**, 11 клас, СШ №8, англ. мова;
**Кудла Зміцер**, 11 клас, ліцэй, іспанская мова;
**Рыбак Арцём**, 10 клас, гімназія, іспанск. мова;
**Шурмей Зміцер**, 11 клас, ліцэй, іспанск. мова;
**Чыгір Вераніка**, 10 клас, гімназія, франц. мова;
**Анацка Зміцер**, 10 клас, гімназія, гісторыя;
**Сіўко Вольга**, 11 клас, ліцэй, гісторыя;
**Коміч Вольга**, 10 клас, Крупаўская СШ, рус. мова;
**Міхалковіч Крыстына**, 11 клас, гімназія, рус. мова;
**Папкова Аляксандра**, 11 клас, гімназія, бел. мова;
**Ланкевіч Аляксандр**, 8 клас, гімназія, матэмат.;
**Жук Святлана**, 10 клас, гімназія, матэматыка;
**Алекса Альберт**, 11 клас, гімназія, матэматыка;
**Буча Мікалай**, 10 клас, СШ №16, матэматыка;
**Гук Марк**, 10 клас, Першамайская СШ, матэм.

**На рэспубліканскіх алімпіядах лідзяне занялі 14 прызавых месцаў, у тым ліку 8 з іх узялі гімназісты.**

**17 студзеня 2005 года ў касцёле ў Старых Васілішках з ініцыятывы Таварыства польскай культуры на Лідчыне была адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар нашага вялікага земляка Чэслава Немана.**

**Дошку выканаў лідскі скульптар Рычард Груша.**



*Асвячэнне дошкі ў гонар Чэслава Немана*



**З пачатку лютага ў Лідзе адкрыўся аўтобусны маршрут №12 паміж мікрараёнам “Чырвонаармейскі” і заводам “Лакафарба”.**

**17 лютага ганаровае званне “Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь” прысвоена настаўніку матэматыкі лідскай гімназіі №1 Ладыку Альфрэду Антонавічу.**



***Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь А. А. Ладыка з вучнямі***




**3 сакавіка 2005 года аддзел культуры Лідскага райвыканкаму выпусціў афісны каляндар па выніках конкурсу “Міс Лідчыны - 2004”. На здымках: Алена Сядзяк - міс Лідчыны, Святлана Левановіч - 1-я віца-міс, Тацяна Смірнова - 2-я віца-міс, Вераніка Шаранда, Юлія Велігор, Алена Барташэвіч, Алена Богдзель, Свтлана Задруцкая, Юлія Жагала, Ганна Курганская.**

**29 сакавіка 2005 года лідзянкі Ніна Андрэеўна Шарафост і Ала Аляксандраўна Ляўковіч, якія нарадзілі і выхоўваюць па пяць дзяцей, Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь узнагароджаны “Ордэнам Маці”.**



***Дамы “Ордэна Маці” Н. А. Шарафост і А. А. Ляўковіч з старшынём Лідскага райвыканкаму Андрэем Худыкам***



**26 красавіка на чэмпіянаце Еўропы па цяжкай атлетыцы ў Балгарыі лідзянін Руслан Новікаў стаў чэмпіёнам Еўропы ў вагавай катэгорыі да 85 кг. Вагавыя паказчыкі: рывок - 170 кг, штуршок - 205 кг.**

***Руслан Новікаў***




***Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Русакевіч уручае дыплом лаўрэата старшыні Лідскага райвыканкаму Андрэю Худыку***

**3 траўня 2005 года старшыня Лідскага райвыканкаму Андрэй Худык стаў лаўрэатам выставы “СМІ ў Беларусі” за цыкл публікацый у “Лідскай газеце”**



***Хрышчэнне чатырох блізнятак Шамрэяў у Белагрудскім касцёле***

**У пачатку траўня ў Белагрудскім касцёле Лідскага раёна хрысцілі Пятра, Багдана, Яна і Мацвея - чацвярых блізнятак Алены і Часлава Шамрэяў, лідзян, якія жывуць у Менску.**




**У чэрвені 2005 года пабачыла свет першая кніга маладога лідскага празаіка Алеся Нічыпара “Паўночная песня”. У кнігу ўвайшлі аповесці “Паўночная песня”, “Я - Локіс”, апавяданне “Час ваўка”.**



**25 чэрвеня ў Вільні ў Базыльянскіх мурах адкрылі мемарыяльную дошку ў памяць ксендза Адама Станкевіча — рэлігійнага, культурна-асветніцкага і палітычнага дзеяча, аднаго з тэарэтыкаў і заснавальнікаў беларускага хрысціянскага руху 20-га стагоддзя. Аўтар дошкі лідскі скульптар Рычард Груша.**

# Кроніка

Лідскі гістарычны каляндар

# айкумены

## студзень – чэрвень

**1405 год, 26 чэрвеня.** *"Князь Витовтъ взял Смоленескъ… и княгиню полонил, княж Юрьеву, а князь Юрьи съ сыном своим Феодором бъжа в Новъгород".* Жонка (дачка Алега Іванавіча Разанснага) і дзеці Юрыя Святаслававіча, акрамя Фёдара, разам з вернымі ім баярамі былі паселены ў Лідскім замку.

**1585 год, 12 чэрвеня.** У Троцкім падкаморскім судзе разглядалася скарга кашталяна жамойцкага, старасты Радуньскага, цівуна біржнянскага Мікалая Талваша на Лідскага старасту Яна Абрамовіча, які высек у Троцкім павеце ў Станескім бары над рэчкай Віліяй 20 коп сосен і вывез іх. Літоўскі староста, спаслаўшыся на тое, што ў скарзе яго імя па бацьку названа няправільна - ён Ян Станіслававіч – то згодна з артыкулам 23, раздзел 4 ён на абвінаваўчы акт адказваць не абавязаны Каморскі суддзя справу адклаў, прапанаваўшы М. Талвашу перапісаць скаргу.

**1605 год.** Беліцкі мяшчанін Гаўрыла Шымбялевіч вывез па Нёману і прадаў у Каралевец (суч. Калінінград) 1000 локцяў палатна, 15 мяшкоў попелу, 8 бочак ільнянога сем'я і 8 "баршлак" масла.

**1675 год.** Кармеліты атрымалі 5 пляцаў на вул. Замкавай у Лідзе.

**1715 год.** Лідскі лоўчы Калюшэўскі пабудаваў у Няцечы драўляны касцёл.

**1765 год, люты.** На сойміку 10 шляхціцаў Лідскага павету пасеклі касцельныя вароты, шляхціцаў і некаторых земскіх суддзяў.

**1765 год.** Пачатак будаўніцтва Крыжаўзвіжанскага (Фарнага) касцёла па праекту архітэктара І.К. Глаўбіца.



***Фарны касцёл у Лідзе***

**1775 год.** У Лідскім павеце 11723 дымы, з іх сельскіх 10974 і 749 гарадскіх. Павет уключаў 8 старостваў.

**1795 год, 19 сакавіка.** Выкладчык Лідскага калегіюма піяр Ваўрынец Адамовіч у казанні непрыстойна аславіў дзеянні царствуючых манархаў і ўлез у справы палітычныя, за што яго заключылі ў турму, прымянілі поўную суровасць закона, адмовілі ў месце. Адначасова арыштавалі рэктара Лідскай школы ксендза Фларыяна Крушэўскага, але прымаючы да ўвагі, што ён не ведаў пры змест казання Адамовіча, з-пад арышту вызвалілі.

**1795 год, 12 (1) красавіка**. Князь Рапнін паведаміў імператрыцы пра непрыстойнае казанне піяра В. Адамовіча.

**1825 год.** У горадзе жыве 684 жыхары муж. полу і 809 жаночага. Дамоў мураваных – 4, драўляных – 269, 2 цэрквы, 2 манастыры. 1 навучальная ўстанова, 2 дабрачынныя ўстановы, заводаў і фабрык няма, лаўка – 1, шынковых устаноў – 2, піцейных дамоў – 50, 1 лазня, 2 сады.

**1845 год, 4 студзеня.** З Ліды галаве Літоўскай праваслаўнай царквы паступіла безымяннае данясенне, пра тое, што лідскі дабрачынны Брэн з падначаленых яму святараў бярэ хабар.



**1845 год, 14 траўня.** Ліквідаваны піярскі кляштар.

**1875 год.** Пабудавана і асвечана на імя Вялікапакутніка Георгія драўляная царква на праваслаўных могілках на сродкі, ахвяраванныя аднадворцам Антоніем Васнеўскім.

**1895 год.** У Лідзе жыве 7864 чал. 3954 мужч., 3910 жаноч. полу. Праваслаўных – 915, католікаў 1523, яўрэяў – 5326. дваран (шляхты) – 485, святарскага стану – 48, купцоў – 129, мяшчан – 5693, сялян – 1178, вайсковага стану – 311.

**1905 год, студзень.** Стачка пратэсту рабочых Ліды супраць расстрэлу войскамі маніфестацыі ў Пецярбургу. Рабочыя Ліды выступілі ў падтрымку кастрычніцкай стачкі.

**1905 год, студзень - чэрвень.** Шэраг стачак і штрайкаў у Лідзе і Бярозаўцы.



*Помнік і надмагільная пліта над усыпальніцай Краеўскіх каля Вашкевіцкага касцёла (в. Агароднікі ля Бярозаўкі). На пліце надпісы: “Wilhelm Krajewski, ur. dn. 9 kwietnia 1860 r., zm. 22 czerwca 1905 r. Z Domakowskich Kazimiera Krajewska, ur. w marcu 1864, zm. 14/XI 1921 r.”. На помніку надпіс: ”Wlodzimierz Krajewski, ur. dn. 18 listopada 1888 r., zm. dn. 24 pazdziernika 1931 r.”.*

**1905 год, 22 чэрвеня.** Утануў у Нёмане Вільгельм Краеўскі – суўладальнік шклозаводаў “Нёман –А” і “Нёман – Б”.

**1915 год, студзень.** У горадзе 4 фабрыкі: тытунёвая Віленчыка – Капштэйн, гільзавая Вільнера, цукеркавая Рабіновіча, макаронная Шалюбскага; 9 заводаў: мёдаварны братоў Вінаградавых, мылаварныКівеліёвіча, Горфунга і Ландо, піваварны Папірмейстара, піваварны Пупко, лесапільны Папірмейстара, дрожджавы вінакурны братоў Стругач, чыгуна-ліцейны братоў Шапіра, ліцейны завод братоў Штэйнберг, лесапільны завод Палячакаў, 2 друкарні: Зялдовіча і Эпштэйна, бойня Маўшовіча і Барана, хлебапякарня Ахмеда Пашол Аглы, вадзяны млын Мардуховіча, паравы млын Мельніка, ветраны млын Віленскага, вадзяны млын і мукамольня Фрыдмана.

8 майстэрняў: механічная Барцэвіча, бляшаная Бархата, шапачная Басіста, слясарная Баярскага, шавецкая Бярковіча, шавецкая Галубовіча, надмагільных помнікаў і бетонных работ Розонштэйна, швейная Сямак; земская пошта Гальперпа, лазня Будзіна, аптэка Бергмана; кузня Багуфала; цырульня Спакойнага; пральня Кац; чайная Баршыянскай, кухмістарская Баярскай, сталоўка Вінаградавай, шынковая ўстанова Пупко.

12 гасцініц: “Варшава” Быхвіт, “Грандатэль” Ландо, “Дагмара” Бердаўскай, “Еўропа” Левінсон, “Імперыял” Стоцкага, “Італія” Івенскай, “Камерцыйная” Граеўскага, “Купецкая” Дварэцкай, “Парыжская” Зальцтэйна, “Ленская” Левінай, “Маскоўская” Яноўскага, “Пецярбургская” Ражанскага.



*Лідская гасцініца “Варшава”*

**1915 год, травень.** У Лідскім павеце распаўсюджаны пракламацыі Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі.

**1915 год, лета**. Ліда стала прыфрантавым горадам.

Праведзена беспрэцэдэнтная па арганізаванасці і маштабах эвакуацыя царкоўнай маёмасці з тэрыторыі Лідчыны. Вывезены абразы, крыжы, посуд, кнігі, царкоўнае начынне. Вывезены людзі

Лідская паштова-тэлеграфная кантора эвакуявана ў Каломну.

**1925 год, студзень.** Створаны Лідскі падпольны райкам КПЗБ, неўзабаве і Лідскі райкам КСМБ, створаны прафсаюзы металістаў, некваліфікаваных рабочых і інш.

**1925 год. 21 лютага.** У Лідскім аддзеле Віленскага акружнога суда адбыўся суд над А. С. Сегенем. Прыгавораны да пажыццёвага зняволення.

**1925 год, 1 траўня.** У Лідзе адбылася першамайская дэманстрацыя, у якой удзельнічала каля 400 чалавек.

**1935 год, студзень.** На шклозаводзе "Неман" працуе каля 800 чалавек. Заработак не больш 3 злотых. Моладзь, якая працуе у шліфавальным цэху атрымоўвае ад 0,8 да 1,2 злотых. З кожнага плацяжу адлічваюць на Лігу паветранай абароны, на касцёл, на падтрымку беспрацоўных. Моладзь за свае сродкі абавязана купіць мундзір і лыжы і належаць да "стральцоў". За беларускую мову абзываюць хамамі. Расце беспрацоўе. Ва ўлётцы, надрукаванай на гектографе і падпісанай "Гутнік" заклікаюць арганізоўвацца ў класавы прафсаюз рабочых шклозавода.



***Гута "Нёман"***

**1935 год, 12 траўня.** Памёр Юзаф Пілсудскі - начальнік польскай дзяржавы. Абвешчана шасцітыднёвая жалоба. **Вазу для сэрца Пілсудскага рабілі на Бярозаўскім шклозаводзе "Нёман"**. Цягнік з сэрцам Пілсудскага для пахавання ў магіле маці ішоў на Вільню праз Ліду. У Лідзе дзве дзяўчыны кінуліся пад цягнік.

**1945 год, 14 студзеня**. Разгромлены Запольскі сельсавет. На працягу ўсяго 1945 года ішлі сістэматычныя атакі Арміі Краёвай на савецкія ўстановы, савецкіх актывістаў, усходнікаў.

**1945 год, 2 студзеня.** Арыштаваны камандзір 311 пляцоўкі АК В.С. Паўлоўскі "Завіруха".

**1945 год, 20 студзеня.** У Лідзе арганізаваны дзіцячы прыёмнік размеркавальнік.

**1945 год, 17 лютага.** Здадзена ў эксплуатацыю першая чарга харчкамбіната. Праведзены ўрачысты сход. Выступіў дырэктар Нянашаў.

**1945 год, 7 красавіка.** Праводзены сялянскі сход. 258 дэлегатаў, выступіла 29 чалавек.

**1945 год, 19 сакавіка.** Райвыканкам прыняў рашэнне аб адкрыцці вытворчай арцелі пры Райпрамкамбінаце.

**1945 год, 19 красавіка**. Прынята Пастанова СНК БССР № 738 "Аб будаўніцтве Лідскай ТЭЦ".

**1945 год. 12 красавіка.** Рашчынскі М. А. вызвалены ад пасады старшыні райвыканкаму, на яго месца прызначаны Чарнышоў Васіль Васілевіч.

**1945 год. 20 красавіка.** Хутар Шчытнікі Пяро Якава Іванавіча (зямля, жывёла, пабудовы, с/г інвентар) перададзены Лідскаму райспажыўсаюзу.

**1945 год, 25 красавіка.** Хутар Дайнава Вайцахоўскага ( 20 га, дом, халодныя пабудовы) перададзены дапаможнай гаспадарцы в\ц 29749.

**1945 год, красавік.** Хутар Колышкі Кулакоўскага (Юндзеля) (28 га, 17 га ворыва, 3 га сенакосу. 8 га пашы, жылы дом, халодныя пабудовы) перададзены для дапаможнай гаспадаркі в/ч 33016.

**1945 год, красавік.** Праведзены пробны пуск асноўнай вытворчасці на камбінаце харчканцэнтратаў. Выпускаліся тры віды вырабаў: суп бульбяны з тлушчам, суп бульбяны без тлушчу, каша прасяная з тлушчам.

**1945 год, 21 траўня.** У школах пачаліся выпускныя экзамены.

**1955 год.** У Лідскім раёне ў калгасах 39037 гаспадарак, у аднаасобным сектары 3851 гаспадарка.

**1955 год, 8 траўня.** У гарадскім парку праведзена свята песні.

**1955 год, 30 траўня.** Рашэннем гарвыканкаму зацверджаны спіс старых і новых найменняў вуліц горада Ліды. У спісе 166 вуліц, каля 100 з іх занава названы або перайменаваны.

**1955 год. 18 чэрвеня.** Прынята рашэнне гарвыканкаму аб пераносе базарнага дня на рынку з чацвярга на нядзелю.

**1965 год, студзень.** Завершана рэканструкцыя аўтарамонтнага завода. Завод пераведзены ў новы корпус.

**1965 год, 7 сакавіка.** Провады зімы. Снежныя збудаванні, працэсія скамарохаў, конкуры чытальнікаў і танцораў, узяцце снежнай фартэцы, катанне на санных цягніках, на арэлях і з ледзяной горкі, забегі лыжнікаў і канькабежцаў на стадыёне, перацягванне каната, хакейны матч.

**1965 год, 22 красавіка.** У парку на кургане пасаджаны 95 дубкоў.

**1965 год, 8 траўня.** Датэрмінова выканана семігадовае заданне па аб’ёме валавай прадукцыі прамысловымі прадпрыемствамі горада. Выраблена прадукцыі на 19 млн. 804 тыс. рублёў. Рост 142,8%.

**1965 год, 10 траўня.** Указам Прэзідыюма ВС БССР пасмертна ордэнам Айчыннай вайны 1 ступені ўзнагароджаны Ігнатаў, Клімко А.А., Кастраміна М., Наказных М., Качан А., Халявінскі Л., Кудачаў Л.

**1965 год. 1 чэрвеня.** У эксплуатацыю ўведзена першая чарга Лакафарбавага завода.

**1975 год, 24 студзеня.** Гарвыканкам прыняў рашэнне прысвоіць праезду каля лакафарбавага завода назву: “Праезд хімікаў”.

**1975 год, 16 лютага.** Праведзена свята зімы. Тэатралізаванае шэсце казачных персанажаў ад замка да парку. Катанне на тройках, арэлях, каруселях, масавыя гульні, конкурсы, скаборніцтвы, гулькі, ілюмінацыя, феерверк.

**1985 год, люты.** Дырэктарам племсаўгасу “Малое Мажэйкава” прызначаны Казімір Рахатка.

**1985 год, 24 лютага.** Адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя советы. У ВС БССР выбраны службовец А. І. Тараканаў па Лідскай Чырвонаармейскай акрузе, мантажніца завода электравырабаў В. С. Гаель на Лідскай Савецкай акрузе, міністр харчовай прамысловасці БССР Стаўроўская Іна Арсенцеўна па Лідскай Камса-мольскай акрузе, шліфавальшчыца шклозавода “Нёман” Д. І. Казлоўская па Лідскай сельскай акрузе, першы сакратар Лідскага райкаму КПБ І.Г. Бурлыка на Беліцкай акрузе і механізатар саўгаса імя Леніна В.С. Рэдзька па Тарноўскай акрузе.

**1995 год, 20 студзеня.** У рэспубліканскім Палацы мастацтваў завяршылася трохтыднёвая выстава мастакоў творчага аб’яднання “Лідзяне” СШ № 14 , Міністр культуры і друку І.А. Карэнда павіншаваў удзельнікаў і падарыў школе сувенір. 10 удзельнікаў выставы ўзнагароджаны дыпломамі 1,2, 3 ступені. Дыпломы 1 ступені атрымалі Іна Карней і Каця Янчэўская. Ніл Гілевіч уручыў 10 лепшым выхаванцам школы памятныя сувеніры. Арганіздатар выставы мастак Уладзімір Мельнікаў.



***Удзельнікі выставы 1995 года з Нілам Гілевічам і Вольгай Іпатавай***

# Лідскія юбіляры 2005 года

**КІШКА Станіслаў Пятровіч** (1455?-1514). Падстолі літоўскі (1487-88), стольнік літоўскі з 1491 г., пасол Вялікага князя Літоўскага Аляксандра да Вялікага князя Маскоўскага Івана III у 1490, 1495 і 1500 гг., маршалак гаспадарскі ў 1493-99 гг, намеснік лідскі у 1496-99 гг., ваявода смаленскі ў 1500-03 гг., вялікі гетман ВКЛ у 1503-07 гг., дзяржавец Васілішскага староства (1505-06), стараста гарадзенскі з 1508 г., маршалак земскі ў 1512-13гг. Чалец Паноў-Рады. Разам з князем К.І. Астрожскім удзельнічаў у прайгранай бітве на р. Ведрашы. У 1507 г. перад Клецкай бітвай занямог і перадаў камандаванне войскам Міхаілу Глінскаму, які бітву бліскуча выйграў.

**ФАЛЬКОЎСКІ Якуб Забядэвушавіч** (24.04.1775- 2.09.1848). Рэктар Шчучынскай піярскай школы. Асветнік. У 1802 г. упершыню пачаў навучэнне мове мігаў семігадовага хлопчыка. У 1817 г. адкрыў першую польскую школу для глуханямых. Стварыў сістэму навучання глуханямых дзяцей.

**ГАРЭЦКІ Фадзей (Тадэвуш) Антонавіч** (5.05.1825, в. Дзісяняты паблізу Вільні - 31.01.1868, Вішы, Францыя). Сын польскага паэта, уладальніка маёнтка Біскупцы Антонія Гарэцкага. Біскупцы секвестраваны ў 1833 г. У 1939 г. Тадэвуш вывезены разам з братам Людвікам у Пецярбург. Займаўся ў В. М. Ваньковіча ў Вільні, затым быў вольным слухачом у Акадэміі Мастацтваў, з 1841 г. вучыўся ў К. П. Брулова. Адзначаны малым срэбным медалём за карціну "Сляпы і яго павадыр" (1843), залатым медалём за экспрэсію ў карціне "Споведзь маладой дзяўчыны ў каталіцкага святара" (1845), малым залатым медалём за праграму "Блудны сын, які раскайваецца" (1847) і вялікім залатым медалём ды званнем класнага мастака за праграму "Ісус Хрыстос дабраслаўляе дзяцей" (1849). Дапамагаў К. П. Брулову ў выкананні роспісаў Ісакіеўскага сабора (1843 - 47). У 1850 - 54 падарожнічаў па Італіі, Іспаніі, Галандыі ў якасці пенсіянера Акадэміі Мастацтваў, выканаў копіі вядомых карцін, у тым ліку "Святая сям'я" Рафаэля Санці і "Святы Варфаламей" Х. Рыберы. Пасля 1856 г. жыў у Парыжы, у 1867 г. прыязджаў у Вільню і Пецярбург.

Аўтар партрэтаў Л. Гарэцкага (1843), А. Міцкевіча (1847), архіепіскапа Дмахоўскага, палкоўніка Гацэвіча, скульптара П. К. Клодта (за гэтую работу атрымаў званне "прызначанага" мастака). Напісаў карціны: "Унутраны перспектыўны выгляд лютаранскай царквы св. Пятра" (1852), "Хрыстосаванне" (1850), "Перспектыўны від на Альгамбры", "Пілігрымы", "Прычашчэнне ўміраючай". За гэтыя тры работы ў 1854 г. атрымаў званне акадэміка Расійскай Акадэміі Мастацтваў. Адна з апошніх карцін "Дамініканец, які моліцца" (1867).



***Прафесар З. Макрэцкі***

**МАКРЭЦКІ Зыгмунт Атаназі** (1865-1936). Нарадзіўся ў Дзітрыках Белагрудскай воласці Лідскага павету. Адзін з піянераў у вобласці аховы раслін, доктар філасофіі. Прафесар энтамалогіі. Закончыў Віленскую гімназію і Лясны інстытут у Пецярбургу. Працаваў ляснічым у Харкаўскай губерні, затым быў накіраваны на працу ў Крымскае лясніцтва. Галоўны губернскі энтамолаг Таўрычаскага земства (1892-1917), прафесар Таўрычаскага універсітэта ў Сімферопалі (1916-1917) . заснавальнік музея прыроды ў Сімферопалі. У лістападзе 1917 г. пакідае Крым. У Балгарыі займаўся навуковай апрацоўкай спосабаў знішчэння шкоднікаў ружаў і тытуню. З 1921 г. прафесар SGGW, адзін з заснавальнікаў і прэзідэнт польскага Саюза энтамолагаў (1923-36), з 1926 г. член Чэхаславацкай Акадэміі сельскай гаспадаркі. Заснаваў Інстытут энтамалогіі і аховы лесу ў Скарневічах. Змагаўся з ляснымі шкоднікамі ў Белавежскай пушчы і ў Татрах. Адзін з першых прымяніў апыленне лесу з самалётаў. Аўтар больш за 250 навуковых працаў. Вынаходнік хімічных сродкаў па абароне раслін і тытунёвай сыравіны.

**НАВІЦКАЯ Марыя Канстанцінаўна** (у дзявоцтве Снітко, 3.06.1865-26.11.1908). Заснавальніца Лідскай жаночай навучальні (1901), ператворанай у жаночую гімназію, пахавана на праваслаўных могілках.



***М. М. Іваноўскі***

**ІВАНОЎСКІ Мікалай Мікітавіч** (1895- пасля 27 чэрвеня 1941 ). Нарадзіўся ў г. Лідзе, беларус, адукацыя 4 класы. У 1913 г. закончыў курсы паравозных машыністаў. Працаваў памочнікам машыніста, з

1939 г. – начальнік базы халодных паравозаў. Дэлегат Народнага Сходу Заходняй Беларусі і член Паўнамоцнай камісіі Народнага Сходу Заходняй Беларусі. У 1940 годзе ўступіў у партыю, быў абраны дэпутатам гарадскога савета. У першы дзень вайны вывозіў з Ліды раненых, загінуў пры бамбёжцы цягніка пад Рослаўлем.

**СІРАНКОЎ Фёдар Іларыёнавіч** (21.02.1915-7.01.1985). Інвалід Вялікай Айчыннай вайны, інжынер, прараб у розных будаўнічых арганізацыях. У 1973-75 гг. працаваў інжынерам па тэхніцы бяспекі ў Лідскім БУ-133, з 1975 г. на пенсіі. У часопісе "Север" у № 4-5 за 1977 г. была апублікавана яго дакументальная аповесць "У балотах Сінявіна" – пра спробу прарыву блакады Ленінграда ў верасні 1942 г.

**САЎКО Іван Міхайлавіч** (19.02.1925-9.06.1998). Нарадзіўся ў в. Падкасоўе Наваградскага раёна, інвалід Вялікай Айчыннай вайны. Закончыў Віцебскі ветэрынарны інстытут (1954), працаваў ветурачом у Наваградскім раёне, затым галоўным ветэрынарам саўгаса "Тарнова" (1957-82). Апошнія гады быў у штаце Лідскай раённай станцыі па барацьбе з хваробамі жывёлаў. Узнагароджаны 10 ордэнамі і медалямі. Адзначаны залатым і сярэбраным медалямі ВДНГ. "Заслужаны ветурач БССР".

Паэт. Друкаваўся ў мясцовых газетах з 1960 г. Выдаў тры зборнікі паэзіі "Насуперак лёсу" (1993), "Рэха жыцця" (1994), "Голас сэрца" (1996).


*Іван Саўко*

**КЛЯЎЗУНІК Іван Зіноўевіч.** Нарадзіўся 29 сакавіка 1925 г. у Васілішках Лідскага павету (зараз Шчучынскі раён). Закончыў Менскі медінстытут (1954). З 1968 г. загадчык кафедры Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў. Доктар медыцынскіх навук, прафесар (1970), спецыяліст у вобласці анестазіялогіі і рэаніміталогіі.

**ФАМІЧОЎ Рыгор (Ягор) Філатавіч** (10.01.1925 - 24.01.1978). Нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў в. Рунцава Курскай вобл. Працоўную дзейнасць пачаў у кастрычніку 1941 г. слесарам на заводзе Маскоўскай вобл.

Курсант дыверсійнай спецшколы № 2 штаба партызанскага руху (чэрвень – ліпень 1941 г.), камандзір аддзялення аўтаматчыкаў партызанскага аддзела ім. Гастэлы (жнівень- снежань 1942 г.), які дзейнічаў у Менскай і Палескай абласцях. Упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ і адначасова нам. камісара брыгады Канавалава па камсамолу (снежань 1942 г. - сакавік 1943 г.), інструктар падпольнага Баранавіцкага абкаму камсамолу (сакавік 1943 г. - сакавік 1944 г.), сакратар падпольнага Наваградскага райкаму камсамолу і адначасова нам. камісара брыгады імя Чапаева па камсамолу (сакавік - ліпень 1944 г.).


*Р. Ф. Фамічоў*

Пасля вызвалення Беларусі на камсамольскай рабоце: першы сакратар Наваградскага РК ЛКСМБ (ліпень 1944 г. - снежань 1946 г.)., заг. аддзелу сялянскай моладзі і заг. вайсковага аддзелу Баранавіцкага абкаму ЛКСМБ (снежань 1946 г. - жнівень 1948 г.), слухач партыйнай школы пры ЦК КПБ (верасень 1948 - жнівень 1950 г.), сакратар Баранавіцкага абкаму ЛКСМБ (жнівень 1950 г. - студзень 1954 г.), другі (студзень 1954 г. - 1955 г.), затым першы (1955 - ліпень 1958 г.) сакратар Гарадзенскага абкаму ЛКСМБ. З 1958 г. на партыйнай працы: першы сакратар Паразаўскага РК КПБ (ліпень 1958 г. - студзень 1960 г.), загадчык аддзелу адміністратыўных і гандлёва-фінансавы органаў абкаму КПБ (студзень 1960 г. - люты 1961 г.), першы сакратар Лідскага гаркаму КПБ (люты 1961 - студзень 1968 г.). У студзені 1968 г. пераведзены ў Гародню другім сакратаром абкаму КПБ. З кастрычніка 1972 па 24 студзеня 1978 г – старшыня Гарадзенскага абласнога савету народных дэпутатаў. Член КПСС з 1945 г. Член ЦК КПБ (1966 - 1970), дэпутат і член Прэзідыюму ВС БССР (1965 - 1975).

Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Кастрычніцкай рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга. Двума ордэнамі "Знак пашаны", 8 медалямі. Рашэннем Лідскага гарвыканкаму № 48 ад 8.07.1979 г. вуліца 1-я Крупаўская перайменавана ў вуліцу Фамічова.

Пры Р. Ф. Фамічове ў Лідзе пабудаваны Лакафарбавы завод (1963 - 1968), рэканструяваны аўтарэмзавод (1962 - 1965), хлебакамбінат, мясакамбінат, уведзены ў эксплуатацыю новыя цэхі і ўчасткі на абутковай фабрыцы, заводзе электравырабаў, на "Лідсельмашы", камбінаце харчканцэнтратаў, пабудавана СШ №11, кінатэатр "Юбілейны", адкрыты планетарый (1964) і Лідскі індустрыяльны тэхнікум (1964), насыпаны Курган Бессмяроцця (1966).

**ЧАРАПІЦА Валеры** (н. 1. 1. 1945 г.). У Лідзе з 1946 года. Закончыў СШ №3, кандыдат гістарычных навук, прафесар. Дэкан факультэта гісторыі і культуры Гарадзенскага універсітэта. Загадчык кафедры гісторыі славянскіх дзяржаваў. Аўтар каля 300 навуковых працаў, у тым ліку 11 кнігаў. Сярод іх: "Сувязі рэвалюцыянераў Беларусі і Польшчы ў 70 - 80-х гадах XIX ст." (1985, на польскай мове), "Истоки" (1991), "Са скарбніцы кніжных паліц (1994), "Преодоление времени" (1996), "Польское национальное движение в Белоруссии" (1996), "... Дай нам руку в непогоду: Деятели русской культуры XIX - начала XX веков и Гродненщина. Историко-документальные очерки и публицистика" (1997), "Михаил Осипович Коялович. История жизни и творчества" (1998), "Очерки истории православной церкви на Гродненщине (с древнейших времён до наших дней)" (2000), "Гродненский Православный некрополь (С древнейших времён до нач. XX в.)"



*В. М. Чарапіца*

**СЛІЎКІН Валеры.** Нарадзіўся ў Лідзе 8 чэрвеня 1945 года. Закончыў лідскую школу № 3 (1963), Маскоўскі дзяржаўны універсітэт (1968). Пастуліў у штат Магаданскай геалагічнай экспедыцыі МДУ. У 1972 годзе абараніў дысертацыю, кандыдат геаграфічных навук. Да 1983 года працаваў геолагам, галоўным геолагам і начальнікам геалагічных партый на Калыме, Далёкім Усходзе, у Забайкаллі, Прыбайкаллі і Казахстане. Спецыялізацыя - пошук і разведка золата.

У 1983 годзе па стану здароўя вярнуўся ў Беларусь. Працаваў на будаўніцтве. З 1998 года старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея.

З 1983 года Валеры Сліўкін пачаў свой шлях краязнаўцы Лідчыны. Вялікі запас краязнаўчага матэрыялу, сабранага В. Сліўкіным стаў базай для пачатку выпуску часопіса "Лідскі летапісец", які выйшаў у жніўні 1997 года, афіцыйна часопіс зарэгістраваны 29 чэрвеня 1999 года. Часопіс выходзіць выключна на беларускай мове.



*В. В. Сліўкін*

В. Сліўкін узначальваў Лідскую арганізацыю Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, а пасля яе ліквідацыі ўзначаліў Лідскую арганізацыю Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута.

В. Сліўкін найбольш дасведчаны і аўтарытэтны спецыяліст у вобласці гісторыі Лідчыны. Яго пяру належаць дзесяткі артыкулаў, многія з якіх маюць высокі навуковы ўзровень. Сярод іх такія, як "Засна-ванне Ліды", "Развагі пра Лідскі замак", "Найстаражытнейшыя пасяленні Лідчыны: Дуброўня, Дакудава, Сялец, Голдава, Ваверка, Мыто, Дылева, Крупава, Беліца, Збляны. Бердаўка, Кульбакі, Жырмуны, Малое Мажэйкава, Тарнова", "Шахматны кампазітар з Ліды", "Грамадзянская вайна на Лідчыне 1944-1954 гг.", "Хрысціянства на Лідчыне", "Лідскія гарадскія харонімы", "Лідскія гарадскія гадонімы і агаронімы", "Знішчэнне лідскіх яўрэяў", "Гісторыя адукацыі ў Лідзе", "Лідскай "Свабодзе" - 100 гадоў", "Лідчына ў паўстанні 1794 года", а таксама шэраг іншых артыкулаў, напісаных у суаўтарстве ды апублікаваных у розных перыядычных выданнях. Усе пералічаныя артыкулы апублі-каваны на беларускай мове.

В. Сліўкін напісаў практычна ўсю гістарычную частку кнігі "Памяць. Ліда і Лідскі раён".

Пастановай № 33 ад 5.06. 2005 года Камітэта Ўшанавання (старшыня Анатоль Белы) за самаахвярную і плённую працу на ніве Беларускага Адраджэння, за карпатлівую краязнаўчую рупнасць па адраджэнні гістарычнай памяці, за кіраўніцтва Лідскай арганізацыяй Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута, за стварэнне часопіса "Лідскі летапісец" **Валеры Сліўкін** уганараваны **медалём Мітрафана Доўнар-Запольскага "За вяртанне гістарычнай памяці"** з уручэннем дыплома і занясеннем у Кнігу гонару **"Рупліўцы твае Беларусь"**.

*С. Суднік.*

**ПРАЎДЗІН Віктар Аляксандравіч.** Нарадзіўся 11.05. 1955 г. у Лідзе ў сям'і вайскоўца. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў (1996) . аўтар кніг "Візіцёр з поўначы" (1992), "Бель. Споведзь міліцыянера" (1996), "Эксгумацыя" (1997).



*Віктар Праўдзін*

***Да 595-годдзя Грунвальдскай бітвы****

# Ці спявалі мы "Багародзіцу"?

***Ёсць чары ў забытым, старадаўным,***
***Прыемна нам сталецці пыл страхнуць***
***І жыць мінулым-гэткім мудрым, слаўным,-***
***Мы любім час далёкі спамянуць...***
*"Тэрцыны", М. Багдановіч.*

*"...Невялікае войска стаяла на дарозе арды. Іх было вельмі мала, але твары, у прадчуванні канца, былі суровыя... яны стаялі на бялёсай вапняковай зямлі, пад гарачым апошнім сонцам. Белыя на белым.*

*Увесь акаем перад імі варушыўся. І тады нехта заспяваў старажытную "Багародзіцу". Страсным і грубым голасам..." (1).*

"Багародзіца"... Яе пелі нашыя продкі і пад Грунвальдам, і пад Наклем, і падІлькоміжем. Чым яна была для іх – гімнам, малітвай, проста песняй?

Выпадковая знаходка раскрывае некаторую незразумеласць: **у 1529 годзе** тэкст "Багародзіцы" на беларускай мове быў змешчаны ў першай рэдакцыі Статута (!) Вялікага Княства Літоўскага. І ці гэта не сведчыць аб высокай знакавасці твора? Простую песню наўрад ці змясцілі б у галоўным дакуменце дзяржавы. Польскія даследчыкі ў кнізе "Багародзіца" таксама даюць спасылку на гэта "... Bogurodzica pisana jest cyrylica w przedziwnej mieszanine jezykowej polsko-bialoruskiej..." (2).

Польскі народ здаўна лічыць "Багародзіцу" сваёй песняй. Самі яны яе называюць "найстаршая польская песня рэлегійная". І нават зараз можна пачуць варыянты выканання яе рознымі польскімі гуртамі, яна гучыць на святах і ў касцёлах. Дзякуй ім за гэта вялікае, бо мы маем магчымасць у 21 стагоддзі пачуць найстаражытнейшы гімн. І не толькі касцёлы ды музычныя гурты цікавяцца "Багародзіцай". Шмат польскіх даследчыкаў выдавалі і выдаюць зараз багатыя матэрыялы па "Багародзіцы", яна ўнесена ў літаратурныя і музычныя слоўнікі, яе словы ведаюць усе, зацікаўленыя гісторыяй (калі трапіце на які-небудзь польскі фестываль сярэднявечнай культуры, вы пачуеце, як усе рыцарскія клубы спяваюць "Багародзіцу" на адкрыцці такога фестывалю).

У пісьмовых крыніцах "Багародзіца" з'явілася ў пачатку 15 стагоддзя. З таго часу да нас дайшлі два тэксты: 1-шы Kcynski (ахоплівае два першыя куплеты з нотамі), і 2-гі – Кракаўскі (ахоплівае 13 куплетаў без нот). Наступныя тэксты "Багародзіцы" паходзяць з другой паловы 15-га – пачатку 16-га стагоддзяў. Першы вядомы надрукаваны тэкст песні змяшчаецца ў статуце Laskiego (кракаўскі ў 1408 г.). Далей былі выданні ў 1456 годзе (варшаўскі), канцы 15-га стагоддзя (чэнстахоўскі) і г. д..

Яшчэ не ўдалося вызначыць, з якога стагоддзя дайшлі да нас два першыя куплеты "Багародзіцы" – можа быць, з канца 13-га стагоддзя, а можа быць з 14 -га. Аб аўтарстве таксама вядома мала (3). "Багародзіцу" лічаць касцельнай рэлігійнай песняй, якая была напісана на лацінскай мове з уплывам грэцкай і царкоўнаславянскай моваў(4).

"Багародзіца" была звязана спачатку са службамі і рэлігійнымі працэсамі. Але ўжо у 15-ым стагоддзі стала рыцарскай песняй – яе спявалі перад бітвамі, яна гучала ў час каранавання Уладзіслава Варнейчыка. Таму Длугаш назваў "Багародзіцу "Carmen Patrium" (Песня Айчыны).

А што адбывалася на Беларусі ў 1529 г.?

У студзені 1529 года быў прыняты заканадаўчы акт кіравання, 29 верасня зацверджаны і ўведзены ў карыстанне першы Статут ВКЛ. Уладар ВКЛ у гэты час – Вялікі князь Жыгімонт I Стары, які адначасова з'яўляецца каралём Польскім. У кастрычніку 1529 года на сойме ў Вільні Вялікім князем ВКЛ абраны 9-гадовы Жыгімонт II Аўгуст, а ў снежні ён стаў і каралём Польскім (5). І менавіта ў гэтым Статуце змешчана "Багародзіца" на старабеларускай мове (6).

Адна дзяржава, адзін уладар, адзін дакумент. Дык можа быць не толькі для палякаў "Багародзіца" была гімнам (не столькі гімнам, колькі сімвалам, роднай песняй); дык можа быць не толькі на лацінскай ці польскай мовах спявалі яе нашы продкі, ідучы ў бой, карануючы князя ці проста стоячы ў храме падчас службы?... Ці была "Багародзіца" выключна каталіцкай песняй, ці ўсе ж-такі магчымасць яе візантыйскага паходжання дае падставы сцвярджаць, што і ў праваслаўных храмах яна займала сваю нішу?

Шмат пытанняў, на якія так складана даць адказ. І чаму маўчаць нашыя беларускія даследчыкі? Дзякуй богу, што зараз людзі маюць магчымасць пачуць "Багародзіцу" на сваёй мове(7).

Але хочацца ведаць пра яе больш. Хочацца пачытаць даследванні на роднай мове, а не толькі на польскай. Гэты артыкул ні ў якім выпадку не з'яўляецца спробай крытыкі нашых даследчыкаў музыкі і літаратуры. Гэта проста разгорнутае пытанне звычайнага зацікаўленага чалавека.

***Ганна Несцерава.***

**** У 2000-м годзе да 590-х угодкаў Грунвальдскай бітвы "Лідскі летапісец" упершыню ў Беларусі надрукаваў тэкст "Багародзіцы" на сучаснай беларускай мове. Мы радыя да 595-х угодкаў падаць развіццё гэтай тэмы і ўпершыню ў Беларусі надрукаваць тэкст "Багарордзіцы" на старабеларускай мове.***

# Пѣснь ѡ велебнои дѣвици паннѣ марии

Бга родицю дѣвѣцс бгославена марий
Оу твего сна кгосподина матко зволена марий
Зыщиж намъ спустиж нам кириелеизон
Твоего сна кростителя звавителя
Оуслыш кглосы напелниж мысли члове҃ус
Слыш млтвы якже мы просимы дали на св... збожный пребыт по жи
вотѣ райскии побыт кириелеизон
Народилса нас для снъ божи в то вѣрзи члвкус кождый иж пан бог пре
свои труд ѡтялъ давлу строжа
Придал намъ здрова вѣчнего старость зковал пекелнего смрть
подал вспоманул члвка первего
Ѥнже трвды терпял за неверне ещож был не престал за смерне
алиж самъ бог з мартвых встал
Адамс ты бжи кметю ты седиш в бга вечне домѣсть нас своих
дети дал нам бга видети
с. 94 В радости в млости домѣсть нас своих дѣти гдѣ кролюю аггели
Тамъ радость там млсть там видене творца аггелского столца
тамъ са нам зъявило дьявле потопенье
Ни среброме ни злотом нас дьявли ѡткупил свою моцью зъступил
тебе дла члвче дал богъ прекло соне бокъ рание ноге ѡбѣ кров
свату свою прелал на збавене тоѣ
Вѣрай в то члвкус иж ѥзус кристус правы терпял за нас раны свою
свату крев прелял за нас крстьяны
Ѡ души ѡ грешнои пан богъ печу есть мал ѡт дьяблов ю ѡтймал гдеж
то сам кролюе там ѥ сове принимне
Юж намъ час година грехов са кайти пану бгу чсть хвалу дати
зо всистными силами ѥзу криста миловати
Марий дѣвицо грешным втешницс дай нам в нбе видети своего
сна лице
Марий матко божий просиж сна своего абы нас доместил кролев
ства небесного
с. 95 Ѡ вшитцы стыи просте нас грешных споможте быхом з вами выд
вили ѥзу криста кхвалили
Ѥнже нас доместил ѥзу кристе милый быхомъ с тобою были гдеж са
намъ радую вшитки стыи сины
Амен амен амен амен амен амен амен тако бже дай быхомъ
пошли вшитки в рай гдѣ кролюють аггели аменъ

---

(1). *Ул. Караткевіч. “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”.*
(2). *“Bogurodzica”. J. Woronczak, E. Ostrowska, H. Feicht, 1962.*
(3). *Раней лічылі аўтарам тэксту Святога Войцаха, але даследчыкі адкінулі гэтую версію.*
(4). *Kirieelejson – грэцкая малітоўная формула . Ці не сведчыць гэта пра яе візантыйскае паходжанне?…*
(5). *Фактычна ўлада у ВКЛ яму перададзена на Берасцейскім сойме ў кастрычніку 1544 г., сапраўдным Вялікім князем ВКЛ і каралём Польшчы ён стаў пасля смерці бацькі 1-га красавіка 1548 г.*
(6). *У Статуце “Багародзіца” змешчана пад назвай “Песнь о велебной девици панне Марии”.*
(7). *На дысках “Легенды Вялікага княства”, “Старажытная зямля” ў выкананні хора “Унія” і на дыску “Скарбы ліцьвінаў” у выкананні гурта “Стары Ольса”.*

***Матэрыял у рэдакцыю перадала Арына Вячорка.***

**Андрэй Худык**

# Лідскі раён – 2004

## Сацыяльна-эканамічны партрэт

**(Даклад на падвядзенні вынікаў сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна ў 2004 г.)**



Лідскі раён з'яўляецца буйным прамысловым рэгіёнам краіны. На яго тэрыторыі размяшчаецца 40 прамысловых прадпрыемстваў розных галінаў, узроўняў падпарадкаванасці і форм уласнасці.

Сярод іх горадаўтваральнымі з'яўляюцца 6: шклозавод "Нёман" (больш 4-х тыс. чал.), "Лакафарба" (1,8 тыс. чал.), "Лідскі завод электравырабаў" (1,6 тыс. чал.), завод "Оптык" (1,5 тыс. чал.), "Лідская абутковая фабрыка" (1,4 тыс. чал.), "Лідсельмаш" (1,0 тыс. чал.).

Прадпрыемствамі Лідскага раёна у 2004 годзе выраблена прадукцыі ў дзейных цэнах на суму каля 444 млрд. руб. Тэмп росту ў суадносных цэнах склаў амаль 101%, у тым ліку ў прамысловай галіне без уліку прадукцыі, якая вырабляецца "Лідааграпраммашам" – каля 107%.

Арганізацыі, падпарадкаваныя рэспубліканскім органам кіравання скарацілі аб'ёмы вытворчасці ў параўнанні з 2003 годам на 7,7%. У той жа час арганізацыі, падпарадкаваныя мясцовым органам кіравання, павялічылі аб'ёмы вытворчасці ў параўнанні з 2003 годам больш, чым на 20%, прадпрыемствы без ведамаснай падпарадкаванасці – амаль на 12%.

Прадпрыемствамі раёна прымаліся меры па павелічэнні аб'ёмаў вытворчасці і стабілізацыі становішча. Так "Лакафарбай" праводзілася тэхнічнае пераўзбраенне вытворчасці фталевага ангідрыду. "Лідсельмаш" асвоіў вытворчасць новых відаў сельскагаспадарчых машын. Завод "Оптык" ажыццяўляе рэканструкцыю шкловарнай вытворчасці. Лідахлебапрадукт увёў у эксплуатацыю лінію па фасоўцы мукі. Ліцейна-механічным заводам пачата выкананне мантажных работ узамен маральна і фізічна застарэлага абсталявання. Доследны завод "Нёман" закончыў выпрабаванні новага віду прадукцыі – апырсквальнікаў. Завод электравырабаў засвоіў вытворчасць новай серыі свяцільнікаў. "Харчовыя канцэнтраты" набылі лінію па вытворчасці хлоп'еў. "Лідабудматэрыялы" будуць вырабляць новую прадукцыю – "Еўраакно", абсталяванае паваротным механізмам.

З 40 прамысловых прадпрыемстваў раёна павялічылі выпуск прадукцыі і забяспечылі выкананне прагнознага тэмпу росту прамысловай вытворчасці 28 (70,0% ад іх агульнай колькасці). Выйшлі на ўзровень леташняга года, але не выканалі даведзенае заданне па тэмпу росту 8 прадпрыемстваў (20% ад іх агульнай колькасці).

Дапусцілі зніжэнне аб'ёмаў 4 прадпрыемствы (10,0% ад іх агульнай колькасці). У іх ліку "Лідскі завод электравырабаў", "Лідааграпраммаш", "Лідская абутковая фабрыка" і "Дывет"

Адсутнасць сродкаў для выпуску камбайнаў "Ліда – 1300" на "Лідааграпраммашы" прывяла да змяншэння іх вытворчасці на 119 штук у параўнанні з леташнім годам.

У выніку за 2004 года прадпрыемства не дадало прадукцыі ў суадносіных цэнах на суму каля 28,5 млрд. рублёў. Важна , што ў гэтым годзе, "Лідааграпраммаш" атрымаў пад гарантыю абласнога выканаўчага камітэта крэдытную дапамогу банка.

Застаецца складанным становішча на заводзе электравырабаў і абутковай фарбрыцы, сітуацыя на якіх знаходзіцца на пастаянным кантролі ў раённага выканаўчага камітэта. Адным з выхадаў са склаўшайся там сітуацыі мы бачылі ў абнаўленні дырэктарскага корпусу, што і было зроблена. Новым кіраўнікам выкан-

камам аказваецца ўсялякае садзеянне ў вырашэнні праблемных пытанняў.

Сёння кіраўнік павінен быць эканамічна адукаваным, гнутка рэагаваць на рынкавыя змены, умець працаваць з людзьмі і на перспектыву, берагчы сваіх падначаленых, ствараючы ім годныя ўмовы працы, як гэтага патрабуе Дырэктыва Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб мерах па ўмацаванні грамадскай бяспекі і дысцыпліны". Гэтая тэма на жаль, застаецца актуальнай і сёння, таму што назіраецца рост вытворчага траўматызму.

У сувязі з гэтым у сучасных умовах важна ведаць пра кожнага работніка: якая ў яго сям'я, як ён жыве, як адносіцца да справы, праяўляе ініцыятыву. Калі трэба падтрымаць, калі памыліцца ненамерана. А калі і строга спытаць. Галоўнае, праца на агульны вынік.

З веданнем справы падходзяць да працы з людзьмі дырэктары:

- ААТ "Лідскае піва" Юфа Уладзімір Якаўлевіч;

- хлебазавода – Чарняк Іосіф Станіслававіч;

- прадпрыемства меліяратыўных сістэм Шляжко Уладзімір Натанавіч;

- ААТ "Лідскі малочна-кансервавы камбінат" Шэмет Георгі Аляксеевіч.

Ці не ў гэтым аснова поспеху прадпрыемстваў, якія з'яўляюцца лідарамі спаборніцтва 2004 года.

На сёння прымаюцца меры па павелічэнні аб'ёмаў вытворчасці і стабілізацыі становішча. Праводзяць тэхнічнае пераабсталяванне і рэканструкцыю. Асвойваюць новую канкурэнтаздольную прадукцыю. Шукаюць магчымасці яе пастаўкі ў розныя рэгіёны краіны, блізкае і далёкае замежжа.

У 2004 годзе заводу "Оптык" (дырэктар Майсейчык Анатоль Мікалаевіч) прысуджана прэмія Гарадзенска аблвыканкаму за дасягненні ў вобласці якасці.

Прадукцыя завода "Лідскае піва" (дырэктар Юфа Ўладзімір Якаўлевіч) уганараваная Прэміяй Ураду.

Тавары, выраблены на "Лакафарбе" (дырэктар Гарбацэвіч Генадзь Мікалаевіч), адзначаны дыпломамі і медалямі на выставах і конкурсах Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі.

З мэтаю прасоўвання прадукцыі, якая выпрабляецца ў Лідскм рэгіёне, яе поўны асартыментны пералік з тэхнічнымі характарыстыкамі прадстаўлены ў розныя рэгіёны блізкага і далёкага замежжа. Праца такога парадку будзе працягнута ў гэтым годзе. У лютым 2005 года ў Маскве адчынена гандлёвае прадстаўніцтва Лідскай абутковай фабрыкі.

Выпушчаны рэкламны буклет прадукцыі прадпрыемстваў раёна, які накіраваны ў Міністэрства замежных спраў для распаўсюджання ў пасольствах Рэспублікі Беларусь, прадстаўнікам міністэрств і канцэрнаў, кіраўнікам абласных, гарадскіх (раённых) выканаўчых камітэтаў Беларусі, кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый Лідскага раёна.

На стадыі завяршэння выраб перасоўнага рэкламнага стэнда для прадстаўлення яго на міжнародных выставах. Праведзена праца па стварэнні Інтарнэт-сайта, які будзе пастаянна абнаўляцца і ўдасканальвацца.

Прынятыя меры будуць садзейнічаць таму, што ў 2005 годзе прамыслоўвасць раёна будзе развівацца дынамічна.

З аб'яднаннем горада і раёна ў адну адміністратыўна-тэрытарыяльную адзінку вялікую дапамогу і падтрымку атрымалі сельскагаспадарчыя прадпрыемствы. Перш за ўсё – дзякуючы шэфству прамысловых прадпрыемстваў. А таксама імі атрымана каля дванаццаці з паловай мільярдаў рублёў з бюджэту і пазабюджэтных фондаў. Дапамога з раённага бюджэту вырасла ў 8 разоў.

Гэта станоўча паўплывала на павелічэнне вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі і стабілізацыю фінансавага становішча. За леташні год выраблена валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі амаль на 38 млрд. рублёў, што на 12% вышэй за 2003 год. У 2004 годзе ў раёне на 10% больш вырашчана збожжа. Вытворчасць цукровых буракоў вырасла амаль у 4,5 разы. Раён заняў другое месца ў краіне па вырошчванні льну даўгунцу, а прадпрыемства "Лідлён" – першае месца сярод аналагічных заводаў краіны.

Мае месца некаторы рост вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі. Валавы надой малака ў параўнанні з леташнім годам павялічыўся на 10%. Прадукцыйнасць дойнага статку вырасла амаль на 300 кг. і склала 3139 кг. малака ад адной каровы.

Рэалізавана каля 6 тыс. тон жывёлы і птушкі на мяса. Выраслі пастаўкі жывёлы на мясакамбінаты на 55%. Курыных яек атрымана амаль 13 мільёнаў штук або 129% да 2003 года. Заданне па продажы збожжа дзяржаве выканана на 96%.

Летась паспяхова спрацавала будаўнічая галіна нашага раёна.

У 2004 годзе забяспечаны ўвод жылля ў аб'ёме больш за сорак чатыры тысячы кв. м. або 440 кватэр. У тым ліку ў сельскай мясцовасці і малых гарадах - каля 13 тысяч кв. м. Грамадзянамі ўведзена ў эксплуатацыю амаль 24 тыс. кв. м. індывідуальнага жылля. Інвестыцыі ў будаўнічую галіну склалі больш за 20,5 мільярдаў рублёў. Працягвалася будаўніцтва акушэрскага

корпуса на 89 ложкаў у г. Лідзе, рэканструкцыя школы на 144 месцы ў в. Пескаўцы. Усе прадугледжаныя бюджэтам інвестыцыі на гэтых аб'ектах асвоены.

16 лютага ў вобласці падведдзены вынікі спаборніцтва. Лідскі раён заняў другое месца ў будаўнічай галіне.

Летась шэраг прадпрыемстваў правёў работы па эканоміі паліўнаэнергетычных рэсурсаў. Так, на Лідсельмашы тэхналагічны працэс загартоўвання дыскаў баранаў пераведзены з электрапечы на газавую печ кавальскага цэху. Заводам "Оптык" праведзена герметызацыя зводу шкловарнай печы. Мадэрнізацыя сістэмы кандэнсатаадводу ажыццёўлена на ААТ "Лідскае піва". Заменены помпавыя агрэгаты ў артсвідравінах на водазаборы "Бароўка" Лідскага ГУПЖКГ.

Недастаткова працуюць над укараненнем энергаашчаджальных мерапрыемстваў на "Лакафарбе", Ліцейна-механічным заводзе, у Будаўніча – мантажным трэсце № 19, аўтобусным парку №2, торфапрадпрыемствах "Лідскае" і "Дзітва", ва ўправе адукацыі райвыканкаму.

Але, на жаль, ашчаднасці нашым людзям па-ранейшаму не хапае. Гэта праяўляецца ў адносінах да добраўпарадкавання ўласнага двара, пад'езда, падтрымання чысціні на вуліцы, у грамадскім транспарце.

Штодзённа гарадскім транспартам перавозіцца больш 68 тысяч чалавек, таму так неабходна, каб ён працаваў якасна. Сёлета плануецца далейшае ўдасканаленне гарадской маршруткай сеткі і павелічэння колькасці транспартных адзінак, якія абслугоўваюць гарадскія экспрэсныя маршруты.

Аўтобусны парк № 2 мае недахоп сродкаў для аднаўлення рухомага складу. 72% аўтобусаў маюць 100% зношанасць. Распрацаваны бізнесплан развіцця, у адпаведнасці з якім прагназуецца замена 32 устарэлых, непрыдатных да эксплуатацыі аўтобусаў на больш эканамічныя і сучасныя, а таксама набыццё абсталявання для мыцця, рамонту і дыягностыкі.

Удасканалення і мадэрнізацыі патрабуюць прадпрыемствы сувязі. Сёлета намечана рэканструкцыя дзейных аб'ектаў, расшырэння мясцовай тэлефоннай сеткі і далейшае развіццё сучасных відаў паслуг. Прагназуецца, што ў 2005 годзе раённая тэлефонная сетка рашырыцца на 1200 нумароў. Плануецца ўстанавіць 1100 тэлефонаў, у тым ліку ў горадзе – 950, у сельскай мясцовасці – 150.

Кожны з нас штодзённа сутыкаецца з такой сферай паслуг, як гандаль. Адны выступаюць у ролі прадаўцоў, іншыя – большасць у ролі пакупнікоў. Хачу адзначыць, што гандлёвая сетка ў раёне дастаткова развітая. Усяго аб'ектаў, занятых рэалізацыяй прадуктаў харчавання, прамысловых і гаспадарчых тавараў, тавараў бытавой хіміі, парфюмерна-касметычнай прадукцыі, будаўнічых матэрыялаў, налічваецца 850, з іх 135 – у сельскай мясцовасці. Есць 6 рынкаў, у тым ліку адзін з іх прадуктовы і 5 змешаных.

Асноўны паказчык сацыяльна-эканамічнага развіцця гандлю тэма росту рознічнага тавараабароту. За 2004 год ён выкананы больш, чым на 111% пры даведзеным паказчыку 105,9%. Хаця колькасць жыхароў раёна паменшылася больш, чам на тысячу чалавек, прырост склаў па прадуктовай групе тавараў амаль 8%. Па непрадуктовай – 16,7%. Гэта вынік мераў па пашырэнні асартыменту тавараў, што рэалізуюцца насельніцтву.

У 2004 годзе праведзена 17 кірмашоў-продажаў, якія дадаткова прыцягнулі 332 млн. рублёў. Эканамічны эфект ад 35 выставаў–продажаў склаў больш за 80 млн. рублёў. Падчас 23 сезонных распродажаў тавараў па зніжаных цэнах атрымана выручкі на суму амаль 80 млн. рублёў.

Развівалася матэрыяльна-тэхнічная база гандлёвых прадпрыемстваў. Толькі на рэканструкцыю патрачана амаль 270 млн. рублёў. На тэхнічнае пераабсталяванне патрачана каля 532 млн. рублёў, на добраўпарадкаванне – 115 млн. рублёў.

Для стымулявання продажу тавараў укараняюцца прагрэсіўныя формы гандлю: продаж тавараў па ўзорах, у крэдыт, метадам самаабслугоўвання. Магазінам № 1 "Дом гандлю", гандлёвым цэнтрам "Патсдам" у 2005 годзе будзе ажыццяўляцца ўкараненне спецыяльных камп'ютарых сістэм.

Прадпрыемствы службы быту ўсіх форм уласнасці аказваюць 18 відаў бытавых паслуг, у тым ліку ў сельскай мясцовасці – 16.

На працягу 1,5 гадоў па ініцыятыве прадпрыемтва "Гарант" не павышаліся цэны на паслугі па рамонту тэле- і радыёапаратуры і паслугі цырульняў. У 2005 годзе плануецца далейшае развіццё кабельнай тэлевізійнай сеткі прадпрыемства, якая забяспечвае падачу абанентам адкрытага пакета не менш 14 тэлевізійных праграм, уключаючы "Лідскае тэлебачанне".

На развіцце прадпрымальніцтва накіраваны абласная і раённая праграмы дзяржаўнай падтрымкі малога прадпрымальніцтва, у якіх прадугледжана аказанне фінансавай дапамогі суб'ектам малога прадпрымальніцтва, стварэнне новых рабочых месцаў за кошт сродкаў бюджэту, крэдытавання, сродкаў фонду занятасці.

У 2005 годзе прагназуецца павелічэнне колькасці малых прадпрыемстваў да 473. Сярэднеспісавая колькасць людзей, якія працуюць на прадпрыемствах малога бізнесу складзе 3 тысячы чалавек. Я мяркую, што індывідуальныя прадпрымальнікі давяраюць мясцовай уладзе, прыходзяць да нас па парады і падтрымку. Аддаючы належнае іх ініцыятыве, упершыню ў гісторыі раёна мы вызначылі і ім месца ў спаборніцтве.

Лідскім раённым выканаўчым камітэтам, яго ўправамі і службамі робіцца ўсё магчымае, каб ні адзін жыхар раёна не застаўся без увагі, мог карыстацца максімальнай колькасцю паслуг, ажыццяўляць свае канстытуцыйныя правы – атрымоўваць адукацыю, медыцынскае абслугоўванне, мець магчымасць зарабіць сабе на жыццё, ствараць сям’ю, гадаваць дзяцей і г. д. Таму адным з важнейшых кірункаў працы ў 2004 годзе стала ўкараненне сістэмы дзяржаўных сацыяльных стандартаў па абслугоўванні насельніцтва раёна. Мэтанакіраваная праца па іх выкананні праведзена ў сферы медыцынскага абслугоўвання, адукацыі, культурна-асветніцкай і фізкультурна-аздараўляльнай працы. Вялікая ўвага выкананню сацыяльных стандартаў была ўдзелена ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы, транспарце і сувязі. Пад пастаянным кантролем знаходзяцца пытанні сацыяльнай абароны насельніцтва. Вынікам гэтай працы стала тое, што ўсе 44 нарматывы сацыяльных стандартаў у раёне выкананы. Асаблівае значэнне ў сацыяльнай дапамозе дзяржавы адводзіцца сістэме аховы здароў, таму што без здаровага народу не можа быць эфектыўнай эканомікі і ўстойлівага развіцця грамадства. З гэтай мэтай Рашэннем Лідскага раённага выканаўчага камітэту № 75 ад 29.09.2004 г. была зацверджана Тэрытарыяльная праграма дзяржаўных гарантый медыцынскай дапамогі насельніцтву Лідскага раёна і дзяржаўных сацыяльных стандартаў ў вобласці аховы здароўя на 2004 год. У адпаведнасці з ёю вялася работа па ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы. Набыта 10 новых аўтамабіляў. У тым ліку 6 – для станцыі хуткай медыцынскай дапамогі, 2 - на сельскія ўрачэбныя ўчасткі. Закуплены стацыянарны і перасоўны рэнтгенаўскія апараты, два УЗІ –апараты з каляровым доплерам, 8 электракардыёграфаў, 2 стаматалагічныя ўстаноўкі. На ўсё гэта затрачана амаль 820 млн. рублёў.

У стацыянарах Лідскага ТМА ёсць 18 палат для інвалідаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Іх абсталяванне і санітарна-тэхнічны стан адпавядаюць сучасным патрабаванням.

У 2004 годзе ў ахове здароўя адбыўся пераход планавання фінансавых сродкаў згодна з нарматывам бюджэтнай забяспечанасці выдаткаў на 1 жыхара і рэалізацыі тэрыторыяльных праграм, дзяржаўных гарантый аказання грамадзянам бясплатнай медыцынскай дапамогі, а таксама развіцця пазабюджэтнай дзейнасці. Ахова здароўя Лідскага раёна ў 2004 годзе прафінансавана цалкам.

Асноўнымі праблемнымі пытаннямі, над якімі нам належыць працаваць у 2005 годзе. з’яўляюцца:

- завяршэнне будаўніцтва акушэрскага корпуса. Дзякуючы асабістай падтрымцы старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму Уладзіміра Ягоравіча Саўчанкі фінансаванне гэтага аб’екта апераджае тэмпы яго будаўніцтва;

- рэканструкцыя будынка хірургічнага корпуса былога вайсковага шпіталя для стварэння на яго базе бальніцы сястрынскага догляду для адзінскіх і пажылых грамадзян;

- абсталяванне матэрыяльнай базы сучасным медыцынскім абсталяваннем;

У апошні час грамадскасць хвалюе рост захворванняў дзяцей і падлеткаў, бо здароўе моладзі – гэта здороўе нацыі. Таму прыярытэтным кірункам у працы дактароў дзіцячай паліклінікі – прафілактыка захворванняў. Гэтай рабоце вялікую ўвагу ўдзяляецца медперсаналам дзіцячай паліклінікі, якім паспяхова кіруе Тарасава Людміла Аляксееўна, чыя кандыдатура была рэкамендавана агульным сходам Лідскага ТМА для занясення на раённую дошку пашаны.

Вялікі ўклад у аздараўленне насельніцтва ўносіць работа Лідскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Летась з удзелам санэпіднагляду быў распрацаваны і знаходзіўся на кантролі шэраг праграм. Сярод іх – “Здароўе народа”, рэгіянальныя праграмы па фармаванні здаровага ладу жыцця і інш . Работа вялася ў кірунку ўмацавання здароўя, прафілактыкі захворванняў насельніцтва, аздараўлення жылога асяродзя чалавека і ўмоваў яго жыццядзейнасці.

Адным з асноўных кірункаў дзяржаўнай палітыкі ў вобласці аховы здароўя з’яўляецца фармаванне здаровага ладу жыцця. Развіццё фізічнай культуры і спорту – не дабрачыннасць, не бяздумнае ўкладванне фінансавых сродкаў, а рэальная магчымасць палепшыць якасць жыцця людзей, захаваць і ўмацаваць здароўе, стварыць фундамент паўнавартаснага фізічнага і духоўнага развіцця кожнага грамадзяніна, дынамічна развіваць спорт, фізічную культуру і здаровы лад жыцця. Згодна з дадзенымі ЮНЕСКА, 1 еўра, укладзены ў развіццё масавага спорту, дазваляе эканоміць 12 еўра не медыцынскія выдаткі.

У 2004 годзе прыстальная ўвага ўдзялялася патрэбам і праблемам ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. З мэтай задавальнення іх патрэбаў і запатрабаванняў праводзіліся сустрэчы

з работнікамі выканкаму, управы па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва. Абследаваліся жыллёва-бытавыя ўмовы жыцця. Летась гэтай катэгорыі грамадзян была аказана дапамога на суму амаль 108 млн. рублёў. Выказваю падзяку кіраўніцтву прадпрыемстваў, арганізацый і ўстановаў раёна, якія не забываюць сваіх ветэранаў і пенсіянераў, аказваюць ім грашовую і натуральную дапамогу. Спадзяюся, што вы аб іх будзеце памятаць не толькі ў пераддзвер'і 60-гаддзя Вялікай Перамогі, якую мы будзем святкаваць сёлета, але і акружыце іх пастаяннай увагай і клопатам на усё астатняе жыццё. Старэйшае пакаленне таксама не застанецца ў даўгу і дапаможа нам сваімі ведамі, дасведам і парадай.

Без памяці аб мінулым няма будучыні. Таму заслугі нашых бацькоў і дзядоў павінны стаць для нас арыенцірам працы і жыцця ў далейшым. Вялікая праца на падтрымцы ветэранаў, захаванні памяці пра іх гераічны вычын праводзіцца і ў установах адукацыі раёна. Гэта і шэфская дапамога, дабрачынныя акцыі, усемагчымыя конкурсы, канферэнцыі, спартакіяды. Тэма патрыятычнага выхавання моладзі ў сувязі са святкаваннем 60-годдзя Перамогі павінна стаць прыярытэтнай у працы недагагічных калектываў раёна. Выхаванне грамадзянскасці будзе садзейнічаць праяўленню цікавасці навучэнцаў да ведаў.

Удасканаленне сістэмы адукацыі – важнейшая ўмова сацыяльна – эканамічнага развіцця і духоўнага дабрабыту нацыі. Сярэднія спецыяльныя і прафесійна-тэхнічныя ўстановы адукацыі раёна знайшлі сваю нішу ў падрыхтоўцы спецыялістаў рознага профілю. Дзякуючы намаганням педагагічных калектываў тэхнічнага і педагагічнага каледжаў Ліды. Гэтыя ўстановы адукацыі сталі падраздзеламі Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Лідзяне маюць магчымасць атрымоўваць вышэйшую адукацыю дома.

Паспяхова мяняюць профіль навучання прафесійна-тэхнічныя навучальні. Тут навучэнцы атрымоўваюць прафесіі, запатрабаваныя на рынку працы. Прэзідэнт краіны А. Р. Лукашэнка неаднаразова падкрэсліваў, што "пытанні павышэння якасці работы школьнай сістэмы – гэта справа дзяржаўнай важнасці".

Прафілізацыя і спецыялізацыя, якія ўкараняюцца ў школах раёна, даюць станоўчы вынік. 70% выпускнікоў раёна паступілі ў ВНУ і ССНУ. На абласных алімпіядах навучэнцы заваявалі 52 прызавыя месцы. Асаблівым прызнаннем заслуг калектыва гімназіі з'яўляецца прэмія спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы таленавітых вучняў і студэнтаў. Раённы выканаўчы камітэт плануе ў гэтым годзе ўмацаваць матэрыяльна-тэхнічную базу гэтай установы.

Не застающа без увагі ў пытаннях абсталявання і іншыя навучальныя ўстановы раёна. Толькі на падрыхтоўку 2004 /2005 навучальнага года было затрачана 1 млрд. 318 мільёнаў рублёў. Набыта 12 кампутарных класаў і 11 персанальных кампутараў. Для падвозу дзяцей закуплены 1 аўтобус.

Вялікую ролю ў выхаванні маладога пакалення, захавання і прымнажэння традыцый беларускага народа іграе сфера культуры. Яна налічвае 75 установаў і ўключае клубы, бібліятэкі, дзіцячыя музычныя школы, школу мастацтваў, гістарычна-мастацкі музей, дом рамёстваў. Для развіцця творчых здольнасцяў насельніцтва працуюць 169 клубных фармаванняў з колькасцю ўдзельнікаў больш 2000 чалавек.

У раёне стала традыцыйным правядзенне аўтапрабегу, тэматычных вечароў і агенькоў да Дня Перамогі, цыклу мерапрыемстваў да Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, Дня беларускага пісьменства і друку, святы мікрараёнаў, вёсак. Найбольш яркія мерапрыемствы, якія прайшлі ў 2004 годзе гэта: раённая шоў-праграма "Вернісаж прыгажосці", "Міс Лідчыны – 2004", раённае экалагічнае свята "Песні над Нёманам", раённыя "Дажынкі – 2004 " і інш.

Актыўную гастрольную дзейнасць вядуць 38 узорных і народных калектываў Лідскага раёна. 13 з іх прымалі ўдзел у рэс-публіканскіх Дажынках – 2004 у Ваўкавыску, удзел у фестывалі мастацтваў у Наваградку, прысвечаным 960-годдзю горада.

Я ўпэўнены, што пастаўленыя задачы вам па сілах: трэба толькі паглядзець на сваю працу збоку і ўкласці ў яе часцінку свае душы.

Наш поспех залежыць ад узгодненных дзеянняў, паўнаты адказнасці кожнага за даручаны ўчастак работы. Думаю, што сёння мы пачуем ад выступоўцаў прапановы па паляпшэнні нашай працы.

Райвыканкам будзе ўсяляк падтрымліваць тых, хто працуе з розумам, пастаянна праяўляе высокую арганізаванасць і дысцыпліну, дзелавітасць, клапоціцца пра людзей, стан іх здароўя, хто імкнецца стварыць новыя працоўныя месцы і палепшыць умовы працы.

2005 год павінен стаць яшчэ больш напружаным. Выжнейшая задача – выкананне прагнозных паказчыкаў. Гэта справа гонару кожнага працаўніка Лідскага раёна, аднаго з самых значных і буйных у краіне.

# ТАМ КОЖНЫ ДЗЕНЬ - ГЭТА СКАРБ

## *17 студзеня - угодкі з дня смерці Чэслава Немана*

Дзе сіняя рэчка нясе свае воды,
Там сонца ўбачыў я першы раз,
Над берагам тым я правёў столькі хвіляў,
Што зараз без рэчкі маркочуся я.

Там кожны дзень - гэта скарб,
На сёння адзіны мой скарб,
Хоць час, як рэчка, як рэчка плыве,
У мінулае зносячы дні.

У тыя дзяціныя дні думка вяртае мяне,
У марах маіх тая рэчка жыве.
Так моцна хацеў быць над берагам тым,
Ды толькі ўспаміны хай далей плывуць.

***Чэслаў Неман, 1969 г.***

У сваіх думках Чэслаў Неман часта вяртаўся да сваёй роднай вёскі, чыстай і празрыстай рэчкі, над берагам якой праляцела яго шчаслівае дзяцінства і назаўсёды засталося ў памяці. Любіў сваю радзімую зямлю і з гонарам падкрэсліваў, што нарадзіўся ў краі наднёманскім.

Найменей вядомая старонка біяграфіі Чэслава Немана – дзяцінства і маладосць, праведзеныя **ў Старых Васілішках недалёка ад Ліды.**

Нарадзіўся як Чэслаў Юліюш Выдрыцкі (пазней узяў псеўданім "Неман" ад такой блізкай яму ракі) 16 лютага 1939 года. Калі меў сем месяцаў, выбухнула вайна. Шмат суседзяў трапіла за Урал. Калі пачалася нямецкая акупацыя, бацька стаў збройнікам АК. Сястра Ядвіга насіла жаўнерам у лес кабуры, якія шыў бацька.

- Паселішча Старыя Васілішкі заснаваў быццам бы князь Васіль (трэба разумець Войшалк), які адзін з першых на Літве прыняў хрысціянства, - гаварыў Неман, - на самай справе да канца XIX стагоддзя ў вёсцы стаяў драўляны касцёлік. Толькі потым, з дазволу цара Мікалая, было дазволена выбудаваць прыгожы, неагатычны касцёл, які дастаяў да сёння.

Сярод простых, крытых саломай або гонтай, драўляных хат дом Выдрыцкіх выдзяляўся, хутчэй нагадваў дворык, маёнтачак чым вясковую хату.

У сям'і ўсе былі музыкальныя. Бацька Чэслава быў наладчыкам фартэпіян, гадзіннікавым майстрам, сястра грала на многіх інструментах. Малы Чэсь яшчэ ледзь хадзіў, а ўжо залазіў на табурэтку і забаўляўся, ляпаючы па клавішах інструмента.

- Вайны не памятаю, акрамя аднаго малюнка, як сядзім з сястрой у акопах, калі ўцякалі немцы. Нягледзячы на розныя завіраванні, дзяцінства згадваю з сентыментам. Здарылася зашывацца ў грыбныя лясы, бушаваць па лугах, лавіць рыбу. Гэта быў рай на зямлі, - успамінаў



***Касцёл Святых апосталаў Пятра і Паўла ў Старых Васілішках, дзе ў касцельным хоры спяваў Чэслаў Неман***

Неман. – Усё змянілася пасля вайны. У пачатку 50-х гадоў памёр ксёндз, зачынілі касцёл, дзе я з дзевяці гадоў спяваў у хоры. У школе, не глядзячы, што апрача дзяцей настаўнікаў усе вучні былі палякамі, не было нават размовы аб уроках польскай мовы. Прыехаў у Польшчу, калі Гамулка (кіраўнік Польшчы ў той час) дамагаўся вяртання палякаў, якія аказаліся пасля вайны за мяжой, - гаварыў Неман. – Мне споўнілася 19 гадоў, і пагражаў прызыў у Савецкую Армію. Мы прыехалі ў Белагард, на вернутыя паморскія землі. Незадоўга пасля гэтага бацька памёр, а я пайшоў у музычную школу ў Гданьску.

Два гады хадзіў у клас фагота. Не шмат людзей ведала, што Неман меў жонку з Васілішак, да ўспамінаў якой дабраўся карэспандэнт Пётр Адамовіч. Чэслаў быў старэйшы за яе на два гады, спяваў у хоры і ўдзельнічаў у розных гуртках. Яна таксама. Гэта было першае школьнае каханне. У 1957 годзе яны распісаліся.

Шмат маладых тады, карыстаючыся магчымасцю вырвацца з СССР, жанілася фіктыўна.

Іх саюз быў інакшым – Чэслаў выслаў ёй з Польшчы запрашэнне, і ўжо ў Польшчы яны ўзялі касцельны шлюб. У Гданьску Чэслаў шмат чым займаўся, працаваў нават докерам у порце. Падрабляў малляваннем шыльдаў. Жонка пайш-

ла на курсы медсясцёр, для тых, хто закончыў сярэднюю школу. Жыла ў інтарнаце на тэрыторыі Медычнай акадэміі. Мужчыны мелі доступ толькі ў прыёмны пакой.

Там і спатыкаліся. Нягледзячы на тое, што ў іх у 1960 годзе нарадзілася дачка, дарогі іхнія пачалі разыходзіцца. Ён што раз больш тварыў і часцей выступаў. Яна, маючы 20 гадоў, мусіла хутка станавіцца дарослай, пачала працаваць. Яны ніколі разам не жылі, не стварылі сямейнага агменю. Магчыма, калі б было інакш, іх саюз і вытрымаў бы. Магчыма іхняе каханне было занадта юнацкім, занадта недаспелым.

Фармальна яны разышліся ў другой палове 60-х гадоў. Дамовіліся, што не будзе пра яе гаварыць і, нават, называць яе імя. Таму яна да гэтага часу застаецца ананімнай. Жанчынай яго жыцця стала мадэль пані Малгажата. Закахаўся, і каханне іх было, як пярун з яснага неба. Быў выдатным бацькам, галавой сям'і, акружаным павагай жонкі і цудоўна выхаваных дачок Наталлі і Элеаноры, якія шанавалі ў ім бацьку, чалавека, а не толькі артыста.

Ніколі не пазбавіўся беларускага (красовага) акцэнту. Любілі яго той адзіны ў сваём родзе спеў, але шмат разоў быў высмеяны за свой спосаб маўлення.

У 60-80 – х гадах для адных быў кумірам, геніяльным музыкам і сімвалам бунту, для іншых – дзікім крыкуном, якога належыць неадкладна сагнаць са сцэны.

Для моладзі 60-х гадоў Неман быў духоўным праводыром. У квяцістай кашулі, паўкажушку і з паўтара кілаграмамі біжутэрыі, навешанай на грудзі, стаў абразом там-той эпохі. Неман паказваў, што можна жыць інакш, больш шчыра, больш натуральна і пры тым больш ярка, больш прыгожа і больш весела. І на Бога не наракаць. Быў адной з нямногіх вялікіх і сапраўдных зорак на польскай музычнай сцэне, можа нават найвялікшай і адзінай сапраўднай.

Неман быў адным з найлепей вядомых польскіх артыстаў за мяжой. У 1963 годзе яго першая кампазіцыя "Ведаю, што не вернешся" мела вялікі поспех у парыжскай Алімпіі. Чарговым поспехам стаў твор "Ці ты мяне яшчэ памятаеш?", які ў снежні 1964 года з уласным тэкстам выканала Марлен Дзітрых.

Пераломным момантам у яго кар'еры быў выступ з "Акварэлямі" на 5-м фестывалі ў Аполі ў 1967 годзе. За песню "Дзіўны гэты свет" быў уганараваны спецыяльнай узнагародай Кіраўнічага камітэту па справах радыё і тэлебачання (спяваў песні на словы іншых паэтаў, але свой найслаўнейшы нумар "Дзіўны гэты свет" напісаў сам).

У сваіх творах выкарыстоўваў тэксты Цыпрыяна Каміла Норвіда, Адама Асныка, Казіміра Пшэрвы – Тэтмаера, Лясмяна.

Колькі пакаленняў моладзі навучыў чытаць, разумець і любіць паэзію.

- У дадатак да таго, што нарадзіўся ў



***Чэслаў Неман***

перадваеннай Польшчы, на крэсах, ніколі не закончваў ніякай польскай школы, - апавядаў Неман. – Маім любімым паэтам быў Лермантаў. Гэта было маё падлеткавае зачараванне. Значна пазней прыйшла зацікаўленне філасофскай сферай паэзіі Герберта, Лясмяна, Славацкага. Узяў сабе да сэрца, што я з'яўляюся адным з многіх позніх унукаў Норвіда.

Неман не пайшоў у бок камерцыі, захапіла яго песенная паэзія.

Меў інтуіцыю і густ. Божы дар дазваляў яму ўласную мову аповяду, калі ітэрпратаваў вельмі цяжкія рэфлексійныя вершы, якія можна заглушыць музыкай. Узнікалі творы такія прыгожыя, як "Аднаго сэрца" ці "Кленчачы перад табой".

У 60-х і 70-х гадах шматразова прызнаваўся найпапулярнайшым і найлепшым вакалістам Польшчы ў апытаннях музычных часопісаў "Zazz" і "Non Stop". У 1974 годзе Неман быў адзначаны Залатым Крыжам Заслугі. Атрымаў таксама ўзнагароду 1-й ступені Старшыні Савета Міністраў за творчыя дасягненні ў галіне кампазіцыі і інтэрпрэтацыі. Тройка радыё ўганаравала яго "Суперматэвушача", узнагародай імя Матэвуша Свянціцкага за заслугі для культуры. У 1973 г. Неман запісаў у ФРГ дыск (пласцінку) "Рускія песні" ("Russisihe Lieder"), у Польшчы, акрамя некалькіх песень, датуль невядомых. Было гэта вяртанне да музыкі маладосці. Як згадваў Неман, у іх дома часта спявалі расейскія песні. Царкоўныя спевы ён ездзіў слухаць у царкву ў

аддаленай на 60 кіламетраў Гародні. У супрацьвагу да папулярнага ў там-тым гадах альбома з расейскім рэпертуарам, які Іван Рэпраў выканаваў лёгка, латва, прыемна і пад ногу".

Чэслаў прапанаваў вялікае мастацтва. Выдаўцы не маглі паверыць, што адзін артыст мог выканаць усе галасы ў харавых партыях. Да канца 80-х гадоў Неман браў удзел у многіх імпрэзах музычных і фестывалях бітловых, рокавых і джазавых у Польшчы і па свеце. Даваў канцэрты і меў поспех між іншым у Францыі, Італіі, ГДР, ФРГ, Індыі і Злучаных Штатах.

Асобны раздзел у біяграфіі Немана складаюць яго касцюмы, якія сам праектаваў. Насіў арыгінальную расейскую кашулю з суровага палатна і ядвабу (шоўку) колеру охра, якую дастаў ад знаёмых з Крэсаў. Любіў яе, была прыгожа выгафтавана. Гэта было простае сцвярджэнне факту, што ён не хавае сваіх каранёў. Быў артыстам, які сфармаваўся. Яго кашулі, капелюшы былі родам цвердзі, у якой ён стварыў уласнае асяроддзе, не толькі на сцэне, а таксама ў прыватным жыцці. Ніколі нельга было ўбачыць яго ў шэрым гарнітурыку. Заўсёды быў інакшы, каляровы, нештодзённы. Для гэтага патрэбна была нязменная адвага. Калі прафесар Казімір Рудзкі запытаў Немана, чаму ён апранаецца так дзіўна, той адказаў, што "касцюм хавае недасканаласці цела, трэба адчуваць сябе ў ім камфортна" Ён меў голас такі фенаменальны, што крытыкі з-за браку аргументаў чапляліся за тое, што залішне калярова апранаецца. Насіў шкарпэткі рознага колеру. Тлумачыў гэта так: "Люблю спалучэнне блакітнага (нябескага) і чырвонага. Ці ёсць повад калярыстычны, а можна таксама і такі: "А чаму не?" Калі, здараецца, убіраюся сапраўды экстравагантна, і бываюць розныя каментары, то звычайна адказваю: "А чаму не?" Калі гэта нікому не шкодзіць, а мне падабаецца...".



***Чэслаў Неман***

Дзіўны быў кантраст – эксцэнтрычны выгляд і ціхі, сціплы, уразлівы чалавек. Калі Неман перастаў пісаць баевікі, заняўся музыкай для фільмаў і тэатраў. Быў стваральнікам музыкі для спектакляў па Шэкспіру, Міцкевічу і Славацкаму. Напісаў не толькі музыку да "Сям'і Ляснеўскіх" і вакальную партыю Хахла з "Вяселля" Вайды, пісаў таксама музыку да фільма "Польская кроніка", "Антычнасць", "Пах зямлі", да фільма "Polonia Restituta", пра паўстанні Рэчы Паспалітай з попелу. Вайда гаварыў, што толькі Неман, і ніхто іншы, можа спець партыю Хахла ў экранізацыі "Вяселля" – з'яўленне Чэслава Немана ў "Вяселлі" як голас Хахла ёсць, не хвалюся, маёй задумай, хоць музыку да гэтага фільма скампанаваў Station Радван, - гаворыць Андрэй Вайда. – Гэта ён даў шанец, падчас выканання разгарнуцца ў той дзіўнай песні ўсім таемным адценням голасу Немана. Гэта дзіўнае і адзінае ў сваім родзе, але фільм "Вяселле" зросся ўжо назаўсёды з так заспяваным тэкстам: "Меў ты, хама, залаты рог". А голас Немана "нясецца па лесе...." і будзе несціся, пакуль той фільм будзе вяртацца да гледачоў.

У гісторыю ўвайшла фізічная сіла Немана.

- Калі запісваліся на радыё, студыя ў якога змяшчалася на другім паверсе, прывезлі ад Чэслава арган "Hammonda", вялікую палісандравую скрыню вагай 300 кілаграмаў, гаворыць Томаш Яскевіч. – Да самага канца былі крутыя сходы, у пэўны момант арганы на павароце ўткнуліся ў сцяну, заклінаваліся. Грузчыкі і музыкі прысталі, залітыя потам. Тады прыйшоў Чэсяк і развязаў праблему ўласнаручна – прыхіліўся да арганаў і пасунуў сам без вялікай праблемы. У канцы павёў па нас жартаўлівым позіркам, як бы пытаючыся: "Што б вы без мяне рабілі?" Любіў мець прызнанне з повада сваёй сілы, любіў ездзіць па аўтамабілі, быў вегатарыянцам. Займаўся экалагічнымі праблемамі, нецярпімасцю, грамадскай няроўнасцю, цікавіў яго просты чалавек, жыццё згоднае з прыродай.

Чэслаў Неман не належаў ні да якой партыі, нават у школе не быў ні піянерам, ні камсамольцам. Чэслаў Неман шматкратна падкрэсліваў, што адчуваў сябе ў Польскай Народнай Рэспубліцы пераследаваным, Як сам казаў, вытрымаў толькі дзякуючы фанам. Палітычная пастава Немана была адназначнай ад самага пачатку. Ці ж не было выклікам узяцце таго, а не іншага псеўданіма.

З часам Неман станавіўся ўсё больш замкнёным. Недахоп адкрытасці ўзнікаў з-за таго, што ніколі не меў паразумення ні ў сваім строі, ні ў спосабе спеваў. Меў з той нагоды шмат прыкрасці. Штораз больш баяўся абману, што нехта хоча яго выкарыстаць, як у фільме "Удача". Баяўся быць смешным, баяўся нешанцавання. З 90- х гадоў Чэслаў Неман радзей выступаў, рэдка запісваўся на працы ва ўласнай музычнай студыі. Адышоў ад рокавай музыкі ў кірунку эксперыментаў з выкарыстаннем электрафаніч-

ных інструментаў і сінтазатараў. Яго астатні дыск "З пад хмары капелюша", выпушчаны ў 2001 годзе атрымаў крытычныя рэцэнзіі з-за чаго спявак моцна перажываў.

Апрача музыкі Неман займаўся выяўленчым мастацтвам. Маляваў Чэслаў з дзяцінства, пазней яго моцна зацікавіла кампутарная графіка. У 2001 годзе Неман прызначыў частку сваіх прац на аўкцыён. Даход ад акцыі быў прызначаны для Польскай гуманітарнай акцыі на куплю адукацыйных матэрыялаў для школ на Літве. Не гледзячы на зачараванне інтарнэтам і кампутарамі, не хацеў ужываць электроннай пошты, доўга супраціўляўся пакупцы сотавага тэлефона.

Неман лічыў, што калі ты хочаш зрабіць нешта добрае, трэба гэта зрабіць самому. Сам зрабіў вокны для дома і вітую лесвіцу. Але не меў часу ўсё дапільнаваць. Сам не мог парадзіць сабе з хваробай. Не хацеў ісці да лекара. Гаварыў, што хопіць яму льнянога сем'я. Але не выстарчыла.

Чэслаў Неман памёр 17 студзеня 2004 года пазнім вечарам у Варшаве. Меў без аднаго месяца 65 гадоў. Быў пахаваны на варшаўскіх Павонзках. У апошнюю дарогу артыста праводзілі найбліжэйшыя родныя, сябры, прадстаўнікі



**_Кампутарная графіка. Работа Чэслава Немана._**

ўладаў і фаны. Урну з парэшткамі Немана пахавалі ў катакомбах. Калі пачыналася пахаванне, з ініцыятывы Радыётройкі на ўсіх радыёстанцыях Польшчы загучала найбольш вядомая песня з рэпертуару Чэслава Немана "Дзіўны гэты свет". Песню можна было пачуць усюды: у крамах, на вакзале і ў таксоўцы.

"Радзімы край Неман адведаў упершыню ў 70-х гадах. Убачыў спустошаны парк, запушчаны стаў, у якім купаўся, будучы дзіцём. Моцна з гэтага перажываў і ўжо ніколі не хацеў вярнуцца ў Васілішкі", - гаварыў Павел Брадоўскі, галоўны рэдактар "Jazz Forum" ("Джаз-форум", Суседзі з Васілішак успаміналі, што Неман засняў на камеру дом, ваколіцы, але праз хвіліну знішчыў касету…

**_Ірэна Даўлашэвіч._**

*Лідзяне заўсёды лічылі Немана сваім. На другі дзень пасля сперці Вялікага Артыста лідскі гурт "Красавякі" адведаў родную хату Чэслава Немана ў Старых Васілішках.*

*На ўгодкі смерці спевака 16 студзеня 2005 года ў Лідзе ў вялікай зале Гарадскога дома культуры адбыўся канцэрт памяці ЧэславаНемана з удзелам беларускіх і польскіх выканаўцаў, а 17 студзеня ў касцёле ў Старых Васілішках з ініцыятывы Таварыства польскай культуры на Лідчыне была адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар нашага вялікага земляка.*



**_Лідскі гурт "Красавякі" каля хаты Чэслава Немана цераз дзень пасля смерці спевака_**



**_Пры адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў памяць Чэслава Немана ў касцёле ў Старых Васілішках слова мае старшыня Таварыства польскай культуры на Лідчыне Аляксандр Колышка_**

# АДЗІН МЛЫН НА ВАЙНЕ

**У вайны шмат твараў. Адзін з іх твар мельніка на акупаванай тэрыторыі. Што дзень і што ноч мельнік чуў адно кароткае слова: "Дай". Днём немцы правозілі малоць збожжа, ноччу партызаны забіралі муку. І тыя, і тыя маглі застрэліць мельніка. І, здаралася, стралялі "за супрацоўніцтва". Каб неяк ацалець і апраўдацца, мельнікі мусілі весці "бухгалтэрыю".**

**У Лідскім гістарычна-мастацкім музеі захоўваецца падшыўка распісак і цыдулак савецкіх партызан, якія бралі муку, крупы і інш. у Кучынскага Мікалая Аляксандравіча, мельніка млына на хутары Лупеніца Лідскага раёна, а таксама ў гаспадара гэтага млына Роўбы Антона Ігнатавіча.**



*Каля рэшткаў бетоннага фундамента і плаціны колішняга млына ў Лупеніцы ў наш час выдатнае месца для купання. Рэчка Дзітва ў раёне дачаў "Даржы". Здымак 2005 года.*

**Трэба меркаваць, што ў мельніка ці гаспадара былі яшчэ і распіскі польскіх партызан, але яны па вядомых прычынах ў музей не трапілі, бо савецкія ўлады "супрацоўніцтва" не даравалі б.**

**У падшыўцы захоўваюцца дакументы з 30.09.42 г. па 4.09.43 г. Мы прыводзім іх, наколькі гэта магчыма, паслядоўна, бо менавіта так яны ствараюць цэльную карціну.**

1. *"Распіска.*

*Дазена гэта распіска загадчыку млына Лупепіца ў тым, што ў яго забрана нямецкага збожжа партызанскім аддзелам № 85670 у колькасці 40 пудоў.*

*30/IX-42 г.*

*Камандзір пар. аддз. (подпіс)".*

2. *"Распіска.*

*Дадзена Роўбе ў тым, што ўзята дваццаць пудоў (20 п.) мукі.*

*12/X-42. Кам. ад. (подпіс, пячатка)".*

3. *" Падрыхтаваць 20 пудоў мукі і крупаў гаварыў мельніку Гурбаносу. Крупы ён падрыхтуе.*

*18/XI-42 г. Камандзір (подпіс, пячатка)".*

На адваротным баку:

*"Дзесяць пудоў ячменю на крупы атрымана. 20/XI – 1942 года (подпіс)".*

4. *"Распіска.*

*Мною, камандзірам партызанскага аддзела Міронавым Дзмітрыем Васілевічам атрымана з млына мукі ржаной 185 кгр. (сто восемдзесят пяць кгр.) і крупаў ячменных 35 кгр. (трыццаць пяць кгр). Мука атрымана ад загадчыка млына Лупеніца тав. Кучынскага Мікалая Аляксандравіча.*

*Муку атрымаў кам. аддзела (подпіс) Міронаў. 7/I-43 года".*

5. *"Распіска.*

*Партызанскім аддз. узята 3.II.1943 г. кг 320 ржаной мукі і 80 кг ячменю ад млына Лупеніцы. Аддз. № 2371 (подпіс)".*

6. *"Даведка.*

*Дадзена гэтая даведка заг млына хут. Лупеніца т. Мікалаю Кучынскаму ў тым, што ўзята для партызанскага аддзела "Іскра" 130 кг. (сто трыдцаць) аржаной мукі".*

*Кам. аддз."Іскра" капіт. (подпіс, пячатка*) 12.02.43".*

* Пячатка з пяціканцовай зоркай і сярпом з молатам у цэнтры ды надпісам "Комитет об'единения парт. отр." па акружнасці была выразана партызанам аддзелу "Іскра" Слядковым Пятром Якаўлевічам з падэшвы ў лютым 1943 года. Былі і іншыя пячаткі.


Расписка.
Дана нижеследующему
мельнику мельницы Луненица
т. Кучинскому Николаю А.
В том что взято хлеба 200 кг.
(Двести килограм)
Отряду „Искра“
16/II-43
Член партизан

7. *“Распіска.*

*Дадзена гэтая распіска мельніку млына Лупеніцы т. Кучынскаму Мікалаю А. у тым што ўзята хлеба 200 кіль (дзвесці кілаграмаў) аддзелам “Іскра”.*

*16/ІІ-43.*

*Член партызан (подпіс, пячатка)”.*

8. *“Пасведчанне.*

*Паважаны мельнік Роўба прашу выдаць дадзенаму грамадзяніну для патрэб партызанскага аддзелу 25 (дваццаць пяць) пудоў мукі... Выкананне загаду праверу сам.*

*Наш штаба парт. аддз. “Іскра” (подпіс. пячатка)”.*

На зваротным баку:

*23.02.43. Выдадзена 15 пудоў.*

*27.02.43. Выдадзена 10 пудоў.*

9. *“Пасведчанне.*

*Паважаны мельнік млына Лупеніца. Прашу за 7 дзён падрыхтаваць 100 пудоў мукі з нямецкага кантынгенту для патрэб партызанскага аддзела. 3 мяшкі пытляванай мукі, астатнюю простага памолу.*

*Выкананне гэтага загаду праверу сам.*

*Нач. штабу (подпіс*, пячатка)”.*

На зваротным баку пазначана:

*“Атрымана 13.ІІІ.43 сто семдзесят пяць (175) кг.*

*Выдадзена 14.ІІІ. 43 васемнаццаць пудоў.*

*Выдадзена 20.ІІІ. адзінаццаць пудоў*

*Выдадзена 22.ІІІ. пятнаццаць пудоў*

*Атрымана 30.ІІІ. сорок тры і ½ пудоў (695 кг.)”.*

10. *Распіска.*

*Дадзена мельніку Лупеніцы ў тым, што для патрэбаў партызанскага аддзелу імя Варашылава ўзята ржаной мукі вагой у сто кілаграмаў.*

*19.3. 1943 год.*

*Кам. звяза мал. л-т. (подпіс)”.*

11. *“Паважаны мельнік Лупеніцы!*

*Нашы таварышы нядаўна замаўлялі 100 пудоў мукі. Вы далі тры мяшкі. Прашу неадкладна даць дваццаць пудоў жытняй мукі і пераслаць з грамадзянамі, якія перададуць гэтую запіску”.*

На зваротным баку напісана:

*“Выдадзена 200 пудоў 20/ІІІ. 43”*

12. *“Распіска.*

*Узята ад млына Лупеніца партызанамі з аддзелу “Іскра” партызанамі К.Ш.М. грошай у суме 1000 (тысячу) рублёў.*

*Нам. кам. звяз. (подпіс).*

*10/IV-41 г (так напісана. Трэба разумець 43 г.)”.*

13. *“З млына “Лупеніца” ўзята мною мукі нытляванай 50 кг, хлебнай 85 кг. Для аддзелУ.*

*Пам. нач. штаба (подпіс) 14/IV-43 г.”*

14. *“Распіска.*

*Дадзена гэтым заг. млына ў тым, каб было заплачана тав. Ашмяну ў колькасці 10 пудоў збожжа за час з 16/IV-43 па 30/IV-43. Да гэтага (подпіс, пячатка)”.*

15. *“Пасведчанне.*

*Прашу млын Лупеніцы выдаць 8 пудоў ржаной мукі і 2 пуды пшанічнай, разам дзесяць. Муку выдаць гэтым людзям, якія прадставілі наша пасведчанне.*

*Нам камандзіра (пячатка) 19-IV-1943 г”.*

16. *“Тав. бацька!*

*Абавязкова выдаць 15 пудоў аржаной мукі і 20 пудоў пытляванай, прытым 5 пудоў ячменых крупаў тав. Максімовічу, выдаць як можна хутчэй.*

*(пячатка)*

*Кам. аддз. Матрос**.*

*4/V-43”.*

17. *“Даведка.*

*Таварыш Роўба прашу вас выдаць партызанскаму аддзелу “Іскра” Ленінскай брыгады 100 кг мукі ржаной неадкладна.*

*Дня 18/V-1943 г. (подпіс).*

*Пячаткі няма, прашу даць на рукі.*

*Падарожную назад”*

На адваротным баку пазначана:

*“Падарожная на 3-х чалавек аддзела “Іскра”. 5.V.43. Подпіс Н. А. Коннаў.*

*Выдадзена гр. Говару К. … 80 кг.”*

18. *”11/V-43. Тав...*

*прашу даць...*

*1 цэнтнер мукі і 6 пудоў з-за таго што ён пацярпеў ад немцаў .... . Узята ў яго … нават і карову, няма чаго есці дзецям…”*

19. *“Прашу не адмовіць у маёй просьбе і выручыць чалавека ад галоднай смерці, за што і для вас будзе больш фіктыўнасці надзеі (подпіс) Марозаў М.І. 11/V-43 г.”.*

20. *“12/V. Узята больш 50 кг пытл. мукі”.*

* Броварны.

** Матрос - камандзір аддзелу “Балтыец” Пралыгін Іван Аляксандравіч.



21. *“Мельніку ў Лупеніцу.*
*Прашу змалоць жыта 6 мяшкоў, ячменю 2 мяшкі без чаргі і бясплатна.*
*16/V-43 года.*
*Кам. аддз. (подпіс. пячатка)”.*

22. *“ Млын Лупеніца.*
*Дадатковая запіска.*
*Замоўленая мука Вам і здадзеныя мяшкі на муку без падацеля запіскі Вам нікому не выдаваць.*
*Нам. кам. аддзела (подпіс).*
*17/V-43. (пячатка)”.*

23. *“Даведка.*
*Дадзена тав. Патапаву атрымаць з млына Лупеніцы 200 кг мукі.*
*Прашу выдаць 200 кг мукі, выканаць загад.*
*Кам. аддзела (подпіс, пячатка).*
*18 траўня, 43 год”.*

24. *“Распіска.*
*Атрымана з млына Лупеніца сто дваццаць пяць (125) кілаграмаў аржаной мукі: 24/V-43.*
*Аддзел ім. “В”.*

25. *“Распіска.*
*Дадзена тав. Кучынскаму Мікалаю Аляксандравічу заг. млына Лупеніца ў тым, што ад яго ўзята 250 кг. (дзвесці пяцьдзесят) кілаграмаў мукі для патрэбаў н-ка партызанскага аддзела імя Варашылава.*
*Нам. н-ка (подпіс)”.*

26. *“Прашу выдаць мукі жытняй 20 пуд. (дваццаць пуд.) для патрэбаў партызанскага аддзелу.*
*Старшына аддзелу Галаўчук (пячатка)”.*

27. *“Пан Мельнік млына Лупеніцы! Выдаць 80 (восемдзесят) пудоў мукі за кошт нямецкага кантынгенту. У выпадку невыканання вышэй указанага загаду караецеся па закону ваеннага часу.*
*Камісар “Іскры” (подпіс*, пячатка)”.*

28. *“Распіска.*
*Прашу выдаць з млына Лупеніцы 10 пудоў (дзесяць п.) мукі жытняй. Выдаць таму гр-ну, які прад’явіць гэтую распіску.*
*Кам. звязу (подпіс, пячатка)”.*

29. *“Прашу выдаць 5 пудоў мукі (пяць пудоў) для партызанскага аддзелу “Іскра”.*
*Нам. камісара (подпіс**, пячатка)”.*

30. *“Даведка.*
*На млын Лупеніцы. Таварыш Мельнік, прашу змалоць партызанам жыта 1 мяш, пшаніцы 1 мяш., пытляванай мукі 2 мяшкі зрабіць на крупы.*
*Да гэтага(пячатка, подпіс)”.*

31. *“Мельнік Лупеніцы!*
*Змалоць для патрэбаў партызанскага аддзелу 8 мяшкоў жыта. Выкананне загаду будзе праверана.*
*Нач штабу аддзелу (подпіс, пячатка)”.*

32. *“Тав. мельнік і эканом!!!*
*Прашу перадаць муку ў колькасці 30-ці пудоў падацелю гэтай запіскі. Паквітаванне я перашлю ці сам прывязу некалькі пазней. Уладальнік гэтай запіскі абавязаны так, як і Вы даставіць мне муку не пазней, як у суботу. Пасля ўсяго гэтага я буду мець з Вамі буйную размову. Ясна?!*
*3/VI-43 г.*
*Камандзір аддзелу “Балтыец” Матрос”.*

33. *“Квіт № 304/6.*
*Выдадзена кіраўніку Лупеніцкага млына ў тым, што мною камандзірам аддзелу ўзята для патрэбаў аддзелу з млына трыццаць (30) пудоў мукі простага памолу, дзесяць пудоў (10) мукі з-пад вальца і дзесяць (10) пудоў ячменных крупаў 12/VI-43.*
*Кам аддз (подпіс) /Матрос/*
*(пячатка)”.*

34. *“Kwi t № 78*
*Млын Лупеніца. Дастаўленыя на ваш млын пшаніцы 2 мяшкі (два), жыта 4 мяшкі (чатыры) спытляваць і перадаць для патрэб партызан без усякай чаргі.*



* Зямскоў.
** Карых.

*Камандзір аддз. лейтэнант (пячатка).*
*25/VI-43.*
*Podpis Коннаў"*
На зваротным баку пазначана:
*"Зроблена 24/VI-43 г.".*

35. *"Тав. Мельніку мл. Лупеніца.*
*Прашу вас уручыцелю гэтай запіскі выдаць збожжа ці мукі 10 пудоў (дзесяць).*
*За нач. штабу "Іскра" (подпіс)".*

36. *"Распіска.*
*Прашу млын Лупеніца даць не менш 2 літраў гарэлкі цераз гэтую дзяўчыну, якую мы высылаем. Дня 31. 1943 года (подпіс, пячатка)".*

37. *"Дадзена гаспадару млына Роўба Антону Ігнат. у тым, што ў яго ўзята партызанамі 200 кг. жыта, 45 кг. мукі, 15 кг. сала, 16 кг. гароху, 1 пара савецкіх ботаў, 2 булкі хлеба, 500 руб. грошай (пяцьсот рублёў), 1 кола.*
*Кам. аддзелу л-т (подпіс) 18/VII"*

38. *Пасведчанне.*
*Паважаны мельнік млына Лупеніцы! Прашу Вас змалоць для патрэбаў партызанскага аддзелу 400 (чатырыста) кілаграмаў жыта. Ашатраваць і змалоць 70 (семдзесят) кілаграмаў пшаніцы.*
*Выкананне гэтага загаду праверу сам.*
*За работу не браць.*
*Нач. штабу аддзелу (подпіс*, пячатка)".*

39. *"Паважаны мельнік Лупеніцы!.*
*Падрыхтуйце нам 100 пудоў мукі. Тэрмін 10 сутак.*
*Усю муку перапраўіце ў Дакудава з цывільнымі людзьмі, якія будуць мець ад мяне пасведчанне.*
*Калі сумееце прышліце некалькі пудоў белай мукі для хворых.*
*Прашу Вас найхутчэй даставіць нам муку.*
*Нашыя адносіны да гэтага часу былі самыя найлепшыя. Думаю, Вашая ўвага да нас будзе такой жа.*
*Асноўнае не скупіцеся. Калі вы патрыёт сваёй дзяржавы, то і самі павінны разумець.*
*З прывітаннем да Вас нач. штабу (подпіс**)".*

40. *"Паважаны мельнік.*
*Як Вам вядома, Вы павінны нам дапамагаць чым можаце, і таму прашу ў Вас наступнае. З-за таго, што ў нас свае справы? і не заўсёды нашы таварышы могуць самі пад'ехаць да Вас, па-гэтаму прашу Вас тых людзей, якіх мы пасылаем малоць да Вас, мяліце не спрачаючыся, і прозвішчаў не пытайцеся, яны Вам не патрэбныя.*
*Акрамя таго хадайнічайце перад нямецкімі ўладамі пра тое, каб больш 10% за памол з грамадзян не браць.*
*Тое, што мы прысылаем малоць ці рабіць крупы для нас, за работу не браць ні кілаграма.*
*Яшчэ прашу Вас, ці можаце вы на сваім млыне зрабіць крупы з аўсу.*
*Прашу напішыце некалькі слоў і прышліце з гэтым грамадзянінам. Калі Вас хто крыўдзіць, таксама напішыце*
*Нач. штабу аддзелу (подпіс***)".*

41. *"Паважаны мельнік Луненіцы. Прашу Вас ашатраваць, змалоць і зрабіць крупы для партызанскага аддзелу 750 (семсот пяцьдзесят) кілаграмаў.*
*Акрамя таго прашу прысланць з гэтымі грамадзянамі пшанічнай мукі для хворых некалькі пудоў.*
*Выкананне гэтага загаду праверу сам.*
*Нач. штабу партызанскага аддзелу (подпіс****, пячатка)".*

42. *"Даведка.*
*Дадзена кіраўніку і мельніку Лупеніцкага млына ад аддзелу "Балтыец",*
*Забараняю выдаваць муку і крупы партызанам, якія не маюць фармальнага дакумента ад камандавання аддзелаў, які павінен быць з трыма подпісамі: камандзіра, камісара і нач. штабу, каб пазбегнуць разбазарвання не па прызначэнні*
*Кам. аддзелу л-т (подпіс*****).*
*Камісар аддзелу ст. п-к (подпіс******).*
*Нач. штабу л-т (подпіс*******, пячатка)".*

43. *"Дзядзя Коля!*
*Прашу адпусціць, колькі можна, мукі пытляванай і ячменных крупаў. Акрамя гэтага, прапускайце збожжа пад памол.*
*Ваш (подпіс).*
*4/IX – 43 г.".*

44. *"Падарожная.*
*Дадзена гэта групе партызанаў п/а "Іскра", якія накіроўваюцца на баявое заданне на чыгунку "Ліда – Баранавічы", у раён Ліды.*
*Старшы групы кам. аддзял. Кублоў Д. з 4-мя партызанамі. Тэрмін вяртання ім да 31/VIII.43.*
*Палітрук, кам. роты*
*23/VIII-43 г. (пячатка) л-т (пячатка)".*
На зваротным баку:
*"Тав. загадчык млына Лупеніцы.*
*Просім выдаць 5 пудоў жытняй мукі, і 8 кг. пшанічнай, і 5 літраў самагонкі на 3 гадзіны дня па Маскве групе партызан.*
*(подпіс********) 9/IX-43 года".*

***Матэрыял падрыхтаваў да друку***
***Станіслаў Суднік.***

* Броварны.
** Броварны.
*** Броварны.
**** Броварны.
***** Пралыгін.
****** Пяньkоўскі.
******* Броварны.
******** Сцепаненка.

# ЛІДСКІ ЛЁС САФІІ ПЕТРАШКЕВІЧ

## (Паводле кнігі Я. Мазо "А на тым беразе... Рэчка жыцця", выд. "Мінеаполіс", ЗША, 2003.)

Петрашкевіч (Кункіна) Сафія Паўлаўна нарадзілася 2 красавіка 1927 года ў г. Менску ў шматдзетнай яўрэйскай сям'і. Бацька, Кункін Залмат, начальнік аховы лямцавай фабрыкі, маці Геся – хатняя гаспадыня. Да пачатку вайны Соня скончыла 8 класаў, удзельнічала ў мастацкай самадзейнасці, вельмі любіла танцы, спазнала і першыя сардэчныя таямніцы.

І ... вайна. На мірны Менск пасыпаліся сотні бомб. Самалёты з чорнымі крыжамі наводзілі жах на менчукоў. За 2-3 дні горад ператварыўся ў руіны. Жыццё перамянілася у страхоцце, у доўгую чорную ноч. Ніхто не сумняваўся, што "Перамога будзе за намі". Але за які кошт? Хаця, як спяваецца ў песні "Мы за ценой не постоим". Яшчэ б! "Чарвоная Армія за ўсіх мацней!", але дзе ж вы, чырвоныя сокалы, якія спявалі: "Любімы горад можа спаць спакойна". Чаму так нас расстрэльваюць з прыземнага палёту?" – такія думкі наведвалі юную свядомасць.

На другі дзень вайны да дома, дзе жыла Соня, пад'ехала грузавая машына, каб вывезці іх на ўсход. "Вы што? Звар'яцелі? Куды ехаць? А як жа фабрыка?" - сказаў бацька. А суседзі пагрузіліся і паехалі, і да гэтага часу жывыя.

28 чэрвеня 1941 года фашысцкія войскі ўвайшлі ў Менск. А 19 ліпеня ў горадзе з'явілася аб'ява, што ў Менску ствараецца гета, у якім будуць жыць толькі яўрэі. І там, у гета, 14-гадовыя дзяўчынка стала адзінай карміцелькай сям'і. "Тата ў шэсць раніцы выходзіў са мной, падымаў калючы дрот, калі паліцай адходзіў у другі бок, і я, як мышка, праслізвала пад дрот. Тата, праўда, за мяне вельмі баяўся. Заўсёды гаварыў: "Дачушка, а можа, не трэба? Можа, пераб'ёмся. Будзь асцярожнай. Будзь разумненькай."

І Соня займалася абменам хатніх рэчаў на прадукты. "Ручная швейная машынка ішла за паўбулкі хлеба. Ровар – за літр малака".

У адну з такіх вылазак Соня сустрэла супрацоўніцу сваёй старэйшай сястры: "Ты, Соня, мяне не бойся. Я цябе не выдам. Слухай і запамінай. Ты на яўрэйку не падобная. Едзь у вёску да майго дзядзі. Жыве ён недалёка ад Менска. Пяшком дойдзеш. Прозвішча яго Петрашкевіч, завуць Павел. Ён ужо стары, жыве адзін. Вось і будзеш накшталт яго дачкі дапамагаць яму па гаспадарцы. І ты станеш Петрашкевіч Сафія Паўлаўна..."

У вёску дзяўчынка не паехала. Але прозвішча і імя па бацьку запомніла. Аднойчы ёй моцна пашанцавала – абмяняла ручную швейную машынку на 2 кг. мукі. Мама радавалася. Напякла піражкоў... але не ўдалося сям'і пачаставацца гэтай смакатой. Калону яўрэяў пад брэх сабак павялі. І стала на вуліцы ціха-ціха, толькі па друку гуляла пазёмка... у першым жа яўрэйскім пагроме загінулі маці і бацька Соні.



***Ветэран вайны Сафія Петрашкевіч***

Бацькоў павялі, а дзяўчынкі – сёстры працягвалі жыць у гета.

Голад пагнаў сясцёр на працу ў в. Бараўляны да гаспадара. Добрая, ласкавая, не па гадах разумная Сонечка прышлася па душы гаспадару. І ён узяў яе да сябе ў дом у якасці прыслугі, і нават "даў мне ў поўнае распараджэнне ключы ад каморы. Я адчыніла і ахнула. Божа мой! Чаго там толькі не было! Вочы мае ніколі не бачылі столькі смакоцця..." Дзяўчынка падабалася не толькі гаспадару. Але і ўсім шматлікім яго гасцям, сярод якіх быў і "шэф камбіната бытавага абслугоўвання" з нейкага горада Заходняй Беларусі. Ён хваліўся, што ў яго быў швейны, шавецкі і лакафарбавы цэх, майстры гадзіннікавых спраў. І працавалі ў яго, у асноўным, яўрэі з гета. Звалі фабрыканта Рапальер. У гасцях у гаспадара быў і пракурор, які дапамог "дзяўчынцы з дзетдома, што не ведае сваіх бацькоў", зрабіць пашпарт – аўсвайс.

Але дабрата характару зрабіла дрэнную паслугу дзяўчынцы – за дапамогу яўрэям гаспадар жорстка збіў яе і прыгразіў адпраўкай у Германію.

Яна дабралася да чыгуначнага вакзала, села ў таварны цягнік, першы які трапіўся, і паехала ў нікуды.

У дарозе разгаварылася з спадарожніцай.

-Вы куды едзеце – спытала Соня.

-У Ліду.

-Ой, і мне туды трэба значыць, спадарожніцы. Будзем знаёмыя, мяне завуць Сафія...

Прыехалі ў Ліду. На вакзале разышліся. “Людзі некуды спяшаюцца, у кожнага сваё жыццё, свае клопаты. Спынілася касля развалінаў нейкага замка. Цямнее хутка”.

Не знайшоўшы ў горадзе неіснаваўшай “цёці” дзяўчынка прайшла па кватэру сваёй спадарожніцы. Павячэрала і ці то ад стомы, ці то ад перажыванняў апошніх дзён, адразу заснула, як толькі прыхіліла галаву да падушкі.

“На другі дзень з самай раніцы я пайшла хадзіць па горадзе, чытаць аб’явы аб прыёме на працу. У горадзе мне адразу кінулася ў вочы вельмі шмат нямецкіх вайскоўцаў. Яны стаялі на ўсіх вуліцах, групамі і ў адзіночку. Гучна смяяліся, чапляліся да дзяўчат, гралі на губных гармоніках. Салдаты і афіцэры запаланілі ўсе невялікія крамы, рэстараны, кінатэатры. Адчувалі сябе тут гаспадарамі.

З агня ды ў палымя! Але што рабіць? Куды ўцякаць? А галоўнае – навошта? Каб жыць! Каму патрэбна маё жыццё? Хто мяне чакае?

У такім мурашніку аказалася 15-ці гадовая яўрэйка Кункіна Соня. Божа, дапамажы выжыць! У гэтага ж дзіцяці тут нікога няма, няма з кім пагаварыць, параіцца. Больш за тое, разгаварыўшыся са сваёй гаспадыняй, Соня пераканалася, што яе гаспадыня лютай нянавісцю ненавідзіць яўрэяў. Слухаючы яе, дзяўчынка не магла нават заступіцца за свой бедны народ. “А як хочацца схапіць яе за тлустае горла і задушыць”. Але выйсця няма, хоць у пятлю лезь.

Аднойчы ў пошуках працы дзяўчынка наткнулася на свайго старога знаёмага- прамыслоўца Рапальера, якому яна вельмі спадабалася яшчэ ў Бараўлянах. Ён пасадзіў Соню ў сваю лакіраваную брычку. “Я толькі бачыла, як бабкі, якія капаліся ў агародчыках, махалі мне ўслед кулакамі. Да мяне даносілася іх лаянка: “Сучка, нямецкая падсцілка! Нашто табе гэты стары хрыч! Кнораз паганы!” Іх крыкі палілі маё сэрца. Але што я магла ім адказаць?” Рапальер узяў яе на працу ў канцылярыю майстэрні, даў талоны ў сталоўку, даў жыллё ў невялікім двухпавярховым мураваным доме, на першым паверсе якога размяшчалася салдацкая казарма. “Выйшла я на балкончык. Зусім побач, метраў цераз 300 праходзіць чыгунка. Міма з грукатам пранёсся таварны цягнік з танкамі пад брызентавымі чахламі. Справа ад мяне раскінулася рынкавая плошча...

Есці хочацца. Успомніла пра талоны, якія даў мне мой новы заступнік, і пайшла шукаць сталоўку”

Наведванне гэтай сталоўкі перавярнула жыццё дзяўчынкі. За сталом да яе падышоў высокі стройны брунет і загаварыў. Але Соні не хацелася ўступаць у размову з незнаёмым чалавекам, яна вырашыла трымацца ад яго падалей і пайшла шукаць сваю новую працу. Пазнаёмілася са сваёй супрацоўніцай, убачыла цэх, дзе працуюць мужчыны-шаўцы і жанчыны-швачкі, усе яўрэі з гета.



***Соня Петрашкевіч у час вайны***

Вечарам у сталоўцы за вячэрай да Соні зноў падсеў той хлопец, афіцыянтка назвала яго Максімам. Зноў спроба завесці размову. Соня прамаўчала. Пасля вячэры новы сусед па сталоўцы прапанаваў Соні пайсці на танцы. Пасля некаторых роздумаў Соня зразумела, што ён яе правярае. Толькі па чыім заданні? Усё гэта канешне, не проста. “Будзь, што будзе. На “кручок” не траплю”...

У клубе непрыкметны мужчына гадоў 35 граў добра, задушэўна, і сам сабе падпяваў: “У мяне ёсць сэрца, а ў сэрца – песня, а ў песні – тайна...”. Пасля танцаў новы знаёмы праводзіць Соню дадому, распавядае пра сябе, што да вайны ён вучыўся ў Маскоўскім палітэхнічным інстытуце, быў на трэцім курсе, калі пачалася вайна. Калі немцы падышлі пад Маскву, пайшоў у апалчэнцы. Разумеў – вайна прайграная. Не сёння, дык заўтра Маскву здадуць. “Няпраўда! – вырвалася ў мяне. - Масква заўсёды была і застанецца Масквой. Яе нават Напалеон не змог перамагчы?” І тут я спахапілася, навошта і каму я гэта гавару? Але ён тут жа заўважыў:

- Дарагая Соня, Вы забылі, з кім размаўляеце. Запомніце – лепш маўчаць. Гэта будзе карысней для ўсіх.” Далей ён працягвае сваю “легенду”, як вырашыла Соня, - шпіталь, канцлагер, Германія. І вось, прашу любіць і шанаваць – гэбітсюгендфюрар (памочнік гэбітскамісара па справах



***Максім і Соня***

моладзі).

"Хто ён такі Максім? Ці можна яму верыць?" Думкі адна за другой мільгалі ў маладой галоўцы дзяўчынкі. "Я адна на ўсём белым свеце – няма з кім параіцца".

"Дзіўныя адносіны складваюцца ў мяне на працы з яўрэямі, якія працавалі ў нас. Жыццё мяне не вучыць. Я забылася, што здарылася ў мяне ў Бараўлянах. Я дапамагала вязням гета, як магла і чым магла." У нядзелю Соня пайшла на рынак, дзе яе ўвагу прыцягнуў разбітны мужычок, круглатвары, чырвонашчокі, які сядзеў на возе і прадаваў бульбу. "Тады я не ведаў, што за мной быў устаноўлены таемны нагляд. Да яго падходзілі не толькі пакупнікі, але і нейкія людзі ў капелюшах".

На трэці дзень да Соні ў сталоўцы падышоў Максім. "Пайшлі са мной, - сказаў ён. Узяў Соню за руку і, як дзіця, павёў міма будынкаў гэбітскамісарыяту. Увайшлі ў доўгі барак, дзе адбылося знаёмства з кіраўніком падпольнай арганізацыі пры гэбітскамісарыяце Маркам Мікалаенкам.



*Марк Мікалаека - кіраўнік падпольнай арганізацыі пры Лідскім гэбітскамісарыяце*

- Не бойся нас. Мы твае сябры, – сказаў ён.

Так Соня была ўцягнута ў падпольную работу. О, Божа! З кім падзяліцца, параіцца? У яе маленькай галоўцы ўсё гэта не памяшчалася. Ні сяброўак, ні сяброў у яе тут няма. Можа, ёй рыхтуюць пастку. Яна была як трэска ў бурным моры жарсцяў.

Неўзабаве адбыўся канспіратыўны сход, на якім прысутнічала пяць мужчын і Соня. Марк Мікалаенка расказаў, што сустракаўся з Пятром Васільевічам Жукавым і распавёў яму пра жаданне членаў нашай групы дзейнічаць так, як пажадае кіраўніцтва партызанскай брыгады. Жукаў адказаў, што для цэнтральнага штабу самае галоўнае зараз – дакладны рух па чыгунцы.

У наступную нядзелю Соня пайшла на рынак. Да яе падышоў чалавек, які бойка прадаваў бульбу ў мінулую нядзелю, павітаўся. Соня насцяражылася. "Я ведаю ўсё і ўсіх, прафесія такая. І ты ведай, наш малады сябар, памятай. Мы сяброў у бядзе не пакідаем. Дзяўчынка, у нас да цябе велізарная просьба. З твайго балкончыка добра відна чыгунка... пастарайся запомніць. Пра ўсё раскажаш Максіму".

Соня ўсё выканала. Пры гэтым праніклася павагай да Максіма. Так у працы прайшло тры месяцы. Аднойчы ў канцылярыі зазваніў тэлефон, супрацоўніцы якраз не было. Соня зняла слухаўку. Мужчынскі голас спытаў:

- Дзе Рапальер?"

Дзяўчына, не ведаючы, з кім размаўляе, наіўна адказала, што Рапальер пайшоў у туалет (у яго сапраўды ў гэты час былі праблемы са страўнікам). А гэта быў намгэбітскамісара Дрэксель. Такі адказ абурыў Дрэкселя.

- Гнаць яе ў тры шыі!

Напарніца шапнула:

- Соня, уцякай. Заўтра цябе адправяць у Германію....

Дзяўчынцы шкада было пакі-даць гэтае месца, тут да яе няблага адносіліся. Расказала пра ўсё Максіму. Даведаўшыся, што Соня добра ведае нямецкую мову, сябры знайшлі ёй новае месца працы – телефаністкі на гарадской тэлефоннай станцыі.

- Слухай і запамінай", - ціха сказаў Марк.

Так пачалася новая старонка ў ня-лёгкім лёсе маладой дзяўчынкі.

Працуючы на тэлефоннай станцыі, душу ні перад кім не адкрывала. Збірала звесткі пра рух па чыгунцы, паведамля-ла Максіму. Пазнаёмілася з Нінай Кавалёвай.

Ніна Кавалёва перад вайной закончыла 4 курсы Маскоўскага геадэзічнага інстытута. Студэнтаў 4 і 5 курсаў паслалі ў камандзіроўку на дзяржаўную мяжу СССР і Германіі з заданнем адшукаць водасток і спусціць ваду з масіву балотаў, размешчаных паблізу ад праектаваных аэрадромаў. Пачалася вайна. Ніна не магла выехаць і ўладкавалася ў Менску чарчёжніцай ва ўправе чыгунак Беларусі. Успамінае Я. Д. Гапееў: "Уклад партызанкі Ніны Кавалёвай у нашую перамогу цяжка ацаніць. Яна была нашымі мазгамі. Непасрэднага ўдзелу ў баявых аперацыях не прымала. Мы яе бераглі... усе нашыя поспехі можна і трэба аднесці за кошт яе тапаграфічных картаў Лідскага раёна, якія яна сумела прывезці, але гэты непараўнальна з тым, што зрабіла для нас партызанка Ніна Кавалёва".



*Ніна Кавалёва*

Цераз Люцыю Крыжаноўскую, лекара паліклінікі Соня даставала медыкаменты, якія былі вельмі патрэбныя аддзелу. Вельмі цёпла, памацярынску Люцыя Крыжаноўская адносілася да Соні. Сяды-тады была строгая: "Ніякіх лекаў у мяне няма. Не прасі!" Соня ўспамінае: "Нягледзячы на строгасць, я заўважыла ў яе вачах да мяне нейкую пяшчоту, быццам мама ці старэйшая сястра. Яна заўсёды старалася пачаставаць мяне чым-небудзь смачненькім, яна ведала, што я сірата, і мне патрэбна цёплае слова. Аднойчы,

адважыўшыся, я папрасіла ў яе ампулу з ядам:

- Я хаджу па вастрыі брытвы. Вішу на нітачцы, якая вось вось можа абарвацца. Калі траплю ў рукі немцаў, яны будуць мучыць. Дапамажыце! Дайце ампулку.

- Не, не дам, - сказала Люцыя. – Ты маладая, павінна жыць. Ёсць у мяне адна ампулка – падрыхтавала для сябе.

Аднак, падумаўшы, паставіла крэсла перад абразом. Дастала адтуль пачак з-пад запалак,

- Вазьмі, каб не мучыцца.-

З гэтай ампулай у роце Соня хадзіла на ўсе заданні.

Цераз пару дзён Люцыю Крыжаноўскую павесілі. Не стала сталяра Рамана Астрэйкі, які частаваў Соню цукерачкай траскою. Няма і Сцяпана Чуракова, які так душэўна спяваў: “У мяне ёсць таямніца...” восем сутак яны віселі для ўстрашэння.

І вось скрушная навіна – 17 снежня 1943 года арыштаваны Марк Мікалаенка – прапагандыст гэбітскамісарыяту, ён жа кіраўнік падпольнай арганізацыі ў гэбітскамісарыяце, якому немцы бязмежна давяралі і на якога ўскладвалі вялікія надзеі. Пасля гэтага арышту астатнія члены падпольнай арганізацыі пры гэбітскамісарыяце пайшлі ў партызанскі аддзел. Давялося і Соні пакінуць наседжанае месца і пайсці ў лес, да партызанаў.

І з гэтага часу Сафія Петрашкевіч становіцца ўжо не падпольшчыцай, а агентурнай выведніцай. Пачалося поўнае смяртэльнай небяспекі партызанскае жыццё ў аддзеле “За Савецкую Беларусь” брыгады імя Кірава. Аддзел дыслакаваўся ў в. Крывічы. Соня жыла ў сям’і Буякоў Аляксандра Гаўрылавіча і Марыі Вікенцеўны, якія ўсім сэрцам прыкіпелі да маладзенькай дзяўчынкі, выхадзілі яе, калі, здавалася, што ў маладзенькім целе згасла жыццё.

У агентурнай выведцы аддзелу было 5 чалавек, камандзірам яе быў С. Нягрэй. Яшчэ працуючы ў гэбстскамісарыяце С. Нягрэй вёў запісы ў дзённіку, хаця выдатна разумеў, што рабіць гэтага нельга Перад арыштам М. Мікалаенкі С. Нягрэй, прадбачачы магчымую небяспеку, знішчаць дзённік не захацеў і вырашыў схаваць яго ў ламаччы ў падвале інтарната, у якім жыў. А калі тэрмінова пакідаў горад, у суматосе забыў пра дзённік. Прыбыўшы ў аддзел, пачаў ламаць галаву над тым, як яго вярнуць. Пайсці самому абазначала проста ісці ў пашчу ворагу. Каго паслаць на гэтую рызыкоўную аперацыю? Пасля непрацяглых роздумаў выбар лёг на разумную, смелую, рызыкоўную Соню Петрашкевіч. Як быццам Соню ў горадзе не ведалі. Да гэтага С. Нягрэй быў ужо строга папярэджаны камандзірам брыгады Васільевым за перавышэнне сваіх паўнамоцтваў. І С. Нягрэй, парушаючы ўстаноўлены парадак, асабіста, без ведама камандзіра брыгады, адпраўляе Соню ў логава ворага, у горад па дзённік. З дзённіка С. Нягрэя: “Чэсна скажу, я быў упэўнены на сто працэнтаў, што Соня загіне... І, о, радасць, Сонечка паспяхова вярнулася... трэба было не толькі знайсці гэты блакнот, а і пранесці яго цераз кардон, цераз вёску Васілевічы, дзе паліцаяў больш, чым тараканаў. Калі я ўбачыў у аддзеле Соню, то прызнаюся, я нават расплакаўся ад радасці... Я бы, канешне , напісаў камбрыгу рапарт аб узнагароджанні разведчыцы Соні Петрашкевіч медалём “За адвагу”, але я не змог тады гэта зрабіць, так як быў ужо строга папярэджаны. І пра свой блакнот я не мог яму нават далажыць. Не меў права”

І вось Соня ідзе на чарговае заданне. Ззаду застаўся халодны Нёман, небяспечная вёска Васілевічы, якая кішэла паліцыянтамі. У трусіным коўняры старэнькага паліто схаваныя звесткі, якія яна павінна перадаць сувязному. У роце, за шчакой, на ўсякі выпадак “падаруначак доктара Крыжаноўскай”, з якім яна не расстаецца. У руках кошык з яйкамі, тварагом, салам, малаком. Там жа, абавязкова, газета з партрэтам Гітлера. Села ў таварняк, у якім чалавек пяць маладых хлопцаў-немцаў у вагоне рыхтуюць абед. Убачыўшы яйкі ў Сонінай карзіне, папрасілі зрабіць ім яечню. Соня ўспамінае: “У гэты момант у галаве ў мяне застукалі тысячы малаточкаў, затрапятала сэрца: хай сабе хлопчыкі, хай невінаватыя. Усіх іх ненавіджу я лютай нянавісцю за ўсё – за іх гартанную мову, за гучны смех. Хай не яны, а іх бацькі, старэйшыя браты прынеслі мне, маёй сям’і, мільёнам такіх як я, мора слёз, гора, рэкі крывы. Адпомшчу за ўсіх: за тату, за маму, за сястрычку – атручу іх. Як клапоў, каб не поўзалі па маёй зямлі, дзе я нарадзілася, дзе магілы ўсіх маіх родных, за с трах, які праследуе мяне кожную секунду. За Люцыяну, за Сцёпу, за перарваны мой першы пацалунак. Атручу, і рука не здрыганецца. Падрыхтаваўшы немцам яечню, некрыкметна пасыпала зверху ядам – “падаруначкам доктара Крыжаноўскай”, і на бліжэйшым паўстанку развітаўшыся са сваімі маладымі спадарожнікамі, выскачыла з цягніка. Як высветлілася, немцы абышліся лёгкім спалохам, але таму хто зловіць бандытку, згодна з нямецкай аб’явай была абяцана ўзнагарода – сто марак і гусь. Вось такая яе цана.

Вяртаючыся ў лагер, трапіла ў рукі белапалякаў, якія так напрактыкаваліся над маладой дзяўчынай, што яна, не адчуваючы болю, ляжала ў паўабмлелым стане. Пра гэта даведалася партызанскае камандаванне і абмяняла смелую разведчыцу на акаўскага капітана.

Забраўшы Соню ў найцяжэйшым стане, партызаны вырашылі, што яна мёртвая, а Соня не была нават у сілах сказаць, што яшчэ жывая. І толькі дзякуючы добрым, клапатлівым і спагадлівым людзям – сям’і Буяк Аляксандра Гаўрылавіча і Марыі Вікенцеўны – праз дзесяць дзён ізноў пайшла на заданне, але на гэты раз у групе падрыўнікоў. “Не было мне калі адлежвацца. Пры тым мне траціць не было чаго. Усе ведалі, што

я сірата"

Смелая, знаходлівая, усімі паважаная разведчыцы, не злічыць, колькі разоў ты рызыкавала сваім малладым жыццём, ішла ў смяротную дарогу. Выконвала любыя заданні камандавання. Вельмі часта туды, дзе работа была пад сілу толькі даросламу мужчыну. Пасылалі, можна сказаць, на смерць цябе, падлетка. Канешне ніхто не хацеў паміраць. А ты была безадмоўная, ішла на смерць, не баючыся нічога.

"Наступіў 1944 год. Войскі Чырвонай Арміі грамілі немцаў па ўсіх франтах. 3 ліпеня вызвалены Менск, 8 ліпеня разам з войскамі Чырвонай Арміі ў Ліду ўвайшлі і партызаны. Горда, шыхтам прайшлі па цэнтральных вуліцах, міма рынкавай плошчы, па якіх Соня ўвесь час хадзіла, схаваўшы галаву ў плечы. А зараз горад наш. І яна распрастала плечы: "Глядзіце, зайздросце, вось якая я партызанка-пераможца.

На рынкавай плошчы зрабілі невялікую трыбуну. Аркестр грае "Марш славянкі" І, чэсна скажу, сэрца трохі зашкаліла. Успомнілася, як зусім нядаўна на гэтай плошчы віселі мае любімыя доктар Крыжаноўская, Сцяпан Чуракоў, які спяваў: "У мяне ёсць сэрца, а ў сэрца песня", Раман Астрэйка. Успомніла, як трэслася не толькі ад холаду, але і ад таго, што мяне пазнаюць. Пракрочылі мы, пераможцы, горда міма трыбуны. Мужчыны – партызаны пасля параду накіраваліся ў ваенкамат: фронт не чакае. Трэба дабіваць ворага".

А тут у маленькім горадзе Лідзе засталіся на пустынных вуліцах дзве дзяўчынкі – Соня і Ніна Кавалёва, якіх у партызанскім аддзеле ставілі ў прыклад, ганарыліся імі. А зараз нікому няма справы да іх. Стукаюцца ў хаты, просяцца пераначаваць, а ім у адказ: "Саветкам у нас месца няма". Давялося пераможцам пераначаваць у нейкім хляве. А назаўтра ў пошуках працы Соня сустракаецца з пракурорам горада Ліды Шалоніным, якому ў гаркаме камсамолу парэкамендавалі Соню Петрашкевіч. І вось у Соні ўжо мірная пасада – памочнік пракурора. Працуючы ў пракуратуры, даведалася, што ўзнагароджана медалём "За адвагу". "Таварыш Петрашкевіч Сафія Паўлаўна, знаходзячыся ў партызанскім аддзеле "За Савецкую Беларусь" брыгады імя Кірава ў агентурнай выведцы з 19 снежня 1943 года па 8 ліпеня 1944 года, камандаваннем партызанскай зоны за мужнасць і адвагу, праяўленыя ў барацьбе з гітлераўцамі, узнагароджваецца медалём "За адвагу".

У 1985 годзе С. П. Петрашкевіч узнагароджана ордэнам "Айчыннай вайны" II ступені.

Але праца ў пракуратуры не прыцягвала Соню. Усё жыццё яна марыла апрануць белы халат, і дабілася – стала стаматолагам, хацела кахаць і быць каханай.

І вось баявыя сябры, уся былая агентурная выведка, сустракаюцца ў Менску. Не было аднаго Сяргея Нягрэя. Раздаюцца ўсхваляваныя галасы: "А памятаеш?" "А ведаеш?" Келіхі падымаліся за здароўе жывых і памяць палеглых. І ўсёй кампаніяй паехалі ў маленькі горад Ліду на Дзень Вызвалення, 21-я ўгодкі. У той дзень у горадзе быў насыпаны Курган Бессмяроцця. Праўда, іх не запрасілі на трыбуну. "Агентурная выведка" стаяла ўнізе, убаку, у натоўпе.

Вяртаючыся ў Менск, у вагоне трымалі адзін другога за рукі, яны ўсё яшчэ маладыя, і ціха ўспаміналі былыя дні і бітвы, дзе разам змагаліся яны. За акном вагона мільгаюць нейкія прыпынкі, паўстанкі, якія для чужога вока нічога не гавораць, а для іх: "Тут я кахаў, тут пакутаваў, тут сваё сэрца згубіў..." – Іўе, Юрацішкі ...



***Сафія Петрашкевіч пасля вайны***



***Сядзяць Соня, Вольга Макуцэвіч (Кастусёва), Ніна Кавалёва, стаяць Яўген Мазо, Міхась Кастусёў, Пётр Жукаў***



***"Агентурная выведка" стаяла ўнізе, убаку, у натоўпе". Ліда, 8 ліпеня 1966 г.***

***Матэрыял падрыхтавала да друку Анастасія Каладзяжная.***

# ПОМНІКІ,

## звязаныя з падзеямі 2-й Сусветнай вайны на тэрыторыі г. Ліды і Лідскага раёна

***(1-я спроба поўнага* збору. Тэкст В. Сліўкіна і А. Каладзяжнай, здымкі Р. Жалезнага, А. Колышкі, І. Марцэвіча, І. Пешахонава, С. Судніка, А. Хвайніцкага )***

## Горад Ліда

### Помнікі

1. Курган Бессмяроцця, 5 мемарыяльных пліті магіла невядомага салдата. У парку на ўсходняй ускраіне горада.

2. Помнік у гонар воінаў-вызваліцеляў і партызан Лідскай зоны. Вул. Савецкая, сквер каля кінатэатра "Кастрычнік".

3. Помнік "Пушка 76 мм" у гонар воінаў 3-га кавалерыйскага корпуса, якія вызвалілі Ліду 8 ліпеня 1944 года. Вул. Качана, каля Лакафарбавага завода.

4. Стэла загінуўшымм рабочым і службоўцам Лідскай абутковай фабрыкі. Вул. Фабрычная, сквер каля абутковай фабрыкі.

5. Помнік воінам, партызанам, партыйна-савецкаму актыву, якія загінулі ў горадзе Лідзе і Лідскім раёне. Вул. Савецкая, праваслаўныя могілкі.

6. Стэла падпольшчыкам, узнагароджаным ордэнамі Айчыннай вайны 1 ступені. У чыгуначным дэпо.

7. Мемарыяльная дошка ў гонар герояў-падпольшчыкаў лідскага чыгуначнага дэпо. Каля чыгуначнага вакзала, на скульптурнай кампазіцыі "130 гадоў Беларускай чыгунцы".

8. Дзесяць мемарыяльных дошак у гонар польскіх лётчыкаў, якія ваявалі на розных франтах 2-й Сусветнай вайны і чый лёс звязаны з Лідай. Вул. Энгельса, капліца Святой Барбары, каталіцкія могілкі.

9. Стэла на месцы расстрэлу падпольшчыкаў і мірных жыхароў 3 ліпеня 1944 года. На ўскрайку лесу, за акружной дарогай, на захад ад мікрараёна вуліцы Рыбіноўскага.

### Брацкія магілы

1. Мемарыяльны комплекс на брацкай магіле 7 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі пры вызваленні Гарадзеншчыны. Вул. А. Міцкевіча, гарадскі парк.

2. Помнік на брацкай магіле 809 ахвяр першых дзён вайны. Вул. А. Міцкевіча, тэрыторыя раённай бальніцы.

3. Скульптурная кампазіцыя "Звон" на брацкай магіле падпольшчыкаў і мірных жыхароў. Вул. Савецкая, праваслаўныя могілкі.

4. Стэла на брацкай магіле 12 чырвонаармейцаў, якія загінулі летам 1941 года ў Паўночным гарадку. Вул. Савецкая, праваслаўныя могілкі.

5. Надмагільныя блокі на магілах воінаў Чырвонай Арміі, які загінулі ў 1944-1946 гг. Вул. Савецкая, праваслаўныя могілкі.

6. Надмагільны помнік на магіле беларускіх нацыянальных дзеячоў, заснавальнікаў падпольнай "Беларускай незалежніцкай партыі", Юліяна Саковіча і Леаніда Маракова, забітых акаўцамі ў 1943 г. Вул. Савецкая, праваслаўныя могілкі.

7. Мемарыяльны комплекс на брацкай магіле 6700 яўрэяв, расстраляных 8 траўня 1942 года. В лесе, на заходнім працягу вул. Чырвонаармейскай, за 250 м ад акружной дарогі.

8. Бетонная пліта на брацкай магіле расстраляных еўрэяў.У лесе, на заходнім працягу вул. Чырвонаармейской, за 200 м ад окружной дарогі.

9. Гранітная стэла на брацкай магіле яўрэяў, расстраляных у свкавіку 1943 года. Вул. Чырвонаармейская.

10. Саркафаг на брацкай магіле 9 каталіцкіх святароў, расстраляных 10 сакавіка 1943 г. Даліна, Лідскія каталіцкія могілкі.

## Горад Бярозаўка

1. Скульптура "Маці ў жалобе" на брацкай магіле 200 ваеннапалонных расстраляных у 1942 г. Левы бераг Нёмана, за 2 км на захад ад г. Бярозаўкі.

2. Скульптурная кампазіцыя "Жанчына з дзіцем" на брацкай магіле чырвонаармейцаў і партызанаў. Вул. Наваградская, каля шклозавода.

---

* *Індывідуальныя пахаванні ўдзельнікаў вайны, якія памерлі пасля яе заканчэння не паказаны.*

# Вёскі Лідскага раёна

**Агароднікі.**

Стэла на брацкай магіле мірных жыхароў. На могілках.

**Беліца.**

1. Скульптурная кампазіцыя "Жанчына ў жалобе і суворавец" на брацкай магіле 20 чырвонаармейцаў і партызанаў. На паўднёвым канцы вёскі.

2. Абеліск на месцы расстрэлу 47 беліцкіх яўрэеў 23 ліпеня 1941 г.

**Бердаўка.**

Помнік на брацкай магіле афіцэраў, чырвонаармейцаў і партызанаў. У парку.

**Ваверка.**

Бетонныя крыжы на магілах жаўнераў 7 батальёна 77 палка Арміі Краёвай і жалезны крыж над сімвалічнай магілай камандзіра батальёна маёра Яна Піўніка "Панурага". На могілках.

**Ганчары.**

Мемарыяльны комплекс загінуўшым землякам. У цэнтры вёскі.

**Гарні.**

Абеліск на брацкай магіле 5 чырвонаармейцаў. У парку.

**Гасцілаўцы.**

1. Скульптура воіна і тры бетонныя пліты ў памяць аб загінуўшых земляках. На заходнім канцы вёскі, каля шашы Ліда- Гародня.

2. Магіла невядомага салдата.

3. Магіла Чурсіна Аляксандра, загінуўшага ў 1944 годзе.

**Голдава.**

Стэла загінуўшым землякам - воінам, партызанам і актывістам Голдаўскага сельсавету.

**Гуды.**

Помнік на брацкай магіле 57 чырвонаармейцаў 213 стралковага палка 56 стр. дывізіі, загінуўшых у баі 3 ліпеня 1941 г. Каля шашы.

**Дакудава.**

Стэла загінуўшым землякам. Каля сельсавету.

**Далекія.**

Стэла загінуўшым землякам. У цэнтры вёскі, каля канторы.

**Дворышча.**

Скульптурная кампазіцыя загінуўшым землякам. Каля школы.

**Дзітва.**

Абеліск невядомаму салдату. На могілках за 2 км ад Дзітвы.

**Дроздава.**

Стэла з плітой камсамольцам-падпольшчыкам, загінуўшым землякам. На заходнім канцы вёскі, на скрыжаванні дарог.

**Збляны.**

Стэла загінуўшым землякам. Каля клуба.

**Красноўцы.**

Стэла на магіле чырвонаармейца, загінуўшага ў канцы чэрвеня 1941 года. Каля школы.

**Крыніцы.**

Стэла загінуўшым землякам і старшыням сельсаветаў. У цэнтры вёскі.

**Леснікі.**

Скульптурная кампазіцыя "Жанчына ў жалобе з сувораўцам" сялянам в. Леснікі, расстраляным і спаленым 6 жніўня 1942 г. У цэнтры вёскі.

**Мінойты.**

Абеліск на брацкой магіле хворых Мінойтаўской псіхіятрычнай бальніцы. На могілках.

**Навасёлкі.**

Металічны крыж на магіле польскіх афіцэраў каля дарогі Ліда-Бердаўка паміж вёскамі Навасёлкі і Дуброўня.

**Навіцкія - 2.**

Абеліск на брацкай магіле чырвонаармейцаў і партызанаў. На могілках.

**Няцеч.**

Абеліск з палявых камянёў і крыжы над магіламі жаўнераў 4 батальёна 77 палка Арміі Краёвай. На могілках.

**Парачаны.**

1. Стэла ў гонар воінаў 86 кавалерыйскага палка. За 500 м на ўсход ад вёскі, каля моста цераз р. Дзітва, на правым беразе.

2. Стэла ў гонар Героя Савецкага Саюза яфрэйтара Сяргея Балгарына. За 500 м на ўсход ад вёскі, каля чыгуначнага моста на правым беразе р. Дзітва.

**Парэчча.**

Скульптура воіна ў плашч-накідцы з аўтаматам ППШ на брацкай магіле 9 партызан і 5 чырвонаармейцаў. Каля бальніцы, у скверы.

**Сялец.**

1. Абеліск на брацкай магіле мірных жыхароў, расстраляных 23 ліпеня 1941 года. за 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе.

2. Помнік і надмагільныя стэлы на магілах 12 сялян расстраляных жаўнерамі Арміі Краёвай у красавіку 1944 года. На могілках.

**Тарнова.**

Абеліск загінуўшым землякам. У парку.

**Ходараўцы.**

Стэла загінуўшым землякам. На паўднёвым канцы вёскі.

**Шаўдзіні.**

Абеліск на месцы гібелі ваеннапалонных, расстраляных жаўнерамі АК восенню 1943 г.

**Янцэвічы.** Металічны крыж на магілах жаўнераў Арміі Краёвай. На могілках.

# Горад Ліда

## Помнікі

**1. Курган Бессмяроцця.** Насыпаны ў гонар вялікага вычыну савецкага народа ў вайне супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 1941 – 1945 гг. Закладка Кургана Бессмяроцця пачалася 9 траўня 1966 г. і працягвалася да 8 ліпеня 1966 г. Адкрыццё кургана адбылося 8 ліпеня 1966 г. **9 траўня 1967 г**. каля Кургана была пахавана урна с прахам Невядомага салдата, парэшткі якога былі знойдзены каля вёскі Чэхаўцы. У 1967 г. вакол Кургана быў пасаджаны парк. У 1973 г. па проекту групы менскіх архітэктараў пад кіраўніцтвам Ю.М.Трахтэнберга курган быў дапоўнены пілонамі.

Курган уяўляе сабой пяцігранную піраміду, вышынёй 7 м, з агульным периметрам каля асновы 55 м. На кожнай з граняў Кургана ўстаноўлена мемарыяльная пліта з надпісам.

Курган атачаюць пілоны вышынёй 14 метраў, вугал нахілу 60 градусаў, сімвалізуе рулі артылерыйскіх гарматаў.

Ля асновы кургана размешчана прастакутняя пліта-надмагілле на магіле невядомага салдата. У куце пліты, каля яе верхняй плоскасці пяцікутняя адтуліна для вечнага агню. На ніжняй плоскасці рэльефна выканана каска. Помнік выкананы з бетону і пакрыты мазаічным аздабленчым слоем.

На гранітнай пліце, якая прыкрывае магілу, высечаны словы:

*“Куда б ни шёл, ни ехал ты,*
*Но здесь остановись,*
*Могиле этой дорогой,*
*Всем сердцем поклонись!*
*1941 – 1945.*
*Слава тебе неизвестный солдат”.*

Цэнтральная пліта.

***“Современники и потомки!.***
***Через века, через года, - помните!***
***О тех, кто уже не придет никогда - помните.***
***Курган Бессмертия насыпан 9 мая - 8 июля 1966 г в ознаменование великого подвига советского народа в войне против немецко-фашистских захватчиков. 1941-1945 г. Курган насыпали жители города Лида, делегации всех районов Гродненской области, всех областей Белоруссии, представители городов-героев Москвы, Ленинграда, Волгограда, Севастополя, Одессы, Киева, Брестской крепости героя, городов Курска, Ростова, Брянска, представители Литвы, Латвии. Вечная слава воинам, отстоявшим честь и независимость нашей Родины!».***

Нахільная пліта.

***“Здесь на глубине 3-х метров хранится завещание потомкам. Заложено 9 мая 1995 года. Вскрыть 9 мая 2045 года”.***



Паўночная пліта:

***"Схілі галаву! Перад табой свяшчэнная зямля, палітая крывёю нашых бацькоў, сёстраў і братоў, сыноў і дачок. Перад табою свяшчэнная зямля з магіл абаронцаў г. Ліды і Лідскага раёна, з магіл гераічных падпольшчыкаў і партызан, з тых мясцін, дзе праходзілі пераможныя баі Жалезнай Самара-Ульянаўскай дывізіі на подступах да г. Ліды у 1941 г."***

Паўночна-ўсходняя пліта:

***"Людзі спыніцеся! Пастойце хвілінку моўчкі. Перад вамі свяшчэнная зямля з брацкіх магіл Гродна, з папялішча вёскі Чарлёна, спаленай фашыстамі, з месц гераічных партызанскіх баёў у Навагрудскім, Слонімскім, Карэліцкім, Шчучынскім, Дзятлаўскім, Воранаўскім, Іўеўскім, Гродзенскім, Мастоўскім, Ашмянскім, Ваўкавыскім раёнах, з месц гібелі экіпажу праслаўленай эскадрыллі Нармандыя-Нёман, з магілы камісара Таманскай дывізіі Яўсеева, з тых незабыўных месц, дзе былі па-зверску закатаваны героі Скідзельскага падполля".***

Усходняя пліта:

***"Пакланіцеся сябры! Перад вамі зямля, якая была паліта крывёю гераічных пагранічнікаў заставы В. Усава. Тут зямля і попел з магіл двухсот тысяч чалавек, замучаных фашыстамі ў Трасцянцы, з месц пахавання слаўных воінаў, што загінулі ў суровых баях за вызваленне Гомеля, Магілёва, Віцебска, Мінска. Сюды ж прывезена зямля з незабыўных месц гібелі Герояў Савецкага Саюза Гастэла, Заслонава, Жалудзёва".***

Паўднёва-ўсходняя пліта:

***"Обнажи голову! Перед тобой священная земля, обагрённая кровью защитников Брестской крепости, защитников города-героя Москвы, с Пулковских высот и Пискаревского кладбища Ленинграда, с Сапун-Горы и Малахова Кургана Севастополя, одесских катакомб, Мамаева Кургана Сталинграда, с мест боёв за освобождение городов Ростова, Киева, Риги, из партизанских лесов Брянщины, из деревни Пирчюпис Литовской ССР, сожжённой гитлеровцами месте с жителями, земля омытая кровью героев острова Даманского".***

**2. Помнік у гонар воінаў- вызваліцеляў і партызанаў Лідскай зоны.** Вул. Савецкая, сквер каля кінатэатра "Кастрычнік". Помнік адкрыты 9 траўня 1965 г. Аўтар архітэктар Ю.М.Кішык. Помнік складаецца з бетоннай пліты памерам 3,6х1,2 м, на якой замацаваны блок трапецападобнай формы 3х1,3 - 0.65 м. У блок устаўлены 5 мармуровых дошак з надпісамі:

***"8 июля 1944 г. войска 3-го Белорусского фронта под командованием генерала армии Черняховского И.Д. в результате умелого маневра конницы, танков овладели городом Лида – крупным железнодорожным узлом и важным опорным пунктом обороны немцев на Гродненском направлении."***



***"В боях за овладение г. Лида отличились кавалеристы генерал-лейтенанта Осликовского, генерал-майора Чепуркина, генерал-майора Брикель, генерал-майора Калюжного; танкисты генерал-лейтенанта танковых войск Родина, подполковника Кучина, подполковника Карпова, подполковника Доронина, майора Брилова, майора Гайдаленко; войска генерал-лейтенанта Глаголева, генерал-лейтенанта Кошевого, полковника Ковтунова, полковника Дудко, артиллеристы генерал-майора артиллерии Нефедова; летчики генерал-лейтенанта авиации Белецкого, полковника Китаева, полковника Сталина, полковника Кожемякина, саперы майора Солянкина, связисты подполковника Федорова."***

***"В ознаменование успеха в боях за освобождение г. Лида 307 авиадивизии (командир полковник Кожемякин А.В.), 17-му (командир подполковник Шевченко М.Т.), 23-му (командир подполковник Бондарь Б.Т.) и 86-му (командир подполковник Труханов М.Ф.) гвардейским кавалерийским полкам присвоено наименование «Лидских."***

***"На территории Лидского района активную борьбу с фашистскими захватчиками вела партизанская бригада им. Кирова (командир Васильев). К 1944 г. в Лидском межрайцентре боролись с немцами свыше 5 тысяч человек, объединенные в 6 партизанских бригад. Руководил борьбой партизан Лидский подпольный горком КПБ (секретарь Гапеев Е.Д.). На территории Лидского межрайцентра боролись партизаны бригады "Вперёд", им. Чапаева, "1-я Барановичская", им. Дзержинского, им. А.Невского (командиры тт. Булат, Кудрин, Бубен, Шашкин, Бойков)."***

***"9 июля 1944 г. в 22 часа Москва от имени Родины салютовала доблестным войскам 3-го Белорусского фронта, овладевшим г. Лида, двенадцатью артиллерийскими залпами из ста двадцати четырёх орудий. Вечная слава героям, павшим в***

***бoях за свободу и независимость нашей Родины.”***

На паўднёвым баку блока, на мармуровай таблічцы размешчана выява ордэна “Знак пашаны”, на тарцы – ордэн Победы, на паўночным - Зорка Героя Савецкага Саюза. Перад помнікам на невялікай бетоннай пліце выкладзены рэльеф пяцікутняй зоркі з адтулінай у цэнтры для “вечнага агню”.

**3. Помнік “Пушка 76 мм”** у гонар воінаў 3-га кавалерыйскага корпуса, якія вызвалілі Ліду 8 ліпеня 1944 года. Вул. Качана, каля лакафарбавага завода. Адкрыццё помніка адбылося 7 ліпеня 1967 г. На бетонным п’едэстале размешчана 76 мм дывізіённая пушка. Тэкст надпісу: ***“Воинам 3-го гвардейского кавалерийского корпуса, участвовавшим в освобождении города Лиды от немецко-фашистских захватчиков 8 июля 1944 г.”***



*“Лідскі кірунак быў прызначаны 3-му гвардзейскаму кавалерыйскаму корпусу і 31-ай арміі, якая ішла за ім. 6 ліпеня корпус памкнуў у бок Ліды. У шэрагу пунктаў і асабліва на вузлах дарогнемцы аказвалі ўпарты супраціў... Нам заставаліся абходныя шляхі, а яны пралягалі большай часткай па лясах і балотах.*

*8 ліпеня 17 гвардзейскі кавалерыйскі полк 5 гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі пад камандаваннем падпалкоўніка Шаўчэнкі ў конным шыхце ўварваўся ў г. Ліду. Толькі ў самым яго цэнтры кавалерысты вымушаны былі спешыцца і завязаць вулічныя баі. Да 19 гадзін горад быў цалкам ачышчаны ад супраціўніка. Самалёты камандавання фронту праверылі занятасць горада часткамі нашага корпуса, і на раніцу паступіў падзячны загад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага.”* (Былы камандзір 3 гвардзейскага кавалерыйскага корпуса Асліkоўскі Мікалай Сяргеевіч.)

*“Успамінаючы пра гэты бой, разглядаючы яго скрозь прызму многіх гадоў, мінуўшых з тога дня, я ўяўляю яго партытурай, якую зладжана і прыгожа разыграў вялізарны аркестр. Сапраўды, разыграў, як па нотах. ... Бой за горад прайшоў у такім галавазломным тэмпе, так зладжана і ў пэўным сэнсе гэтага слова “сінхронна” дзейнічалі эскадроны, палкі і дывізіі корпуса, што на станцыі нячэпанымі засталіся цягнікі, у горадзе - склады, дамы, заводы, словам ус1, што па загаду Гітлера фашысты абавязаны паліць і падрываць.”* (Дабрушын Д. Ад Волгі да Эльбы. Кіеў, 1984, с. 231-232).

**4. Стэла загінуўшым рабочым і службоўцам Лідскай абутковай фабрыкі.** Вул. Фабрычная, сквер каля абутковай фабрыкі. Пабудавана ў 1968 г. Прыступкавая аснова ў тры маршы, стэла вышынёй 2 м, нахільная пліта, у



якую ўманціраваны шчыт, аўтамат і каска. Помнік агароджаны металічным ланцугом, які вісіць на 9 слупках. Надпіс на стэле: ***“Дорогим друзьям и товарищам по оружию павшим на фронтах Отечественной войны 1941-1945 гг. вечная слава.”***

**5. Помнік воінам, партызанам, партыйна-савецкаму актыву**, загінуўшым у горадзе Лідзе і Лідскім раёне. Вул. Савецкая, праваслаўныя могілкі. Адкрыты 7 ліпеня 1967 г. Выкананы па праекту скульптара В.С.Галубкінай. На бетоннай пляцоўцы (13х5х0,8 м) замацавана жалезабетонная аснова (5,5х2.5х0.4 м), на якой устаноўлена бетонная сценка вышынёй 3 м. На стенцы рэльефная выява трох мужчын і жанчыны і надпісы: ***“Люди! Молчанием память почтите, пред ними вы головы низко склоните. Воинам, партизанам, партийно-советскому активу, погибшим в годы Великой Отечественной войны 1941 -1945 гг.***



*и становлении советской власти в городе Лиде и Лидском районе."* На аснову выводзіць чатырох-ступенькавы марш.

**6. Стэла лідскім падпольшчыкам, узнагарджаным у 1965 годзе ордэнам Айчыннай вайны 1 ступені.** Каля чыгуначнага дэпо. Надпісы на стэле:

***"1941-1945. Здесь с декабря 1941 г. по июнь 1944 г. действовало партийно-комсомольское подполье, центром которого была партийно-комсомольская группа на железнодорожном узле.***



***Игнатов Михаил Николаевич***
***Климко Александр Александрович***
***Качан Анатолий Гаврилович***
***Наказных Матрена Константиновна***
***Костромина Мария Ивановна***
***Холевинский Леонид Федорович***
***Кудачев Леонид Федорович."***

**7. Мемарыяльная дошка на скульптурнай кампазіцыі да 130-годдзя Беларускай чыгункі.** Прывакзальная плошча. Дошка металічная, з трох фрагментаў. Надпіс на дошцы:

***"Здесь с декабря 1941 г. по июнь 1944 г. действовало партийно-комсомольское подполье, центром которого была партийно-комсомольская группа на железнодорожном узле.***



***Игнатов М. Н.***
***Климко А. А.***
***Качан А. Г.***
***Наказных М. К.***
***Костромина М. И.***
***Холевинский Л. Ф.***
***Кудачев Л. Ф.***
***1941-1944"***

**8. Дзесяць мемарыяльных дошак у памяць польскіх лётчыкаў і наземнага персаналу лётных частак,** лёс якіх звязаны з Лідай і якія ваявалі на розных франтах 2-й Сусветнай вайны. Вул. Энгельса. Капліца Святой Барбары на каталіцкіх могілках.



**9. Стэла на месцы расстрэлу падпольшчыкаў і мірных жыхароў 3 ліпеня 1944 года.** На краі лесу за акружной дарогай, на захад ад мікрараёна Рыбіноўскага. Помнік зроблены па праекту Р. Ю. Сасноўскага, адкрыты 17 траўня 1966 г.



Стэла на бетоннай аснове, агароджана металічнай агароджай на слупках. Тэкст на стэле: ***“На гэтым месцы 3 ліпеня 1944 г. за 5 дзён да вызвалення горада былі растраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі камсамольцы-падпольшчыкі».*** Сярод загінуўшых Л.А.Авяр’янава, П.І.Булгакава, А.В.Драздова, А.Г.Качан, А.А.Клімко, Л.Ф.Кудачоў, З.Ф.Кудачова, М.К. Наказных, К.М.Федарук. В 1953 г. парэштткі расстраляных былі перезахаваны на могілках па вул. Савецкай.

*“ Сярод дрэваў ў тым жа лесе, непадалёк ад стрэльбішча знаходзяцца два насыпы. Пад адным насыпам, які аказаўся студняй, на глыбіні 2-х м былі знойдзены вопратка, абутак, некаторыя дакументы і рэчы расстраляных. Пад другім насыпам, які мае чатырохкутную форму: 8 м даўжыні і 3 м шырыні, знойдзена вялікая магіла з мностввам трупаў, трупы голыя, ляжаць тварам уніз, правільнымі радамі з агнястрэльнымі раненнямі ў патыліцу, са слоў сведак, якія пазбеглі расстрэлу, у гэтай магіле закопаны трупы расстраляных вязняў турмы СД, а галоўным чынам турмы контрвыведкі РВА, якая знаходзілася ў вайсковым гарадку.*

*3 ліпеня 1944 г. у 6 гадзін вечара вязняў, якія знаходзіліся ў заключэнні, незалежна ад тэрміну знаходжання ў турме, незалежна ці быў хто на допыце ці не, вывезлі на вялікай закрытай грузавой машыне з вайсковага гарадка, дзе размяшчаўся страшны засценак фашызму. Адным гаварылі, што іх адпраўляюць у Германію, другім, што пераводзяць у іншую турму. Было загадана ўзяць з сабою свае рэчы. У машыну спачатку загналі 20-25 мужчын і каля 20 жанчын. Пад аховай 5 немцаўаўтаматчыкаў аўтамашына выехала ў лес, дзе спынілася каля другога стрэльбішча на паляне. Быў адкрыты борт і брызент кузава аўтамашыны, якія закрывалі задні бок машыны. На паляне іх ужо чакалі 6-8 аўтаматчыкаў, якія размясціліся вакол машыны ў шахматным парадку. Па камандзе немцаў з аўтамашыны пачалі выходзіць спачатку жанчыны. Падчас выхаду жанчын мужчыны, што знаходзіліся ў кузаве машыны, ясна ўсведамляючы, што прышла пагібель, пачалі паміж сабой згаворвацца зрабіць спробу ўцячы. Пасля таго, як была выведзена апошняя жанчына, адзін з нямецкіх катаў пачаў патрабаваць вываду мужчын, апошнія пачалі адначасова групамі выкідвацца з машыны і разбягацца ў розныя бакі. Немцы адкрылі агонь, большасць выскачыўшых былі паранены і забіты.”* (Акт ад 17.08.1944 г.)

## Брацкія магілы

**1. Мемарыяльны комплекс на брацкай магіле воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі пры вызваленні Гарадзеншчыны.** Вул Міцкевіча, гарадскі парк. У брацкай магіле перазахованы 5



афіцэраў і 2 шарагоўцы Чырвонай Арміі. Адкрыты помнік 9 траўня 1985 г. Аўтар - сябар Союза мастакоў БССР Генадзь Бураўкін. Мемарыяльны комплекс ўключае адлітыя ў метале 5 штыхоў і языкі полымя вечнага агню, а таксама 7 гранітных плітаў, на якіх прымацаваныя табліцы з імёнамі загінуўшых: гвардыі падпалкоўнік Труханов А.Ф. (1911-1944), падпалкоўнік Грыгор’еў В.М. (1908-1944), гвардыі маёр Выдайка Н.Ф. (1913-1944), ст. лейтэнант Сытнікаў І.І. (1904-1944), гвардыі лейтэнант Арцёменка Н.П. (1913-1944), шараговец Тумаеў Ф.Т. (1911-1944), шараговец Савушкін І.М. (1911- 1944).

**2. Помнік на брацкай магіле ахвяр першых дзён вайны.** Вул. Міцкевіча, тэрыторыя раённай бальніцы. У брацкай магіле пахаваны мірныя жыхары, чырвонаармейцы і афіцэры, загінуўшыя пры бамбардыроўцы горада і пасажырскіх цягнікоў нямецкай авіяцыяй ў першыя дні вайны. Прыблізна тут пахавана 809 чалавек. Пабудаваны помнік па праекту архітэктара Ю. Н. Кішыка. Адкрыты 8 траўня 1966 г. Пліта 4х1,45 м з чатырохгранным абеліскам вышынёй 1,5 м. На абеліску з двух бакоў надпісы: ***“Быть верными памяти павших клянемся”*** і ***“Вы с нами, вы с нами, хоть нет вас в колоннах”***. Каля абеліска блок з нахільнай плоскосцю і тэкстам ***“Никто не забыт, ничто не забыто. Здесь похоронены погибшие 22 июня 1941 года ленинградские чекисты: Черкасов Василий Фёдорович, Малушков Михаил Гаврилович, Петров Леонид Фёдорович, Тихонов Нико-***



***лай Семёнович, Кошер Абрам Моисеевич, Парфёнов Павел Сергеевич, Ромашёв Александр Петрович, Дружинин Иван Петрович, Тупицын Николай Михайлович. Люди, будьтебдительны!».*** На правым краі пліты: "***Защитникам города Лиды и жертвам варварских бомбардировок первых дней Великой Отечественной войны"***. Выкананы помнік з бетону; усе паверхні пакрыты мазаічным аздабленчым слоем.

*"На світанні 22 чэрвеня я быў разбуджаны гулам матораў. Выскачыўшы праз адчыненыя дзверы на балкон, убачыў самалёты са свастыкай. Фашысты бамбілі аэрадром і вакзал. Кінуўся да тэлефона, выклікаў камандзіра зенітнага дывізіёна. Той адказаў, што сам не разумее, што адбываецца, таму што толькі ўскрыў прысланы пакет, у якім гаворыцца: "На правакацыю не паддавацца, агонь па самалётах не адкрываць." Між тым над аэрадромам і вакзалам клубіўся густы дым. Гарэлі самалёты, бомбы працягвалі рвацца, а зеніткі маўчалі. Выклікаўшы машыну, імчуся на агнявыя пазіцыі дывізіёна. На вакзале два разгромленыя пасажырскія цягнікі, чутны стогны, крыкі аб дапамозе. Каля раскурочаных вагонаў забітыя і параненыя.*

(Камандзір 8-ой асобнай супрацьтанкавой брыгады палкоўнік Стральбіцкі І. С.)

**3. Скульптурная кампазіцыя "Звон"** на брацкай магіле падпольшчыкаў і мірных жыхароў. Вул. Савецкая, праваслаўныя могілкі. У брацкай магіле летам 1953 г. перазахаваны42



падпольшчыкі і мірныя жыхары, расстрэляныя і павешаныя фашыстамі ў чэрвені-ліпені 1944 г. Аўтар помніка скульптар Вераб'ёў В.М. Адкрыты 8 ліпеня 1994 г. На аснове, выкладзеным мармуровымі плітамі, устаноўлены чатыры драўляныя слупы вышынёй каля 4 м, паміж імі падвешаны звон і ўманціраваны металічныя пласціны. Надпіс на паўднёвай плпсціне: ***"Памяць удзячных лідчан вязням фашыцкіх засценкаў, удзельнікам падпольнага і партызанскага руху, растраляным гітлераўцамі 25 чэрвеня і 3 ліпеня 1944***." На заходняй і паўночнай пласцінах - прозвішчы расстрэляных: ***Авер'янаў П., Авер'янава Л., Аксёнаў П., Астрэйка Р., Бычкоўскі І., Валіцкая М., Волкаў А., Ганевіч І., Драздова А., Жук С., Здановіч І., Іваноў А., Ігнатаў М., Іодзь М., Канстанцінава В., Каральчук І., Качан А., Качан Г., Кедык В., Клімко А., Климко М., Крыжаноўская В., Кудачоў Л., Кудачова З., Лебядзева Е., Літвін Г., Літвінава С., Ліхарад М., Мазоль М., Маісеянка М., Наказных М., Невяроўскі Г., Палякоў І., Пайроць В., Ражкоў Д., Русакоў І., Савікава В., Семянцоў І., Сілукова А., СіцянкоўІ., Смірнова В., СмольскіБ., Сягла А., Федарук К.***

На ўсходняй пласціне выбіты сілуэт жанчыны з выцягнутай правай рукой.

**4. Стэла на брацкай магіле** 12 чырвонаармейцаў, загінуўшых летам 1941 года ў Паўночным гарадку. Вул. Савецкая, праваслаўныя могілкі. Перазахаванне адбылося ў 1997 г. Помнік пастаўлены ў 2002 г. Бетонная стэла з слупком, пліта, агароджа з бардзюраў. Надпіс на стэле: ***"Здесь без нашивок и наград солдаты-воины лежат. Имена их неизвестны. Им было 18-25 лет. Вечная память ушедшим***." Побач дзве магілы з драўлянымі абеліскамі і жалезнымі пяцікутнымі зоркамі. На таблічках, замацаваных на абеліс-ках, надпісы: ***"Вечная память героям Великой Отечественной войны."*** На крайнім з абеліскаў ёсць і другая таблічка. ***" Мохнач Михаил Павлович, г. р. 1918 г., погиб - октябрь 1943 г."***

*"Нямецка-фашысцкія акупанты ў г. Лідзе пакінулі пасля сябе страшныя сляды зверстваў над ваеннапалоннымі і мірным насельніцтвам. ... Асноўным месцам Лідскай "Хатыні" былі поле і лес,*



*размешчаныя за тры кіламетры ад горада. Магілы займаюць плошчу 6 га. Гэтая тэрыторыя перакапана акопамі, якія да вайны былі месцам навучання войскаў. Старыя равы сталі магіламі для іх ахвяраў. З гэтай жа мэтай гітлераўцы выкарыстоўвалі доўгія канавы, выкапаныя з краю і ўздоўж вайсковых стрэльбішчаў на тым жа полі і ў тым жа лесе. Забойствы адбываліся і ў іншых месцах, як напрыклад, у памяшканні турмы, на ямах, якія засталіся пасля ўзарваўшагася парахавога складу, а таксама ў вёсках недалёка ад горада. Дакладная колькасць ахвяраў, загінуўшых ад рук нямецка-фашысцкага звяр'я, не паддаецца ўліку, таму што тэхнічна немагчыма знайсці ўсе тысячы магілаў, якія раскіданыя па месцах расстрэлаў.*

*Вельмі многія магілы першых гадоў акупацыі не пакінулі пасля сябе знешніх прызнакаў. Трава і мох хаваюць пад сабой сляды зверстваў. Толькі часткова закрытыя вучэбныя акопы, ці злёгку прасеўшая на іх зямля, месцамі ў трэшчынах, даюць магчымасць тутэйшым жыхарам прыблізна вызначаць месцы гібелі нявінных жыхароў Ліды.*

*У пачатку акупацыі масавыя расстрэлы праводзіліся ў турме і толькі ноччу забітых вывозілі ў невядомым кірунку. У пазнейшы час выв аз на страту і сама страта праводзіліся, за рэдкім выключэннем, ноччу або на досвітку, калі мясцовае насельніцтва з-за тэрору баялася выходзіць са сваіх памяшканняў.*

*Выпадковыя сведкі, а таксама асобныя людзі, якія ўратаваліся ад смерці, даюць поўную магчымасць намаляваць гэтую жудасную карціну. Мінімальна ў горадзе Лідзе загінула 12000 мужчын, жанчын і дзяцей. З іх яўрэйскага насельніцтва расстраляна 8 тысяч. Далей, паводле паказанняў сведак, на працягу двух гадоў акупацыі кожныя два тыдні немцы расстрэльвалі на тэрыторыі турмы 25-30 чалавек. Палічыць дакладную колькасць загінуўшых мужчын, жанчын і дзяцей паасобку немагчыма." (Акт ад 17.08.1944.)*

**5. Надмагільныя блокі на магілах воінаў Чырвонай Арміі, загінуўшых у 1944-1950 гг.** Вул. Савецкая, праваслаўныя могілкі. Пахавана 79 воінаў і 1 партызан. Сярод іх воіны 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, загінуўшыя ў ліпені 1944 г. пры вызваленні Ліды і Лідскага раёна. Надмагільныя блокі ўстаноўлены ў 1967 г.



**6. Помнік на магіле заснавальнікаў падпольнай "Беларускай незалежніцкай партыі"**, Юліяна Саковіча і Леаніда Маракова, беларускіх нацыянальных дзеячоў, забітых акаўцамі ў чэрвені 1943 г. Вул. Савецкая, праваслаўныя могілкі.



На помніку надпіс:
***"Юліян Саковіч***
***24. VIII.1906 - 13. VI.1943***
***Леанід Маракоў***
***1914 - 13. VI.1943***
***Загінулі за Бацькаўшчыну".***

**7. Мемарыяльны комплекс на брацкай магіле 6700 яўрэяў,** расстраляных 8 траўня 1942 года. У лесе на заходнім працягу вул. Чырвонаармейскай, за 250 м ад акружной дарогі, Пабудаваны ў 1992 г. па праекту скульптара Аляксандра Тухто на сродкі Б. М. Галубовіча. Скульптурная кампазіцыя з металу, дзве пліты і два блокі, ступенькі з мармуровых плітак, металічная агароджа. На блоках надпісы на рускай



мове і іўрыце: ***“1942 – 1992. В этой братской могиле захоронены замученные немецко-фашистскими захватчиками 6700 жителей г. Лиды”.***

*“8 траўня 1942 г. адбыўся масавы расстрэл яўрэйскага насельніцтва. У гэтым расстрэле загінула ў адзін дзень 5670 чалавек. Гэтае масавае забойства было падрыхтавана загадзе і праводзілася паводле адпаведнага плану. Гета былі акружаны паліцыяй і жандармерыяй з вечара 7-га траўня. 8 траўня з раніцы пачалі выводзіць усіх яўрэяў калонамі пад канвоем на плошчу каля казармаў. Тут гебітскамісар Ханвег разам з памочнікам па прозвішчы Віндзіш праводзілі сарціроўку. Направа адходзілі старыя, бабулі, дзеці, хворыя. Налева - рамеснікі і тыя спецыялісты, якія часова былі патрэбныя акупантам. Сотні старых, хворых, якія былі не ў стане выйсці з дому, былі расстраляны ў памяшканнях і на вуліцах гета. Па дарозе да месца страты людзі збіваліся прыкладамі, у адстаўшых стралялі.*

*Першымі ахвярамі фашысцкіх катаў сталі дзеці, якіх адбіралі ад мацярок і кідалі ў яму, яма закідвалася ручнымі гранатамі. Невялікую групу дзяцей немцы падкідвалі ў паветра, лавілі іх на штыхі і ў гэты момант фатаграфаваліся. Расстрэльвалі з кулямётаў у вялізарных трох ямах, загадзя падрыхтаваных. Людзей прымушалі распранацца, пасля чаго заганялі па чарзе, па 100 чалавек шэрагамі ў ямы, жывыя чэргі ставіліся на трупах і расстрэльваліся да тога часу, пакуль не запаўнялася яма. Першымі былі расстраляны жыхары гета Пескі, другімі - насельніцтва з Пастаўскай вуліцы, апошнімі - жыхары Кашаравай вуліцы. Ямы засыпаліся тонкім плпстом зямлі. Параненыя засыпаліся таксама ў агульных магілах, таму на наступны дзень з іх тырчалі рукі і ногі. Немцы сагналі 500 сялян з вазамі, якія зрабілі высокі насып над магіламі. Усе гэтыя магілы-размешчаны сярод лесу на палянах, маюць над сабой насыпы 1,5 м у вышыню, самая вялікая магіла мае ў даўжыню 70 м, найбольшы яедыяметр 10 м, іншыя дзвемагілы маюць 4-кутнюю форму даўжынёй 30 м, шырынёй 8 м.”* (Акт ад 17.08.1944 г.)

**8. Бетонная пліта на брацкай магіле расстраляных яўрэяў.** У лесе, на заходнім працягу вул.





Чырвонаармейскай, за 200 м ад акружной дарогі. Агароджана металічным ланцугом. Надпіс на пліце: ***“Вечная память жителям г. Лиды замученным немецкими палачами 8 мая 1942 г.”***

**9. Гранітная стэла на брацкай магіле яўрэяў, расстраляных у сакавіку 1943 года**. Вул. Чырвонаармейская. Помнік адкрыты 13 жніўня 2003 года. Выкананы па праекту лідскага скульптара Рычарда Грушы. Стэла з чырвонага граніту, падстаўка бетонная. На паліраванай грані стэлы на іўрыце і рускай мове выгравірава-ны тэкст: ***«Вечная память евреям Лиды и Вильнюса, зверски уничтоженным немецкими нацистами и их пособниками за принадлежность к еврейскому народу»***. У цэнтры Зорка Давіда і даты 1942-1943 (5702-5703).



**10. Саркафаг на брацкай магіле 9 каталіцкіх святароў**, расстраляных 10 сакавіка 1943 г. Даліна. Каталіцкія могілкі. На заходнім баку саркафага: ***"Ксяндзы-пакутнікі, замучаныя ў Лідзе 10 сакавіка 1943 года"*** (на польскай), ***"Спачывайце ў спакоі"*** (на лацінскай). На паўночнай грані прозвішчы 5 ксяндзоў: **Дабравольскі Стэфан**, 44 гады, пробашч з Беліцы, **Бароўскі Альфонс**, 51 год, пробашч з Лацка, **Цыбульскі Францішак**, 58 гадоў, пробашч з Трабаў, **Ажароўскі Ежы**, 31 год,



пробашч з Ліпнішак, **Стжасьнеўскі Вінцэнт**, 34 гады, пробашч з Юрацішак. На паўднёвай грані прозвішчы 4 ксяндзов: **Лабан Вінцэнт**, 45 гадоў, пробашч лідскі, **Мрачкоўскі Люцыян**, 34 гады, вікары лідскі, **Снягоцкі Стэфан**, 29 гадоў, вікары Фарнага касцёла, **Аўгустыновіч Аляксандр**, 53 гады, пробашч з Няцечы.

Каталіцкія святары, а таксама **Балабанскі**, **Талучка**, **Паздзерскі**, **Мукінскі**, **Райзер** былі расстраляны немцамі на заходняй ускраіне Паўночнага гарадка. У красавіку 1943 г. сяляне в. Дайнава ноччу выкапалі святароў і перазахавалі іх у агародзе сям'і Ухто. У 1960 г. парэшткі расстраляных былі ўрачыста перазахаваны на могілках Слабадской парафіі.

*"10 сакавіка 1943 г. пасля дзевяцімесячнага ўтрымання ў турме былі расстраляныя 9 ксяндзоў: ксяндзы Лобан, Снігоцкі, Мрачкоўскі, Аўгустыновіч, Дабравольскі, Счаснеўскі, Бароўскі, Ажароўскі, прозвішча дзявятага ксяндза не ўстаноўлена. Дзесяты ксёндз па прозвішчу Буярын Сбег загінуў у турэмнай бальніцы ад сыпнога тыфу. Разам з ксяндзамі былі расстраляны Балабанскі, Талучка, Паздзерскі, Мукінскі, Райзеўр. Трупы ляжаць у розным палажэнні у спарахнелай верхняй вопратцы, усе яны маюць агнястрэльныя раненні ў вобласці патыліцы. Ў магіле знойдзены акуляры ксяндза Ажароўскага і драўляны пратэз кісці перадплечча фінансіста Паздзерскага."* (Акт ад 17.08.1944 г.)

# Горад Бярозаўка

**1. Скульптура "Маці ў жалобе"** на брацкай магіле 200 ваеннапалонных расстраляных у 1942 г. Левы бераг Нёмана, на 2 км заходняй ад г. Бярозаўкі. Помнік пастаўлены ў 1953 г. Надпіс на пастаменце: ***"Вечная память героям, павшим в***



***борьбе за свободу и независимость нашей Родины."*** Магіла агароджана металічнай агароджай.

*"Ваеннапалонныя ўзводзілі пад наглядам немцаў мост праз раку. А калі будаўніцтва закончылася, немцы адагналі гэтых салдацікаў метраў дзвесце ад берага і палівалі з кулямёта свінцовымі кулямі. А потым па ямах з забітымі танкам праехалі, яшчэ жывых душылі. У дадатак галодныя ваўкі з лесу прыбягалі, выцягвалі ледзь прыцярушаныя целы і рвалі на кавалкі. А якія хлопчыкі былі гэтыя ваеннапалонныя! Сібіракі, адзін у аднаго - прыгожыя, статныя".*

*(Філіповіч Л. Смуткуючыя мадонны. // Лідская газета ад 7.03.2002 г.)*

**2. Скульптурная кампазіцыя "Жанчына ў жалобе з дзіцем"** і пліта на брацкай магіле чырвонаармейцаў і партызанаў. Вул. Навагрудская, каля шклозавода "Нёман". Брацкая магіла (8х6 м) 21 воіна, прозвішчы 16 з іх невядомыя. Парэшткі былі знойдзены ў ваколіцах Бярозаўкі і перазахованы 27 чэрвеня 1952 г. На магіле ў 1957 г. пабудаваны помнік. Надпісы на пліце:



***"Ст. лейтенант Громов В.В., ст. сержант Филиппов М., сержант Коротков, рядовой Пугачев М., рядовой Комышев погибли в боях за свободуи независимость нашей Родины. 1941-1945.***
***Хочешь знать почему мы навеки великими стали?***
***Почему нас враги ни согнуть, ни сломать не могли?***
***Нас никто никогда не ковал из железа и стали,***
***Превратила нас в сталь цель, к которой мы шли."***

# Вёскі Лідскага раёна

## Агароднікі

**Стэла на брацкай магіле мірных жыхароў.** Надпіс на стэле: ***"Здесь похоронены советские граждане погибшие от немецко-фашистских захватчиков и их пособников в годы Великой Отечественной войны 1941-1945 гг."***



## Беліца

**1. Скульптурная кампазіцыя "Жанчына ў жалобе і суворавец"** на брацкай магіле 20 чырвонаармейцаў і партызан, забітых у 1941, 1943 и 1944 гг. Вядомыя імёны 11 чырвонаармейцев і 1 партызана. Магіла агароджана драўляным плотам. Помнік пастаўлены ў 1961 г.



2. Абеліск на месцы расстрэлу 47 беліцкіх яўрэяў. Надпіс на рускай і яўрэйскай мовах: ***"Вечная память евреям Белицы расстрелянным фашистами 23 июля 1941 года"***, шасціканцовая зорка. Агароджаны металічнай агароджаю.



Ян Усцінавіч Качан расказаў: *«У той дзень нямецкія салдаты затрымалі мяне на вуліцы і загадалі ісці з імі. Прывялі на былое польскае стрэльбішча. Бачу: у метрах 60 ад праваслаўнай царквы нашы местачковыя яўрэі капаюць яму ў рове стрэльбішча. Іншыя сядзяць наводдаль, пад крыжам. І сагнаны сюды толькі мужчыны. З боку царквы на яму немцы ставяць кулямёт. … Выбралі немцы першых ці то пяць, ці то сем яўрэяў і загадалі бегчы да ямы. Тыя пабеглі, а па іх кулямётнай чаргой… Паднялі наступную групу і піхнулі ў бок ямы… Потым яшчэ.. Лямант, крык, стогн… Страляніна закончылася.Падпіхнулі мяне да ямы. Немец даў рыдлёўку ў рукі, зрабіў жэст, маўляў, засыпай. Загадалі таксама закопваць растраляных братам Сакалоўскім, Антону і Вацаку і мясцоваму пажылому дзядзьку. Нямецкія салдаты пачалі разыходзіцца. І тут раптам нейкі бедалага падняў галаву, застагнаў. Забойцы вярнуліся. Паўскідалі свае карабіны і проста-такі зрашэцілі ўсю яму. Зноў махнулі нам, нешта па нямецку скамандавалі. Мы зразумелі: патрабуюць хутчэй засыпаць … Тых, хто застаўся - жонак, дзяцей, старых, немцы незадоўга пасля гэтага пагналі ў гета ў Дзятлава."* (Петрулевіч Л. Іх расстралялі у Беліцы. // Лідская газета ад 29 траўня 1997 г.)

## Бердаўка

**Помнік на брацкай магіле афіцэраў, чырвонаармейцаў і партызанаў**. У парку. Помнік пастаўлены ў 1985 г. Стэла і фігура ў выглядзе 5-канечнай зоркі на бетонным пастаменце. На стэле тэкст:

***"Пусть же проходят за годами года.***
***Вас не забудет страна.***
***Свято и ревностно память народа***
***Ваши хранит имена."***



Спісы пахаваных уключаюць 9 афіцэраў, 11 сяржантаў, 2 яфрэйтараў, 24 шарагоўцаў, 3 партызанаў і 13 аднавяскоўцаў.

## Ваверка

**Бетонныя крыжы на магілах жаўнераў 7 батальёна 77 палка Арміі Краёвай** і жалезны крыж над сімвалічнай магілай камандзіра батальёна маёра Яна Піўніка "Панурага". На могілках. На металічнай таблічцы тэкст на польскай мове: ***"Тут спачываюць жаўнеры 7 бат. 77 пп Арміі Краёвай, загінулі разам са сваім камандзірам пар.***





***Янам Піўнікам "Панурым" ў жорсткім баі з немцамі 16.06.44 пад Яўлашамі-Багданамі. Слава іх памяці. Таварышы па зброі. 1995."*** Магілы агароджаны металічнай трубчатай агароджай. Тут жа ўстаноўлены металічны крыж ад арганізацыі "Страж польскіх магіл".

## Ганчары

**Мемарыяльны комплекс загінуўшым землякам-падпольшчыкам, партызанам і воінам Чырвонай Арміі**. У цэнтры вёскі. Пастаўлены ў 1988 г. На агульным бетонным п'едэстале абеліск з трох кубоў. На першым кубе тэкст ***"Вставай, страна огромная!"***. На другім - барэльефы трох чырвонаармейцев, маці з дзіцем, воіна з разгорнутым сцягам, загінуўшага салдата. На трэцім-рэпрадуктар. Ля асновы абеліска бетонныя лічбы ***"1941- 1945"***. На асобным узвышэнні пліты з прозвішчамі мірных жыхароў, знішчаных фашысцкімі карнікамі - 49 чалавек, партызанаў - 63 чалавекі, камсамольцаў-падпольшчыкаў - 7 чалавек, воінаў Чырвонай Арміі - 60 чалавек.



## Гарні

**Абеліск на магіле 5 чырвонаармейцаў**. У парку. Надпіс на абеліску: ***"Неизвестному солдату. 1967".*** Пастаўлены ў 1967 г. Агароджаны бетоннай агароджай.



## Гасцілаўцы

**1. Скульптура воіна і тры бетонныя пліты ў памяць пра загінуўшых землякоў.** На заходнім канцы вёскі, каля шашы Ліда-Гародня. Пабудаваны ў 1974 г. па праекту скульптара М. Палякова. На насыпным кургане скульптура воіна ў плашч-палатцы з аўтаматам. Вышыня кургана 2 м, скульптуры 3,2 м. На бетанаванай пляцоўцы 3 пліты, на першай з іх барэльеф ордэна Айчыннай вайны і тэкст: ***"Будут вечно жить в памяти имена тех, кто отдал жизнь за свободу***



***Родины"***, на дзвюх іншых – прозвішчы 37 загінуўшых землякоў.

*У ліпені 1974 г. адбыўся мітынг, які адкрыў старшыня Гасцілаўскага сельсавету М. Г. Зянкевіч. Выступілі першы сакратар Лідскага райкаму КПБ А. С. Грывачэўскі, ад ветэранаў вайны А. Г. Жардзецкі і інш. Ля помніка запалены вечны агонь і пакладзены кветкі.*

**2. Магіла невядомага салдата.**



**3. Магіла Чурсіна Аляксандра, які загінуў у 1944 годзе.**



## Голдава

***Стэла загінуўшым землякам - воінам, партызанам і актывістам Голдаўскага сельсавету.***

Помнік адкрыты 10 верасня 1967 г. Жалезабетонная аснова 3.7х3.1 м, стэла 4х1,33х0,3 м, абліцаваная мармуровай крошкай. Надпіс на стэле:

***"Мечту пронесите сквозь года***
***и жизнью наполните!***
***О тех, кто уже не придет никогда***
***заклинаю – помните!"***

Спіс загінуўшых уключае 73 прозвішчы. Агароджаны драўляным плотам.

*У нядзелю ў Голдаве адбыўся мітынг, пры-*



*свечаны адкрыццю помніка. Каля будынка праўлення калгасу сабраліся аднавяскоўцы, прыехалі людзі з навакольных вёсак, прыйшлі родныя і блізкія загінуўшых. У ганаровую вахту становяцца піянеры.*

*На трыбуне першы сакратар райкаму партыі М.Г.Мінкевіч, намеснік старшыні райвыканкома Г.П.Баранаў, старшыня калгаса М.А.-Манікала, ветэраны вайны і працы. Старшыня сельсавета Г.Тупік дае слова першаму сакратару РК КПБ т. Мінкевічу. Ён успамінае тыя суровыя гады, калі гартавалася наша воля і характар, калі у людзей была толькі адна думка – выратаваць Айчыну ад карычневай навалы. Так, нялёгка дасталася нам перамога, многія не вярнуліся з поля бітвы. Але памяць аб іх народ захавае на вякі. (Александровіч Б. Памяць народная.// Уперад № 145 (3589) ад 13 верасня 1967 г.)*

## Гуды

**Помнік лябрацкай магілы чырвонаармейцаў** 213 стралковага плка 56 стр. дывізіі, загінуўшых у баі 3 ліпеня 1941 г. Абеліск вышынёй 3 м з



пяціканцовай зоркай і стэла-крыло (3,2х0,9х0,25 м) на бетонным п'едэстале (4,5х1,5х0,4 м.). Увесь помнік размешчаны на бетоннай аснове 5,8х2х0,3 м. Ззаду помніка магіла агароджаная бетоннай рамкай 3.75 х2 м. Агароджа металічная 12х7,5 м. Перазахаванне праведзена 4 траўня 1966 г., у магіле пахаваны парэштк 57 чырвонаармейцаў.

Надпіс на абеліску: ***"Вечная память героям павшим в борьбе за свободу и независимость нашей Родины. 1941-1945 гг. Сооружен в 1967"***. Надпіс на стэле: ***"Красноармейцам и командирам 213 с.п. 56 с.д. павшим в бою с немецко-фашистскими захватчиками у д. Гуды 3 июля 1941 г."*** Надпіс на нахільнай пліце, што прымыкае да абеліска: ***"Сазонов С.Г., Абрамов Б. Н., Прокопченко Д.С., Рогачев Д.М., Коляденко Н.Г., Реутов А.П., Недзиев И.Г., Годин М.С. и 49 неизвестных бойцов и командиров"***.

*На світанні 2 ліпеня 1941 г. група воінаў 213 сп 56 сд пры перасячэнні шашы Ліда-Вільня натрапіла на засаду. Бой працягваўся ўвесь дзень. Большасць салдат загінула і была пахавана ў сямі магілах. 4 траўня 1966 года магілы былі ўскрыты, парэшткі перазахаваны, на месцы пахавання ўстаноўлены помнік.*

*У магілах разам з парэшткамі былі знойдзены вінтоўкі, сапёрныя рыдлёўкі, мноства стрэляных гільз, асабістыя рэчы: нажы, брытвы, ножны, мундштукі, небяспечныя брытвы, лыжкі, пласкагубцы, гадзіннік № 56994 2-га Маскоўскага гадзіннікавага завода. Былі знойдзены таксама 18 пластмасавых медальёнчыкаў, у якіх захоўваліся адрасы родных і блізкіх. Па захаваўшыхся запісах былі ўстаноўлены 8 прозвішчаў.*

## Дакудава

**Стэла загінуўшым землякам.** Каля будынка сельсавету. Помнік пастаўлены 9 траўня 1968 г. Тэкст на стэле: ***"Вечная слава героям, павшим в боях за свободу и независимость нашей Родины. 1941-1945"***. Спіс загінуўшых з 133 прозвішчаў.



## Далекія

**Стэла загінуўшым землякам.** У цэнтре вёскі, каля канторы. Помнік пабудаваны па праекту рабочага саўгаса "Тарнова" Круглага Уладзіміра Рафалавіча. Адкрыццё адбылося 4 лістапада 1967 г. Агульная вышыня помніка 4,6 м. Ступенькі 2,9х2,1м, тумба 1,12х 0,71х 0,83 м, стэла вышынёй 3 м, шырынёй 0,98 м. На помніку надпіс: ***"Вечная слава землякам погибшим за Родину в 1941-1945 гг"***. Мармуровая дошка (0,6х0,6 м) з проз-



вішчамі 8 аднавяскоўцаў: Нічыпар Аляксандр І., Нічыпар Микалай Я., Нічыпар Іван Ф., Капля Аляксей І., Ёкуш Іосіф Д., Черап Пётр М., Жукоўскі Вацлаў А., Бачаноўскі Баляслаў В. Агароджаны металічнымі ланцугамі на слупках.

## Дворышча

**Скульптурная кампазіцыя загінуўшым землякам і савецкім актывістам.** Каля школы. Помнік пастаўлены ў 1985 г. з барэльефнымі выявамі лікаў 2 воінаў, партызана, 2 жанчын і дзіцяці. Надпіс на нахільнай пліце ***"Подвиг народа бессмертен"***.



## Дзітва

**Абеліск на магіле невядомага салдата.** Устаноўлены на могілках за 2 кіламетры ад пасёлка. Афармлены як звычайны помнік на звычайнай магіле. Выкананы са штучнага мармуру (бетон і мармуровая крошка). Надпіс на помніку: ***"Неизвестному солдату"***.



## Дроздава

**Стэла загінуўшым камсамольцам-падпольшчыкам, воінам, партызанам і землякам-актывістам.** На заходнім канцы вёскі, на скрыжаванні дарог Ліда-Слонім, Ганчары - Масявічы. Пастаўлены помнік у 1967 г. Аснова 6,5х4 м, вышыня 4 м. Жалезабетон, абліцоўка з мармуровай крошкі. Тэкст на стэле: ***"Через века, через года, помните! О тех, кто уже не придет никогда - помните!"***.

Ля падножжа стэлы пліта з тэкстам: ***"Здесь, в д. Дроздово, в годы Великой Отечественной войны была создана первая на Лидчине подпольная комсомольская организация. Комсомольцы вместе с партизанами вели решительную борьбу с гитлеровскими захватчиками. В борьбе за свободу и независимость нашей Родины погибли комсомольцы-подпольщики: 1941-1945. Владимир Кудло, Иван Кудло, Александр Козел, Нина Дешук, Леонид Дешук, Виктор Кумпяк, Геннадий Шут".***

***"Они погибли в борьбе за наше счастье. 1941-1945".*** Спіс з 23 прозвішчаў.



## Збляны

**Стэла загінуўшым землякам.** Каля клуба. Помнік пастаўлены ў 1967 г. Надпіс на стэле: ***"Люди! Светлую память почтите тех, кто насмерть стоял, кто нам жизнь отстоял, кто нам мир на земле завещал"***. Спіс з 35 прозвішчаў. Агароджаны металічным плотам.



## Красноўцы

**Стэла на магіле чырвонаармейца, загінуўшага ў баі ў чэрвені 1941 г**. Каля сярэдняй школы. Пастаўлена в 1957 годзе. Надпіс на стэле: ***"Имя его неизвестно. Недалеко от д. Красновцы в первые дни Великой Отечественной войны, прикрывая отход своей части, мужественно сражался с фашистами и геройски погиб советский солдат. Умирая, не умрет герой - мужество останется в веках".***



## Крыніцы

**Стэла загінуўшым землякам і старшыням сельсаветаў**. У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў 1967 г. Надпіс на стэле: ***“Богуслав С.В. Борило М.И. Урбанович Н. Гольманд Ю.Б. Рогойша В.Б. Лысковка Б.А. Лысковка Б.М зверски убитые белобандитами. Кухарев Д.Н. председатель Гервеникского сельсовета со всей семьей, Сафронов И.Н председатель Трокельского сельсовета”***. Над надпісам баральеф ордэна Айчыннай вайны.



## Леснікі

**Скульптурная кампазіцыя “Жанчына ў жалобе з сувораўцам”** сялянам в. Леснікі, расстраляным і спаленым 6 жніўня 1942 г. У цэнтры вёскі. Помнік пабудаваны ў 1957 г. Жалезабетонная аснова 9,7х 4,2 м вышынёй 1,28 м., на ёй бетонны куб вышынёй 2 м, на кубе статуі жанчы-



ны і суворайца. Вышыня статуі жанчыны 3 м. На краях асновы дзве пахавальныя чашы. Тэкст ***“Вечная память погибшим от рук немецко-фашистских захватчиков 6 августа 1942 г.”***. На адвароце: ***«1941-1945»***. На аснове тры барэльефы: “Партызаны падрываюць цягнік”, “Ордэн Айчыннай вайны ў атачэнні чырвоных сцягоў”, “Чырвонаармейцы ў атацы”. Загінуўшыя пахаваны на царкоўных могілках у Бабрах. Падчас карнай акцыі было знішчана 99 двароў і 81 чалавек, сем сямей цалкам і 18 дзяцей.

## Мінойты

**Абеліск на брацкай магіле хворых Мінойтаўскай псіхіятрычнай бальніцы.** На могілках. Надпіс на абеліску: ***“Здесь похоронены больные больницы Минойты погибшие от рук немецко-фашистских захватчиков в период войны 1941 года”***. Помнік агароджаны металічным плотам.



## Навасёлкі

**Металічны крыж на магіле польскіх афіцэраў,** расстраляных у верасні 1939 года на гэтым



жа месцы. Каля дарогі Ліда-Бердаўка паміж вёскамі Навасёлкі і Дуброўня. Надпіс на крыжы: ***“Na tym skrawku ziemi we wrzesnu 1939 roku zostali rozstrzelani i pogrzebani trzej nieznani oficerowie Wojska Polskiego. Czesc Ich Pamienci!”*** *(“На тым лапіку зямлі ў верасні 1939 года былі расстраляныя і пахаваныя трое невядомых афіцэраў Войска Польскага. Слава Іх Памяці!”).*

## Навіцкія - 2

**Абеліск на брацкай магіле чырвонаармейцаў і партызанаў.** На могілках. Пастаўлены ў 1967 г. На могілках таксама пахаваныя: Максім Цімафеевіч Бачкоў, Іван Антонавіч Дабрынецкі, Юзаф Станіслававіч Хітрун, Мікалай Іосіфавіч Хітрун, Баляслаў Варфаламеевіч Букатка, якія загінулі 22 і 23 чэрвеня 1941 г. на аэрадроме.

*“... Ля векавыъх сосен, што прытуліліся да вёскі Навіцкія, устаноўлены сціплы абеліск у памяць загинуўшых воінаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Менавіта сюды ў першы дзень заняткаў у*



*школе прыйшлі вучні Кенцеускай васьмігадовай і Качаноўскай пачатковай школаў. Аб свяшчэнным абавязку падрастаючага пакалення памятаць і памнажаць традыцыі бацькоў, вучыцца на гераізме савецкіх людзей гаварылі сакратар партарганізацыі калгаса “Запаветы Ільіча” А.Асадчы, калгаснік А.Паўлоускі, загадчык вытворчага ўчастка І. Хітрун, перадавая даярка А. Зубрык. Усе выступаючыя пажадалі дзецям добрых поспехаў у вучобе, заклікалі іх быць дастойнымі бацькоў. Ля абеліска выступілі вучні Соня Філіпчык з Качаноўскай школы, якая прачытала верш «Ля магілы невядомага салдата”, Тарэза Баркоўская з той жа школы расказала верш “На век помні”. З глыбокім хваляваннем прачытала верш «Будучае наша» Аня Хітрун. Перад дзецьмі выступіў ветэран Вялікай Айчыннай вайны, член камітэта ветэранаў вайны, маёр запасу Пётр Кірылавіч Галаваты. А потым ля помніка дзеці ўсклалі жывыя кветкі» (Газета «Уперад», №142, 08.09.1967).*

## Няцеч

**Абеліск з палявых камянёў і крыжы над магіламі жаўнераў 4 батальёна 77 палка Арміі Краёвай.** На могілках.



## Парачаны

1. Стэла ў гонар воінаў 86 кавалерыйскага палка. За 500 м на ўсход ад вёскі, каля моста цераз р. Дзітву, на правым беразе. Пастаўлена 8 ліпеня 1970 г. Надпіс на табліцы: ***“8 июля 1944 г. 86-ой кавалерийский, впоследствии Лидский полк 32–ой Смоленской кавдивизии в районе деревень Поречаны и Белогруда разгромил 33-ий полк фашистов, первым ворвался в город Лида. В этом бою трагически погиб командир 86-ого полка гв. подполковник Труханов Алексей Федорович. Вечная слава героям павшим в борьбе за честь, свободу и независимость нашей Родины!”***

*“Ордэны Леніна, Чырвонага Сцяга, Суворава ўпрыгожвалі гэтыя багатырскія грудзі, і шмат іх, напэўна, падарыла б Радзіма свайму адважнаму сыну, камуністу і патрыёту, ды вось не лёс... Я і Вінаградны неадкладна паімчаліся ў шпіталь. Каля ўваходу ў палатку нас сустрэў доктар, які далажыў, што Труханаў парываецца ўстаць, буяніць, адразу пасля перавязкі запатрабаваў*



*падаць каня, таму што, быццам бы павінен весці ў атаку полк.*

*У сне Труханаў цяжка дыхаў. Увесь ён нагадваў вялізарны камяк марлі - кулямётная чарга перарэзала жывот. Рана смяртэльная. Толькі незвычайная фізічная сіла падтрымлівае ў ім слабую іскру жыцця.*

*- Няўжо нічога нельга зрабіць?*

*- Нажаль, нічога. Яму засталося гадзіна-паўтары, не больш. Ён прачнецца, але адразу памрэ...*

*Доктар не памыліўся, Труханоў прыйшоў у сябе. Запіску нашую яму прачыталі ўслух. Ён усміхнуўся, прашаптаў: “Дзякуй!”. Цераз паўгадзіны героя не стала. (Д.Добрушин. Ходили мы походами. Волгоград. 1972. С. 192)*

**2. Стэла ў гонар Героя Савецкага Саюза яфрэйтара Сяргея Балгарына.** За 500 м на ўсход ад вёскі, каля чыгуначнага моста на правым беразе р. Дзітва. Пастаўлены ў 1980 г.

Стэла стылізавана пад сцяг, замацавана на бетонным пастаменце. Надпіс на стэле ***“За нашу Советскую Родину”***. Надпіс на табліцы, прымацаванай да стэлы: ***“Здесь 8 июля 1944 года пулеметчик 86 кавалерийского полка ефрейтор Болгарин Сергей Иванович проявил мужество и храбрость, спасая жд мост от взрыва, за что удостоен звания Героя Советского Союза”.***

Кароткае канкрэтнае апісанне асабістага баявога вычыну:

*“25.06.1944 у баях за в. Шакі Багушэўскага раёна Віцебскай вобласці тав. Балгарын сваім кулямётам знішчыў 25 нямецкіх салдатаў, адзін кулямёт супрацiўніка і ўзяў у палон 3-х немцаў.*

*8.07.1944 г. у баях на подступах да горада Ліда ў раёне в. Татары (Татарцы) тав. Балгарын сваім кулямётам знішчыў 5 нямецкіх салдатаў і афіцэраў, у тым ліку забіў камандзіра 31-га ахоўнага нямецкага палка, палкоўніка, які быў тройчы ўзнагароджаны ордэнам Жалезнага Крыжа.*

*10.07.1944 г. у баях за пераправу на рэчцы Дзітва ў раёне вёскі Пажэчаны (Парачаны) Лідскага раёна, ведучы ўраганны агонь, рассеяў нямецкіх сапёраў, якія спрабавалі ўзарваць чыгуначны мост на р. Дзітва. Пры агнявой падтрымцы кулямёта Балгарына 4-ы эскадрон захапіў чыгуначны мост у поўнай спраўнасці. У гэтым баі тав. Балгарын быў паранены.* (З прадстаўлення на ўзнагароджанне ад 25 ліпеня 1944 г.)

## Парэчча

**Скульптура воіна ў плашч-накідцы з аўтаматам ППШ на брацкай магіле 9 партызан і 5 чырвонаармейцаў**. Каля бальніцы, у скверы. Помнік адкрыты 17 верасня 1957 года. Пахаваны партызаны, загінуўшыя 29 чэрвеня 1943 г. і воіны, якія загінулі ў 1941 і 1944 гг. Жалезабетонная аснова 3,1х3,1 м, вышыня пастамента 2,1 м, вышыня скульптуры 2,5 м. Тэкст: ***“Вечная память героям, павшим в боях за освобождение и независимость нашей Родины”.*** На табліцы: ***“Вечная память героям, погибшим 29.06.1943 г. Ком. взвода Луговцов Б.С., ст. с-т Бутовский Д.С., кр-ц Коваленко К.М., кр-ц Костякова Т.Д., кр-ц Николаев Н.Г., кр-ц Фурс Н.И.”***



*29 чэрвеня 1943 г. група партызан аддзела ім. Варашылава ў колькасці 62 чалавек ля вёскі Пацукі наткнулася на заслон Арміі Краёвай. У баі загінула 9 партызан: бокаў Аляксандр Архіпавіч, 1918 г.н., Бутоўскі Зміцер сяргеевіч, 1917 г.н., Каваленка Кузьма М., 1922 г.н., Казлоўскі Іван Пракопавіч, 1920 г.н., Касцякова Тацяна Змітраўна, 1925 г.н., Лугаўцоў Барыс Сяргеевіч, 1918 г. н., Мядзведзеў Сямён Іванавіч, 1917 г.н., Мікалаеў Мікалай Гаўрылавіч, 1922 г.н., Фурс Мікалай Восіпавіч, 1921 г.н., шмат партызанаў было паранена. Страты акаўцаў: 27 забітых і мноства параненых.*

*На помніку адсутнічаюць прозвішчы Бокава, Казлоўскага і Мядзведзева.*

## Сялец

**1. Абеліск на брацкай магіле мірных жыхароў, расстраляных фашыстамі 23 ліпеня 1941 года.** За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік. У магіле 50 яўрэяў



і 13 жыхароў вёскі. На пліце 4х4 м пастаўлены абеліск вышынёй 2 м. Надпіс на абеліску: ***“Здесь похоронены активисты д. Селец зверски расстреляны немецко-фашистскими оккупантами 23.У11.1941. Некрашевич А.И., Некрашевич Н.И., Кудаш Е.К., Федюкевич Н.Ф., Бурдун Е.И., Мартинкевич М.М., Маньковская Е.М., Венский А.А., Сабоста К.Ф., Мартюк С., Клейда И.М., Шешко С.И., Дурейко П.М.”***

Побач магіла, у якой пахаваны два невядомыя ваеннапалонныя, якія ўцяклі з будоўлі маста ў Агародніках. Помнік агароджаны жалезнай агароджай.

**2. Помнік і 10 надмагільных стэлаў на магілах 12 сялян,** расстраляных жаўнерамі Арміі Краёвай ў вялікодную нядзелю ў Голдаве. На могілках. Галоўная стэла і бетонная пліта размешчаны перад могілкамі, 12 магілаў унутры могілак. На галоўнай стэле надпіс:

***“Здесь похоронены советские граждане, погибшие от рук немецко-фашистских захватчиков и их пособников в годы Великой Отечественной войны 1941 -1945 гг.”***, у правым куце пяцікутняя зорка. На надмагільных стэлах прозвішчы расстраляных:

“***Ганевич Сергей Иосифович (1898-1944)***
***Гуйдо Ольга Михайловна (- 1944)***
***Дычек Владимир Григорьевич (1912-1944)***
***Клейда Николай Николаевич (1905- 1944)***
***Кудош Владимир Степанович (1921-1944)***
***Некрашевич Александр Михайлович (1891-1944)***



***Некрашевич Александр Степанович (1906-1944)***
***Свороб Павел Пилипович (1901-1944)***
***Сивицкий Владимир Адольфович (1903-1944)***
***Федюкевич Михаил Михайлович (1905-1944)***
***Шатюк Иван Петрович (1903-1944)***
***Юшчук Антон Михайлович (1884-1944)”***

## Тарнова

**Абеліск загінуўшым землякам.** У парку. Помнік адкрыты 3 верасня 1967 г. Ступенькавы жалезабетонны абеліск, абліцованы мармуровай крошкай вышынёй 5,1 м, увенчаны зоркай. Аснова 5х5 м. Надпіс на абеліску: ***“Вечная слава павшим в боях за свободу и независимость нашей Родины. 1941-1945 г.”*** На ўмацціраванай табліцы спіс з 29 прозвішчаў.



*3 верасня 1967 года сотні жыхароў Тарнова і навакольных вёсак сабраліся, каб прысутнічаць на адкрыцці помніка-абеліска воінам –землякам, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны,і савецкім актывістам, якія палі ад рук бандытаў. Старшыня Белагрудскага сельскага савета Г.С. Халявінскі адкрывае мітынг. Выступілі старшыня райвыканкома М.І.Макараў, дырэктар саўгаса А.Ц.Новікаў, сакратар камсамольскай арганізацыі адзялення “Фалькавічы” В.Чысты, ветэран І.В. Гаель, член камітэта ветэранаў вайны П.К. Галаваты, юныя ленінцы Белагрудскай і Нецецкай васьмігодак, родныя загінуўшых Вікенцій Іосіфавіч Шацюк і Аляксандр Міхайлавіч Дзевяты.*

*Піянерка – выдатніца Белагрудскай школы Галіна Баранава падносіць ножніцы. Права адкрыць помнік прадастаўляецца лепшай даярцы саўгаса Г.П.Рудзінскай, удзельніку Вялікай Айчыннай вайны П.Г.Баярчуку, сакратару Лідскага РК КПБ В.Г.Рыбачонку, старшыні райвыканкама М.І.Макараву, дырэктару саўгаса А.Ц.Новікаву. Знімаецца белае пакрывала, і перад вачыма соцень людзей адкрыўся велічны помнік-абеліск у выглядзе шасціметровай чатырохграннай пірамідзі, вяршыню якой вянчае зорка.*

*Намеснік дырэктара саўгаса І.П. Гушча*

*зачытвае тэкст завяшчання патомкам. Тэкст завяшчання ўкладваецца у капсулу, якая замуроўваецца ля падножжа помніка. Гучыць жалобная мелодыя...*

*(Г.Сонгін, А.Самсонаў. Памяць народная – на вякі.// Уперад. № 143 (3587) ад 9 верасня 1967 г.)*

## Ходараўцы

Стэла загінуўшым землякам. На паўднёвым канцы вёскі. Пастаўлена ў 1966г. Стэла замацована на бетоннай трохступенькавай аснове. Надпіс на стэле: ***"1941-1945. Люди! Молчанием Вы светлую память почтите тех, кто насмерть стоял, кто нам жизнь отстоял, кто нам мир на земле завещал".***



## Шаўдзіні

Абеліск на месцы гібелі ваеннапалонных, расстраляных жаўнерамі АК восенню 1943 г. Надпіс на абеліску: ***"Здесь осенью 1943 г. были расстреляны националистами бойцы и командиры Советской Армии, среди них: майор Киселев Н.В., Ситиков. Фамилии остальных неизвестны".*** Агароджаны металічнай агароджаю.

Кісялёў Мікалай Васілевіч, які згадваецца



сярод загінуўшых, быў камандзірам 927 сб 251 сп, значыўся без вестак прапаўшым у верасні 1943 г. Па заданні камандавання яго група перайшла лінію фронту і трапіла ў палон. Ваеннапалонных пагрузілі ў вагон і адправілі ў Германію. На перагоне Ліда-Ваўкавыск палонныя выламалі ў падлозе дошку, апусцілі канцом на шпалы і адзін за другім выкінуліся з цягніка на поўным ходзе.

*"У нашай вёсцы ў 1943 г. размясціўся аддзел акаўцаў. ... У адзін з дзён бандыты ўспалашыліся. Схапілі зброю і паспяшаліся да сябе ў штаб. А па Шаўдзінях чутка прайшла, маўляў дзеўчына з хутара бачыла недалёка рускіх вайскоўцаў, хлеба яны ў яе прасілі. Яна то і прагаварылася некаму з "белых". І вось пад вечар вядуць бяззбройных салдацікаў. Спярша - адну групу, чалавек сем, потым такую ж другую. Відаць, не ўдалося бедным уцячы. Сядзяць яны на лаўцы каля вясковага крыжа, маладзенькія, худзенькія і ўгаворваюць: "Браты, адпусціце нас. У нас мацяры, як у вас, дома чакаюць дзяўчаты". Ды дзе ж ты ўпросіш тых бандытаў. Тады заспявалі салдацікі, ды так, што хто іх чуў з нашых шаўдзінёўскіх, гаварыў: сэрца крывёю аблівалася.*

*На ноч загналі іх акаўцы ў гумно. А на наступны дзень дзесьці пад абед чуем: "Бах, бабах", - расстрэльваць палонных пачалі. ... Бандыты палонных распранaлі, па аднаму з тога гумна выводзілі і расстрэльвалі, дзе давядзецца. Потым забітых бандыты ў яме з-пад бульбы недалёка ад таго гумна пахавалі.*

*... Старшыня калгасу В. Ю. Усціновіч і дырэктар Моцевіцкай школы А. М. Кучура арганізавалі людзей і на месцы пахавання тых салдацікаў паставілі абеліск. Праўда і камісія ў Шаўдзіні прыязджала. Пасля гэтага парэшткі забітых перавезлі ў Жалудок і там пахавалі ў брацкай магіле."* (Петрулевіч Л. И внезапно из забытой дали песня выплывает в полусне. // Лідская газета ад 27 траўня 2004 г.)

## Янцэвічы

**Металічны крыж на магілах жаўнераў Арміі Краёвай**. На могілках.

Пастаўлены ў кастрычніку 2004 г.



***Фёдар Кардаш***

# У ЦЯНЁТАХ АКУПАЦЫІ

***Фёдар Іванавіч Кардаш нарадзіўся 5 студзеня 1932 года ў в. Харашкі Дзятлаўскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Быў размеркаваны ў газету раённага цэнтра Чырвоная Слабада Менскай вобласці. Напісаў ліст у ЦК КПСС на 50-ці аркушах, дзе выклаў сваё бачанне беззаконня і парушэння правоў чалавека ў СССР. У 1956 годзе быў асуджаны на два гады лагераў. Пакаранне адбываў у Мардовіі. Пасля вяртання працаваў у розных месцах, у тым ліку ў Пружанскай раённай газеце, а ў 1961 годзе з дапамогай аднакурсніка, сёння вядомага паэта, перабраўся ў Ліду на пасаду літработніка ў газеце "Уперад". Прыняў на працу былога палітвязьня рэдактар Гарэлік. Пазней Фёдар Кардаш працаваў загадчыкам прамысловага аддзелу і сакратаром рэдакцыі. З 1966 года на працягу 20 гадоў Фёдар Кардаш працаваў уласным карэспандэнтам газеты "Гродзенская праўда" па "Лідскім кусце" (Ліда, Лідскі, Іўеўскі, Воранаўскі раёны). У пачатку 90-х заснаваў і выдаў 23 асобнікі першай лідскай недзяржаўнай газеты "Народная трыбуна" (пазней "Голас з Ліды"). Пасля 1995 года жыве ў Менску. Перанёс дзве аперацыі.***

***Пра свой лёс і свой жыццёвы шлях Фёдар Кардаш распавядае ў гэтай публікацыі.***



***Фёдар Кардаш, Ліда, 2005 г.***

1955 год. Скончана вучоба на аддзяленні журналістыкі БДУ. У кішэні дыплом і паперка-накіраванне агітпропа ЦК КПБ. Месца прызначэння – рэдакцыя газеты Чырвонаслабодскага раёна Менскай вобласці.

Уздыхнуў з палёгкай, бо, па праўдзе кажучы, абрыдла туляцца ў сценах альма-матэр ажно пяць гадоў. На добры толк усю праграму можна было засвоіць і за палову адведзенага тэрміну. Калі б радыкальна скараціць час на гістарыю КПСС, ды іншыя, не вельмі патрэбныя для газетчыка дысцыпліны. Але партыйныя ідэёлагі, пэўна, думалі інакш, лічылі неабходным грунтоўна прамыць мазгі моладзі, каб яна цвёрда трымалася генеральнай лініі КПСС і не збочвала налева ці направа ад яе.

**БЕЛАРУСКІ ТОЛЬКІ ПА НАЗВЕ**

Нельга не адзначыць той факт, што ўсе прадметы выкладаліся ва універсітэце на рускай мове. І толькі гісторыю БССР чытаў па-беларуску вядомы тады дацэнт Л. Абэцэдарскі. Пазней ён выдаў "на-гара" сумесна з такімі ж навукоўцамі фальсіфікаваную ў духу расійскага шавінізму гісторыю Беларусі, а затым асобную брашуру пра так званых нацдэмаў, якіх бяздоказна абвінавагаціў у скажэнні роднай гісторыі, хоць скажаў якраз ён сам са сваімі калегамі.

Зрэшты, гвалтоўная русіфікацыя мела месца не толькі ў ВНУ, але і ў школах, нават сельскіх. Гэта я магу сцвярджаць зыходзячы з уласнага досведу. У Маўчадскай СШ раней Гарадзішчанскага, а зараз Баранавіцкага раёна, дзе я вучыўся ў першыя пасляваенныя гады, матэматыку, напрыклад, выкладаў па-беларуску пажылы настаўнік. Калі ён пайшоў на пенсію, прыслалі рускамоўную жанчыну. І ніхто ні нас, ні бацькоў не спытаў, ці жадаем мы пераходзіць на "великий и могучий язык". Нават урокі геаграфіі вяліся па-руску, бо выкладчык, ён жа дырэктар школы, прыбыў да нас з суседняй рэспублікі…

Смешна, калі б не было так сумна, але будучым беларускім журналістам за пяць гадоў вучобы ніхто з універсітэцкай кафедры не сказаў ні аднаго добрага слова пра дарэвалюцыйны беларускі друк. Як быццам бы яго і не існавала. Нават пра знакамітую "Нашу Ніву", дзейнасць якой склала цэлую эпоху ў нацыянальным руху,

кал і ўспаміналі, дык абразліва называлі буржуазна-нацыяналістычнай газеткай.

Выкладчык Акулаў, былы карэспандэнт "Правды" па Далёкім Усходзе, разважна апавядаў толькі аб расійскай журналістыцы да 1917 г., а дацэнт М. Зярніцкі – пра савецкі друк Беларусі.

Двое з названых выкладчыкаў праявілі да мяне асабістую ўвагу. Гэта было яшчэ ў час уступных экзаменаў. Гісторыку Абэцэдарскаму, відаць, спадабаліся мае адказы на пытанні, што значыліся ў білеце. І ён прапанаваў мне пераходзіць на гістарычны факультэт. Але я ўжо "навастрыў лыжы" на журналістыку і адмовіўся, хоць, можа, і трэба было згаджацца. Ды зараз позна шкадаваць аб тым. Што датычыць М. Зярніцкага, то ён сустрэўшы мяне ўжо пасля абароны дыпломнай работы, сказаў, каб я паступаў у аспірантуру пры БДУ. Але гэта мяне таксама не прывабіла, бо я спяшаўся хутчэй расстацца з ВНУ і акунуцца, як тады казалі, у жыццё, змагацца за справядлівасць, за сапраўдны сацыялізм, а не за тое, што будавалі ў маёй роднай вёсцы Харашкі...

У сувязі з Акулавым прыходзіць на памяць яшчэ адзін пацешны эпізод. Справа ў тым, што ў праграме навучання яўна бракавала непасрэдна газетнай практыкі. Толькі на другім і чацвёртым курсах нас пасылалі на некалькі тыдняў у рэдакцыі раённых ды абласных газет. Але не ўсюды стажорам аказвалі дапамогу. Яны часта былі прадастаўлены самі сабе. Да іх адносіліся абыякава, а падчас проста са злосцю: некалі, маўляў, з табой важдацца.

Таму набываць нават самыя простыя, але перш за ўсё неабходныя ў рабоце навыкі было нялёгка. Скажам, калі тэма запланаванага артыкула вызначана, то як канкрэтна ажыццявіць задуму, спланаваць яго, куды пайсці або паехаць, з кім сустрэцца, як правесці гутарку і г.д. каб справіцца з заданнем. Патрэбна было валодаць пэўнымі ведамі, прыёмамі і метадамі працы. І гэтаму якраз удзялялася мала ўвагі, у навучанні панаваў тэарэтычны ўхіл. Пэўна, каб пазбавіцца таго недахопу, Акулаў і вырашыў запрасіць да нас пісьменніка. Але закончылася сустрэча маленькім канфузам... Нашаму выкладчыку не спадабаўся досвед, шчыра раскрыты госцем. Аказваецца, з мэтай разгаварыць суразмоўцу пісьменнік-марыніст (ён пісаў на марскія тэмы) перш ставіў на стол выпіўку. Вось так за чаркай у якой-небудзь забягалаўцы ён і збіраў факты для чарговай аповесці або апавядання. Выкладчык спалохаўся, што мы набылі веды са знакам мінус і таму ў сваім заключэнні папярэдзіў, каб мы такі спосаб здабычы матэрыялу не прымянялі ў будучай працы. Усе трохі сумеліся, а госць добра-такі пачырванеў.

Але наўрад ці прысутныя аднадушна пагадзіліся з такой ацэнкай сказанага марыністам.

Асабліва самотна пачувалася на апошнім курсе – у другім паўгоддзі вучобы фактычна не было. Як і ўсе, я ў асноўным займаўся дыпломнай работай. Тэму для яе выбраў не абы-якую – аб барацьбе друку з бюракратызмам. Раумеў, даволі рызыкоўна, але ж уся палітычная сістэма Краіны Саветаў была наскрозь пранізана гэтай хваробай. Таму хацелася трохі лепш разабрацца, у чым прчына з'явы, з якой быцца бы ўсе змагаюцца, а перамагчы ніяк не могуць. Працуючы ў газеце, абавязкова сутыкнешся з ёю.

Думалася, галоўная бяда заключалася ў засіллі шматлікага адміністрацыйнага і кіраўнічага апарату і ў поўным бяспраўі так званага простага савецкага чалавека, народных мас, як любілі гаварыць бальшавікі. Ды і як мог шараговы грамадзянін штосьці патрабаваць ад мясцовай і тым больш ад вышэйшай улады, калі ён быў раз назаўсёды напалоханы, паралізаваны страхам перад гэтай уладай, якая з незвычайнай жорсткасцю распраўлялася з няўгоднымі ёй людзьмі і тым больш іншадумцамі. Адзіным правільным вучэннем лічыўся марксізм-ленінізм, крок ад яго ў бок караўся хутка і бязлітасна. Каб нікому не ўздумалася падтрымаць пацярпелага ці самому ісці той жа дарожкай.

Аднак ніякія рэпрэсіі, ніякія пагрозы не могуць спыніць імкненне чалавека да пошуку сапраўды, справядлівасці, прычын ненармальнага стану грамадства. Нядзіўна, што многія студэнты, асабліва старэйшыя, хто паспеў паслужыць у арміі, панюхаць пораху на фронце ці папрацаваць у калгасе, на прадпрыемстве, ужо не глядзелі праз ружовыя акуляры на савецкую рэчаіснасць. Паміж сабой у вузкім коле хлопцы рэзалі праўду-матку, асуджалі вусатага правадыра за здзекі над народам. У гарачых падчас спрэчках даказвалі адзін другому і самім сабе, што пануючая сістэма наскрозь прагніла, трымаецца на хлусні і гвалце, не здольна палепшыць жыццё народа.

Многія ўжо разумелі, што абяцанкі пабудаваць сацыялізм, а затым і камуністычны рай нічога не варты. Уласна кажучы, дастаткова было пахадзіць па горадзе, каб пераканацца ў разыходжанні тэорыі з практыкай. Усюды можна было наглядаць бясконцыя чэргі.

- Што даюць? – пытаеш у крайняга.

- Ды муку, не бачыш? Унь нясуць, хто атаварыўся, даскочыў раней, - незадаволена адказваў той.

У другім месцы давалі штосьці іншае. Таксама трэба было стаяць у чарзе, таму што бракавала нават самых неабходных прадуктаў і тавараў. Перад святамі чэргі павялічваліся, бо "выкідвалі" на продаж больш розных прыпасаў. Дэфіцытам жа было амаль усё, а тут раптам нешта з'яўлялася на прылаўках. Трэба толькі гадзіну-другую пастаяць, пацярпець, авось дастанецца які-небудзь кілаграм мукі-крупаў ці

што з адзення. Словам, для савецкага чалавека перад рэвалюцыйнымі святамі наставалі, як тады гаварылі, "мучныя" дні. І гэта тварылася ў сталіцы. Што ўжо казаць пра глыбінку, там нават хлеб выдавалі па спісах, бо карткі фармальна адмянілі.

Абараніўшы дыпломную работу на выдатна, я сапраўды мог прэтэндаваць, калі не на аспірантуру, дык хоць бы на абласную газету. Але яшчэ ў пачатку пятага курса нам сказалі, што ўсіх адправяць у раённыя газеты. Я згадзіўся і сам напрасіўся паслаць мяне ва Усходнюю Беларусь. Тайная мэта, пра якую, канешне, нікому не казаў, - паглядзець, што робіцца ў краях, дзе савецкая ўлада ўсталявалася без малога сорак гадоў таму назад.

У Заходняй Беларусі я ўжо штосьці пабачыў і зрабіў для сябе пэўныя высновы, пра што пачаў пісаць у рэспубліканскую газету "Савецкі селянін", рэдакцыя якой у той час месцілася ў будынку насупраць Дома ўраду. Аднойчы для праверкі маёй пісаніны ў калгас завіталі ажно два карэспандэнты. Яны пахадзілі па вёсцы, пагутарылі з людзьмі, работнікамі канторы і пераканаліся, што селькор нічога не змяніў. У калгасе сапраўды не было парадку, і адна з прычын у тым, што старшыня моцна пасябраваў з "зялёным змеем".

У выніку ў газеце з'явіўся мой допіс і грунтоўны каментар заезджых журналістаў. Пару месяцаў раней у газеце таксам былі надрукаваны дзеве ці тры мае нататкі, і аўтару нават прыслалі ганарар.

- Ну што, мусіць, на картовыя штаны хапіла? – весела пасмяяліся з селькора мацёрыя пісакі.

Маці згатавала для гасцей абед, яечню з салам. Не было якраз хлеба, дык схадзіла да суседкі пазычыла, але мужыкоў накарміла і малака дала запіць. Вось так я пазнаёміўся з калегамі па будучай прафесіі.

### СПРАВЫ КАЛГАСНЫЯ

Пасля новай публікацыі калгаснага старшыню пазбавілі пасады. Але не адправілі простым паляводам у брыгаду. Уладкавалі на больш хлебнае месца, бо ён жа быў членам кампартыі, а яна сваіх людзей проста так не кідала.

Ішоў час, ды мала што мянялася ў калгасе. І цвярозыя кіраўнікі не маглі даць рады гаспадарцы, якая марнела на вачах. Людзі страчвалі веру ў лепшыя часы, бо з году ў год атрымлівалі на працадзень усяго па некалькі соцень грамаў збожжа. Яго нават на хлеб не хапала.

Паводле расказаў сялян нешта падобнае тварылася і ў навакольных вёсках, дзе прайшла калектывізацыя. Зрэшты, усе негатыўныя факты і з'явы спісваліся на цяжкасці росту.

- Нічога, - супакойвалі прыезджыя начальнікі. – паступова справы наладзяцца, калгасы пойдуць угору, лінія ж партыі правільная...

З лініяй партыі спрачацца, вядома, было цяжка і небяспечна, але верылася ў яе поспех слаба. Вось чаму мяне надта цікавіла, што творыцца там, дзе калгасы дзейнічаюць з канца 20-х гадоў.

Між тым, калісьці (гэта было яшчэ да вайны) многія сяляне з вялікай цікавасцю адносіліся да звестак пра перабудову вясковага жыцця. Я памятаю, як мой бацька з суседзямі чыталі і абмяркоўвалі статут сельгасарцелі і знаходзілі, што ў ім пераканаўча раскрываюцца вялікія магчымасці калгаснага ладу. Ну як жа ж, дзяржава прышле машыны, дапаможа набыць лепшыя гатункі насення збожжа, бульбы і іншых культур. Вырастуць ураджаі, і сяляне зажывуць заможна і шчасліва, прыйдзе, нарэшце, дастатак у хату.

На хвалях гэтых мрояў некалькі дзесяткаў сем'яў зімой 1940 года аб'ядналіся ў сельгасарцель. Кіраўніком абралі майго бацьку. Пачаліся працоўныя будні. Але вельмі хутка наступіла расчараванне, бо мары не спраўджваліся. На самай справе, завёў чалавек у калгас карову, каня, аддаў воз, плуг, барану, усё начынне. Забралі, як непатрэбнае яму, гумно. І што засталося? Штодзень хадзіць, як парабак, на працу, а заробку ж ніякага. Толькі ў канцы года, пасля разліку ў дзяржавай, стане вядома, якім будзе працадзень. А ён не мог быць важкім, таму што падаткі аказаліся непад'ёмныя. Атрымлівалася горш, чым у пана. Той плаціў рэгулярна і больш. Калгаснікі з горыччу казалі: "Раней было панава, а цяпер планава", і план гэты аказаўся проста бяздонным: колькі не здавай, а ўсё мала.

Самі сяляне не маглі фактычна самастойна вырашыць ні аднаго пытання, на ўсё трэба было мець згоду раённых кіраўнікоў. Наогул, калгас яны не забывалі (у той час іх мала было), амаль кожны дзень хтосьці наведваўся ў праўленне. Бацька павінен быў хадзіць, ездзіць з імі ў поле. На ферму, нешта тлумачыць, даказваць, прасіць дапамогі і г.д., а потым трэба было і пакарміць чалавека. Калі гэта адзін, два разы на месяц, а як праз дзень ці кожны дзень, што тады рабіць? І даводзілася карміць, бо сталовай жа не было.

Так, за некалькі месяцаў начальнікі паелі ўсе нашы кумпякі і кілбасы, якія звычайна захоўваліся да жніва, калі надыходзілі самыя цяжкія дні сялянскай працы. Бацьку так усё абрыдла, што ён задумаў як мага хутчэй пазбавіцца ад сваёй кіраўнічай пасады.

І хутка гэта здарылася. Адбыўся агульны сход, на якім старшынёй абралі новага чалавека, бедняка, значыць больш надзейнага для ўлады, бо мой бацька лічыўся серадняком, добрым гаспадаром і таму меў сваю думку ды не раз пярэчыў начальству.

Згубіўшы кіраўнічую пасаду, бацька быў яўна ў добрым настроі, ні на кога не крыўдаваў, адразу пайшоў у калгас рознарабочым. Праўда, не заўсёды там быў занятак. У такім выпадку хадзіў у арганізацыю, якая незадоўга перад тым пачала будаваць завод па вытворчасці вапны: блізка ад вёскі адкрылі паклады мелу.

**ВАЙНА, АДСТУПЛЕННЕ**

Хочацца адзначыць, што, неглядзячы на крах спадзяванняў аб лепшым жыцці, адносіны бацькі да савецкай улады не змяніліся. Мабыць, думаў, як і пераконвалі, што прычына ўсіх цяжкасцяў у складаным міжнародным становішчы, неабходнасці рыхтавацца да вайны. І неўзабаве прароцтвы агітатараў пацвердзіліся найгоршым чынам. 22 чэрвеня 1941 года мірнае жыццё было парушана. Фашысцкая Германія раптоўна, як і зараз сцвярджаюць некаторыя гісторыкі, напала на СССР. Але аб якой раптоўнасці можна казаць, калі нават па вёсках людзі гаварылі, што немцы падцягнулі да граніцы вялікія сілы.

Уражанні ад першых ваенных дзён назаўсёды ўрэзаліся ў памяць. Была нядзеля. Мы, хлапчукі, бавіліся на рэчцы і не адразу звярнулі ўвагу на пралятаючыя самалёты. Але раптам яны пачалі "даваць нырца", пачуліся моцныя выбухі. Мы зразумелі, што бамбілі блізкае да нас мястэчка Моўчадзь, пачалася вайна. Самалёты, як вараннё, кружыліся над паселішчам і скідалі свой смертаносны груз. Пазней даведаліся, што былі разбураныя вадзяны млын і мост на гасцінцы, больш там нічога вартага і не было.

Дзесьці на трэці-чацвёрты дзень праз нашы Харашкі пайшлі першыя адступаючыя савецкія салдаты. Амаль усе без зброі, без камандзіраў, кучкамі па 3-5 чалавек пацягнуліся сцежкай на Усход. Ісці па гасцінцы на Моўчадзь яны не маглі, бо там ужо гаспадарылі немцы.

За ўвесь час гэтага сумнага зыходу, які працягваўся дзён дзесяць, толькі аднойчы выпала пабачыць частку, гатовую да бою. Шыхтам пры поўным узбраенні пяхотны звяз вёў маладзенькі лейтэнанцік. Мы, хлапчукі, нават прайшлі за імі да канца вуліцы і памахалі на развітанне рукамі. Іншым разам па вёсцы прехалі дзве падводы, гружаныя хуткастрэльнымі дзесяцізараднымі вінтоўкамі СВТ. Мужчыны гаварылі, што гэта была новая сакрэтная зброя Чырвонай Арміі. Толькі наўрад ці фурманы далёка яе завезлі і даставілі па прызначэнні, бо звярнулі на тую ж сцежку, па якой адсупалі салдаты. Ехаць возам па ёй было нязручна, практычна немагчыма: сцежка бегла па ўзараным полі, сігала праз канавы, кустоўе, крутыя ўзгоркі, ажно да маяка, які стаяў на самым высокім у ваколіцы месцы. Далей дарогі таксама не было. Аднак шкадаваць аб тым, мабыць, не варта: пазней стала вядома, што тая вінтоўка аказалася ненадзейнай, у баявых умовах часта адмаўляла, і яе мала або зусім не выкарыстоўвалі.

Запомнілася яшчэ некалькі эпізодаў і сцэн, якія давялося наглядаць у тыя дні. На перакрыжававанні вуліц Харашкаў, адкуль паблізу пачыналася ўзгаданая сцяжынка, многія салдаты звычайна спыняліся, каб адпачыць на прызбах бліжэйшых дамоў. Тут заўсёды было людна, паміж прысутнымі вяліся розныя размовы, абмяркоўваліся ваенныя падзеі.

- Няўдачы нашы часовыя, - запэўнівалі байцы вяскоўцаў. - Сіл у нас нямала, - дзесьці замацуемся і дамо адпор фашыстам. - Але тут гутарку перабіў трэск матацыкла.

- Пэўна, фрыцы, трэба спыніць! – раздаліся трывожныя галасы.

Аднак спыняць не было чым, зброі ні ў кога не аказалася, хоць прысутнічалі дзесяткі два байцоў. Матацыкліст – ён быў адзін – спакойна, без павелічэння хуткасці адолеў перакрыжаванне і паімчаўся ў кірунку мястэчка. З-за хаты ніхто з чырвонаармейцаў не вылез. Зрэшты, ездака маглі застапарыць якой-небудзь дзеравякай, кінуўшы яе пад колы. Для таго можна было выкарыстаць і жэрдку з плота ці з прызбы, на якой сядзелі. Не паспелі падумаць і рашыцца. Афіцэр таксама не зрэагаваў. Наогул, камандзіраў рэдка было відаць сярод адступоўцаў. Дзе яны падзеліся, ніхто пра тое не ўзгадваў.

Цікава, што за ўсе дні адступлення мы бачылі толькі аднаго параненага. Салдат ледзь звязаў пару слоў па-руску:

- Узбэк я, - патлумачыў.

- Самалёт, - паказвае на неба, - тыр-р-р і папаль мая рука...

Было добра бачна, што куля ў двух месцах пашкодзіла мускулы. Рука моцна распухла і прыкметна пасінела. Перавязаць ніхто не здагадаўся, мабыць, не знайшлося ні бінту, ні ёду. Пачнецца гангрэна – і чалавека няма. Праз вёску прайшла на Усход не адна тысяча байцоў і ні аднаго, са згаданым выключэннем, параненага. Відаць, ніхто іх не падбіраў... хто мог рухацца сам, той ішоў.

Незвычайна моцна ўразіў мяне выпадак здачы савецкіх салдат у палон. Усё адбывалася літаральна на маіх вачах. Было каля 11 гадзін раніцы. Праз акно я ўбачыў траіх чырвонаармейцаў, якія падыходзілі да лавачкі, што стаяла на другім баку вуліцы, наўскасяк ад нашага дома. На здзіўленне спакойна яны закурылі і ўселіся на тую лавачку.

- Чаму яны не спяшаюцца ўцякаць? Мусіць жа, немцы ўжо блізка, - усхвалявана звярнуўся я да маці, якая ўвіхалася ля печы. Быццам бы яна магла ведаць, у чым справа. Тым не менш маці выглянула ў акно, паўглядалася і прамовіла:

- Не ведаю, сынку, што яны надумалі?

Сапраўды, яшчэ ўчора з абеду плынь адступоўцаў прыкметна паменела. Пад вечар рух

амаль спыніўся, на Усход прайшлі адзінкі зморaных салдат. А сёння наогул нікога не было, калі не лічыць гэтую тройку.

Цікавасць мяне проста распірала, і я выйшаў на двор, стаў ля брамкі і ўтаропіўся ў салдат. Да іх было рукой падаць, ад сілы 12-15 метраў. Яны не звярталі на мяне ніякай увагі, і я мог бесперашкодна разглядаць іх. Пасярэдзіне сядзеў высокі, амаль на галаву вышэй за сваіх таварышаў хударлявы, не стары яшчэ мужчына. Ён заўзята смактаў сваю "казіную ножку", раз за разам пляваўся, пускаў праз нос клубы дыму і нешта гаварыў суседу справа, заросламу чорнай шчацінай таўстуну. Трэці чырванатвары, пэўна, самы маладзейшы з іх, не ўмешваўся ў размову і спакойна курыў. Паколькі больш нічога асаблівага не адбывалася, я пакінуў свой пост. Аднак праз нейкі час пачуўся гул матора, і я зноў заняў наглядальны пункт.

Неўзабаве з-за павароту паказаўся матацыкл. У ім сядзелі – добра відно было – трое ў незнаёмай зялёнай форме. Чырвонаармейцы борздзенька падхапіліся і паднялі рукі ўгару. Матацыкл спыніўся, з люлькі вылез немец, падышоў да байцоў і стаў абшукваць іх кішэні, але там было пуста. Мусіць, хлопцы загадзя пастараліся вытрасці ўсё лішняе. Толькі ў чырванатварага знайшоў брытву. Немец раскрыў яе, пакруціў, паўглядаўся і закінуў на саламяную , парослую зялёным мохам страху суседняй хаты. Брытва добра там уляглася і не скацілася на зямлю.

А я ўсё стаяў ля брамкі і не мог забыць карціну, якая толькі што разварочвалася перада мной. Яна пакінула ў мяне, 9-гадовага хлапца, вельмі прыкры асадак: "Як гэта так, - круціліся ў маёй галаве калючыя думкі, - чаму яны здаліся ў палон? Чаму не пайшлі з усімі разам на Усход, каб стаць у шыхт ды ваяваць з фашыстамі?"

А назаўтра мы перажылі новае трывожнае здарэнне. Немцы ў той дзень больш не паказваліся ў вёсцы. Затое глыбокай ноччу хтосьці нясмела пастукаў у дзверы. Праз акно бацька прыкмеціў на падворку некалькі чалавечых постацяў. Былі гэта немцы ці чырвонаармейцы, разабраць аказалася немагчыма. Ды ўсё роўна, хочаш не хочаш, а пусціць мусіш, бо людзі вайсковыя, узброеныя. Калі адчынілі дзверы, у хату ўваліліся ажно шэсць здаравенных мужчын. Гэта былі савецкія афіцэры. Яны папрасілі даць ім адпачыць, трохі паспаць, а раніцай разбудзіць і прыгатаваць, што паесці. Бацька сказаў, што ўчора тут былі немцы на матацыкле з каляскай і ўзялі ў палон траіх байцоў.

- Ничего, хозяин. До утра фашисты вряд ли явятся, - упэўнена сказаў адзін з гасцей. – А мы за это время отдохнем. Четверо суток не спали. Только вы нас разбудите пораньше, как начнет светать.

Дзесьці каля пяці гадзін раніцы бацька падняў мужчын. А маці ўжо паспела згатаваць першую сялянскую страву – яечню з салам, наварыла таксама бульбы, падала і кіслага, і салодкага малака. Ваякі чыста "падмялі" ўвесь посуд і шчыра падзякавалі гаспадарам за гасціннасць. Паклалі на стол і некалькі чырвонцаў. Маці спрабавала вярнуць іх назад, але ніхто не згадзіўся ўзяць.

Афіцэры сталі паспешліва збірацца ў дарогу. Адзін з іх, шырокі ў плячах, каржакаваты здаравяк хапіў са стала нож і давай спорваць свае камісараўскія адзнакі і кідаць за куфар. Праз хвіліну ўсе шасцёра пакінулі наш дом і пашыбавалі на вядомую сцяжынку.

## НОВЫЯ ЎЛАДЫ І ІХ НОРАВЫ

Больш адступоўцаў не было. Вёска прыціхла, усе разумелі, што хутка з'явяцца новыя ўладары. І яны не прымусілі сябе доўга чакаць. Праз некалькі дзён усю вёску запоўніла нейкая баявая частка, мабыць, не менш палка. Немцы нікога з жыхароў не чапалі, а там, дзе стаялі паходныя кухні, прапаноўвалі ахвочым паспрабаваць салдацкай ежы – гарохавага супу з вяндлінай. Дзеці, якія смялейшыя, не адмаўляліся і сёрбалі гэтае варыва, казалі: смачнае.

У гэты час без прыпынку прайшла калона аўтамашын з артылерыяй. У кузавах на адкідных лаўках сядзелі салдаты, а на знешнім баку да бартоў былі прымацаваны каністры з бензінам. Запаслівыя!... Назаўтра раніцай зняліся і рушылі на Усход усе вайскоўцы. Відаць, падцягваліся за фронтам, які ўжо мінуў Менск.

Хутка наведаліся ў Харашкі і прадстаўнікі новай мясцовай улады – немец з дзвюма цывільнымі асобамі. Яны сабралі купку жыхароў бліжэйшых дамоў і аб'явілі, хто будзе солтысам і хто яго памочнікам. Калгаснікам загадалі своечасова ўбраць ураджай і звезці ў гумны. Калі жніво скончылася, дазволілі ўзяць па 15 снапоў на кожнае дзіця і па 30 – на дарослага члена сям'і. Для насення выдзелілі на кожны гектар па адной капе – 60 снапоў. Гэтага, канешне, было недастаткова, але ж каму паскардзішся? Астатняе зерне, што не прапілі новыя начальнікі, павезлі на прыёмны пункт.

У час малацьбы жыта пацярпеў мой бацька і яго напарнік, таксама Іван, Якаўчык. Яны ўчынілі маленькую дыверсію – усунулі нейкую жалязяку ў "нутро" малатарні, і тая спынілася. На бяду, непадалёку аказаўся памочнік солтыса Мікалай Салаш і нейкі Ружыцкі, прыблуда. Казалі, ён прывалокся з-пад Беларстока і тут прыстаў да ўдавы ў прымы. Хадзіў з тоўстай гумавай палкай, умеў гаварыць па-нямецку. Гэтай гумай ён і пачаў лупцаваць мужчын, а потым пагнаў іх у Дварэцкую гміну, што за 9 кіламетраў ад нас. Маці была ў роспачы: што рабіць? Падумаўшы, рашыла туды ехаць. Запрэ-

гла каня, пасадзіла ў воз траіх меншых дзяцей і разам з жонкай Якаўчыка памчаліся ратаваць мужчын.

У пастарунку допыт вёў мясцовы палячок – паспеў ужо ўладкавацца, прымазаўся да новай улады. Мужчын ён дапытаў і замкнуў у нейкай халоднай каморцы. Выйшаў на ганак, а тут якраз пад'ехалі жанчыны і пачалі прасіць, каб адпусціў мужыкоў. У адказ пачулі крык і лаянку.

- Цо, псякрэў, юж ходзілі до каменданта? – як рак, пачырванеў ад злосці нямецкі служака. – Нацо дзецко прывезла? – насядаў ён на маці. - Як былам у камендатна, то дзецко не брал, -блытаў ён польскія і беларускія словы.

А маці разам з іншымі жанчынамі сапраўды паскардзіліся каменданту, што начальнікі прапіваюць збожжа і не даюць ім патрэбнай колькасці насення. Скарга, канешне, засталася без увагі.

Дзеці ж у час гэтай далёка не мірнай размовы падняли гвалт, хоць вушы затыкай. Нават дзяжурны паліцыянт – ён быў з суседняй вёскі Кажыхоўцы, знаў маці – не вытрываў, падышоў да воза і стаў супакойваць дзяцей. Паказваючы на 3-гадовую сястрычку Зіну, ён сказаў, што і ў яго ёсць такая ж дачушка. І паціху шапнуў, што бацьку біць не будуць. Разлік маці апраўдваўся. Махнуўшы рукой, следчы вярнуўся ў кабінет і загадаў выпусціць затрыманых.

Аднак калі мужчыны выходзілі, паліцай зноў стаў лупцаваць іх гумай. Бацьку, праўда, менш папала, бо ён адразу выскачыў з ганка на двор, а напарнік трохі прамарудзіў, яму добра дасталося па галаве дубінай. Галава, гаварыў, месяцы два балела.

У калгасе было пасаджана шмат бульбы, капаць яе таксама прымусілі калгаснікаў. І калі за жніво хоць трохі заплацілі зернем, то за бульбу нічагусенькі. І яшчэ насмяяліся: маўляў, у калгасе вам амаль нічога не давалі на працадні, лічы, дарма ішачылі на Саветаў, то чаму немцы будуць вам плаціць? Адным слова, здзекаваліся.

Прычым, насміхаліся не толькі нямецкія паслугачы, але многія з тых вяскоўцаў, хто не быў у калгасе і пацярпеў ад яго: у каго зямлю забралі, у каго сенажаць і інш. Гэтыя людзі паверылі прапагандзе фашыстаў аб хуткай перамозе над Саветамі. Бацька спрачаўся з імі, даводзіў, што не ўсё так проста, як каму здаецца.

- Што ўдавалася ў Еўропе, тое не пройдзе тут, - упэўнена даводзіў ён – Найшла каса на камень. Заваяваць Расею практычна немагчыма. Занадта яна вялікая і не такая ўжо слабенькая...

Але яго не хацелі слухаць. Людзі былі пакрыўджаны савецкай уладай і праглі адпомсціць тым, хто з мясцовых садзейнічаў таму. Яны вырашылі выдаць немцам калгасных актывістаў. Верхаводзіла гэтай задумай памешчыца, якая пасля прыходу немцаў вярнулася ў свой маёнтак. У спіс смертнікаў уключылі больш за дзесяць чалавек, у тым ліку і бацьку. Але сярод змоўшчыкаў аказаўся нейкі далёкі яго сваяк. Ён дамогся, што бацьку выкраслілі з гэтага чорнага спісу. Лёс астатніх быў трагічны.

### АХВЯРЫ АКУПАНТАЎ

У той дзень мяне не было дома. Я начаваў у маміных бацькоў на хутары Пялекі, што кіламетры паўтара ад вёскі. Мой сон перабіла баба Марта: "Уставай, унучак! У Харашках нешта нядобрае дзеецца. Страляюць, чутна"

Мы выскачылі на падворак. Сапраўды, прыслухаўшыся, можна было адрозніць і асобныя стрэлы, і аўтаматныя чэргі. "Што такое, што ўсё гэта значыць?" – разважалі мы, але адказу не знаходзілі. Падышоў дзед Антон. Паслухаў і кажа: "Цяпер нельга ісці ў вёску, трэба пачакаць, пакуль хто не з'явіцца адтуль".

Але мне не цярпелася. Праз гадзіны два-тры, калі даўно ўжо скончылася страляніна, я панёсся дахаты. Пры падыходзе да вёскі нічога падазронага не заўважалася. Было ціха. Немцаў нідзе не бачна. Людзі спакойна хадзілі па вуліцах, займаліся штодзённымі справамі. Маці я застаў дома, на агародзе палола грады. Яна мне тут жа і распавяла пра перажыты страх.

- Ранічкай, яшчэ кароў на пашу не ўсе выгналі, як прымчаліся немцы на машынах і абкружылі вёску. Хадзілі па вуліцах і крычалі: "Вэк! Вэк!" Мы не разумелі, чаго яны хочуць. Бацька ў канцы агарода зграбаў ячмень, які немцы пакасілі, як там стаялі, але не ўвесь забралі. Па бацьку стрэлілі, мусіць непрыцэльна, а для таго, каб кідаў сваю работу ды ішоў за імі. Я была з дзяцьмі ў хаце. Пачула стральбу і выйшла на вуліцу. Бачу, ідуць людзі, немцы іх гоняць. І мяне да іх далучылі, а дома ж засталіся адны малыя. За сялом жанчын і дзяцей згуртавалі ў адным месцы, асобна. А мужчын за дарогай, там узгорак, іх не бачна было. Раптам бачу ідзе мая старэйшая дачка Валя – ёй нядаўна споўнілася 11 гадкоў – і нясе малога брацiка Віцю, годзік толькі яму, а побач ідзе Ліда. Я іх да сябе прыгарнула. Сядзім, плачам. І ў другіх жанчын слёзы у вачах. А маці солтыса Чувака тут і кажа, мабыць, каб суцешыць нас: "Не бойцеся, зайцоў паловяць ды паедуць". Я думаю, прычым тут зайцы?

Адно ж бачым – вядуць мужчын, дзесяць чалавек я налічыла. Недалёка ад нас, на дарозе ім загадалі стаць на калені. Неўзабаве пад'ехала бартавая машына, іх пагрузілі і павезлі, жанчынам сказалі ісці дахаты. І мужчыны прыйшлі, каго не забралі. З'явіўся і мой гаспадар. Як гаварылася вышэй, яго выкрасліў са спісу наш сваяк. Выратаваўся яшчэ адзін мужчына – Піліп, наш сусед. Яго хтосьці папярэдзіў, і ён выехаў з вёскі, павёз у млын збожжа малоць. Больш яго ніхто не чапаў.

А тых дзесяць чалавек завезлі ў Навагрудак і там каля старых казармаў пастралялі.

Прымусілі нават самім сабе магілу выкапаць. Вартаўнік засыпаў, распавядаў потым.

І было б за што губіць людзей! Якія яны там актывісты? Адзін у лаўцы гандляваў, можа, хто на яго і затаіў злосць, не даў якога тавару ці што. Другі быў кладаўшчыкам, трэці – настаўнікам пачатковых класаў. Астанія простыя, як кажуць, калгаснікі. Яны, праўда, прыхільна паставіліся да савецкай улады і ў калгас увайшлі. Вось і ўсе іх грахі. Не чуваць было, каб хто з іх каго пакрыўдзіў. Хіба, можа, хто ў панскім двары нешта ўзяў. Так ці не, а мясцовая памешчыца адыграла ў гэтай трагедыі сваю злачынную ролю, бо яна ж, кажуць, камандавала, каго ўключаць у той спіс. Потым разам з немцамі збегла ў Польшчу.

Мясцовыя памешчыкі паўсюль абселі нашу вёску, зрэшты, як і ўсю Беларусь.

Іх продкі даўно здрадзілі свайму народу. Перайшлі ў каталіцтва,апалячыліся. Сталі чужымі для беларускага мужыка. Як агідныя паразіты, яны высмоктвалі з яго ўсе сокі і не давалі нічога ўзамен. Мала хто з іх вярнуўся да свайго народа. Наадварот, заўзята памагалі чужой дзяржаве закабаляць беларуса, трымаць у цемнаце і невуцтве і рабаваць, бясконца рабаваць, пакуль гэта ўдавалася.

**З'ЯЎЛЕННЕ ПАРТЫЗАН**

Немцы адразу спрыялі распаду калгаса. Людзям дазволілі забраць сваіх коней, інвентар, і кожны пачаў гаспадарыць на ранейшым кавалку зямлі. Было нялёгка, таму што выдзеленага з галгаснага ўраджаю зерня не хапала на сяўбу і на хлеб. Бульбы, як ужо адзначалася, не далі зусім. Тым не менш былыя калгаснікі знайшлі выхад. У кожнага ж былі родныя ці блізкія сябры. Якія пазычылі патрэбную колькасць насення з умовай вярнуць з новага ўраджаю. А немцы, паколькі збожжа і бульбу забралі, асаблівую ўвагу звярнулі на жывёлагадоўлю, загадалі карміць свіней і здаваць ім у лік падаткаў.

Ды няма дурных, чаму гэта ім здаваць? А сабе што? Кожны стараўся абхітрыць акупанта. Цішком у хляве задушыць парсюка, на санкі і ў лес. Там асмаліць, дома разбярэ і схавае. Канешне, калі мясцовыя начальнікі захочуць, то прыпільнуюць. Такое не раз здаралася. Вось і наш сусед Пракоп (яго звалі "працадзень", бо ён часта паўтараў гэтае слова, жаліўся, што мала даюць на працадзень) толькі прывёз з лесу асмаленага вяпрука, не паспеў прыбраць, як з'явіліся начальнічкі, нават адзін з суседняй вёскі Азяраны прыехаў. "Каляду" пагрузілі на воз і пакацілі ў тыя Азяраны. Наладзілі там п'янку. Пракопава сястра пайшла за імі (яе мужыка забралі ў ліку тых дзесяці чалавек), то вярнулі ёй адзін кумпяк і аполец сала.

Пазней партызаны расправіліся з тым азяранскім солтысам. Была ўжо зіма. Прыехалі вярхом, зайшлі ў хату. Чужых адпусцілі, астатніх: старых бацьку, маці, а таксама сястру, нават трохгадовага хлопчыка і самога пастра-лялі і хату падпалілі. А можа хапіла б аднаго вінаватага? Не, усіх пад корань знішчылі. Сапраўды, рука чакіста не ведае літасці.

Вясной партызан прыкметна пабольшала, яны сталі наведваць і Харашкі. Да нас часта заходзілі ў хату, паціху нешта гаварылі з бацькам. Мы, дзеці, прывыклі ўжо да візітаў начных гасцей і не звярталі на іх увагі. Вядома, маці перш за ўсё карміла іх, ставіла, калі прасілі, самагонку. Давала з сабой хлеб, бульбу і сала, калі яно было. Потым партызаны асмялелі і пачалі нарыхтоўваць прадукты, мусіць, па чарзе з кожнага дома. Аднойчы ў суседа Піліпа нават выдралі некалькі рамак з пчоламі, прынеслі да нас у хату, бо тут сядзеў камандір. Назаўтра раніцай дзядзька Піліп па свежаму следу прыйшоў і ледзь не пасварыўся з бацькам. Я таксама пацярпеў: пчала неяк забралася да мяне ў цёплую пасцель, відаць, добра адагрэлася і замест удзячнасці балюча ўджаліла...

Партызаны, трэба сказаць, былі розныя. Адзін паесць ды папросіць даць чыстыя анучы, падзякуе і пойдзе. А траплялiся такія, што аблазяць, маўчком, кожны закуток, перавернуць усё дагары нагамі, не гаворачы, чаго ім хочацца. У аднаго маўчуна маці спытала: "Таварышко, скажэце, што вам трэба, я сама дам?" "Насення з грыбоў!" – буркнуў сабе пад нос таварыш і працягваў "пошук"... ды нічога жаданага яму не папала, і ён зноў жа моўчкі пашыбаваў з хаты.

З часам людзі прызвычаіліся, што днём па вёсцы швэндаюцца немцы, а ноччу прыходзяць лясныя браткі. У светлы час ім не выпадала з'яўляцца, бо на чыгунцы, якая дугой акружала Харашкі і адным канцом падыходзіла амаль да самых хат, стаяў бункер. Пазней пабудавалі яшчэ адзін, ад якога было недалёка да другой, усходняй ускраіны вёскі. Так што наведвацца сюды было небяспечна ў любы час сутак. У гэтым мы хутка пераканаліся. Глыбокай ноччу ў акно моцна пастукалі. Бацька пазнаў, што гэта быў памочнік солтыса Салаш Мікалай. "І чаго яму, сабаку, трэба?" – са злосцю прамовіў бацька і пайшоў у сені. Калі адчыніў дзверы, тады толькі ўбачыў, што да сцяны прытуліліся людзі ў белых халатах. Ясна, што гэта былі немцы. Зайшлі ў хату. Зазірнулі ў спальню, мабыць, правяралі, ці няма чужых. Пастаялі, пагаманілі і пайшлі.

Потым высветлілася, што гэта была засада. Спадзяваліся падлавіць партызан. Але тыя, на шчасце, не паказаліся. І ўсё абышлося, ніхто не пацярпеў.

Харчы і адзенне былі пастаянным клопатам партызан. Гэта ў асноўным здабывалася ў насельніцтва, якое таксама не вельмі выдзялялася

багаццем. Ды адкуль яно магло ўзяцца? Людзей абіралі немцы, а тут яшчэ партызанам давай. І давалі, куды дзенешся. З набліжэннем фронту партызаны дзейнічалі ўсё смялей, а з зімы 1944 г., наогул, сталі распараджацца, як законная ўлада. На вёску сталі даваць разнарадку, колькі здаць якіх прадуктаў. Становішча настолькі ўскладнілася, што ніхто не хацеў быць солтысам, бо на яго ж усе шышкі падаюць. Са згоды немцаў гэтую клапатлівую і няўдзячную пасаду сталі выконваць па чарзе. Кожны мужчына на цэлы тыдзень станавіўся каліфам. Бацьку ў яго чаргу давялося збіраць масла. Сабраў 20 кілаграмаў і завёз у партызанскую вёску.

Не забывалі пра Харашкі і немцы з абодвух бункераў. Мала таго, што спраўна спаганялі падаткі, дык гэтыя тылавыя ваякі рознымі спосабамі выцыганьвалі ў сялян дадатковую даніну. Праз колькі дзён яны зноў і зноў абыходзілі хаты з адным і тым жа заклікам: “Матка, яйкі! Курка! Шпэк!” некаторыя, відаць, больш спагадлівыя да мясцовых жыхароў, наладжвалі свайго роду тавараабмен, зразумела, далёка не раўназначны. За дзесятак яек, напрыклад, давалі столькі ж карамелек або сахарыны. Аднойчы не было бацькоў, то і я здзейсніў падобную гандлёвую аперацыю.

### НЕБЯСПЕЧНАЯ СУТЫЧКА

А гэтая трагікамічная гісторыя здарылася на самы вялікдзень. Два немцы хадзілі па сяле з кошыкам і збіралі “валачобнае” – яйкі. Назбіралі поўны кош. Былі яны дзесьці каля сярэдзіны сяла, а тут якраз партызаны на конях (яны ўжо другі раз асмеліліся з’явіцца днём, быў 44-ы год). Нейкая дзяўчына падказала фрыцам, што блізка партызаны. Яны давай драла. Яйкі свае з перапуду паразбівалі, з таго кошыка пацякло, смеху было на ўсю вёску... Толькі фрыцы паспелі выбегчы за апошнія будыніны, як партызаны згледзелі іх і давай страляць. Але не пацэлілі. Праўда, немец упаў і апошнія яйкі рассыпаў, але ўсё ж паспеў дабегчы да бункера. Адтуль група фашыстаў выскачыла з кулямётам і зайшла наперарэз партызанам.

Сітуацыя яшчэ боль ускладнілася, калі да ўсходняга канца вёскі дабеглі немцы з другога бункера. На ўзгорку, адкуль добра былі відаць шляхі адыходу партызан, яны хуценька ўстанавілі кулямёт і адкрылі шалёную страляніну. Адступоўцы аказаліся фактычна пад перакрыжаваным агнём і вымушаны былі збочыць з адной і другой вуліц ды ўцякаць па агародах, а потым па засеяных збажыной палях. Але гэта было ўжо далекавата ад кулямётаў, бадай, з кіламетр. Падбіць тут нікога не ўдалося.

Не пашанцавала толькі партызану, які ўцякаў апошнім па дарозе, блізкай да першага бункера. Ён чамусьці не з’ехаў на поле, каб быць далей ад кулямёта, а імчаўся проста па дарозе. І тут яго ранілі, каня пад ім падбілі. Добра, што другі партызан запыніў каня з возам, дзе ехаў хтосьці да вёскі, прагнаў ездака, а сам падляцеў і забраў таварыша, выратаваў яго ад блізкіх ужо немцаў. Аднак параненым, расказвалі, усё ж памёр, не дабраўшыся да аддзела.

Вельмі драматычнае становішча склалася і для другога партызана. Ён дайшоў амаль да апошніх хат усходняга канца вёскі, трымаў за павадок каня і пра нешта размаўляў з селянінам. Але тут раптам страшна блізка ўзахлёб загрукатаў кулямёт. Ні партызан, ні немцы з-за хат не бачылі адзін аднаго. І гэта выратавала небараку. Ён хутчэй завярнуў каня, а той нешта заўпарціўся і не кранаўся з месца. Партызан тузаўся з ім, тузаўся, а потым усё ж заскочыў наверх і пагнаў па вуліцы, далей ад кулямёта. Немцы яго, пэўна, так і не заўважылі, пакуль ён не павярнуў на іншую вулку, што ішла на поўнач і па якой нядаўна пранесліся яго таварышы. Адсталаму таксама на дзіва лёгка ўдалося праскочыць небяспечныя зоны і застацца цэлым.

Гэты бой, калі яго так можна назваць, бо партызаны не адказвалі на агонь (ім не да таго было, прыходзілася ратавацца з пасткі, у якую трапілі, і тут маглі выручыць толькі коні, пехацінца чакала верная смерць), быў першы, які я бачыў на свае вочы. Бачыў, як тузаўся з канём партызан, як ляцелі іншыя яго таварышы на сваіх разнамасных дрыгантах да выратавальнага ляска, што сінеў непадалёку. Стаяў ля варот, пакуль маці не прагнала да склепа, дзе ўсе дамачадцы хаваліся са страху. Хоць, здаецца, і кулі над намі не свісталі. Было сапраўды страшна, але надзвычайна моцна ўзрушала і выклікала жаданне наглядаць, бачыць, як гэта страхоцце адбываецца.

### ДЫВЕРСІІ НА ЧЫГУНЦЫ

Чаго-чаго, а страху за вайну нацярпеліся, бо чалавек быў абсалютна бяспраўным і безабаронным. Днём немцы гаспадараць, а ноччу пратызаны ідуць па харчы або на чыгунку: то тэлеграфныя слупы парэжуць, то міну пад рэйкі падкладуць. Праўда, буйной дыверсіі ні разу не здаралася. Памятаю, аднаго разу побач з вёскай падарвалі таварны цягнік, але вагоны не зваліліся пад адхон, толькі апошні ў саставе сышоў з рэек. Мы, хлапчукі, пасвілі кароў каля лініі – так называюць чыгунку – і падышлі да самага месца аварыі. Нас ніхто не ганяў, мы стаялі і цікавалі за работай фрыцаў. Адзін з іх з дапамогай газарэзнага апарата за якую хвіліну адхапіў пашкоджаны, сагнуты выбухам прыкладна мятровы кавалак рэйкі і махнуў рукою машыністу: едзь, маўляў. Той памалу рушыў цягнік, але вагон не ўзлез на рэйку, пайшоў міма, неяк зачапіў і зноў задраў яе. Немец падаў сігнал

машыністу спыніцца і каля самага кола зноў адрэзаў ладны кавалак скрыўленага металу. Махнуў машыністу. На гэты раз вагон ускочыў на рэйку і праз якой паўгадзіны поезд памчаўся на Баранавічы. На месцы аварыі засталося стачыць кускі непашкоджаных рэек, прымацаваць да шпал і тым ліквідаваць вынікі дыверсіі. Нікога з жыхароў немцы тады не чапалі, нікому не прад'яўлялі прэтэнзій, а вось у іншым выпадку ледзь не закончылася трагедыяй. На той раз дыверсія была ўчынена прыкладна за кіламетр ад вёскі. На стыку рэек партызаны адкруцілі гайкі, і паравоз паляцеў пад адхон. Раззлаваныя фашысты – гэта быў пасажырскі цягнік – рашылі кагосьці пакараць за перажыты страх. Але каго караць? Паабапал чыгункі з аднаго боку лес, а з другога – балота. Неяк яны ўсё ж даведаліся, што трэба падняцца на гэтыя лясістыя горкі, там буде поле і вёска. Пытанне, каго пакараць, перад імі, відаць, не стаяла. Партызанаў даўно і след прастыў. Ахвярным казлом, як заўсёды, маглі стаць толькі мясцовыя жыхары. З гэтай мэтай узброеныя фашысты заявіліся ў Харашкі. З бліжэйшых дамоў яны пачалі выганяць людзей на вуліцу і шыхтаваць у шарэнгі. Махаючы аўтаматамі, яны недвухсэнсоўна пагражалі расстрэлам. На шчасце, тут якраз падышлі немцы з бункера – зноў збіралі яйкі. Цяпер усе радаваліся ім, як ніколі раней: павінны ж дапамагчы! І сапраўды, тылавыя ваякі сталі даказваць, пераконваць пацярпелых ад аварыі суродзічаў, што жыхары ні пры чым, зусім невінаватыя. Пасля працяглых спрэчак людзей усё ж адпусцілі.

Адным словам, Харашкам пашанцавала. У той час пра карныя аддзелы хадзіла многа пагалосак, што яны ў партызанскіх зонах паляць вёскі і знішчаюць людзей. Аднойчы праз Харашкі праехала на санях чалавек сорак у чорных шынялях. Казалі, што яны вярталіся з Ліпічанскай пушчы, удзельнічалі там у баях з партызанамі каля ракі Шчары. Мусіць, пасля гэтага хутка прайшла чутка, што фашысцкія ўлады прынялі рашэнне знішчыць Харашкі разам з яе жыхарамі. Вечарам бацька запрог каня, дзяцей у воз і пехалі на хутар Чорны Луг, за кіламетры чатыры ад Харашкаў. Там паблізу леса жыла яго сястра. Сам гаспадар не паехаў, застаўся дома. А мы ўсю ноч не спалі, слухалі, ці будзе страляніна. Адно ж было ціха. Назаўтра вярнуліся дадому. Маці гаварыла, што гэта партызаны папярэдзілі нас аб магчымай аблаве.

Трэба адзначыць, што бацька даволі часта сустракаўся з ляснымі таварышамі. Вадзіў іх на чыгунку. Выконваў іншыя заданні. Як потым мы даведаліся, ён лічыўся сувязным анаго з аддзелаў, але пра тое маўчаў. Тады лепш было не ведаць пра такія справы, асабліва дзецям.

З ваенных гадоў яшчэ запомнілася, калі ў школу (яна працавала ўвесь час акупацыі) наведаўся яўрэйскі партызанскі аддзел. Іх было чалавек 15, усе ўзброеныя, з ручнымі кулямётамі і новымі савецкімі аўтаматамі з круглымі дыскамі. Было гэта днём, і мы дзівіліся такой смеласці лясных ваяк. У класе вісеў партрэт Гітлера. То адзін з байцоў наставіў на яго кулямёт і заявіў: “Гітлер капут!” Але не стрэліў, толькі ўсе пасмяяліся. Адпачыўшы якой паўгадзіны, вясёлыя госці пайшлі сваёй дарогай.

Іншым разам у школу завіталі фрыцы. Перакінуліся некалькімі словамі з настаўніцай і запатрабавалі праспяваць нямецкі гімн. З горам папалам мы яго неяк выканалі. “Дойчлянд юбер алес”, – прапішчалі дзіцячыя галасы. Гансы пахвалілі нас: “Гуд, гуд” і кудысьці пайшлі ў бок чыгункі.

**ГІБЕЛЬ БАЦЬКІ**

Той трагічны дзень назаўсёды стаў для нашай сям'і непапраўнай бядой. Здарылася яна 11 красавіка 1944 г. Ноччу бацька пайшоў з хаты і больш не вярнуўся. Яго паклікалі партызаны, каб ісці на чыгунку. Паднялі і іншых мужчын, усяго набралася чалавек пад дваццаць. Загадалі ўзяць з сабой сякеры і пілы, бо меліся рэзаць тэлеграфныя слупы.

Калі дайшлі да чыгункі, раздзяліліся на пары і размеркавалі, каму якія слупы знішчаць. Першыя два ад пераезду дасталіся бацьку з суседам Санюком. Яны, асцярожна ступаючы, падышлі да слупа, рукамі ўпоцемках абмацалі, каб не трапілася якая жалязяка і не пашкодзіла інструмент. Усё, здаецца, было нармальна. Вострая піла адразу добра ўвайшла ў сыраватую яшчэ драўніну, відаць, нядаўна тут пастаўленую. “Ж-жык, ж-жык” –раздаўся даволі моцны шоргат па дрэву. Вось ужо хутка і сярэдзіна слупа, яшчэ некалькі рухаў і ён зваліцца на зямлю. Пэўна, завісне на правадах, але для такога выпадку ёсць сякера. Каб адбіць дрот ад шкляных ці фарфоравых кубкаў, і справе канец. Але тут раптам, нібы маланка, бліснула ў самыя вочы. Раздаўся аглушальны выбух, слуп, як падкошаны, абрынуўся на зямлю і падмяў пад сябе мужчын. На кароткае імгненне наступіла цішыня. Аднак хутка з недалёкага раўчука радаліся кулямётныя чэргі. Трасіруючыя кулі яркімі светлячкамі ляцелі ўсцяж чыгункі, а затым скіроўвалі ў лес, шукаючы і там сваю ахвяру.

У вёсцы не спалі, чакалі вяртання мужчын. Пачуўшы выбух і стральбу, зразумелі , што нешта нядобрае здарылася на чыгунцы. Раней такія адносна нескладаныя дыверсіі, як пашкоджанне ліній сувязі, праходзілі ў цішыні без усялякай страляніны. Значыць, напароліся на ахову. А выбух сведчыў, што справы могуць быць горш.

Маці пайшла ў завулак, што вёў на балота і да чыгункі, з надзеяй сустрэць бацьку або іншага ўдзельніка, а я застаўся на сваім падворку і наглядаў за вуліцай: можа, хтосьці паявіцца. І

тут прыкмеціў, што нехта бяжыць, кульгаючы, па рыштку, трымаючыся ў цяні каля самых платоў. Гэта быў дзядзька Язэп. Мусіць, ён таксама ўдзельнічаў у аперацыі. Жыў ён праз дзве хаты ад нас.

- Дзядзька, што здарылася? - спытаў я, заступаючы яму дарогу, каб спыніць яго.

- Міна! Міна была ў слупе. І засада каля пераезду, - паспешліва, не спыняючы руху, прамовіў ён і пакільгікаў да сваёй сядзібы.

А бацька не з'яўляўся. Маці пайшла па вёсцы шукаць каго з мужчын, хто б распавёў, што здарылася і дзе яе Іванка, можа, хто бачыў і ведае, што з ім. Усе прыбеглі ўжо дамоў, а яго і суседа Санюка так і не было. Пра іх нічога не ведалі ці не хацелі гаварыць.

У галаву лезлі адчайныя думкі: яны, пэўна, параненыя, ляжаць там бездапаможныя. Іх пакінулі, а самі, як зайцы, памчаліся праз лес дадому. Пазней высветлілася, што фактычна так яно і было. Пасля выбуху міны і кулямётнай траскатні стала зразумела, што мужчын, якія пілавалі той пракляты слуп ля самага пераезду, не ўратуеш. Хочаш не хочаш, а яны трапяць у рукі фашыстаў, што хаваліся ў раўчуку, чакаючы зручнага моманту, каб адкрыць агонь.

Маці не сядзелася ў хаце. Яна плакала, хадзіла туды-сюды па суседзях, не ведаючы, што рабіць, у каго шукаць якой парады. Мы з бабай Мартай – яна начавала ў нас – таксам не спалі, прымасціліся на лаўцы і моўчкі перажывалі нашу бяду.

Раптам пачулася рыпенне дзвярэй – мне і сёння стаіць у вачах карціна далейшых падзей. Дзверы быццам самі марудна так, асцярожненька сталі адчыняцца. У вузенькую пакуль шчыліну павольна высунуўся кончык дула вінтоўкі з тырчаўшай наверсе мушкай. Застыўшы якую хвіліну нерухома, ён затым мацней націснуў на край дзвярной бакавіны, і ў добрую ўжо шчыліну высунулася галава ў вайсковай пілотцы. Вочы хуценька абмацалі хату і, відаць, нічога пада- зронага не найшлі. Тады немец смела адкрыў насцеж дзверы і ступіў на парог. "Бандыты, бандыты", - прамовіў ён і адразу ж зглянуў за перагародку. Там на самаробных ложках мірна спалі дзеці, больш нічога цікавага не было. Павярнуўшыся, утаропіўся ў нас: старое і малое таксама не ўяўлялі пагрозы. Пакруціўшы туды-сюды галавой, фрыц нарэшце пасунуўся на падворак.

Мы неяк інстынктыўна павярнуліся да акна, каб прыкмеціць, куды пойдзе непажаданы госьць. Аж літаральна за якіх-небудзь чатыры-пять метраў ад хаты ўбачылі другога салдата, які ставіў на ножкі ручны кулямёт якраз насупраць акна, дзе мы сядзелі. Прыладзіўшы яго, ён прылёг на зямлю, прыціснуў да пляча прыклад, парухаў руляй, паправіў трохі ножкі. Затым падняўся і падышоў да салдата, які толькі што пакінуў хату. Дасталі цыгарэты і закурылі.

- Бабуля! Дык яны ж страляць нас будуць, - занепакоіўся я.

- Ды не, унучак, не бойся, яны проста папужаюць. Ішоў бы ты лепш спаць, - і пагладзіла мяне па галоўцы.

Аднак я ўжо не быў такі малы, каб не здагадацца, што справы дрэнныя. Было ясна, што ўсё гэта азначае. Пэўна, знайшлі бацьку, і нас, як партызанскую сям'ю, пастраляюць або ў лепшым выпадку адправяць у канцлагер, як робяць тое ў іншых вёсках, пра што кожны ведаў. Але ратавацца было позна, салдаты пільнавалі нас і не дазвалялі выходзіць з хаты.

Паратунак прыйшоў нечакана. Мы і не заўважылі, калі на падворку з'явіліся новыя асобы. Гэта быў нямецкі афіцэр, памочнік солтыса і маці з імі. Афіцэр аддаў загад салдатам, тыя падхапілі зброю і зніклі. Маці паведаміла нам, што здарылася. Узрывам міны бацька быў цяжка паранены, а Санюк забіты. Немцы іх падабралі і завезлі ў Моўчадзь, дзе стаяла залога. Цяпер сказалі, што бацьку можам забіраць. Не марудзячы, мы запрэглі каня і паехалі ў мястэчка. Там, у гумне, на таку, падасланыя гарахавіннем, ляжалі двое... Адзін з іх быў наш бацька. Ён яшчэ жыў некаторы час, яго стогны чулі ў блізкім доме. Потым нямецкі лекар зрабіў укол, і ён заціх. Назаўсёды... Каб адразу была аказана медыцынская дапамога, бацька, пэўна, застаўся б жыць. Ды клапаціцца пра тое не было каму. Акупанты не для таго прыйшлі на беларускую зямлю, каб ратаваць нашых людзей.

І ўсё ж сям'і не расстралялі. Як і ў выпадку з паравозам, заступіліся немцы з бункера. Сваю ролю, мусіць, адыграла і тое, што апошнія некалькі месяцаў бацька працаваў разам з іншымі вяскоўцамі на бункеры, дакладней, на высечцы лесу. Яны пагадзіліся на гэта, таму што пайшлі пагалоскі, што мужчын будуць браць на акопныя работы. Відаць, была ўлічана і нязначнасць здарэння: некалькі спілаваных слупоў – не такая ўжо вялікая страта, каб за тое нішчыць людзей. Наогул, у раёне Харашкаў за ўсе гады вайны, як ужо адзначалася, не было буйных дыверсій. Немцы не лічылі вёску партызанскай, бо і з усходу, і з захаду яна была пад іх наглядам.

## АДСТУПЛЕННЕ. КАЗАКІ ДАЮЦЬ ДРАЛА

Набліжаўся час выгнання акупантаў. Недзе ў сярэдзіне траўня 1944 года вёску запаланілі казакі, розныя: данскія і кубанскія, а адзін з усмешкай сказаў, што ён менскі казак. У нашым двары паставіў палатку кубанец, камандзір эскадрона з жонкай – высокай румянай маладзіцай. Яна аднойчы разахвоцілася і расказала, як немцы іх агітавалі здымацца з месца, пакідаць сваю радзіму.

- Мы вам аддамо ў карыстанне Беларусь,

будеце жыць не горш, чым на Кубані, - разліваліся салаўямі дробныя каляфрантавыя гебельсы, “вешалі лапшу на вушы” казакам.

Аказалася, што Беларусь, як і іншыя тэрыторыі, па якіх ехалі кубанцы, была дашчэнту разбурана вайной.

- Падманулі нас, - скардзілася казачка. – У мяне быў поўны склеп варэння. Усё кінулі і паехалі…

Але рабаваць Беларусь не забывалі. Мы думалі, пакольکі ў нас атабарыўся камандзір эскадрона, то не забяруць кабылку. Адно ж у апошні дзень нейкі праныра-казак пралез у хлеў, закілзаў яе і паехаў. І яшчэ плёткай памахаў, каб не скардзіліся.

Усё ж мы не паслухалі яго, услед за казачым табарам пайшлі ў Дварэц. Там адшукалі нейкага больш высокага начальніка, і ён загадаў аддаць трафей. Толькі радасць наша была заўчаснай. На ўскраіне мястэчка стаяў пост, адтуль закрычалі, замахалі рукамі, патрабуючы спыніцца. Пэўна, нашы паводзіны здаліся ім недарэчнасцю, нават дзікасцю: як гэта так, што за нахабства! Каб нехта асмеліўся вось так перад самым носам зводзіць некуды каня? Казачая душа гэтага не магла сцярпець! Да нас падбег адзін з ахоўнікаў, адразу хапіў за павадок і прыгразіў, каб вымяталіся, а то будзе горш. Ніякія словы, што сам начальнік дазволіў, не падзейнічалі на грабежнікаў. Мы папляліся дадому. Дзеці паведамілі, што нядаўна прыязджаў па кабылку той першы казк, крычаў, што застрэліў бы маці, каб сустрэў.

Сапраўды, на стральбу ды расправу яны скорыя. Прастаялі ў вёсцы, мусіць, з тыдзень і двух чалавек забілі ні за што, ні пра што. Мужчыны ішлі дамоў, але чамусьці не па дарозе, а звярнулі ў кустоўе. Вартавыя ўзялі іх на мушку, патлумачылі гэта тым, што, маўляў, падумалі, падобна на партызан, хаваюцца. А тыя ні ад кога не хаваліся, проста, як заўсёды, ішлі знаёмай сцежкай. Але прагрымелі стрэлы, і абодва мужчыны загінулі. Аднаму куля трапіла ў галаву, а другому ў шыю.

Канешне, ніхто ў стральцоў не спытаў, навошта яны гэта зрабілі. Казалі, паспрачаліся, хто ў якое месца патрапіць, каб адразу напавал. І абодва ўцэлілі, куды трэба.

У нашай мясцовасці фашысты не паспелі арганізаваць супраціўленне імкліва наступаючым савецкім войскам. Што акупанты збеглі, мы даведаліся па дымах на абодвух бункерах, іх падпалілі самі немцы. Была ціхая сонечная раніца, і дымы гэтыя акуратнымі слупкамі падымаліся ў вышыню, дзе паступова рассейваліся. Неўзабаве прагрымела некалькі артылерыйскіх стрэлаў з боку Моўчадзі ў кірунку Дварца і Наваельні, дзе, як пазней казалі, сабралася шмат вайсковых цягнікоў. У тым жа кірунку нізка праляцела пара самалётаў з чырвонымі зоркамі на крылах. Недзе праз тыдзень у ляску каля вёскі спыніўся і пераначаваў полк цяжкай артылерыі. Дулы, падобныя на тоўстыя бярвёны, везлі на падвойных вазках коньмі. Вось, бадай, і ўся карціна наступлення, бачная з Харашкаў.

Вельмі хутка, літаральна праз некалькі дзён, з вёскі і навакольных хутароў пачалі забіраць мужчын у войска: вайна патрабавала новых ахвяр. “Забралі” і мужа мамінай сястры Жэні Глоцьку Мікалая. Разам са свамі таварышамі ён забег да нас, каб развітацца. Вясёлы і добры, шчыры хлопец. Ён абдымаў нас, цалаваў, мусіць, шкдаваў, што мы, пяцёра малых, засталіся без бацькі. Пачаставаў нас мёдам. Але яго паклікалі, ён яшчэ раз паабдымаўся з намі і пайшоў. Пайшоў і больш не вярнуўся, як многія яго сябры. Потым у вёсцы гаварылі, што ўсе яны палеглі пад Кенігсбергам. Іх, амаль нявучаных і няўмелых, гналі, як бараноў на ўбой, на форты і дзоты прускай сталіцы.

Праўда, аднаму з Харашкаў усё такі пашэнціла. Гэта быў Андрэй Салаш. Дык вось, ён не толькі выжыў у тых цяжкіх абставінах, але праявіў адвагу і кемлівасць, - дарэчы, можа, таму і застаўся цэлым. Іх роце загадалі выбіць фрыцаў з першай траншэі ўмацаванай лініі ворага. Спачатку байцы дружна падняліся і пабеглі, але нямецкая абарона аказалася надзвычай густа насычанай кулямётамі, артылерыйскі налёт перад атакай не здолеў задушыць усе агнявыя пункты. Цяпер яны ажылі і напавал касілі шэрагі наступоўцаў. Цяжка параніла камандзіра роты. Атака зусім выдахлася, байцы заляглі. На адкрытай прасторы шалёны кулямётны агонь не даваў магчымасці падняць галаву. А тут яшчэ мінамёты падаспелі. Заставацца на месцы станавілася немагчыма. У гэтых абставінах наш зямляк не разгубіўся. Ён перадаў па ланцугу налева і направа, каб рыхтаваліся і па яго камандзе падняліся ў атаку, інакш у чыстым полі мінамёты усіх даканаюць. Праз колькі хвілін, адкрыўшы агонь з аўтамата, ён першы ўскочыў і памчаўся да нямецкіх пазіцый. За ім падняліся ўсе астатнія. Фашысты не вытрымалі нечаканага націску і пабеглі. Траншэя была захоплена. Вось так шараговы баец выратаваў становішча і выканаў загад камандавання. За гэты вычын яго ўзнагародзілі ордэнам Чырвонай Зоркі.

**ТРОЕ СУПРАЦЬ АДНАГО**

Успамінаючы ваенныя гады, нельга абысці маўчаннем дзейнасць у Заходняй Беларусі польскай Арміі Краёвай. Увогуле, у нашай мясцовасці яе прысутнасць не адчувалася, таму што тут жылі беларусы праваслаўнага веравызнання, якія ў большасці падтрымлівалі савецкую партызанку. Аднак шмат хто з іх рознымі шляхамі трапляў у залежнасць ад немцаў: хтосьці з родных служыў у паліцыі або ў адміністрацыйных

установах. У такім выпадку іх блізкія аказваліся перад нялёгкім выбарам: да каго падацца. Звязвацца з савецкімі партызанамі ім было небяспечна – не паверац. Таму многія пераязджалі ў гарады, пад крыло немцаў.

Што датычыць Арміі Краёвай, то яна гняздзілася ў мясцовасцях, дзе было шматлікім або нават пераважала каталіцкае насельніцтва. Тым не менш акаўцы нярэдка прымушалі і беларусаў супрацоўнічаць з імі, нават уключацца ў іх аддзелы. З тым жа, хто не згаджаўся, жорстка распраўляліся. Гэтак жа дзейнічалі і ў адносінах да людзей, якія падтрымлівалі савецкіх партызан.

Такім чынам, беларусы аказаліся ў трох розных лагерах, не супрацоўнічалі, а фактычна ваявалі паміж сабой. Такое трагічнае становішча заўсёды складваецца там, дзе народ не мае ўласнай дзяржаўнасці і таму не здольны абараніць сябе ад агрэсіўных суседзяў. Сыны гэтага народа вымушаны змагацца і гінуць за чужыя інтарэсы.

Большасць, як ужо адзначалася, была на баку Саветаў. Але зноў жа – не па добрай волі, а вымушана. Бо немцы не толькі рабуюць, але вёскі паляць і насельнітва знішчаць за падтымку савецкіх партызан. Апошнія, дарэчы, часцяком, каб выклікаць нянавісць да немцаў, спецыяльна наладжвалі засады каля населеных пунктаў і тым правакавалі фашыстаў на расправу з мірнымі жыхарамі.

Армія Краёва таксама выступала як каланіяльная сіла, намагаючыся не толькі зафіксаваць сваю прысутнасць на дадзенай тэрыторыі , але і адстойваць свае даваенныя межы. Яна пры тым не жадала прызнаваць, што межы гэтыя былі ўстаноўлены ў выніку Рыжскай дамовы з Расеяй, без згоды на тое беларускага ўрада і беларускага народа.

Як бачым, ніхто з трох удзельнікаў вайны не лічыўся з чацвёртымі бокам – беларусамі, якія спрадвеку жылі на гэтай зямлі і дзе цяпер ішло зацятае змаганне за панаванне над нашай няшчаснай краінай. У гэтай бойцы трох каланізатараў-захопнікаў найбольшыя страты зноў жа неслі беларусы, бо вайна вялася на іх тэрыторыі ды з імі ніхто з названых драпежнікаў не лічыўся. Мясцовых насельнікаў рабавалі, імкнуліся перацягнуць на свой бок. А калі яны не ішлі, жорстка распраўляліся. Нават за пару слоў, сказаных супраць, маглі пазбавіць чалавека жыцця. Такое, прынамсі, ледзь не здарылася з маім цесцем – лідзянінам Уладзімірам Дрэвіцам. Ён, па праўдзе, і не хаваў свайго негатыўнага стаўлення да тых людзей, якія ў міжваенны час або раней прынялі каталіцкую веру і пачалі лічыць сябе палякамі. Польская дзяржава ўсяляк заахвочвала гэтае рэнегацтва. Давала неафітам розныя льготы, і, пэўна, таму многія з іх з пагардай адносіліся да іншых жыхароў.

Дык вось, дзед Дрэвіц, як яго называлі, аднойчы вазьмі і скажы: “Я ваш драўляны касцёл спалю і сваім Жуком (канём) заару тое месца, дзе ён стаяў”. Зразумела, нічога такога дзед не збіраўся рабіць, бо быў вельмі лаяльны і памяркоўны чалавек. Усе лідскія старажылы добра ведалі гэта і ўспрынялі яго словы як жарт. Аднак акаўскія верхаводы думалі інакш: іх пракуратар вынес дзеду смяротны прысуд. Здзейсніць яго даручылі баевіку, які днём проста на вуліцы непадалёку ад будынка нямецкай ахоўні СД падскочыў ззаду і стрэліў у галаву “вінаватаму”. На шчасце, куля трапіла ніжэй мозгу. Параненага суседзі даставілі ў лякарню, і ён застаўся жыць. Аднак далячыцца не ўдалося таму, што акаўы збіраліся прыйсці і дабіць пацярпелага. Ул. Дрэвіц, якому добрыя людзі паведамілі пра тое, хуценька сабраўся і з’ехаў у Баранавічы. Там, у сваякоў, ён пражыў да выгнання немцаў.

Памагатыя акаўцаў не пакінулі ў спакоі дзеда і пасля выгнання немцаў, яны данеслі ў КДБ аб тым, што Дрэвіц быццам бы аказаўся заўзятым нацыяналістам і прыслужваў “германцам”. Дарэчы, і ў міжваенны час дзед таксама не быў у міласці ў польскіх уладаў. Яшчэ пры цары ён закончыў Віленскую чыгуначную навучальню і працаваў на станцыі Ліда. Палякі адмовілі яму ў гэтай пасадзе. Для адводу вачэй паставілі на чаргу. Але за дваццаць гадоў польскай акупацыі для беларуса ні гэтай, ні іншай вакансіі не знайшлося.

І пасля выгнання фашыстаў яны спяшаліся ачарніць беларуса перад савецкай уладай за службу ў нямецкіх установах. У сапраўднасці самымі актыўнымі прыслужнікамі ў немцаў былі палякі. Гэта яны з першых дзён акупацыі хуценька пашыліся ў паліцыю, запоўнілі ўсе пасады ў адміністартыўных установах і адразу пачалі выдаваць немцам нацыянальна свядомых беларусаў, характарызуючы іх як камуністаў. На скаргі пра надуманасць абвінавачанняў немцы толькі разводзілі рукамі: чаму ж вы самі не ідзяце ў паліцыю і нашы грамадскія ўстановы, працуючы ў якіх мелі б магчымасць абараняць сваіх людзей? Аб тым жа гаварылі Дрэвіцу і яго знаёмыя, якія ўжо супрацоўнічалі ў розных установах: “Ты хочаш быць “чысценькім” перад Саветамі, а нас хай душаць акаўцы?” і ўрэшце проста заявілі: “Не паслухаешся, адправім твайго сынка ў Германію...”

Выхаду не было. Дзед згадзіўся ісці працаваць у ЗГС – даволі нейтральную па тым часе ўстанову: рэгістраваць нараджэнні, шлюбы, смерці. Праўда, уедлівы служка, ён хутка зразумеў, што не ўсе дакументы аб смерці яму даюць для рэгістарцыі. І аднойчы сказаў пра тое свайму начальніку. Немец паклікаў яго і перад самым носам паківаў пальцам: “Не лезь куды цябе не просяць, а то сам акажашся на іх месцы”.

І ўсё ж дзед сапраўды застаўся “чысценькім”, нічога дрэннага супраць савецкай улады не

зрабіў і тым не менш, як ужо адзначалася вышэй, памагатыя акаўцаў "накаталі" заяву на яго ў КДБ. Службовец гэтай установы доўга "мурыжыў" старога, дабіваючыся прызнання: ты працаваў у немцаў, значыць вінаваты. "Дык я ж нічога не здзейсніў такога, каб мяне садзіць за краты", - апраўдваўся дзед.

- Вот я тебе сейчас как врежу по уху. Тогда вспомнишь о всех своих поганых делишках. А пока шагай в клозет и хорошенько подумай, что ты совершил против нас.

Вось так па некалькі разоў на дзень чэкіст то адпраўляў старога ў прыбіральню, то клікаў назад на допыт. Але дзеду не было ў чым каяцца, і яго пакінулі ў спакоі.

Нельга не адзначыць яшчэ адзін факт, які меў месца ў бальніцы, калі параненаму збіраліся аказваць дапамогу, то ўрач-паляк, які, пэўна, быў звязаны з акаўцамі, пачаў пераконваць свайго калегу адмовіцца ад аперацыі на той падставе, што раненнне, маўляў, настолькі сур'ёзнае, што хірургічнае ўмяшанне нічога не дасць. Усё безнадзейна. На шчасце, другі ўрач рэзонна адказаў: "Наш абавязак да апошняга змагацца за жыццё чалавека, хто б ён ні быў. На аперацыйным стале няма ворагаў, усе роўныя. Так насуперак акаўцу дзед быў выратаваны, рана аказалася несмяротнай."

Урокі мінулай вайны (і не толькі яе) пераканаўча сведчаць аб неабходнасці стварэння незалежнай дзяржавы. Ва ўсім свеце ўсе народы так і дзейнічаюць. А вось нашы кіраўнікі чамусьці імкнуцца заключаць нейкія уніі і саюзы з суседзямі, якія потым нам вылазяць бокам. У 1569 годзе наша сярэдневечная дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае пад націскам Польшчы, разлічваючы атрымаць ад яе дапамогу ў барацьбе з агрэсіяй Масквы, подпісала унію з Польскім Каралеўства. І што з гэтаг атрымалася? Княства паступова страціла незалежнасць. А праз 200 гадоў Беларусь наогул была акупавана Расейскай імперыяй. Наступны саюз адбыўся ў 1922 годзе – з бальшавіцкай Расеяй. І зноў жа з тым вынікам: страта незалежнасці, русіфікацыя, масавыя рэпрэсіі, знішчэнне людзей у шматлікіх Курапатах па ўсёй рэспубліцы.

Цяпер гісторыя дала нам яшчэ адзін шанец. З развалам СССР Беларусь зноў дамаглася сувярэнітэту. Прайшло ўсяго некалькі гадоў і на табе – зноў знайшліся дзеячы, якія паставілі сабе за мэту інтэгравацца з Расеяй. Ва ўсім свеце людзі, як зрэнку вока, аберегаюць сваю дзяржаўнасць, без якой народ безабаронны ад знешніх нападаў і абавязкова падпадае ў залежнасць ад суседзяў. Няўжо ў нас гэтага не раумеюць? Але ж гэта ясна і школьніку сярэдніх класаў. Чаму ж тады знішчаецца беларускамоўная асвета, нацыянальная культура, фальсіфікуецца гісторыя? Так рабілі ўсе каланізатары. Выходзіць, і сувярэнная Беларусь дейнічае такім жа чынам. Нават немцы падчас першай і другой сусветных войнаў, калі акупавалі нашу краіну, дазвалялі беларусам адкрываць нацыянальныя школы. А зараз беларуская ўлада зачыняе іх! Нонсэнс!

**ПАЧАТАК МІРНАГА ЖЫЦЦЯ**

Фронт малазаўважна пракаціўся па нашай мясцовасці, грукатаў дзесьці па магістральных шляхах, а потым наогул усё заціхла. Настаў мірны час, не трэба было асцерагацца ні фашыстаў, ні партызан. Можна было спакойна займацца сялянскай працай. Араць, сеяць, ганяць на пашу жывёлу, убіраць у належны час жыта, ячмень, пшаніцу. Апошнюю, дарэчы, у нас заўсёды сеялі, хоць і мала. Таму што трэба было ўгнойваць поле або размяшчаць па бульбянішчы, землі ж супяшчаныя. Аднак пшаніца няблага расла. І маці сяды-тады пякла з яе смачныя пульхныя булкі. Таму я з недаверам ставіўся да савецкіх начальнікаў, якія сцвярджалі, што ў Беларусі пшаніца не расце. Такія заявы, напрыклад, не раз чуў ад намесніка міністра па хлебанарыхтоўках. Чалавек, пэўна, не мясцовы, ён не ведаў сапраўднага становішча. А вось жа кіраваў міністэрствам. Вядома, падчас існавання СССР пшаніцу можна было завозіць з іншых рэспублік. Калі ж раздзяліліся, то траціць валюту на яе закупку не было сэнсу. Гэта нарэшце зразумелі "вертыкальшчыкі" і пачалі адводзіць пад пшаніцу значна больш зямлі, чым раней.

Жыццё без бацькі надзвычай ускладнілася. Гадаваць пяцёра дзяцей – не простая справа. Старэйшай сястры Валі было 14 гадоў. Самаму малодшаму брацiку Віцю і 4 не споўнілася. А дапамогі не было адкуль чакаць. Праўда, хутка пасля смерці бацькі да нас заязджалі трое партызан (днём, на конях) і пыталі ў маці, чым дапамагчы. "Конь ёсць, то можам парсюка табе прывезці або цялушку, што скажаш, тое і зробім", - абяцаў, відаць, старшы з іх, у кубанцы з чырвоным верхам, вусаты, хмуры мужчына сярэдніх гадоў. Буланы жарабец без упынку круціўся пад ім і не даваў спакойна гаварыць. Маці адказала, што нічога не трэба. Баялася, каб не данеслі немцам. Тады бяды не абярэшся.

На шчасце, конь у нас быў. Вясной я паехаў араць пад яравыя, хоць аратаму таму ўсяго 12 гадкоў стукнула. Як жа цяжка было ўпраўляцца з плугам!

Адносная палёгка наступала 1 верасня, з пачаткам вучобы. Хадзіў я ў Маўчадскую СШ, у Харашках засталася толькі пачатковая школа. Пры немцах быў і пяты клас, я яго закончыў, аднак у Моўчадзі ўсіх садзілі ў той клас, у якім займаўся апошні год.

Праблем з вучобай у мяне не было. Паспяваў па ўсіх прадметах на "чатыры" і "пяць", хоць часу на заняткі бракавала. Да мястэчка каля пяці кіламетраў, кожны дзень туды і назад. Атрым-

ліваецца дзесяць. І дома трэба дапамагаць: то дроў накалоць, то вады прынесці, сечкі жывёле нарэзаць і г.д. Толькі позна ўвечары можна было садзіцца за кнігі. Усім школьнікам даводзілася пісаць і чытаць пры адной газавай лямпе за адным сталом.

Маці, канешне, мела яшчэ больш клопатаў, яна павінна была спраўляцца і з жаночай, і з мужчынскай работай. Увосень і амаль да паловы зімы малацілі збажыну. Я таксама ўдзельнічаў. Гэта, бадай, цяжэй, чым араць і хадзіць за плугам.

### ПРА ПАДАТКІ І ФІНАГЕНТАЎ

Падаткі сталі яшчэ адной праблемай для нашай слабасільнай гаспадаркі і слабых работнікаў. Здзіўляла тое, што для шматдзетнай сям'і і без гаспадара, які загінуў у барацьбе за савецкую ўладу, не было ніякай палёгкі, ніякіх ільгот. Наадварот, з нас патрабавалі больш, чым звычайна. На якой падставе? Усё вельмі проста: прыпісалі лішні гектар. Не палічыліся з тым, што мы ўсю зямлю не апрацоўвалі, не было каму, не хапала сілы. Па гэтай прычыне маці адмовілася плаціць дадатковы падатак. І вось аднойчы вясковыя ўпаўнаважаныя Салаш і Грэбень разам з агентам па збожжы і старшынём сельсавета Фядуцкам заявіліся да нас і хацелі сілай, самавольна забраць збожжа, падрыхтаванае для азімай сяўбы. Але пакуль яны хадзілі ў хлеў і гумно правяраць, колькі засталося тае збажыны, маці замкнула каморку. А Грэбень узяў сякеру і хацеў збіць замок з дзвярэй. Маці падняла крык, прыбеглі малыя дзеці на дапамогу. Пачуўшы гвалт, прыйшоў сусед Максім, і начальнікі адступіліся, аднак прыгразілі, што ўсё роўна даб'юцца свайго.

Аб гэтым дзікім здарэнні я напісаў у баранавіцкую абласную газету. Прыязджаў карэспандэнт, але да нас нават не зайшоў, задаволіўся тлумачэннямі старшыні сельсавета Фядуціка: маўляў, мы толькі папярэдзілі Кардаш, ніякага гвалту не было. Між тым начальнікі хутка прыйшлі зноў і ўжо "законна" апісалі нашу маёмасць. Што заставалася? Скардзіцца вышэйшаму начальству. Рашылі звярнуцца ў Вярхоўны Савет Беларусі. Маці плакала і апавядала пра злых "мытароў", а я занатоўваў нашы крыўды на паперы.

На гэты раз даволі хутка прыехаў для праверкі скаргі дэпутат Вярхоўнага Савета – не памятаю яго прозвішча. Ён пaглядзеў усе квітанцыі, па якіх было бачна, што маці выканала абавязацельствы: і збожжа здала, і грошы заплаціла. Аказалася, што ўпаўнаважаныя Салаш і Грэбень самі не здалі яшчэ ні кілаграма збожжа ў лік падаткаў, затое яны рэгулярна арганізоўвалі п'янкі для агентаў і старшыні сельсавета. Дэпутат добра-такі напалохаў гэтых дробных дзялкоў, і яны адсталі ад нас. Праўда, другі п'яніца-камуніст неяк сказаў маці: "У Маскву дарожку знайшла, усё пішаш, крыўды свае выкладаеш. Нічога, утомішся"... Пазней я пераканаўся: праўду сказаў камуняка, Масква, савецкая ўлада слязам не верыць. Дарэчы, у Маскву мы і не пісалі. Стары п'янтос штосьці пераблытаў, ачмурэўшы ад сівухі.

Як сёння, памятаю першую паездку на хлебанарыхтоўчы пункт у Наваельні. Гэта кіламетраў 15 ад Харашкаў. Разам з маці загрузілі на воз чатыры ці пяць мяшкоў жыта, уселіся самі і рушылі ў дарогу. Прыкладна за пару гадзін былі на месцы, каля доўгай прыземістай будыніны, якая размяшчалася ўздоўж чыгуначнай каляі. Прыёмшчык – тоўсты, як вяпрук, мужык з нахабным паглядам, у вайсковай зялёнага колеру фуфайцы паказаў рукой на вагі, затым на вялізную гурбу жыта: "Узважвай і цягні наверх". На вагі мы з маці складвалі мяшкі, а тут трэба было аднаму браць на спіну і па дошках узбірацца на самую вяршыню збожжавай гары. "Ён жа мог дазволіць высыпаць збожжа ў падножжы гэтай гары. – са злосцю думаў я, - не прымушаць слабога падлетка паўзці наверх". Дрэнна памятаю, як я дабраўся да вяршыні, бо ўся ўвага была звернута на заплечны груз. Рупіла адно: хоць бы не ўпасці. Нейкім цудам я ўсё ж дабраўся да месца і ад стомы рухнуў разам з мяшком. Аддыхаўшыся, падняўся, разблытаў завязку і пачаў высыпаць збожжа. Але мяшок не слухаўся мяне, падняць яго не ставала сілы, і таму я пакрыху адной рукой выграбаў жыта. Прыёмшчык западозрыў нешта нядобрае і хуценька збег па дошках да мяне і рукой пачаў раскідваць збожжа туды-сюды. Спачатку я і не здагадаўся, што ён і для чаго робіць. Потым ужо сцяміў: гэты вяпрук падумаў, што ў мяшку быў пясок, таму я так доўга вазіўся. Ён, мусіць, не здагадваўся, што я не мог падняць мяшок і адразу высыпаць збожжа. Ён і цяпер не падмог мне, а, пакалупаўшыся ў жыце, злез уніз...

### ЗНОЎ У КАЛГАСЕ

Каб паспяхова гаспадарыць на зямлі, трэба быць не толькі фізічна вынослівым, але і руплівым, дбайным, старанным чалавекам. Трэба добра ведаць сакрэты вырошчвання розных культур, усё рабіць своечасова і якасна, прымяняць новыя, так сказаць, тэхналогіі. Бацька, хоць не праходзіў якіх-небудзь спецыяльных курсаў, ахвотна выкарыстоўваў лепшыя ўзоры вядзення паляводства. Паколькі арганікі было недастаткова, дык яна ішла ў асноўным пад бульбу (аб мінеральных туках і слыху не было), то пад жыта, напрыклад, пачалі сеяць горкі лубін. Больш сеялі канюшыны, сырадэлі, гароху і вікі. У выніку глеба ўзбагачалася азотам, на гэтых плошчах можна быо размяшчаць усе збожжавыя.

Але вайна не спрыяла сялянскай справе,у

вёсках мужчын заставалася мала, у асноўным старыя і дзеці. Усе клопаты ляглі на плечы жанчын. Думалася, пасля разгрому фашызму будзе лягчэй. У дзень Перамогі, аб чым у вёсцы даведаліся раніцай 9 траўня, людзі смяяліся і плакалі. Мы былі якраз у хаце, пачулі агульнае ўзбуджэнне і выбеглі на вуліцу. Ад шчасця плакалі тыя, у каго мужы і браты засталіся жывыя. Плакалі ад незабыўнага гора тыя, у каго родныя загінулі і ўжо ніколі не вернуцца дамоў, іх жонкі застануцца ўдовамі, а дзеці – сіратамі.

Паплакалі, пагаравалі і пачалі займацца паўсядзённымі справамі, бо іх не перанясеш на другі тэрмін. Жыццё працягвалася.

Нехта маці падказаў, што за бацьку павінны даваць грашовую дапамогу на дзяцей. Трэба толькі дастаць неабходныя даведкі ў сельсавеце і райвыканкаме. Разам з сяброўкай па няшчасцю Санюковай жонкай яны і пайшлі “солнцем палимы” па бюракратычнаму колу. Што за людзі сядзелі тады ва ўладных органах, можна толькі падзівіцца. Старшынём Азяранскага сельсавета быў вядомы ўжо нам Фядуцік. “У сельсавеце, - расказвала маці, - трэба было ўзяць даведку з месца жыхарства, бо пашпартоў у нас не было, каб ехаць у Менск у штаб партызанскага руху атрымаць пахаванку” здавалася б, усяго тых спраў хвілін на 20, але Фядуцік якраз сабраўся некуды ехаць і не згаджаўся пачакаць, пакуль сакратар напіша даведкі. “У дзве гадзіны вярнуся і тады падпішу”, - важна заявіў начальнік. Вымушаны былі чакаць. Прабіла дзве гадзіны, потым тры і чатыры. Дзень быў вясенні, доўгі. Ужо і 10 гадін вечара. Пачало цямнець, а яго ўсё няма. Потым з’яўляецца зусім п’яны. Сакратар, мясцовы азяранскі чалавек, адразу да яго:

- Жанчыны сядзяць цэлы дзень, ты абяцаў падпісаць ім даведкі.

- Ніякіх даведак падпісваць не буду – пачаў выпендрывацца начальнік, – час ужо пасля работы.

Маці прыняла гэта за жарт і давай тлумачыць:

- Таварыш старшыня! Нам жа ісці далёка, кіламетраў сем, праз лес, ваўкі яшчэ з’ядуць. Падпішыце, калі ласка, даведкі ж падрыхтаваныя.

-Я сказал тебе русским языком, подписывать не буду. Время после работы, - упарціўся сельскі галава. І ў пацвярджэнне сваёй пазіцыі стукнуў кулаком па стале. Пазней маці расказвала: “Мяне хапіла злосць, я таксама кулаком па стале: ах, гавару, нягоднік ты! Не хачу, каб ты пэцкаў нашы паперы. І пачала плакаць”. Тады сакратар зноў падышоў да яго і пачаў сарамаціць. Тут з’явілася настаўніца, таксама пачала прасіць. Нарэшце начальнік, мусіць, працверазеў трохі і падпісаў тыя няшчасныя даведкі. Назаўтра трэба было ісці яшчэ ў раён, завяраць іх. Потым паехалі ў Менск. Але адразу і там не змаглі аформіць дакументы. Давялося ехаць яшчэ раз. І што ў выніку? Прызначылі грашовую дапамогу... 72 рублі ў месяц. На іх можна было купіць пару булак хлеба.

Маці прызвычаілася гандляваць, інакш адкуль браць грошы? Пякла булкі велічынёй са сподачак (у нас называлі іх пышкамі) і вазіла ў Баранавічы. Непадалёку ад разбуранага чыгуначнага вакзала была пляцоўка, стаялі лаўкі. Вось там ішоў гэты гандаль . Я часцяком суправаджаў маці, падносіў карзіны да станцыі, дапамагаў залезці ў таварны вагон. Пасажырскіх не было. Іншы раз ехаў з ёю ў Баранавічы. Нашы булкі па чырвонцу за штуку куплялі ў асноўным афіцэры, бо ў горадзе было шмат вайскоўцаў.

Вынікі гэтых гандлёвых экспедыцый, якія паўтараліся даволі часта, пачынаючы з восені да самай вясны, былі неблагія. Дадому маці прывозіла кучу пакамечаных “дзеньзнакаў”, высыпала на стол, і мы лічылі іх, складвалі ў меншыя кучкі згодна з наміналам. Выручка дазваляла не толькі купіць кнігі, сшыткі для пяцярых школьнікаў, але прыадзець і абуць іх. Аднак з пачаткам калектывізацыі гандаль змарнеў сам сабой: не было пшаніцы, не было з чаго выпякаць булкі.

У 1948 годзе аднаасобнае гаспадаранне скончылася. Зноў арганізавалі калгас. На жаль, жыццё ад гэтага не палепшылася. Калі раней, маючы каня, кожны мог нарыхтаваць дастакова корму для жывёлы, то цяпер гэта стала балючай праблемай. Каб трымаць карову, - а як без яе? – трэба было на плячах радзюжкай насіць траву з балота, з кустоў, спярша нажаць яе сярпом. Калі ўбіралі жыта, то потым касілі для сябе ржышча, бо саломы не давалі, яна ішла для грамадскага статку. Ды не дазвалялі тое ржышча ўбіраць, крадком рабілі.

Мы, дзеці, усе пяцёра, хадзілі ў школу, а ў калгасе працавалі толькі летам. І то не заўсёды, таму што рабочых рук тады яшчэ хапала. Я некалькі разоў абганяў бульбу – гэта лічылася не цяжкай работай. Вазіў таксама жыта ад малатарні да склада. Аднойчы мы ўдваіх з суседам везлі, то ён унёс “прапанову”: “Давай скінем табе мяшок і мне мяшок”, - я адмовіўся: “Не, дзядзька, не хачу. Мы ж яго ўзважвалі, недастача будзе”. Больш ён не загаворваў, а нешта ўсё бубніў, мусіць, кляў і мацюкаўся на мяне.

Не абышлося ў Харашках і без надзвычайнага здарэння. Вечарам у школе праводзілі калгасны сход. Было даволі шумна. Людзі актыўна абмяркоўвалі грамадскія справы. Аж тут з панадворку грымнуў стрэл. Чалавек, які стаяў ля акна, паволі споўз на падлогу і захрыпеў. Куля трапіла яму ў галаву, і ён адразу сканаў. Гэта быў камуніст, адзін з арганізатараў калгаса, культгавы Дзям’ян. Перабудова вёскі на калгасны лад патрабавала ахвяр.

## СМЕРЦЬ ДЫКТАТАРА

Праз два гады я закончыў Маўчадскую сярэднюю школу. Куды падавацца далей, для мяне пытання не было. Даўно вырашыў паступаць на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, таму што прызвычаўся пісаць для газеты, з якой была сувязь, хоць не вельмі трывалая.

Але, бадай, галоўнае заключалася ў іншым. Працуючы ў друку, думалася, можна будзе штодзённа "бічаваць" тыя заганныя парадкі, што ўсталяваліся ў краіне. Гэты настрой трываў усе гады вучобы, з ім я ехаў на першае месца працы. Смерць "вялікага кормчага" павінна была толькі аблегчыць маю задачу. Дарэчы, цікава было наглядаць, як сустрэлі гэтую навіну ў сценах альма-матэр – можна сказаць, у цэнтры інтэлектуальнага жыцця рэспублікі. Кідалася ў вочы, што асабліва перажывалі студэнткі, яны па-сапраўднаму рымзалі. Гледзячы на іх, цяжка было стрымаць усмешку.

У дзень пахавання дыктатара ва ўсе групы прыйшлі прадстаўнікі парткамітэту і рэктарату. Па камандзе выкладчыка ўсе ўсталі і 5-хвілінным маўчаннем ушанавалі памяць дарагога бацькі савецкага народа. У гэты час бесперапынна гулі завадскія гудкі. На тым усе мерапрыемствы скончыліся, і заняткі аднавіліся.

Праўда, на нашым аддзяленні не абышлося без непрыемнага для прыхільнікаў Іосіфа Джугашвілі здарэння. Адзін "маласвядомы" студэнт сказаў пару непачцівых слоў у адрас улюбёнца народа. За гэта яго ледзь не выключылі з універсітэта.

Многія ахвотнікі відовішчаў дабіліся дазволу і паехалі ў Маскву на пахаванне правадыра. З нашага курса таксама ездзіў адзін хлапец, тонкі і высокі. З гэтай нагоды пасмейваліся: больш убачыць паверх галоў. Вярнуўся, то расказаў, што гэта была другая Хадынка, падушылі мноства народу.

## У РАЁННАЙ ГАЗЕЦЕ

Пасля месячнага адпачынку пасля заканчэння БДУ 1 жніўня 1955 г. я ўжо быў на месцы працы ў гар. пасёлку Чырвоная Слабада Менскай вобласці – гэта кіламетраў трыццаць на паўдзень ад Слуцка. Мяне залічылі сакратаром раённай газеты "Чырвоная зара". У рэдакцыі было ўсяго двое штатных супрацоўнікаў – рэдактар і сакратар. Для двухпалоснай газеты, якая выходзіла двойчы на тыдзень, больш і не патрабавалася.

Парадавала, што ў рэдакцыі быў уласны транспарт, нават дзве адзінкі: ровар і …гнядая кабылка. Пра апошнюю, праўда, я не адразу даведаўся. Сакрэт раскрылі жанчыны з друкарні, якая месцілася ў адным будынку з рэдакцыяй.

- Чаму вы толькі на ровары ездзіце ў свае калгасы? – спытала аднойчы смяшлівая маладуха, Вольгай здаецца, звалі. – На ім тэба педалі бясконца крупіць, ножкі забаляць. У нас жа кляча ёсць для камандзіровак. Усеўся на яе, як пан, ды паганяй сабе…

Усе дружна зарагаталі. Да таго я не чуў, каб у раённых газетах трымалі коней для транспартных паслуг. Што ж, у кожнага калектыву, відаць, свае звычаі. Ва ўсякім разе, можна і на кабыле сяды-тады праехацца. Дома падлеткам даводзілася часцяком ганяць коней на балота, на пашу. Кожны раз на гэтым шляху трэба было пераадольваць даволі крутую горку. І нічога, неяк абыходзілася, ні разу не зваліўся, хоць трымацца можна было толькі за конскую грыву.

Калі ўволю нацешыліся, жанчыны папярэдзілі, каб я не вельмі спяшаўся ажыццявіць іх параду. Паліна - рэдактарка наўрад ці дасць каня ў маё распадарджэнне. Конь патрэбны соткі начальнікаў апрацоўваць, а не раз'язджаць па раёне…

Але рагутухі памыліліся. Рэдактарка сама прапанавала мне з'ездзіць у не вельмі аддалены калгас вярхом, бо дарога туды гразкая, на ровары не дабярэшся. Між тым неабходна было тэрмінова падрыхтаваць карэспандэнцыю аб ходзе азімай сяўбы. Я хуценька сабраўся і рушыў у дарогу. Думаў, вяскоўцы будуць смяяцца з "казака", але быццам бы ніхто не звярнуў увагі на маю каняку. У той час на ўвесь раён было дзветры легкавушкі, так што многія вымушаны былі карыстацца конскай сілай. Адным словам, даручэнне я паспяхова выканаў, але больш рэдактарка не прапаноўвала мне ездзіць на кабыле, а я і не прасіў. У маім распараджэнні быў ровар і спадарожныя машыны.

Аднаго разу ўзяў мяне з сабой у калгас сам старшыня райвыканкауа Краснеўскі: мабыць, яму было цікава пазнаёміцца з новым чалавекам, усю дарогу распытваў, адкуль, хто бацькі. Калі прыбылі на месца, я сказаў, што мне абавязкова трэба ўзяць інтэрвію ў агранома.

- Давай, давай, толькі не зацягвай надоўга, – папярэдзіў ён і дадаў, - потым прыходзь у кабінет старшыні калгаса.

Там мы не затрымаліся, адразу пайшлі на кватэру да "чырвонага памешчыка". Ён, вядома, выставіў на стол усё лепшае, што было з хатніх прыпасаў: кілбасу, вяндліну, адбіўныя, розныя салаты і інш., а выпіўка была адна – медавуха. Раней мне не даводзілася ўжываць такі напой, хоць чуў аб ім. Выдатная рэч, надзвычай духмяная і прыемная. П'еш і піць хочацца і не п'янееш так хутка, як ад гарэлкі. Наадварот, галава робіцца яснай і светлай, пакуль не перабраў меры. А вось ногі трохі падводзяць: яны становяцца нібы ватныя, падгінаюцца, не хочуць служыць як належыць.

Выбраліся мы ад гасціннага гаспадара ў

прыцемках, так што наўрад ці хто заўважыў, як мы няўпэўнена пляліся да начальніцкай "Волгі". У райцэнтры Краснеўскі не адпусціў мяне дадому, запрасіў у свой кабінет. У поцемках мы доўга гутарылі з ім. Між іншым, ён пахваліўся, што яго бабуля служыла паварыхай у Леніна, у Крамлі. Успомніў нават пра эпізод з нейкага кінафільма, калі яна папрасіла Ільіча прыглядзець за малаком, каб не адбегла. Ды дзе там, ён, канешне, заняўся больш важнымі справамі, размовамі аб барацьбе за народнае шчасце, аб сусветнай рэвалюцыі. А малачко тым часам шуганула на пліту. Ах, Ільіч, які ты, аднак, няўклюда!... Я, зразумела, не прыдаў значэння гэтай фантазіі, хоць быў "пад мухай", як і сам апавядальнік.

Скарыстаўшы нашы панібрацкія на той момант адносіны, я задаў Краснескаму дужа далікатнае пытанне, якое ў іншых абставінах не асмеліўся б уздымаць: чаму здача збожжа дзяржаве лічыцца першай запаведдзю? Калгасы толькі распачалі ўборку, збожжа яшчэ сырое, тэхнікі, у тым ліку аўтамабіляў, не хапае. А іх загружаюць гэтым напаўсырым збожжам і гоняць на прыёмны пункт за трыццаць і больш кіламетраў. Пагаспадарску спачатку трэба было б убраць, калі не ўсю, то значную частку засеянага, падсушыць і тады пачаць здачу дзяржаве.

Начальнік уважліва выслухаў мяне. Неяк парухаўся на крэсле і нечакана строгім голасам заявіў: "А вот этого я тебе не скажу!" - сказаў чыста па-руску, хоць да таго ўжываў звычайную трасянку. Мне, па - праўдзе, і не трэба было нешта тлумачыць. Я сам ужо дакумекаў, чаму мае месца апісаная вышэй практыка. Па-першае, да лета ў дзяржаўных засеках збожжа заставалася ў абрэз. Па-другое, начальнікі баяліся, што калі паслухацца калгаснікаў, то недаатрымаеш вялікую колькасць хлеба. Не агледзішся, як у гаспадарках пачнуць раздаваць збожжа на працадні, скармліваць жывёле, проста раскрадаць. А на працадзень, чго добрага, уздумаюць вызначыць не 200-300 грамаў, а, да прыкладу, 2-3 кілаграмы. Толькі папусціся, і горад застанецца без хлеба.

Больш Краснеўскі мяне не запрашаў у гастролі па раёну. Ды ў час начной гутаркі ён прызнаўся, што збіраецца пакінуць выканкамаўскую пасаду і пайсці старшынём калгаса. Ён падлічыў, што зарплата будзе не меншай, а большай. І занятак цікавейшы. У выканкаме закапаешся з паперамі, а там жывая справа, цесныя сувязі з людзьмі. Хутка Краснеўскі ажыццявіў сваю задумку, прыняў старшынства над семежаўскім калгасам імя Сталіна – назву яшчэ не замянілі.

Я неяк наведаў новаспечанага калгаснага кіраўніка. Пагаварылі пра сёе-тое, было бачна, што ён ужо асвоіўся ў новай ролі. Прызнаўся, што хоць гаспадарка моцная, адна з лепшых у раёне, але праблем хапае. Асабліва турбуе недахоп тэхнікі, у тым ліку трактароў, з-за чаго зацягваюцца палявыя работы, што адмоўна ўплывае на ўраджайнасць, на эканоміку ў цэлым.

**СУМНЫЯ ЎРАЖАННІ**

Зрэшты, Краснеўскі не адкрыў мне якіясьці надзвычайныя сакрэты. У падобным, нават горшым становішчы былі іншыя калгасы. Слабая матэрыяльна-тэхнічная база тлумачылася проста: прамысловасць краіны пакуль што не магла ў пэўнай колькасці забяспечваць вёску трактарамі, камбайнамі, аўтамабілямі, прычапнымі прыладамі. Да таго ж увесь машынны парк быў сканцэнтраваны на сядзібах МТС, якія мелі свае цяжкасці з рамонтам тэхнікі: пастаянна не хапала запчастак. Нядзіўна, што трактары нярэдка ламаліся, падоўгу прастойвалі ў баразне.

За некалькі месяцаў я фактычна аб'ездзіў увесь раён, усе гаспадаркі. Бачыў усё сваімі вачыма, пісаў аб тым у газеце. Ураджанне было больш чм сумнае. Адсутнасць элементарнага парадку на калгасных сядзібах, на фермах, старыя, напаўгнілыя гаспадарчыя памяшканні, бруд каля будынкаў і на вуліцах, пустыя прылаўкі магазінаў, адзетыя ў замусоленыя куфайкі людзі – глядзець на ўсё гэта было бязрадасна, балюча. Нават у самой Чырвонай Слабадзе хлеб выдавалі па спісах.

Між тым раён хоць і невялікі, але па сваіх патэнцыяльных дадзеных мог выраблць багата рознай прадукцыі, бо меў досыць урадлівыя землі. Але наяўныя магчымасці не выкарыстоўваліся як належыць. Тое ж самае наглядалася і ў Харашках, на захадзе Беларусі, не лепш, аказваецца, было і на ўсходзе рэспублікі. Цікава, але тут я пачуў тую ж прымаўку: "Раней было панава, а цяпер планава". Тое ж можна было бачыць і чуць у Баранавіцкім і ў Нараўлянскім раёнах, дзе я праходзіў практыку.

Выходзіць, у розных кутках Беларусі людзі аднолькава ацэньвалі сваё становішча. На самай справе, не яны, калгаснікі, вызначалі, колькі чаго выдаць на працадзень. За іх гэта вырашалі ва ўладных кабінетах. Там сядзелі "мудрыя галовы", якія клапаціліся перш за ўсё аб тым, каб забяспечыць горад, а калгаснікам – што застанецца. Заставалася звычайна мала. Зусім мала. У такім разе, адкуль у сельскага жыхара будзе жаданне ўвіхацца на калгасных палетках і фермах, якія танулі ў гноевай жыжцы? Як даўней у прыгоннага селяніна, цяпер у савецкага хлебароба не было зацікаўленасці ў выніках сваёй працы. Фактычна ён мала чым і адрозніваўся ад прыгоннага. Без згоды кіраўніка ён не мог пакінуць калгас, у яго і пашпарта не было.

Шмтлікія рашэнні партыйных і савецкіх органаў аб далейшым развіцці сельскай гаспадаркі, якія часцяком з'яўляліся ў друку, не давалі плёну менавіта па ўказаных вышэй прычынах. У іх толькі канстатавалася, што калгасы і саўгасы

не выконваюць планаў і сацыялістычных абавязацельстваў па паляводству і жывёлагадоўлі, нізкія ўраджаі збожжавых, бульбы і іншых культур, мала атрымліваюць малака і мяса, не прымаюцца меры па ўмацаванні кармавой базы, паляпшэнні лугоў і пашаў і г.д. Пастановы абавязвалі ніжэйстаячыя органы, кіраўнікоў гаспадарак прыняць меры па выпраўленні недахопаў, узмацніць арганізацыйную і палітычную работу сярод працаўнікоў вёскі. У газетах часта публікаваліся таксама лісты перадавікоў сельгасвытворчасці, у якіх усе недахопы спісваліся на нізкую працоўную дысцыпліну калгаснікаў. Аўтары допісаў патрабавалі стварыць вакол гультаёў абстаноўку нецярпімасці...

Марныя жаданні: прымусіць людзей паўдарнаму працаваць на адным голым энтузіязме немагчыма. Трэба, каб старанне чалавека добра аплачвалася, на жаль, у пастановах партыі і ўраду аб гэтым часцей за ўсё нават не ўпаміналася. Нас, студэнтаў, таксама кожны год “ганялі” на бясплатныя работы, звычайна на ўборку бульбы. Цэлы месяц, часта ў дождж і холад, мы капашыліся на палетках і ні рубля не атрымлівалі за гэта. Працавалі фактычна толькі за харчы, прычым у сваім адзенні і абутку, бо спецвопраткі ніхто не даваў. У мяне аднойчы ў час бульбянога аўралу адарвалася падэшва ў чаравіку. Што рабіць? Майстра ў вёсцы не было, а ў горад кіраўнік не пускаў. Давялося падвязаць падэшву вяровачкай і працягваць змаганне, бітву за ўраджай. Дарэчы, для студэнта было б нядрэнна, каб калгас даў хоць бы па кошыку бульбы ў якасці аплаты за ўдарную працу – ні разу не далі, нават размовы аб тым не вялося. Цікава, калгаснікі ў гэты час убіралі другі хлеб на сваіх прысядзібных участках. Прымушаць іх ісці на грамадскую працу ніхто не адважваўся, таму што ўласная бульба з’яўлялася, бадай, адзіным гарантам ад галоднай зімы.

Студэнтаў выкарыстоўвалі не толькі ў якасці рабсілы. Пасля вераснёўскага Пленума ЦК кампартыі 1953 г., які прыняў шэраг мер па ўздыму сельгасвытворчасці, нас, трэццякурснікаў, адправілі ў калгасы Менскага раёна з заданнем выступіць з дакладамі аб рашэннях гэтага пленума. Тады я лішні раз упэўніўся, наколькі цяжкім было становішча ў вёсцы. Апатыя, безвыходнасць, расчараванне – такі быў настрой сялян. Стары калгаснік, у якога я начаваў, наўпрост сказаў: “Усе мы страцілі веру ў змены да лепшага. Мы толькі працуем, а прыйдзецца дзяліць набытак – выходзіць па стодзвесце грамаў на працадзень. Усё амаль дарма забірае дзяржава”.

Становішча ўсюды аднолькавае: і на захадзе, і на ўсходзе. Так было ў першыя пасляваенныя гады і пазней. А зараз? Прайшло дзесяць гадоў мірнага жыцця, а станоўчых зрухаў зусім мала. Усюды беспарадак. Застой. Заняпад. Па словах праваднікоў, у калгасах, увогуле ў краіне жыццё павінна квітнець, а на справе адбываецца штосьці мала зразумелае. Чаму? Гэтыя пытанні не давалі спакою. Мае спадзяванні на тое, што крытыка ў газеце будзе садзейнічаць выкараненню недахопаў, аказаліся марнымі, проста смешнымі. Паступова да мяне даходзіла, што прычыны заняпаду глыбей, чым думалася. Яны крыюцца, мабыць, у самой прыродзе ўлады, у тым, што ў краіне парушаны асновы дэмакратыі. Фармальна Канстытуцыя гарантуе правы грамадзян, на справе ў нас адсутнічае свабода слова і друку, мітынгаў і сходаў і г.д.

Вось і на вёсцы – нават тыя правы, якімі надзяляюцца калгаснікі, паўсюдна парушаюцца. Статут сельгасарцелі быццам бы дазваляе вяскоўцам прымаць удзел у кіраванні гаспадаркай, а практычна ўсім запраўляе старшыня праўлення, чалавек, якога прыслала раённая ўлада. Скардзіцца няма каму. Таталітарны рэжым, што пануе ў краіне, не дапускае крытыку ў свой адрас. Таго, хто асмеліцца на такую дзёрзкасць, самы справядлівы савецкі суд адпраўляе за калючы дрот.

Мае спробы пагаварыць аб бяспраўным становішчы калгаснікаў выклікалі насцярожанасць. Такія пытанні ніхто не хацеў абмяркоўваць. Толькі аднойчы за чаркай малады юрыст пагадзіўся з маімі разважаннямі, але “ўнікаць” у дэталі не адважыўся.

Вельмі паказальна, што ніхто і словам не заікнуўся аб падзеях у час Слуцкага паўстання 1920 г., а ў ім жа актыўна ўдзельнічалі жыхары Вызны (так раней называласяЧырвоная Слабада) і ўсёй воласці, якая тады належала да Слуцкай акругі. Вось як запалохалі народ! Бацькі баяліся даверыць вялікую тайну сваім дзецям і ўнукам, бо справа пахла Сібір’ю.

**ХТО ВІНАВАТЫ І ШТО РАБІЦЬ?**

Рана ці позна гэтыя пытанні ўзнікаць у кожнага, хто задумваецца над існай рэчаіснасцю. З аднаго боку, камуністычная тэорыя быццам бы адкрывае правільны шлях да дабрабыту і шчасця людзей. На практыцы атрымліваецца нешта адваротнае. За дзесяць пасляваенных гадоў нашыя былыя ворагі, напрыклад, Заходняя Германія і іншыя, дасягнулі небывалых поспехаў у адбудове разбураных мінулай вайной гарадоў, у развіцці прамысловасці і сельскай гаспадаркі, паляпшэнні дабрабыту народу. А краіна Саветаў ніяк не магла вылезці з галечы і адсталасці. Чаму?

На Захадзе грамадзяне мелі палітычныя і эканамічныя свабоды, маглі самастойна вырашаць свае праблемы. У той час у Савецкім Саюзе дыктатура кучкі пратыйных босаў перашкаджала нармальнаму развіццю эканомікі. Далі б савецкім людзям свабоду, магчымасць праявіць свае здольнасці, як гэта было пры тым жа НЭПе, і

яны за нямногія гады дабіліся б уздыму народнай гаспадаркі. Але аб эканамічнай свабодзе ў той час нават размовы не было. Партыя лічыла, што грамадская ўласнасць на сродкі вытворчасці больш эфектыўная, чым прыватная, хоць жыццё ўсё часцей пераканаўча абвяргала гэтую марксісцкую догму. Усюды, дзе ўсталёўваўся камуністычны рэжым, людзі былі асуджаны на паўгалоднае існаванне. І ніякай перспектывы да лепшага не было відаць.

Калі адышоў у іншы свет вусаты бацька, многія спадзяваліся, што ўлада нарэшце дазволіць людзям вальней уздыхнуць, вярнуцца, як тады казалі, да ленінскіх прынцыпаў у дзяржаўным і партыйным будаўніцтве. Можна будзе без боязні гаварыць аб недахопах у дзейнасці кіраўнічых органаў, развіваць крытыку і самакрытыку. Я таксама паддаўся на гэту прыманку і вырашыў напісаць ліст на самы верх, у ЦК кампартыі. Думалася, няхай і мой голас папоўніць тую масавую плынь скргаў і прапаноў, якая штодзённа і безупынна цэчэ і б’ецца аб крамлёўскія сцены.

Аб чым пісаў? Увогуле, тое ясна з папярэдніх старонак. Галоўны “націск”, помніцца, зрабіў на адсутнасць дэмакратыі ў краіне, неабходнасць вызваліць друк ад засілля цэнзуры, каб людзі маглі свабодна крытыкаваць дзейнасць камуністычнай партыі і савецкай улады.

Трэба адзначыць, што ліст я закончыў і адаслаў па згаданым вышэй адрасе дзесьці ў лістападзе 1955 года, яшчэ да ХХ з’езду КПСС, які адбыўся ў лютым наступнага года і на якім М. Хрушчоў выступіў з дакладам “Аб пераадоленні культу асобы Сталіна і яго вынікаў”. Выходзіць, я раней партыі развянчаў правадыра ўсіх народаў, назваў яго сярэдневяковым тыранам…

Гэты факт, увесь змест ліста прымусіў задумацца аб санкцыях, якія “органы” могуць ужыць да аўтара. Было ясна, што, нягледзячы на некаторае змякчэнне палітычнага рэжыму, яго сутнасць мала ў чым змянілася. Таму я вырашыў падпісаць сваё пасланне выдуманым прозвішчам. Вядома, гэта не зусім этычна, але, з другога боку, саджаць чалавека за краты толькі за тое, што ён асмеліўся выказаць сваю думку, хіба этычна? Хіба нармальна? Падумалася таксама, што ліст не такі страшны, каб доблесныя чакісты пачалі шукаць зламысніка. Дык што было рабіць? Пасылаць ці не пасылаць? Павел-трактарыст, у якога я жыў на кватэры, на мае жальбы, што горка назіраць той бардак, што творыцца ў калгасах раёна, сеакнуў безапеляцыйна: “Кінь ты дурыць галаву! Маеш добрую пасаду, дык працуй сабе. Якая табе розніца, што адбываецца ў калгасах? Да фені ўсё гэта, няхай начальства шманае, што рабіць”…

Але я не паслухаў “чалавека з народа”. Я быў у такім стане, што не мог маўчаць. Глыбокае расчараванне ад блізкага знаёмства з савецкім жыццём, роспач апанавалі мяне. І ў адчаі я ўсё ж рашыўся патурбаваць крамлёўскіх кармчых…

Яны аказаліся верныя сабе: у мясцовыя органы паступіў загад знайсці і пакараць! Праз колькі часу мяне выклікалі ў райкам камсамолу. Там ужо чакаў супрацоўнік менскага абласнога УКДБ. Ён запатрабаваў ад мяне тлумачэнняў з выпадку майго антысавецкага ўчынку. Я коратка адказаў, што ў лісце выказаў свае думкі аб становішчы ў краіне. А супраць савецкай улады ніякіх злачынных намераў не маю. На гэтым наша гутарка і закончылася, пасланец органаў яўна быў незадаволены мною. Не памятаю, але хтосьці з раённых начальнікаў папракнуў: “Трэба было, даражэнькі, больш каяцца і клясціся ў вернасці партыі і савецкай уладзе. Інакш загрыміш у якую-небудзь Варкуту”. Ён як у ваду глядзеў. Даволі хутка яго прадказанне пачало здзяйсняцца….

Услед за кэдэбістам у райцэнтр прыехаў работнік Менскага абкама камсамолу і забраў мяне з сабою. На пасяджэнні абкаму выключылі з арганізацыі і сказалі звяртацца ў ЦК, калі не згодны. Хоць пытанне гэтае маглі абмеркаваць на месцы працы, на пленуме райкам камсамолу, але выносіць такую далікатную праблему на разгляд РК палічылі немэтазгодным. Навошта моладзі ведаць, што ў яе шэрагах аказаўся іншадумец. Юнакі ў нас на сто працэнтаў ідэйна загартаваныя і маральна вытрыманыя, з’яўляюцца надзейнай апорай і рэзервай партыі. А з адшчапенцам здолеюць разабрацца вышэйшыя інстанцыі. Праз некалькі дзён я ўжо стаяў перад бюро ЦК камсамолу. Выслухалі мяне. Шмат пытанняў не задавалі, для іх усё ўжо было вырашана. Толькі асаблівую актыўнасць праявіў нейкі вайсковец, відаць, работнік армейскага камсамолу. Ён увесь час круціўся на крэсле, ажно падскокваў, і сваімі пытаннямі-разважаннямі падбіваў мяне прызнацца ў сувязях з замежнымі прапанандысцкімі цэнтрамі, а можа, і з больш страшнымі органамі….

- Мусіць, галасы розныя слухаеш? – распякаў мяне ружовенькі маладзён.

- Няма ў мяне прыймача, - спрабаваў я адбіцца ад гэтага заўзятага актывіста.

А па праўдзе, ён меў-такі рацыю, гэты палітбаец. Сяды-тады я слухаў “Голас Амерыкі” ці Бі-Бі-Сі, што выпадала пачуць скрозь ярасныя шумы і посвіст глушылак: у рэдакцыі была радыёла. Але не галасы, не радыёла вінаватыя, не яны зрабілі з мяне крытыка ўлады. А навакольнае савецкае жыццё. Яны, зразумела, дзяліліся навінамі. Аднойчы, напрыклад, расказалі, што супрацоўнік савецкага пасольства ў Аўстраліі папрасіў палітычнага прытулку, мясцовыя ўлады пайшлі яму насустрач. У СССР падняўся неверагодны шум з гэтага выпадку. Крэмль патрабаваў выдачы “злачынца”, атрымаўшы адмову, скасаваў дагавор аб закупцы вялікай партыі воўны. З яе, паведамлялі “галасы”, можна

было вырабіць мільёны метраў тканіны ды пашыць безліч касцюмаў. Савецкая прэса такой "дробяззю", зразумела, не цікавілася. А мой аднакурснік з гэтай гісторыі зрабіў слушную выснову: "Наш Соса давядзе да таго, што хутка ўсе будзем хадзіць у куфайках"....

Пра фінал маёй справы здагадацца было няцяжка. Спадзявацца, што камсамольскія бюракраты пашкадуюць небараку. Наіўна. Яны зрабілі тое, што ад іх патрабавалі, і выключылі са слаўных радоў камсамолу. Цяпер у любы момант можна было чакаць "гасцей". Маё меркаванне пацвердзілася раптоўным з'яўленнем вядомага яшчэ па універсітэце "сябра" органаў. Ён быццам бы нспадзявана сустрэў мяне і між іншым пацікавіўся, дзе жыву. Я не стаў гуляць у хованкі, усё роўна гэта не прынесла б карысці. Каб больш пераканацца ў тым, папрасіў пазычыць "трояк".

- Заўтра аддам, мне ўжо выслалі грошы па пошце. Раніцай атрымаю і вярну,- запэўніў я.

- Прабач, але з сабой няма ні капейкі, - нібы з жалем у голасе прамовіў"прыяцель". Пры гэтым ён нават не стаў правяраць свае кішэні. Я пільна глянуў яму ў вочы і, здаецца, прачытаў у яго нахабных зрэнках адказ: "Пацерпіш. А заўтра грошы табе не спатрэбяцца. Пойдзеш на казённыя харчы!" "Гад. Пашкадаваў "трояка"!" – круцілася ў мяне на языку. Ён, мусіць, адчуў, як я натапырыўся, хуценька развітаўся і пашыбаваў са справаздачай да сваіх сяброў...

**АРЫШТ І СЛЕДСТВА**

У мяне быў яшчэ час, каб схавацца ад чакістаў, збегчы куды-небудзь у Сібір ці на Далёкі Усход, у тундру, нарэшце, - у бяскрайнім Саюзе зацішных куткой хапала. Але не было адпаведнага настрою. Жыць пад пастаяннай пагрозай выкрыцця не хацелася. "Няхай ужо судзяць! Шмат не дадуць, не той час", - махнуў я рукой на ўсе турботы.

...Яны прышлі раніцай. Разам з другім бяздомным мы бесклапотна спалі ва універсітэцкім інтэрнаце. Моцны, неаднаразовы стук у дзверы сведчыў, што з'явіўся начальнік, гаспадар, які мае права перарваць наш сон. Давялося ўставаць, я нават не пацікавіўся, які нахабнік асмеліўся нас непакоіць. Адкрыў і адразу сцяміў, што гэта яны самыя...

- Ваша прозвішча? Мы з КДБ, паедзеце з намі, - прамовіў, паказваючы некае пасведчанне, адзін з "гасцей".

Я сабраў свае рэчы і рушыў да дзвярэй. Дзябёлыя, праўда, стараватыя, мужыкі ў аднолькавых шэрых плашчах суправадзілі мяне да такога ж старэчага легкавіка "Победа", пасадзілі пасярэдзіне. Мабыць, каб не збег... У гэты час студэнты і выкладчыкі якраз ішлі на заняткі, многія звярнулі ўвагу на нашу даволі дзіўную кампанію і, пэўна, падумалі, што адбываецца нешта не зусім звычайнае: маладзён і два дзядзькі некуды спяшаюцца з'ехаць...

Прыехалі мы хутка, было недалёка. Абласная ўправа КДБ месцілася тады ў трохпавярховым будынку, што на плошчы Свабоды.

Неўзабаве завялі ў нейкі кабінет, дзе сядзелі двое мужчын строгага выгляду. Яны назвалі сябе: начальнік управы, намеснік пракурора. У адрозненне ад ранейшых даволі ветлівых дзядзькаў гэтыя амаль адразу накінуліся на мяне з лаянкай: як ты, нягоднік, асмеліўся накрэмзаць антысавецкі опус і зняважыць партыю і ўрад. Я спрабаваў нешта пярэчыць, ды дзе там, яны і слова не далі вымавіць, працягвалі лаянку. І калі, мабыць, задаволіліся, сагналі злосць, пракурор аб'явіў, што мяне затрымліваюць у якасці сведкі, і падсунуў паперку для подпісу.

Пасля гэтага "халоднага душа" павезлі ў так званую "амерыканку", круглую турму, якая знаходзілася ва ўнутраным двары рэспубліканскага КДБ. Перад тым як завесці ў камеру, пажылы старшына правёў татальны шмон не толькі рэчаў, але і майго цела... Прымусіў распрануцца да трусоў, агледзеў спераду і ззаду. Зазірнуў у рот, а ў канцы і ў ж... Толькі пасля гэтых ашаламляльных працэдур дазволіў апрануцца. Затым яшчэ ўзялі адбіткі пальцаў, сфатаграфавалі у профіль і анфас. Для тамтэйшых службоўцаў гэта былі звычайныя заняткі, а для няшчаснага вязня выглядала даволі дзіка. Падумалася: вось як працуе карны механізм нялюдскай дзяржавы. Ну няхай бы глядзелі, выбачайце, у задніцу якому крымінальніку, навучанаму хаваць штосьці недазволенае паміж ягадзіц, а пацярпелага "за язык" можна было б і пазбавіць ад падобных тонкасцяў агляду. Дык не, вось будзеш ведаць, што тут з табой усё могуць зрабіць, што захочуць: прынізіць, зняважыць, пабіць...

Змясцілі мяне ў адзіночную камеру, дзе, здаецца, акрамя ложка, засланага бруднага колеру коўдрай, нічога не было. Камера настолькі вузкая, што калі выцягнуць рукі, то амаль дастанеш сцен. У самым версе, пад столлю, у сцяне слаба свяцілася невялічкае акенца з рыфлёным шклом. Ад сценкі да дзвярэй з "кармушкай", праз якую падавалі ежу, і "вочкам" для нагляду за арыштантам было крокаў шэсць – 2,5 - 3 метры. Вось і ўся прастора!

Пра рэжым можна было даведацца з паперкі, што вісела на сцяне ля дзвярэй. Помніцца, патрабавалася строга выконваць усе загады адміністрацыі, уставаць пры наведанні начальнікаў і г.д.

Неўзабаве выклікалі на першы допыт (допыты ўвогуле працягваліся звыш двух месяцаў). Следчы лейтэнант Карнач аказаўся чалавекам маладым і ветлівым, за ўвесь час нашага "супрацоўніцтва" ён ні разу не павысіў голас, не тое каб крычаць ды абражаць. Уласна

кажучы, справаа мая была даволі простай, ніякіх асаблівых сакрэтаў не ўтрымлівала, падследнага не трэба было "ламаць", каб выцягнуць з яго неабходныя паказанні. Амаль усё было, як на далоні. Перш за ўсё той злашчасны ліст на пяцідзесяці старонках рукапіснага тэксту, дзе хапала "выкрывальнага" матэрыялу для якіх заўгодна высноў. Найбольш падыходзіў сюды артыкул 72"а" Крымнальнага кодэксу БССР аб антысавецкай агітацыі і прапагандзе.

Аднак следства фактычна не магло ўстанавіць, ці сапраўды я займаўся гэтай самай агітацыяй і прапагандай. Безумоўна, ліст "изготовил и отослал" у ЦК партыі, але ж я не распаўсюджваў яго, нікому не даваў чытаць. Такой мэты я не ставіў перад сабой. Адправіў "на верх" і канцы ў ваду. Вядома, у той жа Чырвонай Слабадзе можна было пазнаёміць каго-небудзь з напісаным. Толькі каго? – вось пытанне. Колькі я не вёў размоў з маладымі хлопцамі і дзяўчатамі, калі ездзіў у камандзіроўкі па справах рэдакцыі або па заданні райкаму камсамолу, блізкіх адносін ні з кім не ўсталявалася. Адзін сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса, які падвозіў мяне пасля сходу ў райцэнтр, наступным чынам растлумачыў паводзіны вяскоўцаў і не толькі іх: "Хто яго ведае. Сёння іншага не зразумееш"...

Між тым зразумець няцяжка. Усе былі незадаволены сваім становішчам, дзіва што, нават у райцэнтры хлеб выдавалі па спісах. І гэта ў адносна багатым хлебным раёне. З іншымі прадуктамі было яшчэ горш. Аднак людзі маўчалі, таму што над усімі панаваў страх аказацца ў засценках "органаў".

Не маўчаў толькі вядомы ў пасёлку п'яніца – забыў яго прозвішча. Дык ён, як толькі я заходзіў у сталоўку, адразу пачынаў крычаць: "Далоў Сталіна, далоў тырана!" Пры гэтым цікаваў, як я рэгую на яго выкрыкі. Я, канешне, не звяртаў увагі на гэтую прымітыўную правакацыю, паеў ды пайшоў сваёй дарогай. Між тым паводзіны алкаша сведчылі, што "органы" ўзялі мяне на ўлік. Значыць, устанавілі, хто аўтар ліста... Трэба было рыхтавацца да сусрэчы з прадстаўнікамі "плашча і кінжала".

Для следства было важна таксам ўстанавіць, выявіць карані крамолы, адкуль набраўся такіх антыдзяржаўных поглядаў. Пэўна ж, ва універсітэце! Значыць, там былі прапагандысты і агітатары. Хто яны? Адсюль патрабаванне следчага: "Назавіце сваіх сяброў!..." Вось і думай: калі назавеш, у хлопцаў будуць непрыемнасці. Мала з кім вялі размовы, дыскусіі, спрачаліся, якая ў тым віна людзей? Яны ж лістоў не пісалі, нават не чыталі майго "твору". Навошта іх уцягваць у гэтую гісторыю? Сам заварыў кашу, сам і расхлёбвай. Таму я заявіў: "Не было ніякіх сяброў!"

Маё сцвярджэнне чэкіста ўзвінціла: "Як гэта не было? Пяць гадоў быў са студэнтамі і ні з адным не зблізіўся? Тады называй, з кім жыў у інтэрнаце разам, калі такі хітранькі!" Тут ужо адступаць не было куды. Але ж гэта не страшна, мала з кім жыў. Потым аднакурснікаў дапытвалі. Яны нічога не сказалі на шкоду ні сабе, ні мне. Я сам сабе нашкодзіў, як ніхто іншы, аднак абвінавачанне ў атнысавецкай агітацыі неяк павісала ў паветры. Не знаходзіла досыць пераканаўчага абгрунтавання. Заставалася спыніцца на "изготовлении и хранении антисоветского документа". Следчага гэта не задавальняла. Яму карцела выведаць штосьці больш істотнае. Відаць, для таго ў камеру да мяне падсадзілі новага чалавека. Ён адразу не спадабаўся мне. Цэлы дзень, амаль без перапынку ўсё стагнаў і плакаў, жаліўся, што яго несправядліва абвінавачваюць у забойстве старшыні калгаса.

- Вы ж, пэўна, чулі, - звярнуўся ён да мяне, - што ў Берасцейскай вобласці здзейснена некалькі тэрактаў, застрэлілі ў адным калгасе старшыню, а ў другім – брыгадзіра. Але ж я тут ні пры чым.... А ў вас што за справа? – неяк раптоўна, нечакана спытаў "тэрарыст" і пільна ўтаропіўся на мяне.

- Напісаў ліст, які палічылі антысавецкім, - давялося задаволіць яго цікавасць.

- Гэта ерунда, не страшна. Калі нікому не паказвалі ліста, то вам многа не дадуць, - суцешыў мяне сусед. І дадаў: - А каб было вярней, напішыце скаргу ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый, так будзе больш надзейна. – тлумачыў мне юрыдычныя тонкасці "знаўца" закону.

- А вы, аказваецца, дасведчаны чалавек, - падкалоў я сукамерніка.

Пасля гэтага сексот ужо не заводзіў размоў, а ўсё плакаў, мабыць, хацеў паказаць, што ён не зусім нармальны, і яму можна ўсё гаварыць, ён бяскрыўдны "шызік". Дарэчы, мяне таксама правяралі. Відаць, таму, што аднойчы пажаліўся на галаўны боль і папрасіў даць таблетку. Але не толькі па названай прычыне. У дзяржаве з "найвышэйшай формай дэмакратыі" кожнага іншадумца маглі залічыць у псіхічна хворыя. Раз крытыкуеш высокае начальства, значыць ненармальны. У псіхушку цябе! Бо савецкая ўлада народная, самая справядліваў ў свеце, а ты ўздумаў нешта цяўкаць на яе. Не пройдзе!

Але мне пашанцавала: рэжым трохі памякчэў, пачыналася "оттепель". Ужо не толькі на закрытым пасяджэнні з'езду Хрушчаоў зачытаў даклад аб кульце асобы Сталіна. Спецыяльны ліст пра гэта агалошваўся на сходах актыву ва ўсіх раёнах. Аб тым жа была прынята пастанова ЦК партыі. У канцлагерах працавалі камісіі па перагляду спраў нявінна асуджаных, многія зэкі былі апраўданы і выйшлі на волю. Канешне, гэта яшчэ не азначала, што можна беспакарана крытыкаваць родную савецкую ўладу. Многа захацеў! Да свабоды, дэмакратыі быў яшчэ доўгі шлях. Мая гісторыя яскрава засведчыла тую неаспрэчную сапраўду.

Два месяцы ў цеснай адзіночнай камеры надзвычай здоўжыліся. Цэлы дзень перад табой голыя сцены, пафарбаваныя ў цёмна-зялёны колер, які не дадаваў, а хутчэй забіраў добрую частку святла, што з цяжкасцю прабівалася праз вузкае цмянае акенца.

Праходжвацца можна было ад знешняй сценкі да дзвярэй з кармушкай, гэта пяць-шэсць невялікіх крокаў. Выпускалі з камеры раніцаў у туалет, а пазней на прагулку, якая працягвалася чамусьці толькі паўгадзіны. Усцешыла тое, што дазвалялася заказваць кнігі ў турэмнай бібліятэцы. Чытанне запаўняла ўвесь свабодны час і пераключала ўвагу ад сумных думак пра свой лёс на перажыванні кніжных герояў. Нейкую “разнастайнасць” у турэмнае існаванне ўносілі допыты... Вось і ўсе “радасці” зэка. На адным “спатканні” са следчым ён паведаміў, што быў у Харашках, пазнаёміўся з маці і сёстрамі.

- У цябе добрая сям’я, – заўважыў мой “апякун”. Але не сказаў, што і там праводзіўператрус і нічога крамольнага не знайшоў.

## СУД І ПАДАРОЖЖА Ў ГУЛАГ

У кастрычніку мая справа нарэшце была перададзена ў Менскі абласны суд. Нягледзячы на мае высілкі, абвінавачанне засталося ранейшым: антысавецкая агітацыя і прапаганда... Прызначаны судом адвакат перад пачаткам працэсу падышоў да мяне і заявіў: “У маіх паслугах няма сэнсу. Ніхто цябе не абароніць. Усё роўна паедзеш у лагер. Так што, калі хочаш, сам сябе абараняй”. “Вось дык адвакат” – падумалася мне. Зрэшты, я прытрымліваўся такой жа думкі адносна сваёй справы і таму не пярэчыў. Толку ад такога спецыяліста не было. Як многія тагачасныя юрысты, ён не жадаў весці палітычныя працэсы з –за іх малаперспектыўнасці.

На судзе я сказаў тое, што гаварыў падчас следства: “Агітацыяй і прапагандай не займаўся. Ліста нікому не паказваў, нікому не распавядаў пра яго. Ніколі не меў на мэце і нічога не рабіў для падрыву савецкай улады, я толькі крытыкаваў недахопы, на якія не раз указвалі самі кіраўнікі партыі і дзяржавы”.

Аднак нічога не дапамогло. Прысуд, па ўсім відаць, даўно быў запраграмаваны. Мяне асудзілі на два гады пазбаўлення волі ў папраўча-працоўных лагерах.

Праз некалькі дзён адправілі на месца адбыцця пакарання, аб якім ніхто нічога не сказаў. Першым прыпынкам на гэтым шляху была Аршанская перасыльная турма. Нас выгрузілі з так званага сталыпінскага вагона, у якім ехалі з Менска, і загадалі зшыхтавацца ў калону. Вось тут і прагучала знакамітыя словы каманды: “Патрабую строга прытрымлівацца парадку руху. Крок улева, крок управа – страляю без папярэджання”. Калону акружылі ахоўнікі з аўтаматамі і аўчаркамі. Крыкі канваіраў і брэх раз’юшаных сабак рабілі жудаснае ўражанне.

З цягам часу прывыкаеш да ўсяго, але ўпершыню прадэманстраваны турэмны парадак запомніўся назаўсёды. Вось, аказваецца, як выглядае сапраўдны твар улады. Нават выпадкова, задумаўшыся, ступіш крок па-за шарэнгу, каб абмінуць якую лужыну, на цябе могуць нацкаваць аўчарку або які заўзяты службістахоўнік застрэліць без папярэджання.

У Оршы прабылі нядоўга. Дзве ночы праваляліся на драўляных нарах, спалі ў верхнім адзенні ў такой цеснаце, што з цяжкасцю ўдавалася павярнуцца з аднаго боку на другі. Шэрай раніцай зноў зшыхтавалі і павялі на чыгуначную станцыю, дзе ў глухім тупіку, воддаль ад вачэй вольных людзей стаяў напагатове знаёмы вагон. Яшчэ завідна прыбылі ў Маскву. Тут, як і ў Менску, зэкаў перавозілі ў “варанках”, дзе меліся невялічкія кабінкі. У кожную запіхалі не па аднаму, а па двое “пасажыраў”. Добра што ехаць было недалёка, на Чырвоную Прэсню, дзе бальшавікі зладзілі перасыльную мурму. Калісьці ў далёкія 1905-1907 гг. тут на барыкадах маскоўскія рабочыя змагаліся за лепшую долю, за свабоду. Царызм задушыў паўстанне. Кастрычніцкі пераварот, або пралетарская рэвалюцыя, як яе называлі камуністы, таксама не прынесла волі народу. Аб тым сведчыла “паспяховая” дзейнасць мясцовай перасылкі. Але на той час, на здзіўленне, яна аказалася паўпустой. Я амаль да вечара сядзеў адзін на ўсю даволі вялікую камеру. Праўда, пазней прывялі трох масквічоў, рабочых. Старэйшы з іх падышоў да мяне пазнаёміцца. Спытаў адкуль і за што тут апынуўся. Калі пачуў адказ , рассмяяўся: “Тут мы ўсе супраць савецкай улады”.

Назаўтра ў камеру зайшла цэлая кампанія начальнікаў, у ліку іх – два чырвонамордыя генералы. Да нас яны не звярталіся, паўглядаліся, пагаварылі, паціху паміж сабой і пайшлі. Пазней стала вядома, што гэта быў (добра не памятаю) румынскі ці венгерскі галоўны турэмшчык, які прыязджаў вывучаць “досвед” савецкага ГУЛАГу. Яго суправаджаў наш гулагавец са світай маёраў і палкоўнікаў. “Вось таму і камеры напаўпустыя. Хочуць паказаць, што ў нас створаны нармальныя ўмовы для зняволеных”, - так пракаментаваў візіт замежнага госця адзін з масквічоў.

## У МАРДОЎСКІХ ЛЯСАХ

“Пагуляць” у сталіцы доўга не давялося. Хутка зноў у аўтафургонах нас даставілі да спецвагонаў і павезлі на Усход. “Ёсць чуткі, што ў Мардовію загоняць”, - сцвярджалі бывалыя зэкі. Іх здагадкі спраўдзіліся. Я трапіў у лагаддзяленне № 7 Мардоўскага ўпраўлення папраўча-пра-

цоўных лагераў. Тут сядзелі толькі палітвязні. Што ўяўляў сабой савецкі канцлагер? Як і ў іншых месцах зняволення, гэта быў адносна невялікі барачны пасёлак за калючым дротам. У аднапавярховых драўляных будынінах знаходзіліся жылыя памяшканні для зэкаў, розныя гаспадарчыя падраздзяленні, сталовая, адміністрацыя лагера і г.д.

"Мой" барак складаўся з двух пакояў, у кожным налічвалася па 20 двух'ярусных нараў, на якіх маглі размясціцца 80 чалавек. Пакоі раздзяляліся калідорам, там стаяў стол, дзе зэкі "забівалі казла". Раней баракі днём і ноччу закрываліся на замок. Толькі пасля паўстанняў, якія пракаціліся па ГУЛАГу, замкі знялі і людзям дазволілі свабодна хадзіць па зоне. Аднак з-за цеснаты, перанаселенасці ў бараках было душна. Спёртае смярдзючае паветра не садзейнічала нармальнаму адпачынку пасля клопатаў працоўнага дня.

Да жылога пасёлка прымыкала рабочая зона, таксама абнесеная калючым дротам і строга ахоўваная. Тут выраблялі футляры для прыёмнікаў Саратаўскага радыёзавода. Мне загадалі ісці ў цэх, дзе шліфавалі футляры. Перад тым іх трэба было падчышчаць цыкляй – гэта ручная работа. Я пахадзіў некалькі дзён і пераканаўся, што нормы ніяк не выканаю.

- Будзеш дарма "ўкалываць", лепш зусім не з'яўляйся туды, - падказалі лагерныя старажылы. Я так і паступіў. У той час неабавязкова было хадзіць на працу.

Але хутка ў барак наведаўся начальнік цэха і пачаў раздаваць заробак за месяц. Супраць майго прозвішча значылася ўсяго некалькі рублёў. Ён спытаў у мяне, адкуль прыбыў, за што пакаралі, якая спецыяльнасць. Паспачуваў і сказаў назаўтра падысці да яго ў цэх. Высветлілася, што некалькі дзён таму назад рабочы інструменталкі адбыў свой тэрмін і паехаў дамоў. Вось начальнік цэха і паставіў мяне на яго месца. Так я набыў больш прыдатны для сябе занятак. Асвоіўся даволі хутка. Увогуле затачыць інструмент не складана, але цыклю пасля заточкі неабходна было яшчэ загінаць пад пэўным вуглом, што не заўжды ўдавалася, бо рабілася гэта аперацыя на вока. Праўда, па першым часе маю работу правяраў і падказваў, як правільна выконваць заточку і загін цыклі, другі рабочы інструменталкі Мікола – ён адбываў тэрмін за ўдзел ва ўкраінскім нацыянальным руху. Мы з ім працавалі зладжана, ніхто ў наш адрас не выказваў ніякіх нараканняў. Мяне асабліва парадавала, што ў інструменталцы былі так званыя "залікі": за адзін рабочы дзень залічвалі два. Дзякуючы гэтаму я выйшаў на волю амаль на год раней тэрміну. Але да гэтага было яшчэ далёка.

Першыя дні прынеслі шмат уражанняў ад знаёмства з лагерным бытам, з людзьмі, якія адбывалі свой тэрмін. Дарэчы, тут утрымлівалася каля тысячы зняволеных. Раней, канешне, было больш. Многіх адпусцілі дамоў, рэабілітавалі. Непадалёку ад нашага быў размешчаны яшчэ жаночы лагер, дзе, па чутках, "сядзела" румынская камуністка Анна Паўкер. Як ужо адзначалася, я трапіў падчас лібералізацыі лагернага рэжыму: можна было не працаваць, атрымліваць пасылкі, пісаць лісты ў значна большай колькасці, чым раней. Знялі замкі з баракаў і г.д., і ўсё ж умовы ўтрымання зняволеных заставаліся нялёгкімі. Цесныя і брудныя баракі, аднастайная малакаларыйная ежа: тройчы на дзень давалі нішчымныя крупяныя кашы, у абед дадавалі яшчэ такі ж суп, звычайна ячменны крупнік з варанай рыбай, пайка хлеба і чай. З мізэрнага заробку вылічвалі і за ежу, і за адзенне. За гэты ж кошт утрымлівалася шматлікая адміністрацыя лагера.

Не дзіва, што людзі выказвалі незадаволенасць і гатовы былі ўдзельнічаць у розных пратэстных дзеяннях. Аднойчы, напрыклад, спрабавалі аб'явіць страйк і не выйсці на працу. Праўда, задума не ўдалася, таму што група зэкаў-сексотаў не падпарадкавалася агульнаму рашэнню і пасля доўгіх і гарачых спрэчак усё ж пабрыла ў рабочую зону, а за імі пацягнуліся і іншыя. Другім разам адбылася сутычка з "кумам" – чакістам, начальнікам асобага аддзела. Справа ў тым, што з "бура" (барака ўзмоцненага рэжыму) пачуўся крык зэка, які адбываў там пакаранне за нейкае непадпарадкаванне адміністрацыі. Пачуўшы гвалт, людзі збегліся да барака і запатрабавалі спыніць здзекі. Хутка сабраўся цэлы натоўп, хтосьці паведаміў начальству. Прыбег "кум" і пачаў кідацца на людзей, піхаць, прымушаў разысціся. У адказ адзін з "бунтаўшчыкоў" хапіў важкае палена і добра-такі ўсмаліў чакісту па патыліцы, што той зваліўся. Адразу ўсе разбегліся, бо за напад на службоўца лагера пагражаў новы тэрмін. На жаль, праз некалькі дзён таго хлопца ўсё ж знайшлі і адправілі ў іншае месца. гэта факт зноў пацвердзіў, што ў лагеры шмат сексотаў. А для запалохвання, каб больш падобнага не паўтаралася, за агароджай супраць "бура" ўзвялі агнявую вышку. Там, калі спатрэбіцца, маглі ўстанавіць кулямёт і адкрыць страляніну па натоўпу... Здарэнне каля "бура" доўга абмяркоўвалі, успаміналі пра бунты і паўстанні ў іншых лагерах.

У нашым бараку "кватараваў" зямляк-мянчанін Саша Ходар. Яго называлі Сашка-беларус. Аднойчы ён распавёў мне сваю лагерную эпапею.

- Гэта было ў час вайны, - пачаў ён. – Наш танкавы полк пасля цяжкага пераходу толькі што спыніўся на адпачынак. Раптам бачым – пад'язджае "Віліс". З яго вылез супрацоўнік СМЕРША і, нічога не кажучы, дастаў пісталет і высталіў у нашага механіка-кіроўцу. Пакуль мы ачомаліся

ад гэтага надзвычайнага здарэння, ён сеў у легкавік і памчаўся па дарозе.

Рашэнне магло быць адно: пакараць нягодніка. Я хуценька даскочыў да гарматы і на трэці раз трапіў у "Віліс"...

Сашу арыштавалі. Ваенны трыбунал вызначыў максімальны тэрмін: 25 гадоў лагераў строгага рэжыму. Тут неабходна патлумачыць, з-за чаго разгарэўся сыр-бор. Справа ў тым, што на маршы смершавец, абганяючы калону, небяспечна наблізіўся да танка. І той трохі зачапіў начальніцкі легкавік і прымяў заднія дзверцы. Смершавец, мусіць, палічыў, што на яго хацелі наехаць, і вось такім чынам расправіўся з кіроўцам. Без суда і следства...

Саша Ходар за час зняволення прайшоў шмат якія берыеўскія лагеры. І паўсюдна ў іх панавалі крымінальнікі. Яны жорстка распраўляліся з палітвязнямі, адбіралі ў іх адзенне, прадукты, пасылкі, збівалі, а пры спробе супрацьдзейнічаць, маглі пырнуць нажом або наогул забіць. Ахова глядзела на гэта скрозь пальцы. Каб спыніць гвалт над сабой, трэба было аб'ядноцца. Саша якраз і здолеў гэта зрабіць, пераканаў зняверaных пакутнікаў, што яны ў стане даць адпор нелюдзям, калі будуць дружна і смела падтрымліваць адзін аднаго. І з той пары пачаліся частыя сутычкі паміж бакамі. Нярэдка яны даходзілі да сапраўднага пабоішча: у ход ішлі нажы, ламы, арматура, усялякія падручныя сродкі. Каманда на чале з Ходарам настолькі рашуча дзейнічала, што "уркі" пачалі здавацца, ухіляцца ад сутычак і больш не асмельваліся рабаваць палітвязняў. Сашу і іншых "байцоў" каралі, прысуджалі новыя тэрміны, пераводзілі ў іншыя лагеры. Але яны ўсюды наводзілі свой парадак, ставілі на месца розных "злодзеяў у законе". Вось тады і пайшла пагалоска пра знакамітага Сашку-беларуса.

Я ўжо на маскоўскай перасылцы пачуў гэтае імя. Адзін "урка", жадаючы даказаць, што ён удзельнічаў у страшных бойках з палітвязнямі, асадзіў свайго апанента словамі: "А ты ведаеш Сашку-беларуса? Гэта ж яго каманда разграміла нашу "маліну"...

Саша Ходар нядоўга пабыў у лагаддзяленні № 7. У той час па дамове з польскім урадам зняволеных гэтай нацыянальнасці адпраўлялі на радзіму. Вось Саша і выкарыстаў свой шанец: запісаўся палякам і паехаў у Польшчу. Дарэчы, іспанцы таксама адпраўляліся на радзіму. Франка, хоць і фашыст, аднак дабіўся, каб дзеці былых рэспубліканцаў і нават камуністы маглі вярнуцца дадому. Падумалася: усюды родная краіна, як любая маці, клапоціцца аб сваіх дзецях, даруе іхнія "грахі" і кліча ў свае абдымкі. А наша, нібы злая мачыха, здзекуецца над сваім народам, трымае яго ў голадзе і холадзе, гноіць у лагерах і турмах, даводзіць становішча да людаедства, пра што таксама не раз згадвалі зняволеныя...

Памятнай для мяне засталася сустрэча ў лагеры з яшчэ адным неардынарным чалавекам – Цімохам Вострыкавым. Высокі і прыгожы хлопец, аднойчы ён сабраў нас і апавядаў пра Беларускую Народную Рэспубліку. Паколькі ў той дзень якраз спаўнялася чарговая гадавіна з дня яе абвяшчэння. Я не тое што не ведаў пра дату 25 сакавіка, проста не было звычкі адзначаць гэтае вялікае свята беларусаў. Дый трэба шчыра прызнаць: школа і універсітэт зусім не садзейнічалі таму, каб навучэнцы ведалі праўдзівую гісторыю сваёй радзімы. Наадварот, старанна хавалі яе, усяляк фальсіфікавалі. Калі дзе і ўспаміналі БНР, то заўсёды ў зняважлівым кантэксце. Маўляў, гэта міф, амаль нічога не было, тэлеграму кайзеру пасылалі і г.д. Адным словам, з дапамогай хлусні і скажэння гістарычных падзей і фактаў рыхтавалі з нас інтэрнацыяналістаў, а дакладней, нацыянальных нігілістаў. Досыць адзначыць, што ні разу ні адзін выкладчык не прывёў поўнай назвы старажытнай беларускай дзяржавы. Усе гаварылі: Вялікае Княства Літоўскае. Толькі ў часы перабудовы, калі пачалі з'яўляцца больш аб'ектыўныя працы навукоўцаў, я даведаўся, што поўная назва дзяржавы гучыць наступным чынам: Вялікая Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Значыць, не толькі Літоўскае! Вось як хітра і подла хавалі ад нас нашу гісторыю.

А Цімох Вострыкаў, нягледзячы на тое, што ВНУ канчаў за мяжой, выдатна ўсё ведаў і напомніў мне і іншым слухачам сапраўдныя падзеі нашай мінуўшчыны. І тым паспрыяў росту нацыянальнай свядомасці кожнага з нас.

### НА ВОЛІ

Мне пшанцавала, што я трапіў у лапы савецкай карнай машыны ў іншыя часы, калі яна трохі прыцішыла сваю нялюдскую работу. Дзякуючы залікам рабочых дзён маё "сядзенне" ў лагеры скарацілася амаль напалову. У дзень ад'езду атрымаў чыгуначны білет, булку чорнага хлеба і, здаецца, дзве ці адну бляшанку кількі ў таматным соусе... На дробныя дарожныя расходы начальнік лагера даў 10 рублёў. Я спытаў, чаму так мала, амаль за цэлы год працы ўсяго столькі ўзнагароды?! Квадратная морда турэмшчыка ўспыхнула агнём, пранізлівыя зрэнкі пракалолі мяне навылёт.

- А кармілі цябе за што? – зароў начальнік так, што вялізны яго жывот затросся, як у ліхаманцы, - ідзі лепш па добрай волі, - пагрозліва дадаў гэты цэрбер савецкай лагернай сістэмы.

Сапраўды, я палічыў за лепшае спыніць "дыскусію", схапіў свае манаткі і пашыбаваў да чыгункі, а то чаго добрага арыштуе, заявіць, што кінуўся на яго з кулакамі – паспрабуй потым дакажы, што ты не вярблюд. Самы справядлівы

савецкі суд паверыць яму, а мне лепш туды не трапляць, вырашыў я.

У вагон ледзь ускочылі. Праваднiцы ведаюць, што тут лагер на лагеры і асноўныя пасажыры зэкі. Могуць абакрасці, учыніць бойку і да т.п. Таму не хочуць пускаць, хоць сунеш ёй білет у самыя рукі. Падзейнічала, мабыць,тое, што заявілі: мы не крымінальнікі, а палітвязні.

Да Масквы даехалі без прыгод. Тут давялося развітацца с сябрамі: на Менск я застаўся адзін. Паколькі да цягніка было амаль восем гадзін, я вырашыў зрабіць экскурсію па сталіцы. А потым пад'ехаў да Крамля і стаў у доўгую чаргу да маўзалея, - яго раней ніколі не наведваў, а хацелася глянуць на чалавека, які быў ініцыятарам стварэння савецкага ГУЛАГу. Нічога асаблівага не ўбачыў: труп ды труп.

У Менску таксама спыніўся, каб зайсці ў КДБ і забраць дакументы. Мяне сустрэў маладзенькі лейтэнанцік і са здзіўленнем прамовіў: "Ты гэтак хутка вярнуўся?..." Вось, думаю, здорава, яны хочуць, каб ты як мага даўжэй парыўся ды мёрз "в местах не столь отдаленных". Хоць і не было за што. Але спрачацца не стаў, атрымаў дакументы і пайшоў. Заглянуў у адну менскую газету, дзе працаваў аднакурснік. Размовы не атрымалася, ён асуджаў мой учынак.

Дома пабыў з тыдзень і падаўся шукаць працу. У газету не бралі. Партыйныя ідэёлагі не захацелі кудысьці накіроўваць, адпраўлялі да рэдактараў. А тыя адказвалі: калі абкам дасць накіраванне, возьмем. Атрымлівалася замкнутае кола. Толькі ў кастрычніку прынялі на працу ў вячэрнюю школу сельскай моладзі, куды ніхто не жадаў ісці. Там пабачыў, які бяспраўны савецкі настаўнік. Нават калгасны брыгадзір мог яму "насаліць", данесці начальству, што настаўнік не жадае займацца агітацыяй... Таму быў задаволены, калі выпадкова ўдалося ўладкавацца ў ружанскую раённую газету. А праз год, з дапамогай аднакурсніка, перабраўся ў лідскую газету. Пазней стаў уласным карэспандэнтам "Гродзенскай праўды" ў Лідзе. Тут я абзавёўся сям'ёй. Маю дачку і сына, абое закончылі ВНУ і працуюць: дачка – урачом, сын – інжынерам.

Наогул, чым займацца пасля вызвалення, не раз з трывогай думалася яшчэ ў лагеры. Пры тым я не спадзяваўся, што адразу патраплю ў якую-небудзь газету, бо трохі ведаў рэдактараў і партработнікаў. Яны занадта асцярожныя кансерватыўныя, каб пайсці на рызыкоўны ў той ці іншай меры крок, за які можна атрымаць вымову ад вышэйшага начальства. Таму не выпадкова маімі хадатаямі быў намеснік рэдактара і да таго ж – паэт, а другі раз – карэспандэнт рэспубліканскай газеты. Да людзей такой катэгорыі было своеасаблівае стаўленне з боку партыйных дзеячаў, яго можна ахарактарызаваць фразай: "Ат, што з іх узяць? Не варта звязвацца". Зразумела, што і сама атмасфера ў краіне садзейнічала змякчэнню нораваў кіраўнічага апарату. Тым не менш у абодвух выпадках, калі партначальнікі даведваліся, што ў рэдакцыі з'віўся "падазроны" чалавек, маіх дабрадзеяў выклікалі сакратары па ідэалогіі і пыталіся: "Почему не посоветовались со мной?" Адказвалі мае дабрадзеі аднолькава: "Літработнік – наменклатура рэдактара і таму не хацелася вас турбаваць..." Вось так я і "замацаваўся" ў газеце.

У лагеры ўзнікалі думкі і аб тым, каб змяніць прафесію. Напрыклад, стаць шафёрам. Але для таго трэба было скончыць спецыяльныя курсы, якіх у зоне не было. Затое пажылы піцерскі рабацяга, удзельнік рэвалюцыі і перадавік вытворчасці, які аказаўся занадта разумным і пачаў папракаць родную партыю ў здрадзе камуністычным ідэалам, за што трапіў у мардоўскія лясы для перавыхавання, - вось ён і ў няволі праявіў ініцыятыву, арганізаваў курсы па падрыхтоўцы токараў. Запісаўся туды і я. Наведаў пяць ці шэсць заняткаў, але нешта душа мая не ляжала да такарнай справы. Стой цэлы дзень, як прывязаны, ля гэтага станка і наглядай, як верцціца-мільгае ў вачах бліскучасты круглякпатрон... Кінуў заняткі і застаўся без запаснойпрафесіі.

У газету цягнула яшчэ таму, што там адчуваеш сябе больш вольным. Адпісаўся, здаў матэрыял і можаш расслабіцца, пагуляць нават у рабочы час, праветрыць галаву... Дрэнна толькі, што пастаянна ў тваёй галаве круціцца пытанне – праблема: а ці ёсць карысць ад твайго занятку, ад гэтай бясконцай пісаніны? Ды наогул, ці варта працаваць у савецкай прэсе, калі ў гармадскім жыцці ўсталявалася двайнаятрайная мараль, калі хлусня ўзведзена на ўзровень дзяржаўнай і партыйнай палітыкі і практыкі?

Усё так, правільна, але што рабіць і куды падацца, калі ўсюды аднолькава. І якой-небудзь перспектывы нават у будучым не прадбачыцца. Будаўнікі камунізму апынуліся ў стане безнадзейнасці і расчаравання. Змяніць існы дзяржаўны лад, здавалася, немагчыма. Мой цесць, разумны чалавек, часта паўтараў: "Назад шляху няма". Сапраўды, у краіне створана такая карная сістэма, што нават нязначнае адступленне ад "генеральнай лініі" будзе заўважана і неадкладна "папраўлена", іншымі словамі – прыдушана.

Выхад у адным – працаваць, рабіць, што дазволена ў рамках сістэмы, і пакрысе, непрыкметна расшыраць гэтыя рамкі. Нельга чапаць партыйныя і савецкія органы! Але ж калгасы, заводы, усе працоўныя ячэйкі грамадства можна і трэба крытыкаваць, гэтага патарбуе сама партыя. Калі ў вытворчых падраздзяленнях, у навуцы, культуры, асвеце, ва ўсіх галінах шмат недахопаў, то чалавек паступова перакон-

ваецца, што тут віна не простых людзей, а, пэўна, штосьці прагніло на самым версе ўлады і ў яе ніжэйшых звеннях. Вось такой лініі я і многія іншыя стараліся прытрымлівацца. Крытыкавалі, выяўлялі прычыны адставання вытворчых і іншых калектываў, рыхтавалі аналітычныя і, канешне, інфармацыйныя матэрыялы, без якіх ні адна газета не можа абысціся.

Калі пачалася гарбачоўская перабудова, працаваў у незалежнай газеце "Перспектыва", а пазней сумесна з Лідскім таварыствам беларускай мовы наладзілі выданне газеты "Народная трыбуна, пазней змянілі назву на "Голас з Ліды", якія я рэдагаваў. Гэта быў час , калі можна было зусім адкрыта абмяркоўваць шматлікія праблемы станаўлення незалежнай беларускай дзяржавы. Прычым у газеце мы асвятлялі дзейнасць не толькі мясцовай улады, але і рэспуб-ліканскіх ораганаў. Аднойчы я падрыхтаваў і змясціў у газеце артыкул амаль на цэлую паласу, у якім падвяргаўся крытыцы старшыня Савета Міністраў рэспублікі В. Кебіч.




*Лідскія незалежныя газеты пачатку 90-х гадоў*

У газеце змяшчалася шмат выкрывальных матэрыялаў аб карупцыі сярод кіраўнічай наменклатуры. Апошняя, дарэчы, пасля часовага спалоху вельмі хутка прыстасавалася да новых абставін і зусім не збіралася дзяліцца ўладай з узнікшымі дэмакратычнымі арганізацыямі. Карыстаючыся сваім становішчам, розныя вялікія і малыя начальнікі стараліся, як мага больш, адхапіць ад грамадскага пірага. Асабліва гэта стала прыкметна па будаўнічаму буму, які паўсюль разгарнуўся. Вакол гарадоў, нібы грыбы пасля дажджу, пачалі вырастаць цэлыя вуліцы і нават пасёлкі (іх называлі царскмі або дваранскімі) двух-, трохпавярховых катэ-джаў. Некаторыя з іх выглядалі не горш за палацы магнатаў.

Здавалася б, гэта і нядрэнна: хутчэй будзе вырашацца жыллёвая праблема. На справе атрымлівалася нешта зусім адваротнае: будаваліся ж начальнікі, якія мелі добрыя гарадскія кватэры, а так званыя шараговыя грамадзяне, якія дзясяткі гадоў стаялі ў чарзе на дзяржаўнае жыллё, засталіся "з носам" і не дзіва, бо не кожнаму давалі пляц для дома. А па-другое, дзе быо ўзяць сродкі на будоўлю? Начальнікі атрымлівалі крэдыты ў ашчадных касах, а просты чалавек не мог зняць грошы нават са свойго рахунку, калі ён быў. Вось і атрымлівалася, што людзі багатыя ўзводзілі свае палацы за сродкі маламаёмных грамадзян. Да таго ж начальнікі за бясцэнак альбо зусім дарма (пад выглядам браку) набывалі будматэрыялы, часта без аплаты карысталіся будаўнічай тэхнікай і нават рабочай сілай.

У газеце "Голас з Ліды" з нумара ў нумар змяшчаліся публікацыі на згаданую тэму, шырока асвятлялася дзейнасць апазіцыйных партый і рухаў, іх барацьба з ўсталяванне дэмакратычнага ладу ў краіне. На жаль, у 1996 годзе я быў вымушаны зменшыць свой удзел у грамадскай рабоце ў сувязі з захворваннем жонкі. Тры гады з лішкам працягвалася наша змаганне з інсультам. І ўсё ж хвароба перамагла. Яшчэ раней, заўчасна, хутка пасля Чарнобыля, памерла ад белакроўя мая старэйшая сястра Валя. Скончыла свой зямны шлях наша маці, якая пражыла 92 гады. Заўчасна таксама пакінуў гэты свет і мой малодшы брат Віктар.

Трэба заўважыць, што ўсе дзеці з нашай сям'і набылі жаданую адукацыю. Сёстры Валя, Ліда і Зіна працавалі настаўніцамі. Апошнія дзве зараз на пенсіі. Віктар атрымаў адукацыю ў Рыжскай навучальні паветранага флоту і працаваў інжынерам у авіяцыі. Мая праца ўсе гады была звязана з газетнай справай. Мая жонка Таццяна таксама закончыла педінстытут і працавал настаўніцай, а потым завучам і дырэктарам школы. Вось так. Адны ўжо закончылі свой зямны шлях, а мы ўтраіх – я і сёстры Ліда ды Зіна – пакуль яшчэ трымаемся. Я і цяпер стараюся ўдзельнічаць у грамадскіх мерапрыемствах, хаджу на мітынгі і дэманстрацыі…

# Уладальнік маёнтка "Бердаўка" Аляксандр Дамбавецкі

***У гэтым годзе спаўняецца 165 год з дня нараджэння А.С. Дамбавецкага (1840 -пасля 1914), уладальніка маёнтка "Бердрўка", міравога суддзі Лідскай судова-міравой акругі, Магілёўскага губернатара, сенатара Расійскай імперыі, краязнаўца, рэдактар калектыўнай працы "Спроба апісання Магілёўскай губерні ў гістарычных, фізіка-геаграфічных, этнаграфічных прамысловых, сельскагаспадарчых, лясных, вучэбных, медыцынскіх і статыстычных адносінах" (кн. 1-3, 1882-1884), ініцыятар стварэння губернскага гістарычна-этнаграфічнага музея ў Магілёве .***

Сёння на Лідчыне ды, мабыць, і ў самой вёсцы Бердаўцы мала хто ведае, што ўладальнікам маёнтка "Бердаўка" з сярэдзіны 60-х гадоў Х1Х ст. да 1914 года быў неардынарны чалавек-беларускі краязнавец, грамадскі і палітычны дзеяч – Аляксандр Станіслававіч Дамбавецкі.

І толькі нямногія пажылыя людзі могуць узгадаць расказы сваіх бацькоў пра гэтага чалавека.

У апошнія гады свайго жыцця А.С. Дамбавецкі жыў у Пецярбургу, а ў маёнтак прыязджаў на лета, каб адпачыць ад шумнага сталічнага жыцця.

Для работнікаў маёнтка і жыхароў навакольных вёсак прыезд пана ператвараўся у сапраўдную падзею.Вітаць гаспадара збіраліся і старыя, і малыя. Дзеці выконвалі песні,чыталі вершы,танцавалі.За гэта ад Дамбавецкага яны атрымлівалі вельмі рэдкія ў тыя часы для сялянскіх дзяцей ласункі: цукеркі, пячэнне, пернікі.

Могуць згадаць аб яго патрабавальнасці і строгасці да работнікаў маёнтка, аб яго гаспадарлівасці і прыхільнасці да парадку, любові да прыгожага і да прыроды.

Захаваліся ўспаміны аб сям'і: жонка Ганна, сыны - Петр і Аляксей, дзве дачкі- Наталля і Вольга. Паводле расказаў кухаркі Дамбавецкага, якая паходзіла з вёскі Меляшы сённяшняга Дварышчанскага сельсавета, яго сыны загінулі на фронце падчас 1-й сусветнай вайны, а дочкі эмігравалі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г.

Сведкам тых часоў у Бердаўцы з'яўляецца эфектны неагатычны палац - адзін з лепшых на Лідчыне, пабудаваны ў канцы 60-х –пачатку 70-х гадоў Х1Х стагоддзя, дзе сёння месціцца сельскі дом культуры і бібліятэка, таксама дом прыслугі, гаспадарчы будынак невядомага прызначэння, разваліны амбара і піўніцы, фундамент млына, запушчаны стары парк.



***А. С. Дамбавецкі***

Маёнтак "Бердаўка" перайшоў А.С. Дамбавецкаму ад Вінцэнта Захватовіча, у якога ён быў канфіскаваны за ўдзел у паўстанні 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, а сам Захватовіч сасланы ў Варонежскую губернію.

Царызм праводзіў палітыку ўмацавання ў краі сваёй сацыяльнай апоры, і гэтым тлумачыцца насаджэнне ў беларуска-літоўскіх губернях буйнога рускага памешчыцкага землеўладання замест польскага.

Аб дзіцячых гадах Аляксандра Дамбавецкага і яго бацьках практычна нічога невядома. У фармулярным спіску губернатара ўказана,што ён "з дваран", але пры гэтым ні ў яго бацькоў,ні ў яго самога, маёнтка няма - дваранства, верагодна, атрымана па адукацыі і выслузе.

Вядомы беларускі літаратуразнавец, пісьменнік-публіцыст, прафесар Адам Мальдзіс нават лічыць, што А. Дамбавецкі - пазашлюбны сын імператара Аляксандра 11 ! Тут няма нічога неверагоднага, бо слабасць "цара-вызваліцеля" да жаночага полу добра вядома, яму на момант нараджэння будучага магілёскага губерна-

тара(1840 год) было ўжо 22 гады.У дадатак да гэтага імклівая кар'ера Дамбавецкага і яго ўдалы шлюб амаль што былі немагчымыя без пратэкцыі ў вышэйшых колах Расійскай імперыі.

Малаверагодна, што ён быў палякам, бо ў фармуляры губернатара значыцца: "Вераспавядання праваслаўнага".

У 1860 годзе Дамбавецкі закончыў курс навук Кіеўскага праваслаўнага універсітэта і атрымаў ступень кандыдата, быў прыняты на службу ў Гаспадарчы дэпартамент Міністэрства ўнутраных спраў, але хутка быў пераведзены ў калежскія сакратары.

У 1862 годзе Дамбавецкага перамяшчаюць у канцэлярыю Рыжскага ваеннага генерал - губернатарства на пасаду сакратара гаспадарчага аддзялення. Акрамя гэтага ён кіруе і паліцэйскім упраўленнем канцылярыі.

17 траўня 1863 года яму нададзены чын тытулярнага дарадцы, а ўжо 30 жніўня 1865 года А. Дамбавецкі прызначаецца чыноўнікам асобых даручэнняў 1У класа пры Міністэрстве ўнутраных спраў.

У 1865 годзе Дамбавецкі бярэ шлюб з Марыяй Грын, дачкой генерал-маёра, "дзяўчынай лютэранскага веравызнання", хутчэй усяго прыбалтыйскай немкай.

26 кастрычніка 1866 года ў іх нарадзіўся сын Петр, і адбылося чарговае павышэнне па службе. Яго перамяшчаюць на пасаду сакратара пры галоўным начальніку III Аддзялення Уласнай Яго Імператарскай Вялікасці Канцылярыі.

У 1868 годзе атрымаў чын стацкага дарадцы, а ў красавіку 1870 года - званне камергера Двара Яго Вялікасці.

30 сакавіка 1872 года А.С. Дамбавецкага назначаюць магілёўскім губернатарам.

Пры назначэнні на гэтую пасаду 32-гадовага А.С.Дамбавецкага імператар Аляксандр II зрабіў яму наказ:"Магілёўская губерня даўно ўжо знаходзіцца ў разладжаным стане, зрабі ўсё магчымае для аднаўлення яе сілаў".

Магілёўская губерня, плошчай 48 тысяч кв. км. (пераўзыходзіла сваімі памерамі Бельгію, Нідэрланды або Швейцарыю),насельніцтва прыбліжалася да 1 мільёна чалавек.

Малады губернатар, з характэрнымі для яго стараннасцю і энергіяй, узяўся за даручаную справу, праяўляў добрыя арганізатарскія здольнасці, творчасць і энтузіязм.

Хутка першыя поспехі губернатара заўважылі ў Пецярбургу. За карысную справу па ўзыманню падаткаў і другіх акладных грашовых збораў у 1873 г. губернатар атрымаў Вышэйшую падзяку, а ў 1874 годзе ўзнагароджаны ордэнам Святога Уладзіміра 3-й ступені і 2000 рублёў.

Наладжваўся і быт сям'і, дзе ўжо раслі трое дзяцей. Жалаванне губернатара складала 1718 рублёў, столькі ж сталовых і 2000 рублёў прыбавачных...

У 1876 годзе губернатар узнагароджваецца чарговай высокай узнагародай - ордэнам Святога Станіслава 1-й ступені і 2000 рублёў.

1 красавіка 1879 года Дамбавецкі стаў кавалерам Ордэна Святой Ганны 1-й ступені.

Ад папярэдняга губернатара Дамбавецкаму дастаўся горад, які мала адпавядаў свайму статусу. Члены гарадской управы сумесна з гарадскім галавою распрацавалі план добраўпарадкавання горада, які губернатар дапамог ажыццявіць. Грошы на гэтыя мэты давала падаткаабкладанне ўсіх гарадскіх дамоў. У хуткім часе ў горадзе быў распланаваны і засаджаны гарадскі сад, які абнеслі драўляным плотам. Першы магілёўскі парк мяшчане назвалі садам Дамбавецкага. Праз два гады (1878) у Магілёве быў уведзены ў эксплуатацыю вадаправод і тэлефонная 93-вярстовая лінія, якая абслугоўвала 68 абанентаў.

У 1875-92 гг. узводзяцца будынкі фельчарскай школы, жаночай гімназіі, Аляксандраўскага рэальнай навучальні, драматычнага тэатра, пабудаваны масты, добраўпарадкаваныя вуліцы, пракладзены драўляныя тратуары.

У 1883 годзе ў сям'і Дамбавецкіх нарадзіўся другі сын Аляксей.

У 1885 годзе Дамбавецкага ўзнагароджваюць ордэнам Святога Уладзіміра 2-й ступені.

Губернатар у пастаяннай працы. З'явілася


МОГИЛЕВСКОЙ ГУБЕРНІИ

*Кніга, выдадзеная С. Дамбавецкім*

ідэя стварэння кнігі аб прыродных умовах, асноўных занятках, матэрыяльнай і духоўнай культуры жыхароў краю, развіцці прамысловасці, сельскай і лясной гаспадаркі, народнай адукацыі і ахове здароўя, апісання помнікаў археалогіі, архітэктуры, гісторыі населеных пунктаў, запісу народных песен. Складалі гэтую працу ўсе службы, уся эліта губернскага Магілёва.

І вось, роўна 123 гады таму, трохтомавая кніга "Спроба апісання Магілёўскай губерні..." пад рэдакцыяй А. С. Дамбавецкага пабачыла свет. У паліграфічных адносінах выданне не ўступала пецярбургскаму або маскоўскаму, а па зместу ўяўляла сабою бестсэлер таго часу. Пазней яе назавуць "энцыклапедыяй магілёўскага жыцця".

30 жніўня 1882 года "за выдатную службу" Магілёўскі губернатар быў узведзены ў тайныя дарадцы. А за кнігу "Спроба апісання Магілёўскай губерні" яму была аб'яўлена Вышэйшая падзяка.

Дамбавецкі стаў ініцыятарам адкрыцця гістарычна-этнаграфічнага музея ў Магілёве і ўсяляк садзейнічаў гістарычным пошукам і археалагічным даследаванням.

У музеі былі створаны гістарычны, этнаграфічны і геаграфічны аддзелы, дзякуючы гэтаму Магілёўскі гістарычна-этнаграфічны музей да гэтага часу застаецца адным з лепшых на Беларусі.

Дзейнасць Дамбавецкага на пасадзе губернатара была шматграннай, але стан здароўя не заўседы дазваляў поўнасцю аддацца працы, з-за хваробы печані губернатар часта выязджаў за мяжу на лячэнне, дзе ён праводзіў 1-2 месяцы ў год, але на справе гэта не адбівалася.

У 1889 годзе губернатар быў узнагароджаны ордэнам Белага Арла- адной з вышэйшых узнагародаў Расійскай імперыі.

30 жніўня 1893 года адбылося чарговае і апошняе павышэнне па службовай лесвіцы. Дамбавецкі А.С. імянным Найвышэйшым указам прызначаецца сенатарам.

Без сумнення, займаючы такую высокую пасаду, ён плённа працуе на карысць Расійскай імперыі.

Вялікая занятасць не дазваляе часта бываць у маёнтку, але 2-3 разы на год ён адзін, а то і з сям'ёй, наведваўся ў Бердаўку.

Яшчэ ў канцы 60-х гадоў Х1Х ст. Дамбавецкі задумаў пабудаваць у маёнтку "Бердаўка" цагляны палац. Для забеспячэння будоўлі будаўнічым матэрыялам каля вёскі Харужаўцы будуецца цагельня.

Фундамент і скляпенні палаца, аб'ём якіх больш за 400 м. кубічных, будаваліся з каменню і цэглы і прызначаліся для захавання вінных запасаў. Палац пабудаваны ў неагатычным стылі і ўяўляе сабой двухпавярховы, прастакутны будынак з выступам у цэнтральнай частцы. Унутраныя сцены палаца распісваліся маслянымі фарбамі, падлога была з дубовага паркету, які націраўся. Абаграваўся палац галандскімі печамі, зробленымі з белай паліванай кафлі з малюнкамі і упрыгожваннямі. Дымаходы пра-



***Палац Дамбавецкіх у Бердаўцы. Сучасны выгляд.***

ходзілі ўнутры сцен. Толькі адзін з пакояў, магчыма сталовая, амаль захаваў свой перша-пачатковы выгляд.

Узводзіцца млын, гаспадарчыя пабудовы, піўніца, амбар, адрына, аўчарня, цагляны дом для прыслугі. Добраўпарадкуецца тэрыторыя: разбіваецца пейзажны парк з дубамі, лістоўніцамі, блакітнымі ёлкамі, ясенямі, клёнамі, кедрамі, коркавым дрэвам, у парку высаджваецца шмат кветак.

Маёнтак “Бердаўка” ахопліваў 660 дзесяцін зямлі, да яго былі прыпісаны 118 работнікаў. А.С.Дамбавецкаму належалі таксама маёнткі Сліжы і Касоўшчына, засценкі Глебаўшчына і Харужаўцы ( усяго 1017 дзесяцін і 204 работнікі). Асновай гаспадаркі маёнтка з’яўлялася земляробства, найперш вырошчванне збожжа (жыта, авёс,ячмень). Галоўную частку сваіх даходаў Дамбавецкі атрымліваў ад продажу земляробчай прадукцыі, астатнюю -ад збыту цэглы, прадуктаў жывёлагадоўлі.

У 70-80-х гг. Х1Х ст. важнай крыніцай даходаў маёнтка стала льнаводства. Пашыраліся пасевы канапель, якія па Нёману адпраўляліся ў Прусію (Каралевец) на патрэбы Балтыйскага флоту.

На фермах маёнтка ўтрымлівалася буйная рагатая жывёла, авечкі, свінні, коні.

Па звестках Віленскага губернатара маёнтак “Бердаўка” адносіўся да “добраўпарадкаваных”. Аднак зямля ў гаспадарцы апрацоў-валася на аснове ўстарэлай агратэхнікі, старадзедаўскім інвентаром. Асноўнай сістэмай земляробства заставалася трохполле.

Паступова, у 70 - 80-х гг. Х1Х ст. гаспадарка маёнтка пераходзіла на капіталістычны тып, набывала гандлёвы, прадпрымальніцкі характар. Уводзіўся шматпольны севазварот, паляпшаліся прылады працы (жалезныя плугі, бароны і інш.). У пачатку ХХ ст. з’явіліся розныя сельскагаспадарчыя машыны (малатарні, веялкі, сячкарні, жняяркі, сеялкі і інш.). Але ўраджайнасць збожжавых невысокая (усяго каля 30 пудоў з гектара).

У другой палове 80-х гг. у сельскай гаспадарцы Беларусі пачаўся працяглы аграрны крызіс, выкліканы з’яўленнем на рынках Еўропы таннага высокаякаснага збожжа з Паўночнай Амерыкі, Аргенціны і Аўстраліі. Цана на жыта і іншыя збожжавыя культуры знізілася ў 2-3 разы.

А. С. Дамбавецкаму даводзіцца пераарыентаваць гаспадарку маёнтка на малочную жывёлагадоўлю і вінакурства. Колькасць буйной рагатай жывёлы вырасла прыблізна ў 2 разы. Заводзяцца высокапрадукцыйныя пароды кароў (галандскія). На месцы наладжваецца пера-працоўка малака на сыр і масла.

У 1904 годзе на беразе става Дамбавецкі пабудаваў спіртзавод, які дзейнічаў да 1915 года. На ім было занята 15 работнікаў.

Спецыялізацыя гаспадаркі маёнтка на малочнай жывёлагадоўлі і вінакурстве суправаджалася расшырэннем пасяўных плошчаў пад кармавыя культуры і бульбу. У канцы 90-х гг. Х1Х ст.-пачатку ХХ ст. яны выраслі адпаведна ў 6 і 3 разы. Збожжа прызначалася пераважна на корм жывеле і вінакурства. Як рынчная галіна развівалася свінагадоўля.

На знешні рынак маёнтак “Бердаўка” пастаўляў спірт,малочныя прадукты, мяса і сала, буйную рагатую жывелу, ільновалакно і пакулле, алейнае семя. Сталыпінская аграрная рэформа паскорыла працэс распаду дваранскай паўфеадальнай уласнасці. Гаспадарка маёнтка адчувае цяжкасці, А. С. Дамбавецкі пачынае прадаваць свае землі. 15 траўня 1913 года прададзена 19 дзесяцін М. Мікалаевічу, затым 7 дзесяцін Сантоцкаму Івану. У хуткім часе пачынаецца 1 сусветная вайна, затым рэвалюцыя, грамадзянская і савецка-польская войны…

Палац А.С.Дамбавецкага стаіць у вёсцы Бердаўка як нямы сведка той бурлівай і цікавай гісторыі, якая пракацілася па нашым краі. Сёлета спаўняецца 165 год з дня нараджэння А.С.




***Мемарыяльная дошка ў памяць А. Дамбавецкага. Аўтар Рычард Груша.***

Дамбавецкага, які пакінуў на нашай зямлі свой след. Імя А. С. Дамбавецкага мы можам знайсці ў беларускіх энцклапедыях, падручніках па гісторыі Беларусі для школаў і ВНУ.

Сябры клуба “Спадчына”, што дзейнічае пры гістарычна-краязнаўчым музеі Бердаўскай СШ, вырашылі ўвекавечыць памяць аб гэтым чалавеку. Выпускнік школы 1980 года, скульптар Рычард Груша, зрабіў мемарыяльную шыльду з выявай А. С. Дамбавецкага, якая будзе размешчана на фасадзе сельскага дома культуры (былы палац). Урачыстая прэзентацыя шыльды адбылася 26 траўня 2005 года.

***Крупа А. Л., выкладчык гісторыі.***

## Старажытныя пасяленні Лідчыны

# Тарнова

*Жыві і красуйся навекі, Тарнова,*
*Расці і будуйся заўжды паспяхова.*
**Іван Саўко**.

У 17-19 стагоддзях паселішча называлася **Тарноўшчына**. Імя сваё атрымала ад графа **Пятра Тарноўскага** – першага мужа **Ганны Завішы**, уладальніцы Белагрудскага двара. Шлюб ёю быў узяты каля 1690 г., відаць і назва з тых часоў. Другім мужам Ганны Завішы быў смаленскі кашталян **Крыштаф Шчыт**. Яго прозвішча таксама было ўвекавечана ў назве зніклага ў 50-х гадах мінулага стагоддзя фальварка Шчытнікі. На прыкладзе гэтых двух паселішчаў лішні раз можна пераканацца, што тапонімы – з'ява вельмі выпадковая. Прыезджыя мужы замацаваліся ў назвах, тады як род Завішаў, які валодаў ваколіцамі Белагруды больш за 300 год, з 15-га да сярэдзіны 18–га стагоддзя – не. Прычына, магчыма, у тым, што ад прозвішча Завіша ўтвараюцца толькі "нязручныя" тапонімы, якія цяжка вымаўляюцца: Завішава, Завішчына.



*Герб "Тарнава"*



*Герб "Радван", якім карыстаўся род Шчытоў*

Прозвішча Тарноўскі - ад польскага слова ***tarnina*** – церн, цярноўнік, ***tarninowy*** – цярновы. Польскія гарады Тарнабжэг, Тарноўске Гуры, Тарнуў і ўкраінскі Цярнопаль – "сваякі" Тарнова па паходжанні назвы.

У 1711 г. **Барбара Завіша** (каля 1694-1770) "прыносіць у пасаг" Тарноўшчыну з Белагрудай, Астравам і Жырмунамі свайму мужу навагрудскаму ваяводзе князю **Мікалаю Фаўстыну Радзівілу** (1688-1746). Затым Тарноўшчыну атрымаў у спадчыну іх сёмы сын – літоўскі падкаморы князь **Станіслаў Радзівіл** (1722-1787). Пасля яго Тарноўшчынай разам з Жырмунамі, Яваравым і Бярдзічавым валодаў князь **Мікалай Радзівіл** (1751-1811). Незадоўга да смерці ён выдаў на Тарноўшчыну закладное права **Тадэвушу Андрэйкавічу** за 10 тысяч залатых дукатаў і 130 тысяч польскіх злотых. На працягу 16 гадоў запазычанасць не была сплачана, і ў 1824 г. адбыўся судовы працэс паміж Тадэвушам Андрэйкавічам і чарговым спадчыннікам – князем Міхаілам Мікалаевічам Радзвілам (1781-1846). Паводле судовага рашэння Тарноўшчына перайшла Тадэвушу Андрэйкавічу. Сын яго **Юліюш** прадаў Тарноўшчыну **Канстанціну Кашыцу**.



*Герб "Трубы", якім карыстаўся род Радзівілаў*

Канстанцін Кашыц (1828-81) – сын навагрудскага маршалка Язэпа Кашыца, удзельніка паўстання 1831 года, выпускнік Дэрпцкага універсітэта, кандыдат дыпламатычных навук, вызначаўся едкім словам і вострым пяром. У 1850-я годы, калі яшчэ збіраліся шляхецкія соймікі, сваімі жартамі і эпіграмамі назаляў павятовым і губернскім высокапастаўленым асобам. Аднаго з іх, які напісаў у лісце заміж "wtorek" (аўторак) – "ftorek" ён назваў "Пан Фторак". Мянушка замацавалася. Склаў некалькі рыфмаваных сатыраў пад псеўданімамі "Загадка", "Крыжык", "Дагератып", "Пастка". *(Szimielewicz M. Bialogrud // Ziemia Lidzka, 1936 № 3-4. s.2).*

Пасля адмены прыгоннага права ў Лідскім павеце былі ўтвораны валасці, у тым ліку Тарноўская. У склад валасці былі ўключаны 16 вёсак: Банцавічы, Більтаўцы, Бабоўцы, Гарняты, Далекія, Дудары, Кульбакі, Монькаўцы, Масявічы, Ольжава, Палубнікі, Парачаны, Раклёўцы, Рэпнікі, Хадзюкі і Цвірбуты з 846 душамі. У 1866 г. да іх далучылі Дзітрыкі, Дубчаны, Мохавічы, Цыбары і Янаўляны. Валасная ўправа спачатку размяшчалася ў маёнтку Тарноўшчына, а ў 1866 г. пераехала ў Гарняты, там жа была адчынена Тарноўская земская народная навучальня, якая дзейнічала да 1914 г.

Уладальнік Тарноўшчыны **Канстанцін Кашыц** і тарноўскі войт **Севярын Якубоўскі**

прынялі ўдзел у паўстанні 1863 г. Якубоўскі змагаўся ў аддзеле Л. Нарбута. Або-два былі арыштаваныя і высланыя ў высылку. Яку-боўскі з высылкі не вярнуўся, там і памёр. Канстанцін Кашыц высылку адбыў цалкам. 25 траўня 1866 г. ён падпісаў акт, згодна з якім Тарноўшчы-на з фальваркамі Рубікі, Шчытнікі, Белагруд, Чыжоўшчына і Банцэвічы, усяго каля 2500 дзесяцін зямлі разам з дванаццацітысячным доўгам былога ўладальніка Юліяна Андрэйкавіча, была прададзена палкоўніку рускай арміі **Зміцеру Маўрасу** за 56300 рублёў плюс дом у Рызе, ацэнены ў 25000 рублёў.

Маўрасы паходзілі з выспы Родас, адкуль перасяліліся на Мальту, а ў 1650 г –у Малдавію. Адзін з Маўрасаў Георгі быў гаспадаром Малдавіі ў 1785 г. Сын яго Мікалай у 1828 г. перайшоў на рускую службу, а ўнук Зміцер з 1849 г. праходзіў службу ў дзейнай рускай арміі. Удзельнічаў у задушэнні паўстання ў Венгрыі (1849), у Трансільваніі, у Літве і Польшчы (1863-64), быў ад'ютантам Мураўёва, удзельнічаў ва ўсходняй вайне (1853-56). У пачатку 1870 – х гадоў генерал –маёр З. Маўрас камандаваў 1-й брыгадай 27 дывізіі ў Вільні, лета разам з сям'ёю праводзіў у Тарнове.

Першае, што зрабіў З. Маўрас пасля набыцця маёнтка, у 1867 г. побач з Белагрудскім касцёлам пабудаваў карчму, якая пачала прыносіць яму значны прыбытак *(Szimielewicz M. Bialogrud // Ziemia Lidzka, 1936 № 7. s.4)*.

У 1869-74 г.г. Зміцер Маўрас і яго жонка Кацярына Іванаўна – прыхаджане праваслаўнай Радзівонішкаўскай царквы. Яны ахвяравалі покрыва на прыстол, ахвярнік і аналой, абразы Святых Апосталаў Фамы і Пятра, "паветра" і два покрыўцы, вышытыя ядвабам па ружовым атласе, суконную пакрыўку на аналой, падразнік і два парчовыя пакрывалы на агульную суму ў 160 рублёў. Штогод члены сям'і Маўрасаў спавядаліся ў святара Радзівонішкаўскай Успенскай Царквы Піліпа Аляксандравіча Ёдкаўскага. З спавядальных ведамасцяў час нараджэння Зміцера Мікалаевіча разлічваецца як 1820-22, Кацярыны Іванаўны – 1830-32, іх пяцярых дзяцей: Марыі – 1854-55, Ганны – 1855-57, Аляксандры – 1860-61, Лізаветы і Мікалая – 1862-64. Роскід звестак звязаны з тым, што святар указваў розны ўзрост, напрыклад, у спавядальнай ведамасці за 1871 г. запісана, што Зміцеру Маўрасу – 51 год, а ў спавядальнай ведамасці за 1872 г. – 50 гадоў, г.зн. на год менш, малодшым дзецям у 1871 годзе па 7 гадоў, а ў 1872 г. – па 10.

У 1876 г. Зміцер Маўрас атрымаў у імператара Аўстрыі Франца–Іосіфа графскі тытул, які ў тым жа годзе прызнаў расейскі імператар Аляксандр II. Граф Маўрас удзельнічаў у вайне супраць Турцыі 1877-78 гадоў. Пасля завяршэння турэцкай кампаніі (1877-78), у якой З. Маўрас камандаваў 6-й рэзервовай дывізіяй, адслужыўшы ў войску 30 гадоў, граф у годнасці генерал – лейтэнанта выйшаў на пенсію. У 1875 – 79 гг. Маўрасы на споведзях у Радзівонішкаўскай царкве не з'яўляліся, жылі ў Вільні.

Для свайго адзінага сына Мікалая граф З. Маўрас 20 снежня 1883 г. падпісаў у імператара Аляксандра III імянны ўказ, паводле якога тарноўскія землі склалі ардынацыю (маярат, родавы маёнтак), якая ўключала Тарнова, Андрушкі, Ольжаў Малы, Данеўшчыну, Манькавічы, Ярэмічы і іншыя фальваркі, агульнай плошчай 150 кв. км., куды таксама быў уключаны дом у Вільні з багатай бібліятэкай і каштоўнымі рэчамі *(Szimielewicz M. Bialogrud // Ziemia Lidzka, 1936 № 3-4. s.3)*.

У 80 гадах граф Зміцер Маўрас пабудаваў у Тарнове комплекс мураваных пабудоваў: палац, бровар, ляднік, стайню, млын і капліцу, разбіў парк і выкапаў дзве сажалкі. На пні дуба дыяметрам 2,5 м. абсталяваў альтанку. Да 1884 г. палац, відаць, быў завершаны. Вядома, што калі ў 1884 г. у святара Радзівонішкаўскай царквы С.А. Шастова згарэла хата, то граф З.М. Маўрас запрасіў яго да сябе на жыхарства – у недабудаваны дом не запрашаюць. Палац З. Маўраса – цагляны, асіметрычны ў плане будынак з жывапіснай ступенчатай кампазіцыяй фасаду ў стылі мадэрн. Асноўнай часткай будынка з'яўляецца двухпавярховы аб'ём з



***Палац графа Зм. Маўраса ў Тарнове. Сучасны выгляд. Здымак 2005 г.***

цэнтральным выступам-рызалітам на галоўным фасадзе. З заходняга боку да будынка прымыкае дамінінантная ў сілуэце чатырохпавярховая вежа, з усходняга-невялікая аднапавярховая прыбудова. З абодвух бакоў цэнтральнага рызаліту, над кожным ганкам рамешчаны балконы. Вуглы асноўнага аб'ёму руставаныя. Цэнтральная вось галоўнага фасаду выдзелена каньком рызаліту і вертыкальным шэрагам паўцыркульных (арачных) акон з прафіляванымі арачнымі сандрыкамі. Планіроўка будынка амфіладна-калідорная. Паверхі асноўнага аб'ёму звязаны лесвіцай з точанымі балясінамі ў цэнтры будынка. Ёсць выхад на акружаную балюстрадай тэрасу. Падлогі былі паркетныя.

**Стайня** – аднапавярховы цагляны будынак пад двухскатнай страхой з пластычным галоўным фасадам (руставаныя вуглы), простакутныя аб'ёмы з паўкруглымі краямі, круглыя філёнгі.



*Будынк колішняй стайні. Здымак 2005 г.*

**Ляднік** – паўпадвальнае памяшканне са страхой, што выступае над зямлёй. Над уваходам двухскатны шчыт з адтулінай у цэнтры.



*Рэшткі колішняга ледніка. Здымак 2005 г.*

**Ветраны млын** размешчаны за 200 м ад палаца. Гэта конусападобны будынак. Складзены з гранітных валуноў і булыжнікаў. Дыяметр у аснове 11, 6 м, верхняя частка млына



*Будынак ветранога млына ў Тарнове*

ўяўляла сабой драўляны шацёр, які паварочваўся на металічных шарах вакол сваёй восі ў кірунку на вецер.

З паўднёвага боку да палацы прылягаў невялікі парк з пасадкамі ясеню і клёну і пад'язной алеяй.

У красавіку 1890 г. памерла жонка графа Кацярына Іванаўна Маўрас, ураджоная Сімоніч.

8 кастрычніка 1892 г. (ст. ст.) святар Радзівонішкаўскай царквы А.С. Дружылоўскі ў маёнтку асвяціў у імя Святога Зміцера Салунскага капліцу, пабудаваную па праекту і пад асабістым наглядам графа З.М. Маўраса. Капліца ўяўляла сабой далікатны мураваны будынак у гатычным стылі. Аконныя шыбы былі ўпрыгожаны святымі выявамі і крыжамі з рознакаляровага шкла. Унутранная аздоба капліцы вызначалася багатай маёмасцю, каштоўным посудам і строгім царкоўным жывапісам. Была зроблена званіца ў прыгожай трохяруснай калоне, увенчанай конусападобным купалам з крыжам наверсе. Пад капліцай была зроблена фамільная ўсыпальніца, дзе знаходзіліся парэшткі жонкі храмастваральніка, памяць пра якую і была ўвекавечана стварэннем храма. У гэтую ж усыпальніцу цераз 4 гады быў пахаваны граф Зміцер Маўрас.

Пасля смерці Зміцера Мікалаевіча Тарнова разам з усёй ардынацыяй перайшло адзінаму нашчадку мужчынскага полу **Мікалаю Змітравічу** (1862-1919). У пачатку 20 стагоддзя графу Мікалаю Змітравічу Маўрасу належала 3384 дзесяціны зямлі – чвэрць (25,9%) усіх земель

Тарноўскай воласці. 314 сялян жыло на гэтых землях. Іншыя землеўладальнікі Тарноўскай воласці: Ягадоўскі, Львов, Макрэцкі, Звяждоўскі, Жукоўскі, Феглер, Жураўскі, Нарбут валодалі фальваркамі ад 100 да 800 дзесяцін; участкамі па 18-40 дзесяцін валодалі Кравец, Астравух, Якубоўскі, Падгайнаў. У вёсках на душу прыходзілася ў сярэднім ад 0,52 (Цвербуты–1) да 1,6 (Парачаны) дзесяцін.

Уладанні Мікалая Маўраса ўключалі: маёнтак Тарнова –77 чалавек, 1300 дзесяцін; фальваркі Андрушкі – 19/300, Банцэвічы – 9/50, Белагруд – 27/300, Дайноўшчына – Банечына – 20/200, Кацярынаўка – 11/20, Заціша – 11/100, Курган – 3/200, Ольжаў Малы – 41/300, Паспешка – 9/150, Рубікі – 2/60, Чыжоўшчына – 23/200, Шчытнікі – 43/200, засценак Арлянка – 5/2, Хадзюкоўскі бор (шкіпідарны завод) – 2/-, лясная вартоўня Мохаўскі Бор – 6/1, Атарына – 6/1. *(Гашкевіч І.І. Поўны спіс населеных месцаў Віленскай губерні. Вільня, 1905).*

Граф Мікалай Змітравіч Маўрас пасля смерці сваёй жонкі ў 1911 г. быў прызнаны недзеяздольным і аддадзены пад апеку. Памёр ён у Гатчыне ў 1919 г. *(Szimielewicz M. Bialogrud // Ziemia Lidzka, 1936 № 3-4. s.2).*

Яго сястра Лізавета Маўрас двойчы ўступала ў шлюб – спачатку з **Мікалаем Сімонічам**, затым са **Скосыравым**. Яе дачка **Марыя Мікалаеўна Сімоніч** вучылася ў Смольным. *(Паведаміў Радыёнаў А.В. член Савета Рускага генеалагічнага таварыства)*. **Скосырава** згадваецца як уладальніца маёнтка Лебядa Вялікая (1760 дзесяцін), фальваркаў Ігнаткаўцы (44), Вайнаполь (65), Феліксава (52), вадзяного млына на р. Лебядзе *(Гашкевіч І.І. Поўны спіс населеных месцаў Віленскай губерні. Вільня, 1905).*

11 красавіка 1921 г. Лідскі павятовы камітэт прыняў у дзяржаўны скарб частку Маўрасавай ардынацыі: фальваркі Малы Ольжаў, Шчытнікі. Белагруд, Чыжоўшчыну і Бабоўцы. Паводле перапісу 1921 г. у фальварку Тарноўшчына ў 8 жылых дамах жыло 57 жыхароў.

Да восені 1939 г. Тарноўшчына належала курляндскім баронам **Кехле (Koehle).**

Пасля ўз'яднання Беларусі ў 1939 г. праваслаўная капліца з магільным склепам Маўрасаў была разгромлена. *(Rota № 3/4 (15/16), 1994, s. 107).* Хадзілі легенды, што Кацярына Маўрас ляжала забальзамаваная ў спіртавым растворы.

Вясной 1940 г. на месцы маёнтка быў арганізаваны племсаўгас "Тарнова" – адзін з 28 саўгасаў Заходняй Беларусі. 27 сакавіка 1940 г. Лідскі раённы выканаўчы камітэт прыняў пастанову "Аб арганізацыі племсаўгаса ў былым маёнтку "Тарнова", у якім пастанавіў прасіць аблвыканкам і СНК БССР арганізаваць на базе былога памешчыцкага маёнтка "Тарнова" племсаўгас буйной рагатай жывёлы *„...у мэтах павышэння прадукцыйнасці жывёлы ў раёне і паляпшэння яе ў пародных адносінах, улічваючы наяўнасць у былым памешчыцкім маёнтку "Тарнова" буйнай рагатай жывёлы галандскай пароды -100 галоў, коней -33, свіней -150, авечак -200, пчол 300 сем'яў, ворыўнай зямлі-1009 га, садоў-16 і розных 50 гектараў і дастатковай колькасці жылых і вытворчых памяшканняў, жылых дамоў на 48 кватэр, жывёльны двор на 150 галоў і наяўнасць паблізу маёнтка жывёльнага пасеву зямель былых асаднікаў" (Былы архіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Ф.4 воп.28, стр.490, л.7).* Чуць больш за год існаваў саўгас, восенню 1941 г. ён быў ператвораны ў нямецкую гаспадарку з гмінай і пастарункам.

9 траўня 1942 г. партызанскіаддзел Пятра Макарава зрабіў налёт на Тарнова. Быў разгромлены маслазавод і спалена 250 бочак бензіну. 19 чэрвеня 1942 г. група партызан гэтага ж аддзелу: Бежанкоў, Брычко, Бутоўскі, Гаранаў, Качаргін, Мазураў, Масленікаў, Фатаў пад каманда-ваннем Макарава П. К. разграміла гміну і паліцэйскі пастарунак. Былі забіты 4 паліцы-янты, узяты трафеі: 4 вінтоўкі, 3 ровары. Загінуў партызан Ягло Рыгор Данілавіч, 1920 г.н.

9-10 ліпеня 1944 г. поблізу ад Тарнова праходзілі сур'ёзныя баі, нямецкім часткам удалося замацавацца на правабярэжжы Дзітвы і спыніць на суткі наступ 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса.

14 жніўня 1944 г. Тарнова было перададзена вайсковай частцы № 29657. Праз 17 дзён была закончана ўборка ўраджаю і абмалочана 100% збожавых. Агульная плошча ворыўнай зямлі складала 201 га. Даведзены план пасеву: азімых – 60 га (жыта – 58 га, пшаніцы - 2 га). У той жа дзень было прынята рашэнне аб арганізацыі ў былым маёнтку "Тарноўшчына" дзіцячага дома. 29 верасня загадчыка саўгаса Я.І. Ляха абавязалі перадаць дзетдому 2 плугі, 2 бараны, для правяддзення палявых работ, а таксама жылы мураваны двухпавярховы дом і прыналежныя да яго службовыя пабудовы. РайЗА павінна было выдзеліць з саўгаса для дзятдома 25 га ворыўнай зямлі і 5 га сенакосу. Дзетдом меркавалася адчыніць 5 кастрычніка. Нешта не склалася, дзетдом перанеслі ў в. Паддубна.

11 лістапада першаму пасляваеннаму загадчыку дапаможнай гаспадаркай "Тарнова" Ляху Якаву Іванавічу, 1899 г. зацверджаны месячны аклад у памеры 300 руб, пачынаючы з 10 жніўня. Прапрацаваў ён на гэтай пасадзе да 17.07.1945 г., затым працаваў рахункаводам. Беларус, халасты. Да вайны быў меліяратарам у Воранаўскім раёне, у вайну – парабак на гаспадарцы, рабочы на торфараспрацоўках, з 14.02 па 9.07.44 – прыбіральшчык у Лідскай лазні.

4 лютага 1945 г. з маёнтка "Тарнова"

выдзелена 150 га ворыўнай зямлі, 50 га сенакосу, 10 га пашы для вядзення дапаможнай гаспадаркі вайсковай часткі № 33016, у часовае карыстанне передаваўся жылы дом і пабудовы для жывёлы *(Рашэнне райвыканкаму № 59).* Заггасу былога маёнтка т. Ляху загадана правесці размежаванне зямель. 28 лютага ў карыстанне в/ч 33016 перададзена з дапаможнай гаспадаркі "Тарнова" 140 га ворыўнай зямлі *(ЗДА ў Лідзе. Ф.615.Воп.1, с.1).*

Саўгас "Тарнова" на паперы быў адноўлены 22 кастрычніка 1947 г. загадам № 250 па Міністэрству саўгасаў БССР, тады ў адзін дзень былі арганізаваны 9 саўгасаў. У студзені 1948 г. дырэктарам саўгаса прызначаны Цімафей Ілліч Грыбанаў, 1899 г.н., рускі, адукацыя 7 класаў, з рабочых, член партыі. 16 верасня 1948 г., рашэннем № 705 райвыканкам зацвердзіў праект адводу зямель саўгасу "Тарнова" Саўгасу былі перададзены 1455 гектараў зямлі Дзяржфонду і былых маёнткаў, у тым ліку былога маёнтка "Тарноўшчына" плошчай 366 гектараў. *(ЗДА ў Лідзе. Ф. 615. Воп. 1, с.1 пратакол № 26).*

У 1948 г. у саўгасе было сабрана 117 тон збожжа з сярэдняй ураджайнасцю 7,8 ц/га, 52 тоны бульбы з ураджайнасцю 27,5 ц/га, 75 тон гародніны з сярэдняй ураджайнасцю 150 ц/га. Дзяржаве прадалі 2 тоны збожжа, 10 тон бульбы, 16 тон гародніны. Валавая прывага буйной рагатай жывёлы склала 3,2 тоны. Уся прадукцыя жывёлагадоўлі была рэалізована на месцы. Прыбытак склаў 2,4 тыс. рублёў.

Па стану на 1.1.1949 г. у саўгасе былі: клуб на 54 месцы, 2 мураваныя дамы і 18 драўляных, млын, двор для жывёлы на 100 галоў, цялятнік на 35 галоў, свінарнік на 40 галоў, дзве канюшні, збожжасховішча на 100 тон, 1 колавы і 3 тракавыя трактары, 2 аўтамашыны, 3 шматкорпусныя плугі, 10 конных плугоў, 2 культыватары (спрунжыноўкі), 2 малатарні, 2 сеялкі, 11 вазоў. Кошт асноўных сродкаў складаў 108,1 тысяч рублёў. 90 работнікаў. На фермах утрымоўваліся 36 коней, 40 свіней, 27 кароў і 5 бычкоў. Былі пабудаваны 2 жылыя дамы.*(ЗДА ў Лідзе. Ф. 745. Воп. 1, с.1.).*

У 1949 г. ад пажару загінулі 9 маладых коней. Было засеяна 90 гектараў пшаніцай азімай, 10 га - яравой, 57 га - ячменем, 86 га - аўсом, 5 га - бабовымі, 29 га - вікай на зерне, 25 га - лубінам *(Там жа. Воп. 4, с.1.).*

У 1955 г. убытак склаў 206 тысяч рублёў. Будаўніцтва лазні не завершана. Работа кіраўніцтва саўгасу прызна нездавальняльнай, Грыбанаў зняты з пасады.



***А. Ц. Новікаў***

З 1 траўня 1956 г. па 1960 г. саўгасам кіраваў Шайдараў.

З 1960 па 1988 г. (28 гадоў!) дырэктарстваў Алег Цімафеевіч Новікаў. У часы Новікава саўгас дасягнуў найвышэйшага развіцця. 33 работнікі саўгасу сталі ордэнаносцамі. Сярод іх жывёлавод Герой Сацыялістычнай Працы Вацлаў Дамінікавіч Слук (1966), трактарысты Іван Пятровіч Гурэнда (ордан Працоўнага Чырвонага Сцяга, 1972 і ордан Леніна, 1976), Станіслаў Міхайлавіч Руды (ордэн Леніна, 1972), Іван Віктаравіч Дачканец (ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, 1975), галоўныя заатэхнікі Іван Пятровіч Гушча (ордан Працоўнага Чырвонага Сцяга, 1966) і Анатоль Васілевіч Палонскі (ордан Працоўнага Чырвонага Сцяга, 1973), галоўны інжынер Франц Станіслававіч Рэдзька (ордан Працоўнага Чырвонага Сцяга, 1971), рабочая Ніна Іванаўна Кацмаёр (ордан Знак Пашаны, 1973), брыгадзір Браніслаў Браніслававіч Стралок (ордан Працоўнага Чырвонага Сцяга, 1973), шафёр Браніслаў Браніслававіч Шамрэй (ордан Дружбы Народаў, 1986), даяркі Данута Баляславаўна Янчы (ордан Кастрычніцкай рэвалюцыі, 1971) і Ніна Серафімаўна Рыхліцкая (ордан Працоўнага Чырвонага Сцяга, 1973), загадчык фермы Фадзей Аляксандравіч Буель (ордан Працоўнага Чырвонага Сцяга, 1973).

У Тарнова прыязджалі шматлікія дэлегацыі, пяць разоў наведваў вёску П.М. Машэраў.



***Цэнтральная сядзіба саўгаса "Тарнова"***

У 1967 г. у парку быў устаноўлены абеліск – помнік 29 землякам: воінам, партызанам і актывістам сельсавета, загінуўшым у часы Вялікай Айчыннай войны.

1 верасня 1969 г. адчынена Тарноўская сярэдняя школа на 320 месцаў.

У 1970-я гады ў вёсцы з'явіліся двухпавярховыя дамы, пазней пачалі будаваць асабнякі.

У 1970 г. пабудаваны збожжасховішча, новыя механізаваныя цялятнікі. У 1974 г. Тарнова стала цэнтрам сельсавета. З'явіўся дзетсад. У 1976 г. пачалі будаваць цяплічны камбінат на плошчы ў 3 га. Упрыгожанем вёскі стаў цагляны Дом культуры. У канцы 1980–х пабудавалі двухпавярховы гандлёвы цэнтр.



***Механізаваны двор саўгаса "Тарнова"***



***Цяплічны камбінат саўг. "Тарнова". Здымак 1988 г.***



***Дзіцячы садок у Тарнове***

У 1996 г. у Тарнове 272 двары, 769 жыхароў. Сельсавет, праўленне саўгаса, мехмайстэрні збожжасхвішча, гаражы, дзетсад – яслі, гасцініца, прыёмны пункт бытавога абслугоўвання, крама, аддзялення сувязі, сталоўка, СШ, ашчадкаса, ветэрынарны ўчастак, клуб, бібліятэка, бальніца, аптэка, лазня.

На сёння Тарнова – адна з сядзібаў аграфірмы "Мажэйкава".

Палац Маўраса некаторы час быў заняты пад кантору. Затым у палацы размясцілі паштовае аддзяленне, ашчадную касу і вузел сувязі. Былі прабіты тры новыя ўваходы, прыбудаваны лесвіцы. Зараз палац закінуты і актыўна разбураецца, атмасфернымі агентамі і людзьмі.

Ветраны млын у 1948 - 51 гг. забяспечваў размол збожжа, зараз ад яго засталіся толькі сцены.

Захаваліся дзве сажалкі.

**У Тарнова доўгія гады жылі і працавалі:**

**Новікаў Алег Цімафеевіч** / 1928-9.02.1998) – дырэктар саўгаса "Тарнова" (1960-88), "Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі БССР. Узнагароджаны орданамі Леніна, Кастрычніцкай рэвалюцыі і Працоўнага Чырвонага Сцяга.

**Слук Вацлаў Дамінікавіч** (7.09. 1926-23.12. 2004) – з 1958 даглядчык па адкорме буйной рагатай жывёлы, Герой Сацыя-лістычнай Працы (1966), дэпутат раённага і абласнога Савету дэпутатаў.

**Саўко Іван Міхайлавіч** (19.02. 1925-9.06. 1998) – галоўны ветурач саўгаса "Тарнова" (1957-82). "Заслужаны ветурач БССР", удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Узнагароджаны 10 орданамі і медалямі, адзначаны залатым і срэбным медалямі ВДНГ. Паэт, выдаў тры зборнікі паэзіі: "Насуперак лёсу" (1993), "Рэха жыцця" (1999), "Голас сэрца" (1996).

**Рахатка Казімір Уладзіслававіч** – інжынер па тэхніцы бяспекі (1977-78), галоўны інжынер саўгасу (1979-85), дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, член Савету Рэспублікі Беларусі.

**Тарноўскую школу закончылі:**

**Лялько Крысціна Аляксееўна**, 1956, г.н. – сябар Саюза беларускі пісьменнікаў (1983). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамолу БССР (1986), з 1995 г. – рэдактар і выдавец часопіса "Наша вера".

**Смольскі Станіслаў Станіслававіч** – генерал-маёр, камандуючы Сухаземнымі войскамі Рэспублікі Беларусь.

**Статкевіч Вячаслаў Казіміравіч**, 1977 г.н. – вакаліст Беларускага Дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі "Свята", адказны сакратар Саюза фалькларыстаў Беларусі.

*Мікола Дзікевіч*

# ДЗІТРЫКІ
## згукі заснуўшай цывілізацыі

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### Сёмы перыяд: З 1950 года (калектывізацыя) па сённяшні дзень

Калі я апавядаў пра даваеннае жыццё ў вёсцы, падчас і пасля вайны, думкі не пакідалі мяне, як больш дакладна паказаць калектыўную працу на вёсцы. У 1950 годзе я пачаў працаваць у Нёманскай сямігадовай школе ў вёсцы Сялец, што мясцілася побач з роднай вёскай. Нас, настаўнікаў, уключылі ў штат агітатараў і замацавалі за намі вёску Зарачаны. Некалькі разоў вечарамі хадзілі туды. Людзі збіраліся і ўважліва слухалі выступленне нашага дырэктара Савоня Віктара Іванавіча. Ён заўсёды ўзнёсла гаварыў пра перавагу калектыўнай працы. Малюнак камуністычнага жыцця заўсёды бачыўся яму светлым і шчаслівым. Светлае і шчаслівае жыццё я бачыў у Бабруйскім раёне, куды на канікулы ездзіў з сям'ёй да цешчы. У 1937-38 гадах цесць за нішто быў пасаджаны ў турму і знік няведама калі і дзе. Бачыў побыт і жыццё калгаснікаў, чэргі па хлеб.

Нашы намаганні не прымусілі сялян аб'яднацца ў калектыўную гаспадарку. Пазней яны пад ціскам сельскагаспадарчага і грашовага падаткаў "добраахвотна" ўступілі ў калгас.

Адначасова праводзілася агітацыя і ў маёй роднай вёсцы. Вядучы расказ аб самым трагічным перыядзе ў жыцці сяльчан (я яго так называю), хочацца быць непасрэдным у сваіх успамінах.

Да гэтага часу апавядаў пра жыццё, як мне бачылася вачыма падлетка-дзецюка. Цяпер не стану спяваць песні аб лепшым жыцці, пабудове калгасаў пры сацыялізме і руху ў светлае будучае камунізму. Гістарычны матэрыял пастараўся данесці ў тым выглядзе, як ён здзяйсняўся. Высновы былі пачуты з гаворак сялян, якія я запісаў.

Калектывізацыя ў Заходняй Беларусі не суправаджалася масавымі высылкамі заможных гаспадароў, так званых кулакоў. Аднак, іх абкладалі непасільнымі збожавымі і грашовымі падаткамі. Таму багацейшыя першымі падаліся ў калгас.

Вясной 1950 года ў вёсцы арганізавалі калгас імя Пушкіна. Старшынёй праўлення калгаса выбралі Лукашэвіча Сцяпана Іосіфавіча. Яго намеснікам і рахункаводам - Федзюкевіча Канстанціна Канстанцінавіча. За пазыку праўленне закупіла пяць кароў. Да 1952 года коні знаходзіліся ў гаспадароў. Гаспадары выязджалі на працу са сваім конікам і возам. Пасля далучэння Дзітрыкаў да калгаса "Нёман", узбуйнены калгас абсталяваў канюшню ў гумне Федзюкевіча Вікенція. Што тут пачалося?!

Сяляніна-хлебароба замяніў калгаснік з зусім з іншай псіхалогіяй і адносінамі да зямлі і працы. З цягам часу паступова ад ранейшага селяніна з ашалелай цягай да працы, ашчаднасцю, гатоўнасцю прыйсці на дапамогу талакой, усё выветрылася.

Праца на працадні, за якія нічога не плацілі, як здзек над селянінам таго часу. На гаспадарчы падворак сяляне-калгаснікі збіраліся позна: вясной і летам, калі раней да гэтага часу напрацуюцца, сонца добра прыпякала. Гаспадары па старой звычцы цягнуліся да сваіх конікаў, падбіралі сваю вупраж, запрагалі каня ў свой воз. У канюшні наводзілі сякі-такі парадак. Калі хамут не заменіш на большы – натрэш каня, то горшыя лейцы, чужы і другі рыштунак для свайго каня і воза мяняліся на лепшыя. На лейцах, супонях з'явіліся вузлы - з двух вязалі адны. Вазы стаялі на падворку, сохлі і моклі, ламаліся. Спачатку рамантавалі самі гаспадары воза, потым з двух вазоў складалі адзін. Колы рассыхаліся, абады спадалі. Непрыкметна падмянялі запасныя старыя колы на новыя і захоўвалі іх дома да лепшых часоў. Калі звозілі ўраджай, лейцы, пярэдніцу сяляне прыносілі з сабой - у калгасе свайго не было.

З цягам часу вазы развальваліся, вупраж пастарэла, а ад конікаў засталіся адна шкура ды косці. Маленькі конік самага беднага гаспадара Лукашэвіча Костуся, які не падаўся ў калгас, быў дагледжаны і пачышчаны. Са спраўнай вупражжу раніцай-ранюсенька адвозіў ён воз гною больш за тры кіламетры на самы крайні кавалак поля, што мясціўся каля гасцінца. Дзядзька Костусь заўсёды сядзеў на возе, на зайздрасць сяльчанам, "дэманстраваў" спраўную вупраж, ладнага коніка, ды сваю незалежнасць і вольнасць. Быў ён стрэмкай у вачах начальнікаў. Ды пакараць яго не было як! Самага беднага,

пачуўшага сэрцам і душою радасць вольнай працы на зямлі, заслаць туды, дзе “Макар козы пасвіў” – не хапала ў іх “натхнення”. Аднак, яны змаглі пакараць яго! Лепшы кавалачак зямлі, што мясціўся каля хаты, загаралі для калгаса. А ўсёй зямлі тут было ледзь болей за два гектары. Дзядзька Костусь пачаў больш актыўна апрацоўваць дадатковыя два гектары далей ад хаты ў Хаданішках. Зараз там расце змешаны лес (сасна з бярозай). Дзеці мелі бы за яго добрыя грошы.

У 1951-53 гадах пачалося ўзбуйненне дробных калгасаў. Тлумачылі гэта тым, што шмат было нявыкарыстанай зямлі, бо малалікія калгасы тэхнічна былі дрэнна забяспечаны. Узбуйненне калгасаў давала магчымасць прымяніць тэхніку і пусціць у абарот запушчаныя землі, лугі, пашу, хмызнякі і балоты. Праводзілася меліярацыя, ачыстка і апрацоўка зямель. Гэта на першых парах дало магчымасць павялічыць магутнасць калектыўнай гаспадаркі, яе таварнасць і рацыянальнае выкарыстанне сельскагаспадарчай тэхнікі.

У 1952 годзе вёска Дзітрыкі ўвайшла ў склад узбуйненага калгаса “Нёман” на базе вёскі Сялец, у 1967 годзе перайменаваны ў калгас імя Манькоўскіх. З наступным узбуйненнем - далучаны да калгаса Чкалава ў 1967 годзе з цэнтрам у вёсцы Ганчары.

На працягу перабудовачных гадоў Федзюкевіч Канстанцін Канстанцінавіч сумленна працаваў на розных пасадах у калгасе. Ён быў намеснікам у сямі старшынь калгасаў: імя Пушкіна (Лукашэвіч Сцяпан Іосіфавіч), “Нёман” (Шманай Анатоль, Лук’яненка, Лобан Канстанцін Іванавіч, Логінаў, Вазякін), імя Чкалава (Радзецкі). Доўгі час будаваў у калгасе, працаваў на паляводстве. Летам 2002 года, калі наведваў яго ў чарговы раз, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны быў бадзёрым і вясёлым. Пазней стала вядома, што напачатку зімы таго года, даглядаючы скаціну, каля хлява паслізнуўся, упаў і пераламаў нагу ў бядры. Нага не зрастаецца, і ён прыкаваны да ложка. Зберагла яго вайна, а цяпер невясёлая дасталася доля.

З узбуйненнем цэнтр калгаса “Нёман”з Сяльца перамясціўся ў нашу вёску. Кантору праўлення пабудавалі побач з нашай хатай. Адносна вёсак гэта месца было асяродкам. Тут рассяліліся вёскіІстакі, Сіманы і Жомайдзі, крыху далей Зарачаны. Толькі вёска Сялец асабняком – за шэсць кіламетраў.

Мае аднагодкі, старэйшыя суседзі, дзядулі і бабулі свята верылі ў лепшае жыццё ў калгасе. Працавалі сумленна на палетках, у жывёлагадоўлі, там, дзе патрэбны рукі ў калектыўнай гаспадарцы. Спачатку не было радыёпрыёмнікаў, рэдка чыталі газеты, таму аб становішчы ў народнай гаспадарцы даведваліся ў праўленні калгаса. Праўленне толькі пад Новы год, разлічыўшыся з дзяржавай збожжам і жывёлай, выдавала на працадні лічаныя кілаграмы зернем.

Да ўзбуйнення калгаса сялянскія хутары займелі прывабны выгляд. Гаспадары агарадзілі падворкі шчыкетнікам, сеткаю і падручным матэрыялам. Сады давалі добры ўраджай. А вось стрэхі працякалі. У калгасе немагчыма было атрымаць кулявую салому. Пабудовы крылі дошчачкай, гонтай. Дошчачку рэзалі у калгасе, гонт куплялі “на баку”. У крамы завозілі толь. Яна была тонкая і зусім нямоцная. На страсе ляжала два-тры гады. Пад яе патрэбны былі дошкі, добра дафасаваныя адна да другой. Пазней куплялі рубероід. Ён ляжаў на страсе намнога даўжэй, асабліва, калі яго клалі на разагрэтую смалу. З цяжкасцю здабывалі шыфер. Цяпер пабудовы ў асноўным ім пакрытыя, некалькі будынкаў – бляхай.

Пачалася актыўная будоўля вялікіх жывёла-гадоўчых фермаў і складскіх памяшканняў. Гумны ў гаспадароў канфіскавалі. Прыдатныя бярвенні выкарыстоўвалі на сцены. Іх закідалі паміж цаглянымі слупамі. Яшчэ і цяпер такія пабудовы сустракаюцца ў калгасах. Пры разборцы гумнаў хутаране, хто днём, хто ноччу нёс, цягнуў і вёз тое, што дрэнна ляжала, што заўсёды было патрэбна ў гаспадарцы як будаўнічы матэрыял і на дровы. Нават каменні потым спатрэбіліся для будаўніцтва скляпоў і фундаментаў.

Адначасова ў цэнтры, каля нашага хутара, пачалі будаваць тыпавыя дамы. Сюды перасяляліся сяляне з хутароў. Хутары сталі перашкодай для калгаса: нельга было на ўсю магутнасць выкарыстоўваць сельскагаспадарчую тэхніку, спланаваць пасяўныя палеткі, не даць магчымасць красці з калгасных палеткаў вырашчаны ўраджай. А яшчэ гаварылі, што хутарызацыя, праведзеная палякамі, як супрацьстаянне калектывізацыі. Дзякуючы гэтым мерапрыемствам сяляне сканцэнтравалі пабудову дамоў на тым месцы, дзе раней знаходзілася вёска. Другім месцам стала “праектовая дарога”. Так вёска перабудавалася на дзве вуліцы. У Хаданішках, самых далёкіх палетках, застаўся толькі Буйніцкі Рыгор. Жывуць цяпер на хутары дачка Вольга і нявестка Соня. Святло ім правялі ад чыгункі. Побач чыгуначны прыпынак “Дзітрыкі” і садовыя дачы лідскіх чыгуначнікаў. Летам ім весялей бавіць час, бо сустракаюцца з людзьмі. Зімой можна даехаць на станцыю “Нёман”.

У пачатку 90-х гадоў дарогу ад шашы да праўлення калгаса заасфальтавалі, пабудавалі дабротны магазін. Старыя хаты ашалявалі, печы склалі з кафлі, у дамы правялі электрычнасць, пачалі завозіць балонны газ. Бялізной засвяціліся хаты, абкладзеныя цэглай у сяльчан Федзюкевіча Канстанціна Канстанцінавіча, Сівіцкага Міка-

лая Сцяпанавіча, Буйніцкага Канстанціна Іванавіча, Кухарскага Мікалая Нікадзімавіча, Кухарскага Уладзіміра Іванавіча. Калі яшчэ не было святла, з вёскі ў вёску фурманкай рэгулярна завозілі кіно. Па чарзе гаспадары везлі электрарухавік і апаратуру ў суседнюю вёску. І так далей на наступны дзень.

Са з'яўленнем у вёсцы электрычнасці людзі перасталі глядзець кіно, бо ў хаты прыйшло тэлебачанне. Яно абмежавала кантакты. Суседзі перасталі вечарамі хадзіць адзін да другога. Сяляне займелі суразмоўцу ў тэлевізары. З блакітнага экрана вельмі эфектыўна ўздзейнічалі на свядомасць, розум і пачуцці калгасніка.

Сяльчане спазналі багацце цывілізацыі: электрычнае святло, радыё і тэлебачанне, хаты абклалі цэглай, або ашалявалі вагонкай, ва ўсіх хатах з'явілася падлога, сцены ў пакоях абклеілі шпалерамі, пафарбавалі, што можна было. Працуй, чалавек, і жыві! Аж, не! Маладыя падаліся далей ад родных мясцін у горад. Не дапамагла і хрушчоўская "адліга" у калгасах з яе кукурузай. Моладзь "уцякала", не звяртаючы увагі ні на якія заслоны, далей ад бацькоўскага гнязда. Не выратавала калгас і брэжнеўская эпоха. Людзі пачалі атрымоўваць "нейкія грошы". Яны не сталі для маладых "прыманкай".

На сходах агітатараў і "адкрытых" партыйных, куды запрашалі непартыйных настаўнікаў, у калгасных бедах вінавацілі нас: слабая агітацыя, не выпускаем "боевые листки" і іншае. Нам у апраўданне выступіць не дазвалялі. "Праглынуўшы" лаянку калгаснага камуніста, разыходзіліся па сваіх кватэрах з дваякім уражаннем. Тады і пайшла пагаворка: "Хто такі вясковы настаўнік? Гэта слуп, аб які можа пачухацца кожная свіння". Назаўтра, ідучы ў школу, думаў, як несці тое светлае будучае маленькім дзеткам?

На сэрцы адлягала абраза, бо заўсёды з усмешкай успамінаў заключнае выступленне былога сакратара райкама партыі Турыка на жнівеньскіх настаўніцкіх сходах. Ён гаварыў, што настаўнік, трымаючы карову, не здольны змястоўна працаваць і выхоўваць падрастаючае пакаленне. Яны, састарэлыя, і цяпер засталіся на вёсках без школ, дажываюць свой век, працуюць, не збеглі ў горад. На іх падворку каровы, іншая жыўнасць. Яны здаюць малако і маладняк у калгасы і гэтым, як могуць, мацуюць "калгасны лад".

У "хрушчоўскія" часы быў кліч: "Увесь клас у калгас". Аднак вучні разбегліся ад калгаснага шчасця, не сталі руплівымі і дбайнымі будаўнікамі камунізму. Большая палова з іх співаецца, не прыжылася ў горадзе, сэрцам застаецца на вёсцы.

На маю думку, калектывізацыя прайшла праз дзве "зямельныя рэвалюцыі". Першая знішчыла ўсё набытае прыродай і сялянамі за стагоддзі: ураджайнасць глебы, паніжэнне ўзроўня вады, знішчэнне флоры і фаўны, развал грамадскіх адносін. Непрадуманая меліярацыя знішчыла лепшы раслінны збор, а хімізацыя прымусіла глебу ў агоніі даваць лепшыя ўраджаі за лік гумусу, назапашанага продкамі. Цяпер няма той колькасці жывёл, той "фабрыкі гною", што рухае земляробства на Беларусі. Ні адно хімічнае ўгнаенне не дапаможа беднай беларускай глебе без гною.

Другая "зямельная рэвалюцыя" адбылася ў 1994 годзе, калі да руля дзяржавы прыйшла цяперашняя ўлада. Зусім збяднелыя калгасы пасадзілі на галодны паёк фінансаў. Калгасы сталі тымі "дойнымі" каровамі, якія дапамагалі працоўнаму люду ў гарадах. Вёска ніколі не выходзіла на вуліцы супраць улады. Ад яе можна ўзяць усё, да голай шкуры. Горад такіх адносін да сябе не пацерпіць.

Вёска можа ганарыцца рупнымі людзьмі. Яны, нашы дзядулі і бабулі, таты і мамы, не жадалі арганізоўваць калгас. У калгасе радасці не было. Ім запісвалі працадні, але ў хату за іх не прывозілі збожжа. У дадатак прымусова набывалі аблігацыі, якія абясцэніліся. Зараз многія спачываюць на пагосце вечным сном. Усё жыццё марылі аб лепшым будучым сваім дзецям. Хочацца ўспомніць пра іх добрым словам. Доўгія гады працавалі брыгадзірамі Кухарскі Уладзімір Іванавіч (кавалер ордэна «Знак Пашаны», Мулінская (Рудзевіч) Данута Канстанцінаўна. У паляводстве, нажыўшы "букет" хвароб, шчыравалі Буйніцкі Мікалай Мікалаевіч, яго жонка Зіна; Буйніцкі Уладзімір Кандратавіч, яго жонка Варця; Дзікевіч Ціхан Аляксандравіч, яго жонка Марыя, Дзікевіч Аляксандр Аляксандравіч, яго жонка Марыя; Шулейка Станіслаў Аляксандравіч, яго жонка Марыя; Грынь Канстанцін Кандратавіч, Федзюкевіч Вікенці, яго жонка Зінаіда; Сівіцкі Мікалай Сцяпанавіч; Чылек Валеры Міхайлавіч, яго жонка; Кухарскія Міхаіл і Нікадзім; Хрышчановіч Канстанцін Іосіфавіч і яго жонка; Буйніцкая (Баярына) Галіна Міхайлаўна і яе муж; Буйніцкі Рыгор і яго сын Жэня; Лукашэвіч Іван Іванавіч; Лукашэвіч Раман і Жэня Іосіфавічы, іх жонкі і іншыя. Яны, спрацаваныя за гады калгаснага ладу, жылі да апошніх дзён на пенсію эквівалентна роўную дапамозе ў 8-12 рублёў адзінокім падчас існавання СССР.

Хто адзін, хто з дзецьмі выхоўваюць унукаў і дажываюць свой век, аддаўшы здароўе і сілы "роднаму калгасу". Гэта Федзюкевіч Канстанцін Канстанцінавіч і яго жонка Адальфіна, Мулінская Марыя Сцяпанаўна, Жучкевіч Ганефа Антонаўна, Лукашэвіч Зоя, Буйніцкая Таццяна і іншыя.

Цяпер іх дзеці – надзея хрушчоўскага заклiку "Клас – у калгас!" – працуюць на дабітай

сельскагаспадарчай тэхніцы на ўсё больш бяднеючай зямлі. Трэба ўспомніць Рудзевіча Валерыя Часлававіча 1964 г. н., Баярына Часлава, Сівіцкага Мікалая Мікалаевіча, Буйніцкага Леаніда Іосіфавіча 1964 г. н., Буйніцкага Уладзіміра Іосіфавіча 1968 г. н., Баярына Аляксандра Часлававіча 1975 г. н., Мурына Мікалая, Жучкевіча Эдуарда Леанідавіча і памёршага Кухарскага Уладзіміра Міхайлавіча. Апошні ўсе сваё жыццё працаваў шафёрам. Дзіву даешся, як яны выжываюць. Месяцамі калгас не выплачвае зарплату, ды і тая "смеху варта". Грошы за здадзенае малако і цёлак па нізкай цане таксама чакаюць месяцамі. Галоўнай крыніцай існавання сялян стала прысядзібная гаспадарка, а калгас – падсобнай. Людзі па "завядзёнцы" ходзяць на працу. Але навошта і за што? Гадуюць свіней, кароў, птушак. На стале ёсць скварка, малако, яйка. Толькі хлеб купляюць у краме. Так і жывуць! На землях прысядзібных участкаў вырошчваецца мо трэць сельскагаспадарчай прадукцыі. І тут нічога не скажаш! За перыяд калектыўнай працы "рухавіком" калгаса былі: конь – соткі – карова – цялё – буракі – сена. У залежнасці ад патрэб калгасны брыгадзір пераставўляў "рухавікі" з месца на месца. Не ходзіш на працу – не дам каня, жонка не цярэбіць лён – атрымаеш толькі палавіну сотак, не здаў у калгас цялё – не атрымаеш сенакос і г. д.

Вялікую "дапамогу" на вёсцы прыносілі і прыносяць "настаўнікі" з горада. З 1950 года сялян вучаць, як сеяць, араць, малаціць, карміць жывёлу. Асабліва пачалі вучыць з 1994 года, пры маўклівай згодзе ніжэйшых начальнікаў. Так і хочацца сказаць: "Пакіньце селяніна ў спакоі!" Ён сам разбярэцца, што рабіць на зямлі. Калгаснік выжываў за "палачку"(плата за працу), выжывае і цяпер, дапамагаючы гораду. Цяпер з Менска кандыдат гаспадарчых навук вучыць, як перабудаваць калгас. Чалавек жыве ў горадзе, магчыма, не трымаў і не перасыпаў у руках зямельку. А ўся перабудова зводзіцца да аднаго: аб'яднаць калгасы ўсяго раёна ў адзін. За лік моцных калгасаў падняць слабейшыя і бяднейшыя, каб усе сталі аднолькавымі – беднымі. Тут патрэбна правесці паралель - вялікая сям'я паступова распадаецца: распаўся СССР, разваліцца і вялікі калгас.

Успамінаеш і дзіву даешся, што толькі не выдумлялі інструктары з райкама партыі. Яны вучылі маіх сяльчан калектыўнай працы ў калгасе, каб калгас быў багатым, а калгаснікі заможнымі. Першыя гады касілі, сеялі, збіралі ўраджай усе разам, калектыўна. Жанчыны нават на сенакосе спявалі. Прыціхалі зімою, калі не было чаго атрымоўваць за працу.

Працавалі так. Мужчыны раненька , ну, не так, як раней у чатыры гадзіны, а ў сем, ішлі касіць. Вядома, хто па "вярхах", хто захопліваў пракос вузей, хто грудок выкошваў, а хто – пакідаў. Пазней прыходзілі жанчыны: траву сушылі, складалі сахарамі ў копы. Пакос меў выгляд падстрыжанай авечкі. На авечцы воўна адрастала, а тут можна было касіць. Складзенае сена дзялілі копамі: дзевяць у калгас, а дзесятая доля калгаснікам. Пачыналася сварка, даходзіла да бойкі. Можна было пачуць: "Я касіў і ўкладаў больш сілы, а ён толькі сушыў ды складаў у копы. Мне капа меншая, а яму большая" і г. д. Затым касілі агулам, жанчыны стагавалі і ўсе разам вазілі для калгасных кароў. Прыблізна дзесятую долю травастою дзялілі паміж сялянамі на працадні, за малако, за цялё, за буракі, за тое, што працуе не ў паляводстве: канторскім, фермерскім, трактарыстам, транспартнікам і ўсім тым, хто быў лепшым сябрам, ці сваяком і суседам. Цяпер абы прадаваў малако ў калгас – травастой выдзеляць згодна здадзенаму малаку.

Моладзь не захацела дзяліць радасці калгаснага ладу і падалася далей ад вёскі, а бацькі ўсімі сіламі працавалі, каб дапамагаць ім у горадзе. Гадавалі па дзве каровы, здавалі цялят у калгас. Кармоў трэба было шмат. Акрамя калгасных здабывалі іншыя рознымі шляхамі: зелле, вырванае на бульбе, у кукурузе, сушылі; абкашвалі равы, кусты і сырую траву насілі дзяругамі, вазілі веласіпедамі і каляскамі. Ніхто не быў у баку ад малога да старога.

Лягчэй дабывалі сенакос працаўнікі чыгункі. На паласе адлучэння каля дарогі мелі добры кусок сенакосу і палетак пад бульбу ці жыта і ярыну.

Настала пара Хрушчова і Брэжнева. Сяляне атрымоўвалі нейкія грошы і вольнасць. Якніяк у вёсцы выдалі пашпарты. Але моладзь не жадала сяліцца – іх цягнуў горад. Хацелася паспрабаваць "цывілізацыю", жыць там, працаваць і атрымоўваць належную ўзнагароду. Бацькі па інэрцыі працавалі, дзеці дапамагалі ім радзей і радзей, а ўнукі прыязджалі на лета толькі адпачыць.

Вяскоўцы па грашу збіралі рублі, клалі ў ашчадныя касы з надзеяй, што на старасці, калі занядужаюць, хопіць на лекі і на пахаванне. За тыя грошы можна было купіць машыны, тэлевізары, халадзільнікі і г д. Зараз іх не стала: атрымаюць і купяць маленькую патэльню. Ды што там, на труну патрэбна пазычаць грошы ў суседзяў. Затое вакол гарадоў пабудавалі "царскія вёскі" за заём з іх зберажэнняў. Доўг аддалі хутка – інфляцыя дапамагла!

Калгас павялічваў палеткі пад бульбу. Той працоўнай сілай на вёсцы немагчыма было сабраць ураджай. Горад пачаў пасылаць школьныя "дэсанты". Праз некалькі гадоў абед калгасу каштаваў больш, чым школьнікі накапаюць бульбы. Палавіну яе "працаўнікі" пакідалі ў зямлі. Нават тую, што ляжала на відавоку,

затоптвалі нагамі.

Не скажаш, што змены на вёсцы не адбыліся. З пачатку арганізацыі калгаса цэнтр вёскі перамясціўся на "праектавую" дарогу. Тут пабудавалі драўляны дом праўлення калгаса. З далучэннем калгаса імя Манькоўскіх да калгаса імя Чкалава ў гэтым будынку абсталявалі дзве кватэры. Побач стаяла прыгожая цагляная крама, воддаль – механізаваны падворак. Праз вуліцу, нядаўна заасфальтаваную, роўненька стаяць тыпавыя цагляныя дамы, у якія перасяліліся хутаране. Зараз вакол іх растуць садовыя і дэкаратыўныя дрэвы. Далей ад вуліцы, у хлявах размясцілі жывёлу і кармы. Тут жывуць сем'і Жучкевіч Ганефы, Журко Сяргея, Сідарэнка Ганны, Рудзевіч Валі, Юшкевіча Мікалая, Мурынай Паліны, Урбановіч Ганны і Барыса Мікалая.

Ураджэнцы вёскі закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы, але толькі Мулінская (Рудзевіч) Данута Канстанцінаўна (Горкаўская сельскагаспадарчая акадэмія) працавала ў калгасе і Буйніцкі Канстанцін Іванавіч (настаўніцкі інстытут) працаваў у Ганчарскай сярэдняй школе. Астатнія пакінулі родныя сцены і раз'ехаліся па Беларусі. Працуюць і рэдка наведваюць бацькаўшчыну. Назаву іх: Федзюкевіч (Шчука) Таццяна Канстанцінаўна (Менскі інстытут народнай гаспадаркі), Сівіцкая Алла Мікалаеўна (аддзяленне журналістыкі БДУ), Шчука (Каралько) Алена Вацлаваўна (пачатковае аддзяленне Гарадзенскага універсітэта), Мулінская Людміла Аляксандраўна, Дзікевіч Мікалай Мікалаевіч (Менскі інстытут фізкультуры), Дзікевіч Сямён Аляксандравіч (Менскі інстытут механізацыі і электрафікацыі сельскай гаспадаркі), Дзікевіч Любоў Ціханаўна (Менскі інстытут замежных моваў), Кухарскі Яраслаў Уладзіміравіч (горацкая Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія, агранамічнае аддзяленне), Буйніцкая (Чыжык) Таццяна Канстанцінаўна (юрфак БДУ), Жучкевіч Іван Антонавіч (танкавая акадэмія).

Бываючы на вёсцы і размаўляючы з сяльчанамі аб перспектывах развіцця сельскай гаспадаркі, прыходзіш да высновы: яны ўжо не былыя сяляне. У большасці зацікаўлены ў захаванні калгаса. Яны згубілі пачуццё сялянскай прадпрымальнасці, страшацца стаць самастойнымі гаспадарамі, узваліць на свае замучаныя плечы цяжар клопатаў аб вытворчасці, дапрацоўцы, захаванні і продажу прадукцыі.Становішча наёмнага працаўніка ў калгасе, нават з малой аплатай, іх задавальняе. Падвор'е, што складаецца з свіней, каровы і курэй, бульбяныя соткі – той дапаможны капітал, які дае магчымасць існаваць незалежна ад багацця калектыўнай гаспадаркі.

Тое, што селянін стаў "зладзейны", - праўда. Зараз лічыцца нормай узять з калгаснага поля буракі, хімічнае ўдабрэнне, бензін для шафёра, салярку для трактарыста і іншае. Бытуе прыказка:"Хто не ўкрадзе, той не пражыве". Раней на вёсцы было самае горшае вызначэнне асобы гаспадара: "Які ён чалавек? Ён злодзей!"

Ці не таму абыякавыя адносіны да ўсяго калгаснага. Узяць той трактар. Новы, куплены за вялікія грошы, праз некалькі гадоў рамантуецца капітальна. Сабраныя сяльчанамі няведама якой мадэлі трактары з металалома працуюць дзесяць гадоў і будуць яшчэ больш. Цяпер, калі коней здалі на вытворчасць каўбас, міні-трактарамі апрацоўваюць усе прысядзібныя надзелы.

Напэўна толькі каля хатаў і на пастаянных дзялках зямля захавала сваю структуру і ўрадлівасць, бо тут апрацоўваецца дзедаўскім спосабам: лапатай і конікам з плугам. Тут адбываецца абмен чалавечай энергіі з зямлёй і яна плаціць добрым ураджаем.

Трэба мовіць некалькі слоў пра цяперашні час. Як жывуць, што гавораць, што думаюць сяльчане. Жывуць яны зараз не ў калгасе, а ў "Агра – Кампаніі – Ліда". Калгас імя Чкалава разглядаецца як суб'ект адзінага гаспадарчага арганізма і завецца ПУАП-ам (прыватным унітарным аграрным прадпрыемствам) "Ганчары". Для вяскоўцаў пакуль назва незразумелая. Адно добра ведаюць – раней гаспадарка называлася двумя словамі, цяпер – чатырмя, што характэрна для многіх прадпрыемстваў.

Нейк з суседам задумалі разгадаць "ПУАПа". Прыватнага тут нічога не будзе: кіраваў дзейнасцю калгаса старшыня, дык будзе цяпер дырэктар, а акцыі ў "пуапаўцаў" застануцца паперкамі, як адбылося з працоўнымі фабрык і заводаў.

Слова "унітарны" прышлося глядзець у тлумачальным слоўніку. "Унітарны – аб'яднаны, адзіны, які ўтварае адно цэлае. (Унітарная дзяржава). Накіраваны на аб'яднанне; аб'яднальны (унітарныя пераўтварэнні)". Сялянам зразумела – тая ж калектыўная праца.

Аграрнае, або сельскагаспадарчае, звязанае з землекарыстаннем, землеўладаннем. Слова добра вядомае, бо на цяперашні час у ПУАПе "Ганчары" мізер зямлі згаралі пад зябліва.

Прадпрыемства як вытворчая ўстанова. Сельская гаспадарка стала прамысловай установай. У народзе гавораць: "Шуміць лес. Шуміць у вярхах, а на зямлю падаюць шышкі". Сяляне слухаюць ды рашаюць свае беды самастойна. Пры мізэрным заробку і пры тым са спазненнем сяляне не хочуць здаваць малако ў калгас па нізкай цане. Зразумела, гэта нейкія грошы для калгаса, падтрымка на "плаву" малочнага камбіната. Але гаспадары парашылі прадаваць малако адразу спажыўцам. Летам свежае малако вязуць у Бярозаўку, халоднымі днямі – смятану,

тварог і сыры. Прадукты дастаўляюцца спажыўцам на кватэры і аплата за іх атрымоўваецца адразу. Людзі на вёсцы не збіраюць грошы, каб пакласці іх у ашчадную касу. Навучыліся. Купляюць патрэбнае, дапамагаюць дзецям, ці мяняюць грошы на долары. Так спакайней!

На схеме бачна, які выгляд займела вёска амаль праз паўвека.

## Схема вёскі – вясна 2004 года




**П** - механізаваны калгасны падворак;
**Ф** - ферма;
**Ш** - былая школа;
**М** - крама;
**(К)** - былая кантора калгаса;
[ — ] - месца знаходжання вёскі да хутарызацыі

- вёска Жомайдзі;
□ - хаты, цалкам пабудаваныя з цэглы;
○ - драўляныфя хаты;
■ ● - хаты, дзе ніхто не жыве;
△ - чыгуначная будка

| №№ хаты | Прозвішча, імя і імя па-бацьку гаспадара сям'і | Усяго людзей у сям'і | М + Ж |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| 1. | Рудзевіч Валеры Часлававіч | 5 | 3 + 2 |
| 2. | Кухарская Валянціна Ўладзім. | 5 | 2 + 3 |
| 3. | Кудзін Уладзімір Іванавіч | 1 | 1 + 0 |
| 4. | Эмер Надзея Аляксееўна | 2 | 1 + 1 |
| 5. | Буйніцкая Таццяна Міхайл. | 5 | 1 + 4 |
| 6. | Буйніцкая Сафія Фларыян. | 3 | 2 + 1 |
| 7. | Мулінская Марыя Сцяпан. | 1 | 0 + 1 |
| 8. | Журко Сяргей Аляксеевіч | 2 | 2 + 1 |
| 9. | Жучкевіч Ганефа Антонаўна | 4 | 2 + 2 |
| 10. | Сідарэнка Іван Іванавіч | 3 | 2 + 1 |
| 11. | Барыс Міхаіл Мікалаевіч | 4 | 3 + 1 |
| 12. | Урбановіч Ганна Іосіфаўна | - | - |
| 13. | Рудзевіч Валянціна Пятроўна | 1 | 0 + 1 |
| 14. | Турлюк Валеры Сцяпанавіч | 5 | 3 + 2 |
| 15. | Юшкевіч Мікалай Міхайл. | 2 | 1 + 1 |
| 16. | Буйніцкая Ірына Аляксандр. | 1 | 0 + 1 |
| 17. | Мурына Пелагея Аляксандр. | 4 | 2 + 2 |
| 18. | Шарман Іван Станіслававіч | 4 | 2 + 2 |
| 19. | Баярык Вячаслаў Пятровіч | 3 | 2 + 1 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 20. | Мулінская - Бутурля Алена Фёдараўна | 5 | 1 + 4 |
| 21. | Мулінскі Аляксандр Уладзімір. | - | - |
| 22. | Чарнавус Зінаіда Канстанц. | 1 | 0 - 1 |
| 22. | Мурын Мікалай Уладзіміравіч | 4 | 1 + 3 |
| 23. | Гушчынскі Валеры Раманавіч | 4 | 1 + 3 |
| 24. | Недабудаваная калгасная хата | - | - |
| 25. | Грышкевіч Сяргей Аляксандр. | 5 | 4 + 1 |
| 26. | Жыгала Антон Станіслававіч | 4 | 2 + 2 |
| 27. | Буйніцкі Леанід Іосіфавіч | 3 | 2 + 1 |
| 28. | Казёл Васіль Віктаравіч | 2 | 1 + 1 |
| 29. | Ашурак Вера Ўладзіміраўна | 2 | 1 + 1 |
| 30. | Стэфанаў Міхаіл Юр’евіч | 1 | 1 + 0 |
| 30. | Кузняцоў Уладзімір Сямёнавіч | 2 | 1 + 1 |
| 31. | Журко Алег Сяргеевіч | 2 | 1 + 1 |
| 32. | Дзікевіч Леанід Ціханавіч | - | - |
| 33. | Мулінская Любоў Якаўлеўна | 1 | 0 + 1 |
| 34. | Чылек Зміцер Леанідавіч | 1 | 1 + 0 |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 35. | Сямёнаў Аляксей Рыгоравіч | 1 | 1 + 0 |
| 36. | Кухарскі Мікалай Нікадзімавіч | 5 | 4 + 1 |
| 37. | Шулейка Марыя Ўладзімір. | 1 | 0 + 1 |
| 38. | Пуціла Марыя Вікенцеўна | 1 | 0 + 1 |
| 39. | Коваль Уладзімір Рыгоравіч | 1 | 1 + 0 |
| 40. | Лукашэвіч Зоя Пятроўна | 1 | 0 + 1 |
| 41. | Лукашэвіч Раман Іосіфавіч | 2 | 1 + 1 |
| 42. | Федзюкевіч Канстанцін Канст. | 2 | 1 + 1 |
| 43. | Дача | - | - |
| 44. | Сівіцкі Мікалай Мікалаевіч | 1 | 0 + 1 |
| 45. | Кухарскі Міхаіл Міхайлавіч | - | - |
| 46. | Лукашэвіч Уладзімір | - | - |
| 47. | Мулінскі Іосіф Сцяпанавіч | - | - |
| 48. | Мурын Сцяпан Васілевіч | 1 | 1 + 0 |
| 49. | Буйніцкі Канстанцін Канстан. | 1 | 1 + 0 |
| 50. | Буйніцкая Соф’я Аляксандр. | 1 | 0 + 1 |
| 50. | Буйніцкая Вольга Рыгораўна | 1 | 0 + 1 |
| 50. | Колас Віктар Віктаравіч | 4 | 3 + 1 |

За былыя гады цэнтр вёскі, як пісаў раней, перамясціўся на “праектовую” дарогу. Тут пабудавана 14 цагляных дамоў і крама. 7 дамоў пабудавана ўздоўж вуліцы былой вёскі. Толькі хата Буйніцкага Рыгора засталася ў Хаданішках.

Зараз у вёсцы стаіць пяцьдзесят хатаў. У іх згодна з гаспадарчай кнігай жыве фармальна 46 сем’яў, калі можна лічыць сям’ёй сям’ю з аднаго чалавека. Такіх сем’яў 18. па дзве душы жыве ў 9 хатах, па тры - у 4 хатах, па чатыры - у 8 хатах, па пяць - у 7 хатах. Патрэбна ўлічыць тую з’яву, што згодна з гаспадарчай кнігай шмат жыхароў запісаны “памерлымі душамі”: рэдка тут бываюць - і жывуць, і працуюць у розных мясцінах.

У сапраўднасці чатыры сям’і жывуць разам з іншымі (напрыклад, маці - з сям’ёй сына), таму ў вёсцы пустуе 8 хатаў. Праз 67 гадоў хатаў стала больш, чым сем’яў.

Пенсіянеры ў 1971 годзе складалі 28% ад усіх жыхароў вёскі, у 1991 годзе - 27% і ў 2004 годзе - 20%. Адносна працаздольныя пенсіянеры складаюць 36% у 1991 годзе, 34% - у 2004 годзе (адзін пенсіянер на трох працоўных).

| № п/п | Год | Колькасць хатаў | Колькасць сем’яў | М | Ж | Усяго пенсіянераў па ўзросту | Пенсіянеры - інваліды | Дзеці і школьнікі | Усяго людзей | У сярэднім у сям’і |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | 1937 (канец) | 38 | 43 | 122 | 96 | - | - | ? | 218 | 5,0 |
| 2. | 1944 (пачатак лета) | 54 | 54 | 111 | 105 | - | - | ? | 216 | 4,0 |
| 3. | 1951 (арган. калгас.) | 54 | 56 | 129 | 137 | - | - | ? | 266 | 4,8 |
| 4. | 1971 (студзень) | 54 | 60 | 97 | 91 | 52 | 8 | ? | 188 | 3,0 |
| 5. | 1991 (студзень) | 52 | 58 | 75 | 81 | 42 | 8 | 39 | 156 | 2,7 |
| 6. | 2004 (вясна) | 50 | 46 | 59 | 56 | 23 | 8 | 25 | 115 | 2,5 |

# Паслямова

Вось і закончыў я апавяданне пра родную вёску. Мае восемдзесят гадоў праляцелі хутка. Праўду гаварыла бабуля Каця, якая пражыла больш 90 гадоў. “Унучак, дзевяноста, тое, што дзевяць дзён”. Гады спрасаваліся ў дні, памяць пакінула ў баку нязначнае, але ліхалецці і шчаслівыя часы не забыты. Спачываюць вечным сном мае родзічы і сябры. Няма ў каго спытаць забытае. Бабуля Каця засталася ў памяці без імя па бацьку. Ніхто яго не ведае, няма яго і на помніку- тады не пісалі. А шкада! Зараз, збіраючы матэрыял аб вёсцы, сустракаюся з тым, што ўнукі не ведаюць імён бабуль і дзядуль. Дык што гаварыць пра імя па бацьку!

Цяжка было табе, вёсачка. Перажыла свае ўзлёты і падзенні, пастарэла, зморшчылася і згорбілася. Не чуецца з усіх бакоў квакання, усхліпвання, пасвіствання, пахрапвання... Не ўсхваляюць вечнае жыццё жабы. Брукаваная вуліца асела пад цяжарам трактароў, грузавых машын, зарасла травой... Хаты забраліся пад радыяцыйныя шыферныя стрэхі. Замест абразоў – тэлевізар, адкуль чуецца больш няпраўды і спявае голая папса. І ў нядзельку, і ў працоўныя

дні часцяком ходзіш з богам Бахусам. Рэдка чуюцца галасы дзетак. Іх за дзевяць вёрст возяць у Ганчарскую школу. А будынак сваёй пустуе. Побач жывуць высокаінтэлектуальныя і безкультурныя, грубіяны, працавітыя і лайдакі... Веянне цяперашняга часу!

Адкрыта і ўскосна гаварылі табе аб ліхім патрыятызме ў бальшавіцкай дзяржаве. Вам, сяльчане, хто не пакладаючы рук, працаваў на гаспадарцы, каб як-небудзь звесці канцы з канцамі. Даць дастатак дочкам, уладкаваць жыццё сыноў – не кожнаму ўдавалася. Хутарызацыя часткова палепшыла жыццё вам, вызваліла ад цяжкай непрадукцыйнай працы на вузкіх палосках зямлі далёка ад вёскі. Людзі больш займелі часу і маглі б зарабіць "злоты" на водшыбе, ды такой магчымасці было мала. Для сяльчан агітацыя пры "першых саветах" стала чыстай вады абманам. Тое, аб чым гаварылі палітрукі, інструктары партыі, нашы мясцовыя агітатары, было завоблачным летуценнем. Абман-агітацыя, пабудаваная з картонных домікаў, развалілася за адну чэрвеньскую раніцу. Людзі стаялі на раздарожжы ля разбітага карыта: каму даверыць свой лёс і беды? Непераможная Чырвоная Армія адступала: параненая, галодная, змучаная, дэмаралізаваная, без гармат, тэхнікі па аднаму, групамі...

За імі рухаліся маладыя, бадзёрыя нямецкія салдаты, іграючы на губных гармоніках. Што павінен быў рабіць у такіх абставінах спакойны, асабліва ў нашай вёсцы, спрацаваны селянін? Хапаць касу і кідацца на немцаў, што забралі "свабоду нашу", дараваную бальшавікамі. Нічога не ведалі пра "новы германскі парадак". На кожнай вуліцы і кожным вуглу ён крычаў: "Растрэл". Потым і рабіў з тысячамі людзей па вёсках і ў гарадах. За якія ідэі, надзеі і планы патрэбна ваяваць у такіх умовах? Гаспадар-селянін прытаіўся, прыхаваў сякі-такі скарб: на нейкі час закапаў, прыбраў у сваім сховішчы, адвёз далей ад чужых вачэй. Пачаў чакаць, выглядаць вакол, што робіцца ў свеце, як вядуць сябе немцы. Дзякуй Богу, нашы сяляне не кінуліся на заклікі тых або другіх улад.

Падчас вайны частка жыхароў вярнулася працаваць на даваенныя прадпрыемствы, заводы, фабрыку, чыгунку і шашу. Немцы развесілі аб'явы з загадам неадкладна вярнуцца на сваё месца працы. За тую працу пасля вайны чуліся папрокі. Доўгія гады абражалі, што жылі ў акупацыі.

Дзядулі і бабулі не зразумелі бы вас. Дзе тут да размовы на "трасянцы"! Размаўляюць на вёсцы, ды з радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў чуецца нейкі "камбікорм". "Трасянка" складаецца з беларускай і рускай моваў, з дробнай саломы з сакавітым сенам.

Мае сяляне старэюць, становяцца нямоглымі і адзінокімі. Усё сваё жыццё паклалі на "росквіт" калгаса. Сёння калгас не ў стане даць дошак на дамавіну. Але жывучы ў такі складаны час, аднавяскоўцы не згубілі веру ў шчаслівае будучае, у добрыя адносіны да суседзяў, другіх людзей.

Я перакананы, што калгас па жывому рэзаў традыцыйны ўклад жыцця селяніна, паламаў чалавечыя лёсы, разбурыў сямейны дастатак, пасеяў злосць паміж людзьмі. Бяднейшыя сяляне спадзяваліся на лепшае калектыўнае жыццё. Калгас атрымоўваў незваротныя і доўгатэрміновыя крэдыты, тэхніку, насенне. Усё гэта загінула ў калгаснай яме.

Напачатку нейкі энтузіязм часткова быў, але працавітасць і гаспадарлівасць, асабліва неабходныя ў вёсцы не праглядваліся.

Бальшавіцкая агітацыя за гады зрабіла сваю справу. Сяляне хварэюць на камунізм. Піць, гуляць і красці - тое чаму навучыліся за гады калектывізацыі. Яны так і засталіся бяспраўнымі: ад іх нічога не залежыць, і ім нічога на зямлі не належыць.

У размовах чуецца апатыя ад начальніцкага ціску і разгубленасць ад бытавога крызісу. Сялян патрэбна вызваляць ад апатычнага стану. Цяперашні час патрабуе ўдумлівых, адукаваных сялян і кіраўнікоў, здольных дзейнічаць словам, а не ўказамі і селектарнымі "пасядзелкамі", будзіць думку, а не скоўваць яе, нараджаць грамадзяніна, а не ператвараць іх у нявольнікаў.

Святая адказнасць за зямельку выветрылася. Зямля не ўгноеная, недагледжаная, аддае апошнія сілы, зарастае быллём, пырнікам... Не ратуе зямельку змена шыльдаў: ці калгас, ці саўгас, ці цяпер ПУАП. За пяцьдзесят гадоў яе задушыла "гігантаманія". Вялікія і грувастыя сельскагаспадарчыя машыны затапталі пясчаную глебавую мікраструктуру і жывую, і нежывую. Чаму не выпускаць розныя трактары для малой механізацыі Менскаму трактарнаму заводу? Цяпер нашліся б ахвочыя купіць за памяркоўную цану.

Напярэдадні бачыў сон. З сябрам залезлі на самую высокую бярозу. Унізе ўбачылі ў ружовым колеры саламяныя стрэхі роднай вёскі. Наваколле нас уразіла. На поўдні за вёскай Жомайдзі - паўразбураныя кароўнік і вялізнае гумно, пустая пачатковая школа. На захадзе - камяні ад двух вялізных млыноў, тры забруджаныя возеры амаль без вады. Побач - напалову запоўненыя кароўнікі. Воддаль – механізаваны падворак са старымі трактарамі і паламанымі сельскагаспадарчымі агрэгатамі. Палі аблытаныя дротам дзе трэба, а дзе і не. Лугі зрэзаныя глыбокімі равамі без вады. На поўначы не стала хутара Саламянкі. На ўсходзе – вёска Супраўшчына, як "на далоні". Няма алешніку, маліны, не чуваць зязюлі. Луг і палеткі пазарасталі пустазеллем і пырнікам. Гэта вынік пяцідзесяцігадовага гаспадарання калгаса. Пачуўся крык мамы, трэск галіны... Мы паляцелі ўніз...

**2001 - 2004 гады, вёска Сялец.**

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ







**У выдавецтве УП "Экаперспектыва", г. Менск выйшлі 3 і 4 тамы "Гісторыі Беларусі". Том 3 "Беларусь у часы Рэчы Паспалітай", 344 ст, наклад 10000 асобнікаў, том 4 "Беларусь у складзе Расійскай імперыі", 520 ст, наклад 3300 асобнікаў.**
**144 ст.**



**У выдавецтве "Беларуская навука", г. Менск, выйшаў 23 том "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы".**
**Наклад 500 асобнікаў.**
**448 ст.**




**У выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя", г. Менск, выйшла кніга "Памяць. Воранаўскі раён".**
**Наклад 3000 асобнікаў.**
**592 ст.**



**У выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя", г. Менск, выйшаў 1-шы том энцыклапедыі "Гарады і вёскі Беларусі" "Гомельская вобласць, кніга 1". 632 ст.**
**Наклад 4000 асобнікаў.**



**У выдавецтве "Беларускае гістарычнае таварыства", г. Беласток, выйшла кніга Ціны Клыкоўскай "Саюз беларускай моладзі. Вяртанне з забыцця". 232 ст.**




**У выдавецтве "БелСаЭС", г. Менск, выйшла юбілейная кніга да 95-годдзя Б.У. Кіта "Грамадзянін свету"**
**Наклад 250 асобнікаў. 432 ст.**



**У выдавецтве "Светач", г. Менск, выйшла кніга І.В. Казаковай "Каменны пояс Беларусі. Славутасці нашай зямлі"**
**Наклад 1000 асобнікаў. 176 ст.**



**Тарнова. Палац графа Маўраса.** *Сучасны выгляд. Здымак Станіслава Судніка, 2005 г.*